*Шаноўны чытач!*

*Табе трапіла ў рукі кніга Віктара Асіпенкі. Перадусім – а хто гэта такі? Мы, сябры ягоныя, жартуючы, часта акрэслівалі яго як лепшага банкіра сярод пісьменнікаў і лепшага пісьменніка сярод банкіраў. Віктар за жыццё, хаця ён прыстойны сем’янін і бацька двух цудоўных дарослых дзяцей, паўдзельнічаў ва многіх авантурах, альбо ўцякаў сам, альбо даганяў іншых, паеў хлеба з не адной печы і з не адной студні пакаштаваў вады, Фартуна яго то песціла, то неміласэрна лупцавала па розных месцах, у залежнасці ад сітуацыі й абставінаў... Тым не менш, усё пражытае ім акуратна пераплаўлялася ў чарговы сюжэт і чакала толькі, пакуль гэтых сюжэтаў назбіраецца дастаткова, настолькі, каб атрымалася кніжка!*

*Можна сказаць, дзіўнаватая кніжка, таму што ўсе насельнікі ейных старонак настолькі своеасаблівыя і нетыповыя, што гаварыць пра іх як пра сярэднестатыстычных нашых суседзяў ці землякоў язык не паварочваецца, і дзе іх спадар Асіпенка адкопвае ці з якіх закамаркаў дастае – ягоная асабістая жыццёвая таямніца. Кожны з нас мае сваю кухню і не надта стараецца асабістымі рэцэптамі трэсці перад вачыма зацікаўленых грамадзянаў...*

*Калі пашукаць розных там паралеляў і аналогіяў у сусветнай літаратуры, то нават і незразумела, побач з кім ці ў якім радзе зойме, магчыма, сваё пачэснае месца спадар Асіпенка, можна нават здагадвацца, што знаходзіцца яно будзе недзе паміж месцам Салтыкова-Шчадрына і Кандрата Крапівы, а можа, такое суседства яму ці ім зашкодзіць, хто там ведае... Хутчэй за ўсё, Віктар яшчэ шукае сваё месца. Абы толькі знайшоў!*

*А як узяў, дарагі чытачу, кнігу Асіпенкі ў руку, то мусіш прачытаць да апошняе старонкі! Прыемнасці табе ад спаткання з маладым аўтарам!*

Віктар Шалкевіч

*Калі сядаў за стол, то адчуваў*
*Святую моц, адважную бяз меры,*
*пляміў я чарнілամі паперу,*
*Нібы ў баі яе перамагаў.*
Леанід Філатаў.

# Аб чым не падумаў –
# Аб тым не раскажаш,
# Аб чым не паплакаў –
# Аб тым не спяеш...

Многім здаецца, што быць пісьменнікам-гумарыстам даволі складана, але гэта не так. Для пачатку трэба засяродзіцца і злавіць гуллівы стан душы. Потым хуценька пагрузіцца ў свет мрояў і ілюзій, дзе асабліва лёгка ўспрымаецца непрадказальнасць жыцця. Дазволіць сабе быць то дзёрзкім, то журботным, то злым, то гарэзным, то маркотным, то да вар'яцтва вясёлым. Для кожнага стана можна прыдумаць праўдападобную легенду. Толькі нудным быць нельга. Быць нудным – злачынства, якому няма апраўдання.

Мудрагелісты калейдаскоп падзей вельмі разнастайны, таму пісьменніцкі выбар зрабіць нялёгка. Ратуе трагікамічны погляд на свет, які ўяўляецца тэатрам абсурду. Назіраць за гэтым тэатрам трэба, як быццам глядзіш праз расколінку ў шкле. Тады свет бачыцца злёгку скажоным, а фантазія, іронія і гратэск дамалююць карцінку, якая не захоча супадаць са звыклымі маральнымі асновамі. Галоўнае не перабраць меру, не перастарацца, знайсці тую грань, калі сітуацыя, якую апісваеш, пры ўсёй сваёй смешнасці і пацешнасці, застаецца ўсё-ткі

бясшкоднай. Дарэчы, кожны чалавек мае свой уласны вызначальнік бясшкоднасці.

Пісаць трэба так, каб чытач, беручы ў рукі кнігу, адыходзіў ад жыццёвай рэальнасці з яе бясконцымі праблемамі. Каб чытач палегчыў сваё жыццё, забаўляючыся кранальнай гісторыяй, якая не мае мэты навучыць, а проста дае магчымасць адпачываць.

Гуляючы ў мудрасць і наіўнасць, сціпласць і дзёрзкасць, весялосць і самоту, збягаю ў сваёй творчасці ў непрыкрытую асацыяльнасць. Не зважаючы на рэаліі, ствараю выдуманы свет, дзе жывуць любімыя мною героі правінцыйных апавяданняў: файныя і не вельмі, добрыя і злыя, прастадушныя і дзівакаватыя. Кожны з гэтых чалавечкаў складаней за Сусвет. Увесь Сусвет лёгка змяшчаецца ў іхных галовах, і яшчэ нават застаецца месца для дзіўных і нечаканых учынкаў. Яшчэ ўчора ім здавалася, што жыццё ляціць у апраметную і раптам – гоп, яно ўжо не горшае, чым у іншых. Яны радуюцца, калі знаходзяць выйсце са складанай сітуацыі, або выйсце неверагодным чынам знаходзіць іх саміх. Жыццё ім спрыяе, а смак удачы робіць яшчэ больш непрадказальнымі ўчынкі людзей, якія кіруюцца правілам: “Пражываючы жыццё, не забывай аб жыцці!”

Пачуццё гумару дазваляе мне і па сённяшні дзень заставацца няўрымслівым выдумшчыкам. Дазваляе цаніць чарадзейства жыцця, умець прызнаваць паразы і не спыняцца пад час вандроўкі ў кірунку праўды і дабрыні. Таму не баюся прайграць у нечым, што атрымліваецца ў многіх іншы, затое не шкадую сіл для перамогі ў тым, што атрымліваецца толькі ў мяне.

Усё, што напісаў і яшчэ напішу, створана

і ствараецца дзякуючы веры, што на Зямлі стане больш вясёлых і ўдачлівых людзей, якія імкнуцца жыць радасным жыццём. Дзеля такога жыцця мы ўсё і прыйшлі ў гэты Свет.

З шчырай любоўю да вялікай Супольнасці Чытачоў,

*Віктар Асіпенка.*



# Трамбаніст

Вярцепск – мястэчка не лыкам шытае. Свабода ў ім бушуе неабсяжная. З той свабодай, ды дапытлівасць хоць нейкую маючы, можна ўсякага дабра награбсці. Вось і Панцялей Цярпілаў лічыўся паміж гараджан чалавекам дапытлівым. Нават у прыбіральню хадзіў з глыбокай задуменнасцю на чале. Такому не без розніцы, што першасна: матэрыя або глупства ўсякае. Бяда, што грошы ў кішэні не трымаліся. Сыходзілі па-дурному на карты, віно і ў бяздонны вір юрлівых уцех. Часам выхапіць Цярпілаў у рэстаранным завірусе духмяную, сімпатычную жанчынку, дзюбне з ёй бутэлечку "бурдовага" і, гнаны нецярпеннем, паглыбіцца ў пышныя жаночыя формы.

– Ты прабач, калі ўшчыкнуў не там, дзе хацела, – нязграбна адбрэхваўся ён, разглядаючы на сяброўцы пасаджаныя сінякі, – як у лапы шаленства патраплю, не разумею, што са мною дзеецца.

Сваволіў Панцялей што было моцы, але з гадамі стамілі "сіўку" стромкія горкі. Скупым зрабіўся. Фекалію і тую бярог. Накучкуе для аналізаў з гулькін нос і баста. Ва ўсім меру нутром чуць стаў. З часам і праца падвярнулася нянудная. У асноўным пад замову. Свежае паветра, мерны крок, спакойны кліент. Шапеніў Цярпілаў на трамбоне ў пахавальнай брыгадзе.

Вяртаўся ён неяк пад вечар, нясучы трамбон на плячу. Паўдня выдзімаў без прадышкі ўсё, што накрапаў нотным вязьмом пладавіты Шапенюга.

Стомленасць адбілася на Цярпілаве, як шлюбны штамп у пашпарце. У галаве па-гаспадарску абжывалася думка аб падушцы. Пры такім раскладзе, не было бы пад рукой спадарожнага штыкетніка, прыйшлося бы Панцялею на карачках чухаць з памінак, раўнуючы каленкамі гузаваты асфальт.

На чарговым кроку паклікаў музыканта трывожны жаночы голас:

– Мужчына!

У акне хаты за агародчыкам Панцялей разглядзеў напаўголую постаць.

– Вы мяне, жанчына?

– Цябе! Не сумнявайся. Але адзін ты з маёй справай не ўправішся. Падмогу шукай.

Цярпілаў паклаў трамбон пад ногі. Порткі на ім былі яшчэ тыя: падгулялыя, шырачэнныя, мехаватыя. Падцягнуўшы іх кароткім энергічным жэстам рук, засунутых у кішэні, ён надаў свайму голасу ўпэўненасць.

– Можа, усёткі адзін упраўлюся? У групе, дзе шмат штаноў і мала спадніц, лішнім сябе адчуваю.

– Мужчына, не дурыце галаву! Я вас паклікала падняць і вынесці негабарытны груз. Без памагатых не абыйсціся. Я ўсім добра заплачу.

Цярпілаў агледзеўся па баках. Бяздомны сабака прыліп да слупа з пагардліва паднятай лапай. Глядзіць, паскуднік, адданымі вачамі і лупіць струменем, вытвараючы неўсвядомленую гадасць. Панцялей мімаволі пазайздросціў цюцьке. Захацелася на правах сябра сабакі таксама нахабна памачыцца, дзе пападпрэ. Ды аскепак сумлення, халера на яго, свірнавым замком павіс на шырынцы.

Самалюбны ветрык паспешліва ірвануўся

наўздагон за раўнадушным дварняком і ледзь не скамячыў камарыную зграйку, абедаўшую падвыпіўшымі прахожымі.

– Гэй, дахадзягі! – паклікаў мужыкоў Цярпілаў. – Падграбайце абодва да мяне. Справу баба мае простую, як валёнак. Абяцала заплаціць добра.

Калі ж нецвярозая троіца, пасквапіўшыся на лёгкую нажыву, увайшла ў хату, справа аказалася не такой і простай, як было абяцана. На раскладзенай канапе ляжаў нежывы дзядзечка са спушчанымі да пятак штанамі. Выглядаў свежым і на труп быў зусім не падобны. Паўапранутая Любка Шанталосава бегала з кута ў кут сама не свая.

– Звалачыце яго куды-небудзь! – завыла яна з маленнем у вачах.

– Фатальны зыход! – задуменна вымавіў Цярпілаў. – Ты навошта замардавала мужчынупрыгажуна?

– Ды што вы, людзі?! Я мухі занудлівай не пакрыўджу! Сам жлоб ногі адкінуў.

– Хлусіш! Нябось, сляды, замятаючы, жмура на нас павесіць уздумала?

– Не, не! Божа ўратуй, родненькія вы мае! Бясплатную подласць сумленне не дазволіць зрабіць. Раскажу ўсё як было, нічога не ўтойваючы. У хату ён да мяне без запрашэння ўваліўся, бессаромнымі вачыма па баках зашнарыў і адразу мужа спытаў: “Захар дома?”

– А дзе яму быць?! – адказваю, як яно ёсць, бо які сэнс брахаць.

– Тым лепш. Хай чуе. Каб ты па грошах, якія мне пазычыла, моцна не выла, пазнаёмлю цябе з суцяшальнікам.

– Ведаю твайго суцяшальніка, у трусах хаваеш.

– Так і ёсць. Усё ты пра нас дваіх ведаеш.

– Абавязаная ведаць! Як і абавязаная ведаць, што ў прайдзісвета ў галаве, а ў добрага чалавека ў кашальку. Інакш у мястэчку не пражывеш.

– Вось і мне без цябе неўмагату жыць стала. Вырашыў нечакана аб'явіцца.

– Мне тваё нечаканае суцяшэнне і на хрэн не патрэбнае. Сцяпан-лудзільшчік на ровары абяцаў пад'ехаць.

– Каб ён на "Мэрсэпедзе" ехаў, я бы не думаючы ўцёк. А пакуль твой хахаль дапыліць на лісапедзе, я не адзін раз упраўлюся з табой. Для мяне аўрал – стыхія родная.

І, растапырыўшы рукі, папёр на мяне бульдозерам. "Ліха з ім, – змірылася я, – можа абыйдзецца. Там, дзе адзін пабывае, і другі лішнім не будзе". Легла пад настырнага госця і скавычу ціхенька:

– Ды колькі яшчэ трываць гвалт можна-а-а! Дапамажыце, людзі добрыя-я-я! Ратуйце ад бунтаўшчыка злога-а-а!

– Ты чаго, дурніца, мелеш?! Не кліч нікога. Сам упраўлюся. Прагны я да цябе.

І надзьмуўшыся, прыняўся плюшчыць мяне з неверагоднай стараннасцю. Плюшчыць, плюшчыць. Добра, пярына пада мной не на рыбіным пуху: а то раскрышыў бы бугай усе мае костачкі. Раптам пыха з яго сышла, шаптаць пачаў:

– Ой, Люба!

– Ну, чаго, Люба?! Я трыццаць гадоў Люба!

– Ой, Люба, хрэнова мне, Люба! Сэрца малоціць, нібы адбойны малаток, у роце суха, быццам год без вады жыву, рукі сыпкай пакрыліся, вочы змрок засцілае.

Мяне такой мужыцкай бздурай не здзівіш. Усе сімптомы перапою як на далоні. А быў час,

у грудзі кулаком біў, запэўніваючы, што больш за шклянку гарэлкі ў дзень не вып’е. Абяцаць – абяцаў, але словам не гаспадар аказаўся. Узяў, скаціна, і спруцянеў на мне, быццам месца лепшага знайсці не змог.

– Та-а-ак! – выдыхнуў адзін з мужыкоў, – выпадак паскудны. Як казаў мой знаёмы фельчар: “Пульс чхнуў і замёр”.

– Не-е-е, дружа! Гэта рамантычны фінал! – запярэчыў Цярпілаў. – Дзядзька на вяршыні запалу Богу душу аддаў. Толькі сапраўдным сябрам можна пажадаць такі цудоўны канец. Вы толькі зірніце, як па-царскі ляжыць гэты мужчына бальзакаўскага веку.

– Та-а-ак, па-царскі ляжаць у нас могуць толькі трупы, – адгукнуўся другі мужык, – аднак акачурыцца на стогнучай ад задавальнення бабе лепш, чым аддаць канцы на бальнічнай койцы ў маркотнай кампаніі вутак і кропельніц. Усё жыццё яго звалі п’яніцам і гулякам, а зараз на памінках па-добраму адазвуцца: “Нябожчык быў вялікі жыццялюб”.

– Што за бязглуздзіцу вы вярзеце?! – завыла Люба. – Забірайце грошы і цягніце цела хоць куды, але толькі хутчэй. Людзі даведаюцца, дрэнная слава аба мне пойдзе, а жыццё ў нармалёвую каляіну толькі-толькі ўвайшло.

– Ты, мілая, надалей патрабуй з палюбоўніка даведку ад доктара, – падказаў Цярпілаў – а прыняла чалавека, не лянуйся, памерай яму артэрыяльны ціск. Бачу, яшчэ кагосьці чакаеш?

– Сцяпан абяцаў пад’ехаць.

Выцягнула троіца дахадзягу ў двор. А ў канцы вуліцы пеўневы хвост пылу падымаецца: Сцяпан на ровары да Любкі імчыць на спатканне. Не схавацца мужыкам, не атуліцца. Прыселі яны

на лаву каля плота. Жмура між сабой пасадзілі, насунуўшы яму кепку на вочы.

– Здароў, мужыкі! – саскочыў Сцяпан з ровара.

– Здароў, калі не жартуеш! – адказаў за ўсіх Панцялей.

– Не да жартаў мне. Даведацца хачу, навошта вы такой кодлай каля Любкінай хаты сядзіце? Справу да яе маеце, або проста пантуецесь?

– Ты не падумай, Сцяпан, чаго кепскага, – узяўся супакойваць Цярпілаў залётніка – на сажалку сабраліся, там сёння хор цыган купаецца.

– Дык сажалка дзе, а вы тут! – сціснуў кулакі Сцяпан. – І таварыш у вас зусім непрытомны, морду кепкай атуліў. Усё роўна даведаюся, хто такі.

– Ты, Сцяпан, да Цімохі не чапляйся, – уступіўся за непрытомнага Цярпілаў, – ён цябе без акуляраў не чуе. Нам дык падумаць аб вечным, як заўсёды, няма калі. А ён яшчэ раніцай пра гэта думаць пачаў. “Пайду, – кажа – месца сабе для вечнай паркоўкі аблюбую. Краявід каб добры быў, суседзі прыстойныя. А то спехам засунуць у “мядзведжы кут” – ні розуму, ні сэрцу”. Ды сілы свае не разлічыў. Пакуль на могільніку з кожным крыжом чаркаваўся, дзве бутэлькі высмактаў. Самому яму стала ісці нязручна, вось і прыйшлося нам, таварыша выбаўляючы, даць кругаля праз усё мястэчка.

– Адчуваю, пыл мне ў вочы пускаеце, а прычыну сцяміць не магу. Што да Любкі маеце, прызнавайцеся па-добраму?!

– Ды няма ў нас да яе спраў! – дружна загудзелі мужыкі – яна жанчына начытаная, а мы азбуку па этыкетках на бутэлках спазнавалі. Выбачай, Сцёпа, нам на сажалку пара!

– Ідзіце, калі вам пара! Але надалей раю пад Любкінай хатай не пыліцца. Здароўе зберажэце.

– Дзякуй, Сцёпа, за добрае слова. Можа, і ты з намі на сажалку прагуляешся?

– Мяне чужыя справункі не хвалююць. Свае ўтрэсці час надыйшоў.

– Ну, дык мы не супраць. Ідзі ў хату і трасі сваім “справункам”.

– Не вашага розуму справа, дзе і чым я трэсці буду.

Увайшоўшы ў хату, Сцяпан абняў Любку і, заводзячыся, шапнуў ёй на вушка:

– Хочаш марожанага?

– Ты што, інвалід?! Сапраўднага хачу! – прымлела Люба ад ласкаў. – Зачакалася цябе. То распрануся, то апрануся. Чаму так доўга ў хату не ішоў?

– Мужыкі прытрымалі. Клікалі на сажалку. Там сёння хор цыган купаецца. Але мяне хорам не звабіш. Сэрца да цябе прыкіпела. Выходзь за мяне замуж!

– Як я пайду за цябе, калі ты мечаны. Пярсцёнак на безыменным пальцу даўно носіш?

– За пярсцёнак не хвалюйся. Я новы куплю, прыгажэйшы за гэты.

Раптам Сцяпан насцярожыўся і прыклаў далонь да адтапыранага вуха.

– Здаецца мне, або насамрэч гадзіннік з зязюляй у цябе за шырмай кукуе. Усё “ку-ку” ды “ку-ку”…

– Не гадзіннік гэта кукуе. Муж паралізаваны за шырмай ляжыць. Гэта ён слова “курва” вымавіць не можа.

# Бузацёр

Вясной нязменна хочацца закруціць раман, імклівы і неўтаймаваны. Палкае жаданне палётаць за красунямі пачынае разгарацца глухім неспакоем. Пад жаночыя спадніцы рукі ныраюць часцей, чым у кішэні ўласных штаноў. А вось Лёха Дамагацьеў на непрыстойна гарачыя пачуцці быў шчодры не толькі ўвесну, але круглы год. Жменямі, бярэмямі гроб ён каханне, піў яго нагбом, лашчыў і замужніх, і незамужніх, валячы ўсё, урэшце рэшт, на сваю непрыкаяную душу. Ахвяры яго распусных прыгод прабачалі Аляксею нястрыманую развязнасць. Гладзілі ўскудлачаную галаву юрліўца і, апраўляючы спаднічкі, захоплена круцілі галовамі:

– Ну ты і бузацёр, Дамагацьеў! Сапраўдны бузацёр!

Побач з Дамагацьевым Андрэйка Журыкаў здаваўся бяскрыўдным птушанём з вечна смаркатым носам. Суседства двух антыподаў спарадзіла жыццёвую калізію: патаемную зайздрасць Журыкава да любоўнага шчасліўчыка Дамагацьева. Суцяшаючы сябе, Андрэй мог гадзінамі вычэрчваць рэйсфедэрам рамачкі на бялюткім лісце ватмана, стараючыся дыхаць поўнымі грудзьмі. Прыемная стома расцякалася па ўсім целе, прыносячы жаданае супакаенне. Гэтаму дурноцтву Андрэйка навучыўся ў манахаў з далёкага Шааліня.

Рамачка атрымлівалася файная. Дамагацьеўская сытая морда заязджала ў яе контур

геніяльна проста, а чорны бант, павязаны на кут, навейваў маркотныя ўздыхі і нават усхліпы. Часам Андрэй уяўляў, як ласкавы цёплы ветрык з лёгкім шолахам цярэбіць абрыўкі памяці аб удачлівым лавеласу. Аднак непаседу Дамагацьева ніякая халера не брала. Парусы гэтага жыццёвага марнатраўца напаўняліся вятрамі далёкіх падарожжаў, а піжоністы «Пежо» верна служыў гаспадару.

З чарговай камандзіроўкі Лёха вярнуўся загарэлым прыгажуном з трохдзённым шчаціннем на пухлых шчоках. Па міне сытага людаеда, па важнай, як у індыка, выправе можна было пазнаць у ім паспяховага камівояжора, задаволенага сабой, вясёлага і самавітага.

– Прыгажун! – зайздросна ўздыхнуў Андрэй.

– Не паверыш, Андрэ! – Дамагацьеў самазадаволена ўсміхаўся. – Камандзіроўка задзяўбла так, што ўвагнала трыбухі ў хрыбетнік. У галодным дурмане стомлены мозг нарадзіў пару таленавітых радкоў: “Паклаўшы пад сківіцу рукі, лаўлю я вушамі гукі, у прыбіральні – усхліп вады…” Аб штоночных оргіях у карчме «Лысая гара» прыйшлося зусім забыцца. Я быў, як нявіннае ягня, кінуты шэфам на алтар працы. Натыкнуўшыся ў закінутым садзе на струхлелую хатку з забітымі вокнамі, уявіў сябе Рабінзонам Круза і вырашыў пажыць пустэльнікам. На вялікі жаль, маё шчасце не было доўгім! Гэтую ўбогую хаціну аблюбавалі для сваіх брудных спраўнак бамжы. Прыйшлося перасяліцца ў гасцініцу. Пасля пакаёўкі як войдзеш у нумар – ні думак, ні пачуццяў. Мозг адпачывае, а член нудзіцца.

– Шахерэзад хрэнаў – нахмурыўся Журыкаў, быццам яго пачаставалі леташнім пернікам.

Маркотны выгляд калегі яшчэ больш разах-

воціў Дамагацьева:

– Гляджу ў поўнай прастрацыі ў акно. На пустцы бобікі ганяюць мурзікаў. Мурзікі, выгнуўшы спіны, шыпяць на бобікаў. А што бобікі вырабляюць між сабой – нават шэптам сорамна казаць. Вось яна, ідылія тусовак без дакучлівай рэкламы. Ізноў захацелася жыць напоўніцу. Тэрмінова праводжу кастынг сярод пакаёвак і афіцыянтак. Але перамагла неўзабаве кухарка, якая прыцягнула запечаную да румянай скарыначкі свіную галёнку. А цяпер ты распавядай. Спачатку аб галоўным.

– Галоўны ў парадку! – неахвотна загаварыў Журыкаў. – Любаша як толькі можа цярэбіць пастаўшчыкоў. Ксюша водзіць за нос заказчыкаў. Эдзік прапісаўся на порнасайтах.

– Эдзік?! Які Эдзік?! Па якім такім праве нейкі Эдзік улез у маю вотчыну?

– Эдзік – геній! Калі табе ў бутэльках, графінах ды лыжках мрояцца выгібы жаночага цела, то ён у інтэрнэце шукае прататыпы пакавання для нашага вырабу.

– Хутка з лёгкай рукі шэфа ў нас будуць працаваць усе гарадскія псіхі! – абурыўся Дамагацьеў.

– Не маеш ты рацыі! Кажуць, Эдзік бязмерна таленавіты. Ён гонар нашай фірмы. Праўда, усеагульная любоў зрабіла яго паходку напышліва-паважнай, як у дзіцяці, які наклаў у порткі і забыўся аб гэтым.

– Я зразумеў! – абсадзіў сябра Аляксей. – Эдзік – сапраўдная какашка ў глянцаваным фанціку.

– Няхай сабе і какашка! Але затое яна лунае ў дыяментавым дыме хуткага падвышэння.

– Хлопцы! – у дзвярах намаляваўся Эдзік

уласнай персонай. Ягоны твар, усыпаны рабацін-нем, свяціўся апантанасцю празорцы. – Я закахаўся! Але ці прыгожы я, каб стаць каханым?!

– Прыгожы, канешне, прыгожы! – ускочыў Дамагацьеў з крэсла. – Будзь пэўны, ты выглядаеш не страшней “гадзілы”. Засталося напяліць на галаву рондаль, на вушы павесіць бляшанкі з-пад кансерваў, а пад нос саўгануць венік. Абавязкова ядлаўцовы, каб адбіваў агідны пах з рота. Дарэчы, хто тая наяда, здолеўшая паланіць тваё сэрца? Адкрыйся нам! Зрэшты пастой, я адгадаю. Аб’ект твайго кахання – сечаны шніцаль з маладой свініны ў кетчупе з пары сэксапільных памідораў?

– Прычым тут памідоры?! Я закахаўся ў Алачку Крутабёдраву.

– Як гэта ў Алачку?! – аж падкінула Дамагацьева. – Подлая здрадніца.

– Перадаючы папку з дакументамі, я выпадкова дакрануўся да запясця дзяўчыны, – ледзь чутна прашаптаў Эдзік. – О, нябёсы! Я ўбачыў, як на яе грудзях завібрыраваў кулон у выглядзе гронкі срэбных вінаградзін.

– Якія грудзі?! – груба абарваў Эдзіка Дамагацьеў. – Ды тамака глядзець няма на што! Адны пазванкі з акулярамі, задзірысты носік ды стрыжка пад крымінальніка. Зрэшты, я не справядлівы да Алачкі, яна мне таксама падабаецца. Але годзе аб ёй! Прыступ рэўнасці заб’е ўва мне міласэрнасць.

Журыкаў радаваўся і ў думках пстрыкнуў задаваку Дамагацьева па носе. Хто б мог падумаць, што пачатковец так жвава здолее абскакаць штатнага Дон Жуана на яго любімым іпадроме.

– Эдзік! Не дапускай правалочак, поспех

трэба развіваць. Бяры звязак бананаў і ўвечары шпар да Алачкі на кватэру. Скажу адкрыта, Алачка эратычна спажывае бананы.

– Андрэй, для пачатку мне трэба зразумець гэтую дзяўчыну. Акунуцца ў свет яе мараў.

– Слова «зразумець» лішняе ў тваім сказе. Дзейнічай, пакуль усё ідзе гладка!

– Ну, прыйду да яе ў хату. Адчыніць дзверы мама. А я, як той ідыёт, спытаю: “Алу можна?”

– Канешне, ты будзеш поўным ідыётам, калі спытаеш менавіта так. Таму што Алу вельмі нават можна. І лепш аб гэтым маму не пытаць.

– Мяне пахабнымі намёкамі не саб’еш. Я маю сумленныя намеры. І калі Алачка дазволіць, пачну з пацалунку ў шчочку.

– Аёй, знайшоўся з сумленнымі намерамі! – выбухнуў Дамагацьеў, якому паднадакучыла балбатня калегаў. – Засунь іх у дупу. Сказана груба, але ты таго заслужыў.

Ад рэзкіх słоваў Эдзік разгубіўся.

Ратуючы становішча, Андрэй падбадзёрыў залётніка:

– Не адкладвай намер да святога ніколі! Падкатвайся і адважна прапаноўвай: “Ала, давай паснедаем у мяне”. Гэта тонкі псіхалагічны ход, які паказвае што ты не супраць быў бы правесці ноч. А напярэдадні цудоўнай ночы ўсунь ёй у руку бакал шампанскага са словамі: “Сёння прыгожы вечар. У такое ціхае надвор’е атрымліваюцца спакойныя дзеці”. Алачка якраз у тым веку, калі надышоў час нараджаць.

– А калі Ала ўстане ў позу, маўляў, “я не такая, я чакаю трамвая”?

– І ўстане! – зразумеўшы, што Эдзік цямцялямця, супакоіўся Дамагацьеў. – Я бачыў жыццё і справа, і злева, і знізу, і зверху. Павер, хто

не рызыкуе, той не спазнае смаку перамогі. Калі для цябе чужыя трусы – цёмны лес, ідзі на пралом: “Ала, ты калі-небудзь бачыла сапраўдны мужчынскі сюрык?”

– Гэта пошла! – абурыўся Эдзік. – Я не балаганшчык.

– Ахвотна веру, але калі б не было ў мужчын і жанчын гэтых самых “прычындалаў” і “прычындалак”, прыйшлося бы ім пладзіць сабе падобных пачкаваннем. Табе патрэбная невялікая крыха адвагі, адмераная шклянкай гарэлкі пад салёны агурок. Гэтая сумесь лёгка раскрышыць забетаніраваны страх.

– Я і без гарэлкі саспеў для пацалунку! – і, склаўшы вусны ў форме качынай гузкі, Эдзік цмокнуў імі пару разоў.

Атрымалася да непрыстойнасці непрывабна.

– Можа, каму-небудзь морду набіць… – бяздумна гледзячы ў столь, прапанаваў Дамагацьеў. – Аднак не, няхай ідзе і цалуе. За такі пацалунак яму ў морду дасць Ала.

– Вы маеце рацыю, сябры! Дзякуй, што своечасова спынілі! З маім зараслым тварам нельга совацца да каханай дзяўчыны. Тэрмінова патрэбна брытва! Шчаціннне горш за наждак!

– Не затлумляйся, Эдзік, наконт галення, – былая бесшабашная ўпэўненасць вярнулася да Дамагацьева, – хрэн з ім, са шчаціннем. Ідзі і цалуй. Ала таксама не кожны дзень ногі голіць.

# Васятка

Наш чалавек – стварэнне вельмі дапытлівае. Да ўсяго на свеце праяўляе немалую цікавасць. Гатовы начамі мацаць тэлескопам таямнічую бездань або бессаромна разглядаць у мікраскоп прыватнае жыццё інфузорый.

Ігара Гасцюхіна таксама не пустым мяшком прыбілі. Настырным аказаўся малец! Дапёр празорлівым розумам, што кошкі не птушкі: бяскрылыя, бяздзюбыя, яйкі не адкладаюць, у цёплыя краіны не адлятаюць. Зусім як сабакі. Шмат featureнага ён яшчэ здолеў для сябе растлумачыць, і па гэтай прычыне будучыня падавалася трывожнай, а надзённасць наганяла нуду. За разумовым працэсам бракавала часу ганяць нахабных прусакоў. Таму папрасіў у суседкі слізкую цырату. Заслаў ён яе на кухонны стол і, аддаўшы вячэру невядомаму ворагу, стаіўся ў спальні. Перашкаджаў страшэнны прыступ голаду, які высмоктваў цярпенне. Прыйшлося запхаць у рот шкарпэтку з воўны. Шкарпэтка аказалася фальшыўкай і нават не пахла баранінай. Затое калі дагарэла і з шыпеннем загасла свечка, з кухні данесліся глухія чмяканні аб падлогу і прыглушаны мацюк.

– Так вам і трэба, шмакадзяўкі вусатыя! – хіхікнуў пад коўдрай Гасцюхін. – А то ўявілі сябе кухоннымі каралямі! Ды куды вам перці супраць чалавечага розуму.

Раніцай Ігар, задаволены сабой, піў ліпавую гарбату, храбусцячы ванільным сухарыкам. Раптам з-за хлебніцы выскоквае прыдуркаваты пру-

сак і давай на цыраце віртуозна выпісваць ашаламляльныя піруэты. Прыгледзеўся Гасцюхін і жахнуўся: рудая шэльма на каньках пантуецца. Торкнуты гонарам за кватаранта, Ігар не стаў размазваць фігурыста тапкам па стале, а накрыў прусака літровым слоікам:

– Чорт з табой! Жыві, сукін сын! Галоўнае, руды, будзь у побыце непатрабавальным, а ў зносінах – адданым. Тады хлеба накрышу і вады напырскаю.

Перасяліўшы вундэркінда ў пачак з-пад запалак, Ігар даў удачліваму суседу імя Васятка. Здружыліся наваяўленыя суседзі – вадой не разальеш. Прывяжа Ігарок прусака за нітку і адпусціць. Той да плінтуса з усіх ног бяжыць, шукаючы запаветную шчылінку.

– З адбыццём, Вася! – паднімаючы чарку гарэлкі, цешыцца Гасцюхін за жвавага сябра. Тузане прусака за нітачку, вяртаючы да месца ўцёкаў, і новай чарачкай сябе ашчасціць: – з прыбыццём, Вася!

Нітачка і чарка былі проста забавай. Галоўнае – душэўныя размовы.

– Ежы няма – пляваць, – запэўніваў Гасцюхін прусака, – худыя даўжэй жывуць. Шмацця няма, ну і чорт з ім. Закруціўся ў газету і пайшоў. Грошай няма – бяры паперу, малюй галаву і пішы “сто”, а хочаш – “тысяча”. Хоць глупства ўсё гэта. Галоўная катастрофа – веры няма. Ні ў кога ні ўва што! Вось дзе я афігіваю.

Прусак як быццам бы разумеў, што людское жыццё не салодкае, варушыў вусамі, а зморана балбатнёй Гасцюхін засынаў проста на кухонным стале.

– Вечарам пойдзем на канцэрт, – вярнуўшыся неяк з працы, абвясціў ён прусаку. – У гарадскую

філармонію. Пара цябе ў людзі выводзіць.

Апрануліся з гэтай нагоды святочна: Ігар – у адпрасаваны гарнітур, а Васятка – у новае пакаванне ад прэзерватыва.

Мяккае крэсла партэра, пунсовы аксаміт заслоны навеялі Гасцюхіну вершык, і ён зачаравана прашаптаў:

– Родны край, ты самы мілы. Ты квітнееш, нібы мак. Кожны ходзіць тут шчаслівы. Нешчаслівых тут няма.

– Здароў, Гасцюхін! – ткнуў шаптуна ў плячо Яша Ваганезаў. – Бачу, ёсць каля цябе вольнае месца. Рок-оперу "Попкі" слухаць прыемней, сеўшы на попку.

– Прабач, Яша! Але не для тваёй попкі гэтае месца. Васятка яго заняў! – кіўнуў на ўпакоўку Гасцюхін.

– Які Васятка?

– Прусак мой! – кажа Ігарок і прад'яўляе аслупянеўшаму Ваганезаву прусака ва ўсёй красе. Яшын твар перакасіўся, быццам яму па галавешцы цаглінай шандарахнулі. А потым прыступ смеху яго наогул дабіў. Рагатаў Яша непрыстойна доўга, а калі стаміўся, спытаў:

– Ты ў гэтым свеце па даведцы жывеш? Дык пакажы мне ксіву ідыёта!

Гасцюхін стрываў Яшкін наскок. Філармонія не месца для кулачных разборак. Толькі пажадаў балбатуну прыкусіць уласны язык і атруціцца ядам.

– Ты яго на ланцуг пасадзі! – не мог угаманіцца Ваганезаў. – Агрэсіўны ён у цябе. Вусішчы растапырыў, відаць, пужаць мяне задумаў. Дык я не з пужлівых. Лом вазьму і на танк пайду. А ты свайму сябру падкоўкі на лапкі прысабач. Хай ён імі табе па галоўцы цокае. Прыдурак. А я яшчэ

думаю, як табе ўдаецца сарваць стаўку на слабенькай камбінацыі?! Зараз разумею, чаму кажуць “дурням у карты шанцуе”.

На наступны дзень аб прусаку балабоніў увесь офіс.

– Гэта праўда, Гасцюхін, што вы з прусаком жывеце? – закаціўшы вочы ў столь, здзівілася планавічка Эла. А сама, яхідна, ад смеху душыцца.

– Праўда! – шчыра адказаў Гасцюхін. Прывык ён стойка трымаць любыя ўдары лёсу. – Коцікі, рыбкі, хамячкі смеху ў вас не выклікаюць. Дык чаму мой прусак смешны? Маці-прырода, дарагая мая, усё наперад на стагоддзі прадбачыць. І калі прусаку адведзена месца ў доме чалавека, ёсць у гэтым нейкая вялікая задума, разуменню нашаму пакуль недаступная.

– А чым вы яго корміце? – не супакойвалася Элачка.

– Жрэ ўсё! Непатрабавальны ён у мяне.

– А боршч?

– І боршч. Але ў баршчы ён больш любіць сваім адлюстраваннем любавацца.

Элачка запляскала ўладкі. Ёю авалодаў прыступ весялосці. На воплескі ўвайшоў шэф, Анатоль Іванавіч.

– Добра, што я вас, Гасцюхін, злавіў. Пакуль вы з прусаком шурымурыцесь, упаў узровень продажаў. Канкурэнты цясняць. Рынкі збыту губляем.

– Навошта прусака да бізнэсу прыплятаеце, Анатоль Іванавіч?

– Вельмі непакоіць мяне ваша дзіўнае захапленне. Яно для нашай фірмы, як сярпом па яйках. Суцэльныя страты і ніякага прасвету. Ваша любоў да членістаногіх – найчысты эгаізм і мізантрапія.

Жарсці вакол прусака разгараліся з кожным

днём. І Гасцюхін навастрыў лыжы пераседзець пару-тройку тыдняў у службовай камандзіроўцы. Напісаў заяву. Анкету прыклаў: не, не быў, не меў, не ўдзельнічаў, не прыцягваўся, 120 на 80, раніцай празрыстая. І панёс дакументы ў бюро па развіцці. А там Шурачка з наштукатураным фасадам хавае ўхмылку ў зморшчынах вуснаў.

– Хацелі вас, Гасцюхін, у Дортмунд паслаць па абмене досведам, але перахацелі. Кажуць, прусакі дрэнна расстанне пераносяць.

– Ведаю, ёсць такі горад у Рурскай старане, на зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія, – як ні ў чым не бывала чаканіць Гасцюхін. – Увесь бруканы – святыя камяні Еўропы. Прусак са мной паедзе, у яго бязвізавы ўезд ва ўсе краіны свету. Так што, Шурачка, з прусаком усё чыкі-покі. Афармляйце мяне за мяжу.

Нічога смешнага не сказаў, а ў Шурачкі ад смеху макіяж па твары паплыў.

– Калі вам, Гасцюхін, сапраўды хочацца ў падарожжа, трэба прыкласці некаторыя намаганні. Мае грудзі не трываюць адкладаў.

Шурачка была худая, як ровар. Гасцюхін зразумеў: выбару няма. Давядзецца круціць гэты ровар усю ноч. Хацелася песціць прыгожыя і пышныя жаночыя грудзі, але звычайна прыходзілася песціць тое, што даюць.

– Я гатовы… адпрацаваць.

– Ноч і яшчэ ноч.

– Згодны. Толькі ў гэты раз не абдуры.

– У Дортмундзе будзьце абачлівыя, Ігар, – Шурачка ўпершыню за ўсю размову назвала Гасцюхіна па імені. – Там чалавек чалавеку воўк.

– У нас таксама не чырвоная шапачка з бабуляй.

Вечарам Шурачка авалодала Гасцюхіным так

паспешна і рашуча, што той не паспяваў за ходам яе думак, хоць думкі не ззялі разнастайнасцю. Суцэльнае тыбыдым, тыбыдым, тыбыдым то зверху, то знізу. Адчуваючы, што фінал блізкі, Шурачка пачынала весці зваротны адлік: дзесяць, дзевяць, восем, сем…

Пасля бурнай ночы Гасцюхін задумаўся і праехаў патрэбны прыпынак. Спазніўся літаральна на хвіліну. Але ўваходныя дзверы блакіравалі вісусы.

– Ба-а-а! Якія людзі без канвою.

– Загуляў ты нешта, Гасцюхін, са сваім прусаком.

Шэф таксама бесталкоўшчынаў падтрымаў:

– Гасцюхін, як можна?! Барэль падае, ф'ючэрс таннее! Сусветнай эканоміцы калапс! А вы з прусаком цацкаецеся!

Бязглуздзіца з вуснаў шэфа перапоўніла казан Гасцюхінскага цярпення:

– Памёр прусак! – сказаў ён з сумам у голасе. – Не вынес чалавечага жыцця. Пахаваў я яго сярод кветак на гарадской клумбе.

Усеагульная весялосць дала расколіну. Хтосьці паспрабаваў хмыкнуць раз, другі, але тэма сканала без надзеі ўваскрэснуць. Ад радасці Гасцюхін сціснуў дулю ў кішэні штаноў. Зберагласся галоўная таямніца ўчорашняга дня: ён у пачак да Васяткі вусаценькую Танюшку падсяліў.

# Балада сумнай кавярні

Пасля любошчаў невытлумачальная сіла цягне мяне, таго, які не паліць, запаліць. Доўга і беспаспяхова шукаў я проціяддзе ад нядобрай звычкі. І калі даведаўся, што ў бары на Ваўкадаўскай музыкі прыстойна граюць рэгі, вельмі ўзрадаваўся. Гэта быў шанец вырвацца з абдымак старых сяброўак і, не схапіўшыся па дурасці за новыя таліі, пахаваць цягу да цыгарэты.

У бар мне прыйшлося доўга ісці ўздоўж глухога плота. Разам са мной ішоў халодны дробны дожджык. Праз разрывы ў свінцовых мудрагелістых аблоках цмяна зіхцела сонца. І тут да мяне, блуднага сына расчуханай ад сэкса краіны, прыбілася вар’яцкая думка: “Вось яна, самая лепшая пара развеяць нуду і вырвацца з жыццёвага калаўроту”. Ад уласнае адвагі я скурчыўся і пакрочыў яшчэ хутчэй.

Каля дзвярэй бара гаспадар установы, падміргваючы рэдкім мінакам, абяцаў выпіўку за ўмераную плату:

– Заходзьце, людзі жвавыя, не пашкадуеце. Змоклым наскрозь першая чарка бясплатна.

– Тут кіпяцяць грэшнікаў? – пастукваючы зубамі ад холаду, зрабіў спробу пажартаваць.

– Адхрысціся, дружа! – рэстаратар паклаў руку на маё мокрае плячо. – Гадоў пяцьсот таму злоўленых грэшнікаў маглі папросту на кол пасадзіць. Пашанцавала табе, хлопец! Нарадзіўся ты не ў той час і не ў тым месцы. Праходзь

да каміна. Загадаю падаць гарачай кавы. Добры настрой кліента – гэта дабрабыт маёй кавярні. Толькі чынушы не даюць жыць. Зусім мазгі задзяўблі. Няма на іх ні крыжа, ні паўмесяца. Пасля падатковых наганяяў прыходзіцца грызці пірог з лекамі. Ёсць і іншыя непрыемнасці. Учора памёр наш ганаровы кліент. Выдатны быў чалавек. Выпіваў за вечар два тузіна куфляў піва і два літра гарэлкі. І так кожны дзень. На здароўе не скардзіўся, і чаму нябёсам душу аддаў, застаецца толькі варажыць. Аб музыцы з гэтай сумнай нагоды прыйдзецца забыць. Анекдоты пад манатонны дождж не выратуюць ад засмучэння, а дасціпная гісторыя пад гарэлачку павінна палепшыць маркотны вечар.

Ад прапановы выпіць адмовіўся бы толькі дурань, і я замёр у трапяткім чаканні шчырага аповеду.

– Тое, што ў нашым раёне няма джэнтэльменаў – сцвярджэнне несправядлівае, – павольна пачаў рэстаратар, пагладжваючы пузаты графінчык з гарэлкай. – Літаральна сёння бачыў мужчыну, які трымаў парасон над жанчынай, што мяняла кола ў машыне. Ці быў Федзя Пілюгін да вяселля джэнтэльменам, сцвярджаць не вазьмуся. Але тое, што пасля жаніцьбы яго жыццё пайшло юзам – факт неабвержны. Справа нават не ў дурніцы, што пайшла з ім пад вянец, а ў феномене, які Пілюгін адкрыў пасля нараджэння дзяцей. Феномен гэты гучыць прыкладна так: “Нікому на гэтым свеце нельга верыць!” Хай не на ўсе сто, але ў чымсьці Федзя мае рацыю. Інтэлігентны чалавек Янка Чуб, мужык не дурань выпіць, узяў і стукнуў жонку газетай. Больш нічога дрэннага пра нябожчыка сказаць не магу! Эх, Янка! Газета – не бейсбольная

біта. Калі ўстала жонка папярок горла і выела пячонку, вазьмі кіслародную падушку і ціха задушы заразу.

Апавядальнік з сумам уздыхнуў, разліў гарэлку па чарках і закамандаваў:

– Пі і слухай маю споведзь! У адзін з вечароў Хведар непрыкметна пракраўся да сябе ў хату і замкнуўся ў сумешчаным санвузле.

– Ты ў сям'і не адзін! – замалаціла жонка кулакамі ў дзверы. – Унітаз усім патрэбны. Да Мішкі ў школу хадзіў?

– Не-а! – адазваўся Пілюгін праз дзверы. – Ты сама ў тым вінаватая. Паслала на бацькоўскі сход, а дзе школа, не сказала.

– Мабільнік у цябе ў кішэні ляжыць, каб пытанні задаваць.

– У нашу хату, як да павешанага, не датэлефанавацца! – агрызнуўся Хведар.

– Ну, заняла тэлефон на гадзінку, хвіліну з Галяй пагаварыць. Так мог суседцы пературэлефанаваць, няўжо ў цябе розуму хапае толькі мацаць яе ў цемры лесвічных пралётаў.

Пілюгін ведаў: калі ягонай сяброўцы па жыцці "ляйчына пад хвост патрапіць", ні які тормаз яе не стрымае.

– Чаму маўчыш, цюхцяй? – насядала жонка. – Чакаеш, калі зрыфмую пару ласкавых слоў? Дык вось яны! – і Галіна сарвалася ў крык. – Ты жыццё мне зламаў, вырадак! Спаганіў усе мае светлыя пачуцці. У хату нічога, акрамя прастуды, прынесці не можаш. Бачыць цябе не магу, гнюсны эгаіст. Нікчэмнік! Неадкладна выходзь і пацалуй мяне.

Пілюгін стаіўся. Думкі, што насядалі, адцягвалі ад лаянкі з жонкай. "Адкуль я ведаю, на што здольная гэтая жанчына пасля пацалунку?!

Нікому нельга верыць. Нікому. Нават уласнай жонцы”.

– Тата, я сікаць хачу! – паскробся пазногцямі ў дзверы малодшы сынок.

– Пусці дзіця памачыцца, ідыёт! – тут жа ўставіла свае пяць капеек жонка.

– Не магу. Хай патрывае. Патрывай, сынок, крышку. І скажы мне, Дзіма, што нам у школе задалі на заўтра.

– Нічога не задалі, тата. Канікулы пачаліся.

– Вось табе фа, до, рэ, мі, соль! Ізноў прыйдзецца за ўсіх посуд мыць. Дзіма! Нават на канікулах ты павінен працягваць спорна вучыцца!

– Тата, з чым я павінен вучыцца? Якое порна ты параіш? – растапырыў вушы малалетні прайдзісвет.

– Спорна і порна, сынок, гэта далёка не адно і тое ж.

– Ты што мелеш?! – заляпала далонямі ў дзверы жонка. – Ты на які шлях, бесталкоўшчына, сына пхаеш?! Жывеш са мной каторы год, а розуму не назапасіў!

– Тата! Ты колькі гадоў у мамы служыш?

Федзя пацёр далонню ўзмакрэлы ілбешнік, але ўспомніць, якой велічыні ў сына вушы, так і не змог. “Значыць, цяжкахапальныя! – сумна ўздыхнуў ён. – Павольна растуць. Не разумею, чаму сланы сваіх дзяцей за вушы не дзяруць? Такія лапухі дарма прападаюць. Былі б у маіх паследкаў вялікія вушы, аднадзіў бы раз і назаўжды паліць пад коўдрай”.

Успомніў Пілюгін, як адвучаў старэйшага сынка падкрадацца да дзвярэй спальні. Любіў хлапчук падглядваць за бацькоўскай валтузнёй на ложку. Знаходлівы Хведар заслаў ля спальні скрыпучы паркет, дык хлапцу хтосьці параіў

слізгацца да дзвярэй на атласнай падушцы.

– Нікому няма веры! Нікому, – упарта мармытаў Хведар, – нават дзецям! Такі цудоўны пузан быў, а вырас у нешта гадкае.

Да дзвярэй санвузла падышоў брат жонкі.

– Федзя! Можа цябе хто пакрыўдзіў? Так ты не маўчы! Выплюхвай праўду! Пойдзем і надзярэм таму шакалу азадак. Ніхто не асмеліцца асудзіць нас за гэта. Прама цяпер хадзем. Не то да раніцы астынеш і ўвесь кайф абламаецца. Федзя! Ты сям'ю сваім маўчаннем не нервуй. Мы каля сарціра сабраліся ўсё як адзін з сэрцамі нарасхрыст. Дапамагчы табе – справа нашага сямейнага гонару.

– Якога чорта чапляецеся?! – не вытрымаў Хведар. – У дадзены момант мне вашы сэрцы, як зайцу сланові пеніс. І насіць цяжка, і падняць немагчыма.

– Федзя, я ўсё зразумеў. Ты зачыніўся і дрочыш! Прашу цябе, пакуль не позна перастань драчыць. Не паддавайся хвілёвай слабасці! Беражы сваю мужчынскую сілу. Памятай, гвардыя гіне, але не здаецца. Не ананіруй, Федзя! Усё ў цябе зладзіцца, і выстараешся сваёй Надзьке, маёй сястрычцы, манто сабалінае і брулік з кулак.

– Ах-ох-ах! – зайшлася нервовым смехам Надзька. – Ці дачакаюся я?! Напрацаваць не можа, красці не ўмее. Быдла ў мяне мужанёк. Тых, хто хапаць налаўчыўся, куча неабсяжная. А мой "тытан пагарды" з зарплатнага мізера саскочыць не можа. Людзі ўсё грабуць! Валідол, ёд, гніллём з рынка не грэбуюць. Хапаюць, хто рукамі, хто куксамі. А наш Фядос здаровымі рукамі толькі драчыць здольны. Ідзі, адатні для сям'і капейку з казённага бюджэту!

– Мама! А што тата дрочыць? – падкінуў

пытанне ў топку разладу сынок.

– Ты дзе такіх слоў нахапаўся, нягоднік?! Вось яно, пустазеллем узышло бацькаўскае выхаванне. Порна! Порна! Дзіця ў падручнікі перастала зазіраць.

Надзя ўзяла фанендаскоп. Уставіла ў вушы гумовыя трубачкі і прыклала варонку з мембранай да дзвярэй.

– Ні ўздыху, ні стогну. Ты што, спруцянеў ад стараннасці?

– Не дачакаецеся! – прасіпеў Пілюгін. І, надаўшы голасу павучальны тон, строга спытаў у сына: – Дзіма, ты навошта ўзяў мае часопісы?

– Тата, я не браў часопісы. Гэта Зінкіны выхадкі.

– Не хлусі. Твая сястра красці часопісы з голымі дзяўчынамі не будзе. Яна, калі захоча, сама голай дзяўчынай стане. Дзіма, калі я быў маленькі, я ніколі не хлусіў.

– Тата, а калі ты пачаткаў хлусіць?

– Сын, не задавай дурных пытанняў. Бацькаўская папруга не салодкая.

Пілюгін цяжка ўздыхнуў.

– Канцэрты, рэпетыцыі, гастролі, прэзентацыі… З сынам бачуся мімалётам. Бракуе часу добра адлупцаваць для навукі. Грымакі з выспяткамі не пайшлі сынку на карысць. Як бы не прыйшлося праз гадок-другі лаяць сябе: не дагледзеў, не дадубасіў.

Памяняўшы ваду ў тазе, Хведар працягваў старанна намыліваць штаны, заклапочана мармычучы:

– Не! Нікому на гэтым свеце верыць нельга. Нікому! Нават сабе! Я ж толькі пукнуць збіраўся, а вывалілася гэтулькі лайна, быццам я не чалавек, а насарог афрыканскі.

Рэстаратар замоўк. Падміргнуўшы, ён наліў мне ў чарку гарэлкі.

– Пі і ўсміхайся. Гэта два найважнейшых занятка ў жыцці мужчыны. Яны здымаюць напругу пасля вар'яцкага дня.

– Па праўдзе кажучы, я ішоў сюды не дзеля смеху. Чуў, у вас прыстойна граюць рэгі.

– Наконт рэгі так і ёсць. Хоць Федзя Пілюгін не Боб Марлі, але для нашых месцаў грае афуенна. "Граю таму, што не магу не граць", – запэўнівае ён пры кожным зручным моманце. Але сёння нашага музыкі няма. Калі штаны ў гітарыста высахнуць, ласкава прашу на рэгі пад чарку сапраўднага ямайскага рому. А смяяцца ўсёткі трэба. Хоць бы час ад часу. Смяючыся нават паміраць не так страшна. Чэхаў малайчына, мог нават у сумным адшукаць смешнае. Праўда, калі з пачуццём гумару дрэнна і рассмяшыць цябе немагчыма, прасі сяброўку, каб паказытала. Які б ні выдаўся дзень, завяршаць яго трэба з усмешкай на твары.

# Цыпачка

Уваходжу ў кватэру і спатыкаюся аб палена. Ляжыць яно ля парога, як той завэдзганы дыванок.

– Цыпачка! – гукаю жонку. – Адкуль дровы ў кватэры? Няўжо вячэру на вогнішчы гатавала?

– Гэта не дровы, – выйшла з ванны Зінаіда, – гэта абломак майго жыцця.

На Зініным твары красавалася агурковая маска. Калі верыць жонцы, такая маска дапамагае палепшыць колер скуры. Затое я на зіму застаўся без салёных агуркоў. Ну ды ладна, маска маскай, але ж палена – сур’ёзны сігнал. Калі “абломак жыцця” блытаецца пад нагамі – чакай непрыемныя наступствы. Сапраўды, ніколі не ведаеш, што выкіне кабета, прыбітая бытавухай, і якая да таго ж вырашыла стаць добраахвотнай ахвярай пахудання – самага жаночага віду спорта.

– Георгій! – Зіна выглядала змрочна-ўрачыстай. – Вечарам у нас будуць Шылкіны – толькі што з Парыжу вярнуліся.

І, разглядзеўшы на маёй фізіяноміі прыхаваную іронію, жонка рашуча дадала:

– Твая ўхмылка тут недарэчы. Яны на распродажах панабіралі шмотак, а я ў сваіх кароценькіх апратках выглядаю, як дзяўчынка з сірочага прытулку.

Папрок быў раўназначны выкліку на двубой у пушкінскія часы. Ніхто не даў бы за мяне і ламанага граша, вазьмі я ў рукі пісталет і стань

насупроць Зінаіды. Яна бы не прамахнулася, помсцячы за няўвагу да сваёй персоны. Каб супакоіцца, бяру ў рукі томік Дзюма. Луўр, Манмартр, бульвар Сен-Мішэль або “Бульміш”, як яго замілавана называюць парыжане. Чым? Чым могуць здзівіць Шылкіны пасля вялікага француза? Аднак пярэчыць жонцы перад футбольным матчам я не наважыўся.

– Гамані, бо як інакш, ды яечню мне пасмаж! – немудрагеліста рыфмую і цмокаю Зінаіду ў лоб, стараючыся не злізнуць круглячок агурка. Жонку трэба кахаць. Інакш горш будзе.

Утоптваючы зашкваранына яйкі, знайшоў у сабе сілы пацікавіцца:

– І што неверагоднага нам госці збіраюцца распавесці?

– Ты сабе нават уявіць не зможаш. Яны на Елісейскіх палях у біяпрыбіральню хадзілі.

– Ваў-у! – ледзь не папярхнуўся я скваркай – перад вачамі паўстала жахлівае відовішча: раскарачаная на ўнітазе Клаўдзія Шылкіна трымае ў руках рулон туалетнай паперы.

Вечарам ад гаманкіх гасцей проста не было выратавання. Клава паспявала пабыць, як той казаў, у кожнай бочцы затычкай. Вялікі гаварун Гай Юлій Цэзар, апыніся ў гэты вечар у нас на канапе, напэўна падсыпаў бы яду ў Клавін кубак з віном, ратуючыся ад яе славеснага паносу.

– Мы такое бачылі! – гарлапаніла штосілы Клава. – Такое бачылі! Хаты…стаяць, вуліцы… ляжаць! Людзі ходзяць! І ніхто ані ў зуб нагой па-руску.

Гледзячы на Клашку, я падумаў: “Знайшла чым здзівіць. Вось у Кузьмы Матвеіча ўнук-шасцікласнік сапраўды здзіўляе. Не п’е, не паліць, голых красунь з часопісаў у скрынку з-пад цукерак не збірае”.

Адкладаю кавалак заліўной стронгі і, насуперак маралі, на вачах усіх горача абдымаю Клаву. Спіна ў яе вузкая, рабрынкі прамацваюцца. Ад празмерных пачуццяў мяне перакланіла, і я цалую Шылкіну ў вусны як мае быць – узасос. Ніяк інакш суцішыць верашчалку было немагчыма. Між тым яна здолела выкруціцца з маіх чэпкіх абдымкаў. Спалохалася, што вось-вось і агорне яе тут, на канапе, прыступ сэксуальнай ліхаманкі.

– Георгій, я з табой у разведку не пайду! – залілася Клава далікатнай дзявоцкай чырваннню. – Ты мяне яшчэ да лініі фронту згвалціш.

Мая Зінаіда таксама аслупянела. Не часта ёй даводзілася бачыць мой гарманальны выбух, які суправаджаецца неўтаймаванай агрэсіяй. Каб не ўскладніць сітуацыю, падымаю чарку з гарэлкай і прапаную тост:

– Жадаю добрым людзям добра напіцца, а нядобрым людзям – напіцца нядобра.

Калі рэальна не ведаеш, як паступіць, прыходзіцца дзейнічаць асцярожна і цынічна. Вельмі зручная пазіцыя. Шылкін сваю чарку не стаў піць. Пабаяўся, відаць, што пасля майго тоста яму стане моташна. Сам ён мужычок плюгавенькі. Ці то псіх, ці то маньяк, а можа, і таго і другога назапасілася ў ім патрошку. Я ж, зрабіўшы выгляд, што нічога не сталася, чапляю курынае крылца і цягну да сябе на талерку. Але, на хвілю здурнеўшы, ні з таго ні з сяго пытаюся:

– Ну, а ў цэлым Парыж як, уражвае?

– Не тое слова! – схамянуўся Шылкін.

Стала зразумела, Славіка засосам не спыніш. Яго прыйдзецца проста забіць, а цела звезці на Кубу і скарміць алігатарам.

– Зірнеш налева – ой-ёй-ёй! – завыў Слаўка.

– Зірнеш направа – ого-го-го! Прама паглядзіш… ну забадай цябе камар!

– Зіна, – тузаю жонку за локцік, – ты чаго плачаш?

– Ды як не плакаць, міленькі ты мой, калі прыгажосць неапісальную так Слава апісаў?!

– Цьфу, халера на тваю галаву! – не стрымаўся я. – Ды пастаў да нас у райцэнтр сабор іхняй Богамаці, правядзі Сену і назаві яе ракой, кажы каму папала "мадам" ды "месье" – вось табе і Парыж. А ў наш лясок хадзі па сваёй патрэбе колькі душа твая пажадае. Тамака пад кожным кустом біяпрыбіральня і жмуток свежага моху падцерціся.

Быў хутчэй позні вечар, чым ранняя ноч. За акном церусіў гідкі дожджык. На прыпынку, чакаючы аўтобус, мокнулі Шылкіны. Парыж высушыў іхні сямейны бюджэт, не пакінуўшы ні еўрыка на таксі. Затое без гасцей свет падаўся мне ідэальным, нават з усімі сваімі небяспекамі.

"Можа я Бог, калі мне добра сярод нядобрага?" – прамільгнула ў галаве грэшная думка.

"Ты не Бог, а звычайны чалавек на падпітку!" – падказала падсвядомасць. Аддаўшыся мроям, я не надаў значэння словам жонкі, якая ў гэты час сцяліла ложак.

– З раніцы зажывем па-французску! – упэўнена заявіла яна, як быццам разбіралася ў найдрабнейшых дэталях такога жыцця.

– Выдатна! – задаволена падтакваю жонцы. – Даўно марыў спазнаць таямніцы французскага сэксу.

Новае жыццё ўварвалася ў наш дом, як толькі жонка атрымала "спецправы" на кіраванне "Мэрсэдэсам".

– Ты абзавялася дзіўным дакументам! –

прамовіў я з непрыхаванай іроніяй, разглядаючы незвычайную вокладку. – Больш за тое, унікальнай дакуменцыяй. Спецправы абы-хто не атрымае.

– Ха-ха! – пераможна ўсклікнула Зінаіда. – На іншыя правы я бы не пагадзілася. Праўда, прыйшлося рупліваму чалавеку даць у лапу. Але, як гаворыцца, не падмажаш – не паедзеш.

– Глядзі не стань педальтонікам, – душачы смех, пад'южваю жонку.

– Гэта што за пошасць?! – насцярожылася тая.

– Любая, педальтонік – гэта той, хто не адрознівае педалі газа і тормаза.

– Супакойся, мілы! Я пафарбавала педалькі ў розныя колеры. Зялёную педаль цісну, калі трэба ехаць, чырвоную – калі трэба спыніцца.

Асабіста я ў вадзіцельскіх здольнасцях жонкі не сумняваўся, нягледзячы нават на яе дзіўныя правы. Кожную жонку ад звыклай жанчыны адрознівае ўменне лётаць на веніку. Аўтамабіль пасля веніка – гэта проста дзіцячая забава. Затое любое простае пытанне добрае тым, што яго можна ўскладніць.

– А з начным кіраваннем ты знаёмая? – пытаюся з абыякавым выглядам.

– Ноччу цёмна і страшна. Ездзіць буду толькі днём.

– Вось! – горача выклікнуў я. – Гэта твая памылка. Нават маючы "спецправы", ты застаешся недавадзіцелем. Жанчына толькі тады зможа ацаніць усю любату язды па-французску, калі здолее асвоіць начное кіраванне. Сёння, як сцямнее, зоймемся гэтай важнай справай.

Жонцы і ў галаву не прыйшло са мной спрачацца. Яна так і не ўгледзела ў маіх словах памайстэрску прыхаваны падвох.

Учыніў іспыт Зінцы без усякіх зніжак на сваяцтва. Ездзілі па дрэнна асветленым вуліцам, калясілі па загарадных дарогах. Час ад часу адна толькі бязлюдная шаша імчалася насустрач фарам.

– Куды далей ехаць? – пыталася на чарговай ростані жонка, узіраючыся ў непраглядную цемрадзь.

– Галоўная дарога заўсёды тая, куды здолееш павярнуць руль.

– Ой! Забылася, на што ціснуць, калі тормаз сапсуецца? – закруцілася Зіна.

– Не дурыся дробязямі. Знаходзь самае таннае і смела ўразайся. Толькі, Богам прашу, паспей памаліцца на абразок. Дарэчы, кітайцы вынайшлі машыну, якую не трэба тармазіць. Яна ўвесь час стаіць.

Пад раніцу з сур'ёзным выглядам я павіншаваў стомленую жонку:

– Любая, ты дамаглася фенаменальнага поспеху. Засталася маленькая дробязь. Уяві – аварыя. У мяне траўма, не цяжкая, – пашкадаваў я сябе. –Ты спыняеш сустрэчную машыну і перагружаеш туды маё цела.

Папраўдзе кажучы, я недаацэньваў магчымасці жонкі. Штодзённы шопінг зрабіў яе неверагодна цягавітай, і яна хутка асвоіла прыёмы транспарціроўкі пацярпелага.

– Цыпачка! – прамаўляю з захапленнем. – Дазволь цябе павіншаваць. Зараз ты сапраўдная французская шафяруга.

Што гэта так, ёй самой прыйшлося даволі хутка пераканацца.

У суботу мы паехалі ў госці да Менцюковых. Я сядзеў за рулём і ў прадчуванні выдатнай вечарынкі вёў машыну ва ўзнятым настроі.

– Ла-ла-ла-ла! – напяваў я, хітра пазіраючы на жонку.

Усё і сапраўды прайшло вельмі весела. Я нацябаўся гарэлкі, як апошняя сволач. А трэцяй гадзіне ночы, ледзьве вяжучы лыка, пралапатаў:

– Зінуля! Цыпа мая! Пара бай-бай.

Гледзячы на мяне ўшчэнт п'янага, Зіна са злосцю прашыпела:

– Г-г-гад! З-за цябе я нават каньячка не прыгубіла.

Апрытомнеў я толькі тады, калі "французская шафяруга" цягнула мяне каля нейкага дома. З-за яе спіны мне ўдалося разглядзець у вакне, што свяцілася, даволі шыкоўнае абсталяванне.

– Ё-маё. Тэлевізары, халадзільнікі, дываны. Так далёка ад Парыжу і так добра жывуць. Хочацца гэтым багацеям для поўнага шчасця ў вакно гранату кінуць.

– Ты што, здурнеў? Гэта наша вакно.

– Вось як! – па-ідыёцку ўсміхнуўся я – прабач, не прызнаў!

Жонка прывалакла маё абмяклае цела ў кватэру і скінула на канапу.

– Цвярозая п'янаму не сяброўка! – цынічна абвясціла яна.

– Па-амыляешся! Цвярозая для п'янага – надзейны транспарт і палымяны аб'ект кахання. Памяркуй сама. Я нап'юся – ты цвярозая, ты нап'ешся – я як шкло. Хтосьці кагосьці заўсёды дадому прывязе, распране, аблашчыць. У гэтым, душа мая, і крыецца сапраўдны сэнс начной язды па-французску.

# Глухамань

Пасля бязглуздых блуканняў па жыцці, пачынаеш вельмі ясна разумець: не ўсе бабы дурніцы і не ўсе дарогі вядуць у Рым. Знойдзецца ў дарожным павуцінні выбоістая гравійка, якой Рым па барабану, і завабіць даверлівага вандроўніка ў непраглядную глухамань. Туды, дзе ў неспакойныя часы раскашэльвала абароцістых купцоў удачлівая налётчыца Глухая Манька, якая і заклала на шалёныя грошы ў дрымучай глушы мястэчка Непуцёўск.

З гадамі глухамань вакол мястэчка ўкаранілася як мае быць і не корчыла дурня: была ціхай, тужлівай, безаблічнай. Нават яршыстае слова, не паспяваючы ўкалоць крыўдзіцеля, нудотай плеснявела на ляту.

Усе гарадскія дзялкі з млявай лянотаю круціліся вакол трыкатажнай фабрыкі "Чырвоны кафтавяз", судзіліся на мазолячай азадак каванай лаве часоў прышэсця бальшавікоў, затарваліся ў прадмагу "Непуцеец" гарэлкай "Мужыковы мары". Палітру гарадскіх уцех дапаўняла паштальёнка Дуся, якая развозіла на павольным коніку Паўліку ахапкі дзелавой і звычайнай карэспандэнцыі. За пабочны бізнэс ветлівую парачку ў народзе клікалі "пахмелявоз".

Непуцёўскія франты фарсілі па вуліцах у фабрычным трыкатажы, спакушаючы непуцёўскіх баб. Варта было расфуфыранаму прыгажуну клікнуць губасценькую сяброўку ў квяцістым сарафане: "Гайда, краля, у духмяны бур'ян. Па-

варушу ў тваім бяздонні сваім варушыдлам", як ляцела дзявуля ног пад сабой не чуючы ў любоўнае павуцінне, ірдзеючы ад нечаканага шчасця. Цягнула яе да баламута, бы таго бяспечнага матылька ў пякучае полымя васковай свечкі.

Вядомым варушыстам лічыўся Кандрат Неспяшэлаў, на "Чырвоным кафтавязу" чалавек паважаны. І дзед яго, і бацька паймелі нямала трапяткіх целаў у тонкіх паркалёвых халатах. Сам Кандрат, мастак зазірнуць пад спадніцу, здолеў выбіцца ў брыгадзіры абкусчыкаў нітак.

У адзін з працоўных будняў, звыкла загразшым у клаацы аўральнай мітусні, на ўвесь цэх раздалася мальба Неспяшэлава:

– Пятрові-і-і-ч!

Пятровіч, майстар участку сервіроўкі і падгонкі, быў дзядзька строгі. Праўда, строгасць дазваляў змыць шклянкай добрага недарагога.

– Не гарлапань! – без злосці абсадзіў ён крыкуна. – Тута я, з колам ад каляскі важуся.

– Пятровіч, пакліч часальшчыцу Нюрку.

– Трэці дзень у цябе за няньку. Капрызны ты! То расолу паднясі, то Нюрку падкладзі. Сам чухайся. Паклікаў яе хтосьці.

– Пятровіч! Трэці дзень у працоўным тыдні серадой называецца, ты нічога не пераблытаў?

– Серада сёння, не сумнявайся. Супраць календара не папрэш. У ім кожны дзень сваё імя мае.

– Ё-маё! – Кандрат правёў далонню па твары, вяртаючы сябе з туману пахмелля. – Ледзь брата не празяваў. Акурат у сераду абяцаў з жонкой прыехаць.

– Савелій можа?

– Савелій! Іншых братоў няма. Хоць, людзі кажуць, бацька вельмі стараўся. Братачка ў мя-

не ўдачлівы, праз шклянку ў сваёй “мусарні” правільны шлях праклаў. Зараз ён старшы следчы па асоба важных справах.

– Паважаю ўпартых. Такімі дужымі мужыкамі хрыбет дзяржавы прыкіпае.

– Саву пры выкананні ў галаву ранілі. У цэлым братухе пашэнціла. Здолеў пазбегнуць ампутацыі. Пасля перастрэлкі вырашыў у мяне падлячыцца. На сустрэчу вазьму “Чорнага Гінэса” замест звыклага бухлішча. Гэтае піва пад балтыйскую кілечку з дробна пасечаным часнычком на жытнім сухарыку весела ідзе.

– “Чорным гнюсам” не раю сустрэчу абмываць. Рэч небяспечная. Бярэ непрыкметна, але волю вяжа дай божа. Пойдзеш у загул, і не будзе каму на новай калекцыі махру абкусваць. А ў мяне капенгагскі заказ на карку вісіць. Мне рэкламацыі дацкіх мужыкоў і нафіг не патрэбныя. “Чырвоны кафтавяз” – гэта брэнд, а не хухры з мухрамі.

– Ці ж я падла, каб баявога брацельніка яблычным сідрам сустракаць?!

– Ты не надзімайся! Ідзіце з братам на хутар да Панфіла. Па тры шклянкі хвацкай бражкі на парэчкавым лісце вам пад завязку будзе.

Хутар Панфіла Тугабуева з барам “У Джардзеда” лічыўся выдатным месцам для залізвання духоўных і цялесных ран. Разамлелыя браты хутка даспелі да звыклай мужчынскай балбатні. Сцёршы далонню вермішэль з блішчастых вуснаў, Кандрат жартам баднуў брата захмялеўшай галавой у мяккае плячо:

– Сава, табе як роднаму адкрыюся: замучыла мяне адна сука.

– Калі сука з дупай, то трэба яе не біць, Кандратка, а любіць. Добрая дупа на дарозе не валя-

ецца. За добрую дупу і пацярпець не грэх.

– Не пра баб я! – паморшчыўся Кандрат. – Маю суку працэнтаманія клічуць. – І ён перайшоў на даверлівы шэпт. – Выцягне мяне начальнік з-пад саска ў душавой, за локаць мыльны ўчэпіцца і давай гнаіць, быццам я не чалавек, а бульбяная градка: "Памры, брыгадзір, але дай да канца месяца прырост абкусаных нітак". "Я, Ерафей Кліменцевіч, – затуляючы мачалкай сорам, талдычу ў адказ, – не птушка-хутканясушка, і за знос зубоў мне амартызацыю не налічаюць". "Ах, так! – выбухае ён і, паскудна ўсміхаючыся, б'е мяне пад дых. – Забараню Верцы-кранаўшчыцы да цябе на сяннікі спускацца". Сава! Маю морду перакасіла ад абурэння. Каб зірнуў на сябе ў гэтае імгненне ў люстэрка, зваліўся бы, страціўшы ад хвалявання прытомнасць.

– Ты, Кандрат, сітуацыю проста так не ўскладняй. Паслаць на тры літары вялікага розуму не трэба. Калі сказалі: "Зрабі хутка!", рабі, як паспяваеш, абы не ў дупку. Думаеш, мне лёгка? Восем жмурыкаў вісіць на аддзеле. Хто іх ухандохаў – чорт яго ведае. Сяджу, ночы напралёт камбіную, пераконваю, прымушаю. На мне працэнт раскрывальнасці таксама суччынымі трыбухамі вісіць. Давай-ка лепш самагоначкай справы нашы журботныя падсалодзім.

– Я не супраць. Але толькі за гэтай паганай працай не бачу, што ў свеце дзеецца.

– Падзеяў, Кандрат, у свеце хапае. І грузіцца за ўвесь свет не бачу рэзону. Ты мне лепш пасвойску адкажы: жыццё начное ў горадзе ёсць?

– Ёсць, але ў жыцця вусны абсыпала. І сядзіць губастая Нінуха, схаваўшыся сарамліва ў хаце.

– А Наташка з Валюшкай хоць у любоўным промыслу?

– Гэтыя заўсёды фестываляць па-сур’ёзнаму, але сышлі ў рамонт. Зараз не сезон. Дачнікі на закаткі селі, студэнты канспектамі шамацяць, дальнабойшчыкаў спужалі вялікія акцызы. Суценёры, паганцы, хабар саляркай браць сталі. Вось красуні і леглі падрэгуляваўцца да лепшых часоў.

– А Мальвіна? – не суцішаўся Сава. – Яе д’ябальская касінка ў міндалепадобных вачах у мяне гіпергідроз па ўсім целе выклікала.

– Можа, дарма з табой на брудэршафтэ п’ю? Баюся ўсякай незразумелай заразы.

– На страхі твае плюнуць і размазаць. Гіпергідроз – гэта звычайная патлівасць. Мне само слова падабаецца.

Выпіўшы па чарцы і прыкусіўшы кількай адразу з рыбінымі мазгамі, браты працягнулі душэўную размову.

– Мальвіна яшчэ тая дзявуля, – Кандрат аблізаў вусны. – Ёй бы ў полі ракам стаяць і сярпом махаць. Колькі семені ў бабу ўбухаў, а яна ні разу не раздзьмулася. Каштоўная баба. Калі Мальвіна на ровары выязджае, яе голы дужы азадак відаць здалёк.

– Маўчы! А то мяне пераклініць ад тваіх слоў. Давай Панфіла загрузім. Няхай свісне з плошчы парачку языкасценькіх... Ну, ты мяне разумееш?! Нерастрачанай пяшчоты, блін, прорва, – тут Сава запнуўся і даверліва зашаптаў: – толькі ў лоб не лупі. Апрані просьбу ў рамкі прыстойнасці. Пасада не дазваляе адкрыта бузіць.

Кемлівы Кандрат кіўнуў галавой і крыкнуў бармэну:

– Панфіл! У цябе... гэта, якяго, “адзідасаўскае” сала ёсць?

– Сала з трыма мяснымі праслойкамі ёсць! Але яго ёсць каму есці, – і Панфіл кіўнуў у бок

шумнай кампаніі.

– Тады ты нам двух дзяўчын малаапранутых высватай па старой памяці.

– Па старой памяці магу толькі аблічыць. Я ў чужы бізнэс не лезу і ў свой не пускаю. Жыву без натугі, таму і гасцей у мяне поўная хата.

У бары сваволілі п'яныя хахлы-кантрабандысты. Ледзь стала цямнець, селі яны да сталоў, сціскаючы нагамі баулы з паклажай. У чаканні сігнала з мяжы, глушылі панфілаўскую гарэлку і смалілі "данхілаўскі" самасад. Паветра ў бары насыцілася мацюкамі біцюгоў і грубым водарам высмажанага да сухара сала. У такой духаце любая адчайная душа магла вылецець скрозь маленькую дзірачку ў грудзі, праколатую шампурам.

Верхаводзіў у хахлоў Чмоня, палтаўскі мутант-камерсант. Быў з яго дзялец вельмі дзіўны. Не раз яму на галавешку падаў памежны шлагбаум. І зараз ад выгляду салёнага грыбочка або масляністага пяльменя абвастралася ў камандзіра жаданне напіцца і скапыціцца. У гэты вечар Чмоня ганарыста выкрочваў па абедзенным зале і пышыўся чаравікамі ад "Дзірка Бікембергса".

– Гад! – прамычаў Сава. – Шкада, не запасся ордэрам на арышт. Не тое збіў бы гонар у задавакі.

У адрозненне ад брата, Кандрат маўчаў – яго прыціснулі нечыя дужыя грудзі, якія ўпалі проста на плечы.

– Варвара! – прызнаў ён гаспадыню грудзей. Толькі Варыны агнядышныя саскі маглі выпаліць на плячах па генеральскай зорцы.

– Дзе асалода, там і я – прамурлыкала тыгрападобная котка. – Давай, пашукай у мяне за пазухай, бесталкоўшчына мая ненаглядная. Цыцкі мае ласкі просяць.

– Варка-Варуха! – вывярнуўся Кандрат з-пад дзеўкі. – Скажу табе нешта важнае. Але прашу, паводзь сябе без надрыву і раздзірання станіка на грудзях. Страшна вінаваты перад табой. Сцягаўся я, і пайшла ў мяне дзікая чахарда. Не помню як, але памяняў арыентацыю і жыву з мужыкамі. Вось мой хлопец на сёння! – і Кандрат кіўнуў на брата.

– Цьфу на цябе, акаянны! – і Варвара адступілася ад былога палюбоўніка, як ад пракажонага.

– Кандратка! – Сава з сумам глядзеў услед Варвары. – Рыбка без прынады на кручок села, а ты яе шугануў. Нам бы такой кабеты адной на дваіх хапіла.

– Тоўстую Вару можна кахаць на незаселенай выспе, дзе няма іншай ежы.

– Ёлупень! – Савелій нервова замітусіўся. – Без запасу тлушчу ў бабы вычарпаецца менструацыя, і тады чалавеку прыйдзе капец.

Тым часам Панфіл, узіраючыся ў п'яныя морды вясёлай кампаніі, ясна сцяміў: хахлы пры грошах.

– Варварка! – клікнуў ён дачку. – Сала дарагім гасцям не шкадуй і гарэлкі поболей налівай.

Варвара бегала ад стала да стала як заведзеная. Чмоня жэр усё, што яна прыносіла, пажыраючы і саму дзеўку зайздроснымі вачамі.

– Хіба так можна, душа мая? – распальваючыся, шаптаў ён. – Твой кожны кілаграм дыхае, як свежы персік.

– Усё можна, калі асцярожна! – какетнічала дзявуля. І, надзьмуўшы шчокі, стала яшчэ пышней.

– Варвара! Ты пайшла б замуж за нягодніка толькі дзеля яго грошай?

– А ты што, Чмоня, статыстыку збіраеш або

робіш фармальную прапанову?

– Панфіл! – Чмоня схапіў хутараніна за рукаў. – Аддай Варвару за мяне. Вяселле людскае зраблю. Увесь Майдан скакаць будзе. Пакладу золата за яе, колькі сама без трусоў заважыць. Кіля ў кілю.

– Пачакай, пачакай! – залепятаў азадачаны Панфіл. – Дай зарыентуюся, колькі ў маёй Варцы кіляў. О-о-о! Землячок! Справу тваю з наскоку вырашыць не вазьмуся. Слабая дзяўчынка, падкарміць трэба. Попка кволая, грудзі непрыкметныя. З такой попкай пад вянец ісці – людзей смяшыць, – заўпарціўся Панфіл, гледзячы на таўстамордую дачку. – Праз гадок падчалівай, тады і дамовімся.

Нецярпенне перахвастанула Чмоню, і ён стаў крэмсаць паветра рукамі, нібы яны ў яго сякеры-самасекі.

– Не дуры, Панфіл! – чырвоная морда Чмоні дыхала злосцю. – Усё, што больш за цэнтнер, мне непад’ёмна. Я цябе і грашыма не пакрыўджу. Толькі Варвару стапарыць не трэба, – і Чмоня шпурнуў на стол туга сцягнутую гумкай грашовую катлету.

– Нядужы задатак для бацькоўскага спакою. Час цяпер здзеклівы, благіх людзей не пералічыць. Таго і глядзі, жыццёвы астатак прыйдзецца пустой дзюбай прашчоўкаць.

– Не скавычы. Сіратой сябе не выстаўляй. Я жаласлівасць на Майдане закапаў. Сказаў, дапамагу, значыць дапамагу. З будучых куражоў. Чмоня слоў на вецер не кідае.

– Тады лічы, пашанцавла табе, хлопец, неверагодна пашанцавала. З рук Варвары нават чарка палыну мёдам падасца. Золата прывязеш, і забірай маю донечку.

– Ты што вырабляеш, гад? – сыкнула на Панфіла жонка. – Старгаваў дачку, як гуску на кірмашы!

– Маўчы, дурніца! Усюды джала сваё ўсунеш. Не бабская справа ў мужыцкія дзерабасы ўмешвацца! – але, змякчэўшы, з запалам зашаптаў жонцы на вуха. – Я на месцы дачушкі ўжо б на першае спатканне вэлюм надзеў. Чмоня, цягаючы кантрабандны спірт, навярблюжыў два параходы з прычалам і буйкамі на рэйдзе, гарбарную майстэрню і свячны заводзік для замальвання грахоў. Калі з Чмоней скарафанімся, наша старасць на суцэльным факстроце міне.

– Але ж п'е пракляты ўсё, што адкусіць не можа.

– Дык на кроўныя п'е! П'яніца праспіцца і цвярозым стане, а дурань, колькі б не тужыўся, ніколі не паразумнее. Супраць дыялектыкі жыцця не папрэш, расплюшчыць, як каток жабу на дарозе. Усё, маўчы!

– Не магу маўчаць. Ён лысы ўвесь.

– Ну і хрэн, што лысы. Лысінай дзеткам зайчыкі пускаць зможа. Ва ўсім, дурніца, плюсы шукай! – і, склаўшы на грудзях рукі, прыняўся Тугабуеў клікаць поспех.

– Тата! – да Панфіла падбегла ўзбуджаная дачка. – Калі выйду замуж за Чмоню, што мне рабіць з астатнімі?

– Астатнія пачакаюць.

– Тата, я не аўтобус, каб мяне чакалі. Яны ўсё разбягуцца! – і непрасыхальныя дзявочыя слёзы накаціліся на вочы небаракі. – Мама! Ты хоць яму скажы!

– Панфіл, нельга табе так. Яна ж крывіка наша родная.

– Хто ведае, хто ведае?! Дочкі – справа

нажыўная. Толькі пастарацца трэба. Зараз жа ідзем і кладземся ў пасцель. Я табе ў закладку зраблю на новую дачку. Прачухаў я гэты бізнэс.

– Мама, пра што ён кажа? Які бізнэс?

– Не мамкай! Бацька лепш ведае. Застаешся на гаспадарцы, а я пабегла прасціну перасцяліць.

Братам Неспяшэлавым не елася, не пілося.

– Сава, я абураны хахляцкай анархіяй. Нашых дзевак за кардон цягаць надумалі.

– Хай валакуць. Ты ад яе адмовіўся.

– Ад яе так. Але справа ў прынцыпе. Жанчына – здабытак нацыі, і гандляваць ёю не дазволена. Давай Чмоне мацюкальнік наб'ем.

– Удваіх на аднаго – гэта не па-мянтоўскі. Калі каго трэба адлупіць, мы ўдзесяцёх ходзім.

– Тут па мянтоўскіх правілах не гуляюць. Будзем дзейнічаць па-пацанску: трое на трое. Панфіла возьмем у хаўрус, – і, нядоўга думаючы, Кандрат крыкнуў:

– Панфіл, трэцім будзеш?

– Буду! – як вожык з туману, вылунуўся Панфіл і прысеў на лаву.

– Ты тут побач не прымастаколівайся. Паклікалі цябе Чмоню біць. Трэба пысу нягодніку начысціць.

– О-о-о, зямлячкі! Тут я вам не памагаты. Я хутаранін, і трымаю нейтралітэт, як трымае яго Швейцарыя, еўрапейскі грашовы куфар. Таму на аферу вашу паддацца не магу. Жадаю захаваць паболей здароўя, а калі што, то без праблем яго папоўніць.

– Глядзі, Панфіл, не пралічыся. Пажадаеш далучыцца, дык позна будзе, – і, звярнуўшыся ў бок хахлоў, Кандрат рашуча крыкнуў:

– Гэй, Чмоня! Пашаптацца трэба.

– З добрымі людзьмі пашаптацца заўсёды

гатоў, – і Чмоня намацаў нож у рукаве.

– Ты нас, гляджу, зусім не баішся?

– Не баюся.

– Чаму?

– Дык вы мяне яшчэ не пужалі.

– Ты чаго да нас зачасціў?

– Дык бардак на “ріднай” Украіне.

– У нас таксама бардак.

– Затое вашы дзеўкі свяжэй.

– Твая праўда, хахол. Азадкі нашых баб заўсёды выклікалі ў прагных і гнюсных ворагаў прыступы зайздрасці. Наклікаў ты сабе горкую долю. Лопнеш ад udараў нашых кулакоў. Хадзем, выйдзем.

– Без пытанняў мужыкі. Толькі шайку-лейку сваю клікну. Хлопцы! Хапай гэтыя мянтоўскія хары і цягні іх за парог. Тамака разбірацца будзем, чые шышкі ў лесе.

– Стаяць! – залямантаваў Панфіл. – Мардабой у маёй спажывецкай установе не дапушчу. Мне кожны кліент дарагі, як банку салідны ўкладчык. Калі рукі чэшуцца, у мужыка ёсць аб што іх пачасаць. Для найбольш свавольных павесіў грушу ў каморцы. Ідзіце і штурхайце, колькі душы заўгодна будзе. А як намахаецеся, прашу ветліва за стол садзіцца, я ўсіх самагонкай пачастую па перадаплаце.

Як толькі над лесам згас на дзіва прыгожы сутон, на брукаванку выпаўзлі два цені.

– Панкратка! – зашаптаў адзін з іх чалавечым голасам. – Калені, блін, баляць.

– Трывай, Сава! Дарога тут каменем брукаваная. Моцны камень пакладзены. Нават час не змог яго прылізаць. Дай, родны, хоць чупрынку тваю лізну, тырчыць гогалем, а растропай быць не да твару табе.

– Лізні, Кандратка, лізні, родны! На які хрэн мне гэтая груша здалася, зразумець не магу. І навошта я цябе паслухаў? Зараз кулакі ныюць.

– Выбачай мяне, Сава, памылку прыроды, і пашлі на літару “ху”.

– На літару не пасылаюць. Агуч усё слова.

– Прабач, брат. Праглынуў апошнюю літарку. З вымаўленнем у мяне са школы бяда.

Як ні імкнуўся Кандрат ціха ў свой двор запаўзці, аднак без шуму не атрымалася. Сабака загыркала.

– Гыр-р-р, гыр-р-р!

– Цішэй, Дукат! – зашаптаў Кандрат. – Жонка прачнецца, дзе ты спаць будзеш?

Але дарма шаптаў, Галя пільнавала мужа на ганку.

– Вер, паглянь-ка! Нашы бандэрлогі дадому прыпаўзлі. А ты, дурная, у вышук на мужа падаваць хацела. Слухай, як мой зараз заліваць стане, –падпёршы рукамі бокі, Галя рынулася ў лабавую атаку, – адказвай, Кандрат, дзе, халера на цябе, швэндаўся?

– Ну, Галь, ты даеш-ш-ш! Так плявузгаеш, быццам сама нічога не ведаеш. У лесе я быў. Сама нядаўна прасіла брамку паправіць. А то і глядзі, шалёны сабака ў двор прыб’ецца, ды курэй пeратопча. Вось я і падумаў, якая курыца пасля такога гвалту стане несці нармальныя чалавечыя яйкі?! Узяў Саву, і пайшлі патрэбнае палена шукаць. Але не ў той лес зашлі. Адны гарбылі на шляху трапляліся. Па лесе кружачы, не заўважылі, як заблукалі.

– Хлусіш! Закурвавалі вы, збродлівыя самцы.

– Ой, Галь! Не нагаворвай, язык калом стане.

Сава нават не спрабаваў адбрэхвацца. Яму спадручней было даць паказанні ў пісьмовай

форме на трэція суткі. Ён моўчкі падгроб да сябе Верку і пацягнуў у адрыну на духмянае сена.

– Ты куды мяне цягнеш, Савелій? Тамака людзі не жывуць.

– На вышкі пойдзем. Там ноч даспім. Пасля лесу на сене дыхаецца лягчэй.

– Я па лесе з табой не шнырыла. Мне і ў хаце нядрэнна будзе.

– Не кідай мяне.

Калі ўсё сціхла, Кандрат выйшаў на ганак і запаліў. З вышак даносіўся невыразны шэпт.

– Зладзілася! – пацешыўся ён за брата, і, стрэльнуўшы недакуркам у бок суседняй сядзібы, увайшоў у хату.

Затое нявысіканы Сава аб'явіўся на парозе адрыны. Яго злёгку падванітоўвала ад адчування, што жыццё мінае. Хмурасць спаласавала твар, і ён, ловячы душэўную раўнавагу, стаў тарашчыцца ў бяздонны, нашпігаваны таямніцамі космас. Месяц, падобны на ікол дзіка, даўно распароў чорны мяшок неба, выпусціўшы на волю прорву зорак. Дзесьці па заспаным лесе, хаваючыся ад месяцовага святла, шукаў шчылінку ў памежных кардонах Чмоня, нягоднік і бабнік. Сава злавіў сябе на думцы, што зайздросціць яго пранырліваму ўменню хамутаць пацяганых, але даволі пародзістых ізгоек, ахвотных да мужчынскіх сантыментаў. Даспелая зайздрасць узышла злосцю і абвастрыла слых. Жонка ціха скрэбла пазногцямі па драўляным насціле, патрабуючы кахання.

– Раней і пазногці былі карацейшыя, ды і людзі дабрэйшыя, – уздыхнуў Сава. Занепакоенасць, якую можна параўнаць хіба што са свербам у заднім праходзе, прарастала ў ім пякучым пустазеллем. Віной таму стаў крыўдны папрок жонкі.

– Быць такога не можа! – ізноў зашаптаў ашаломлены Сава.

– Куды цябе панесла? – прашыпела Верка. – Не чужыя нам людзі спаць леглі, а ты тупацець надумаў, як сто бегемотаў.

– Сушняк замучыў. Сербану вадзіцы і адразу назад.

Падыйшоўшы да вакна братавай спальні, Сава паскудна завыў:

– Кан-драт-ка!

– Слухаю, брат аднаяйцавы!

– Выйдзі, важняк да цябе ёсць.

– Ну, давай, бухці свой важняк! – і Кандрат высунуўся ў акно.

– Пакуль мы з табой "У Джардзеда" бічавалі, твая Галя маю Верку моцна здзівіла. У выніку чаго здзіўленая Вера абазвала мяне бездапаможным сімулянтам.

– Ты навошта з-за такой драбязы мяне з ложка падняў?! Ну, прышчымілі бабе дзесьці хвост. Ну, ляпнула яна дурасць без задняй думкі. А ты гонар свой прыхавай. Павініся, хоць і віны за табой ніякай няма. Любяць бабы, калі мужык кладзе ім на грудзі сваю павінную галаву, быццам на плаху.

– Кандратка, родненькі! Гэта ты дзівачыш! І справа не ўва мне, а ў табе.

– Не ра-а-зумею!

– Галя пахвалілася, што маеш яе за ноч дзесяць разоў запар. Трошкі пакімарыш і дзясятачку паўтараеш. "А ты, – упікнула мяне Верка, – як сэкс-мапед: два такта і ўпырск. Пасля цябе саму сябе даводзіць да кандыцыі трэба".

– Лухта гэта, Савелій. Бабы ад прыроды дурніцы. Хоць, можа, і не ўсе. Дэпутаткі, думаю, разумныя. А вось мая – выключны выпадак. Калі ў пасцелі кахаемся, яна маё туды-сюды за два разы лічыць.

# Цень самурая

"...І быў патоп. І ўзяў Ной кожнай хары па пары. Двух дзіназаўрыкаў таксама ўзяў, але абодва аказаліся хлопчыкамі, таму і вымерлі. Хоць вельмі стараліся".

Дачытаўшы сачыненне, я адклаў сшытак. Ад падобнай пісаніны ратавала толькі шклянка гарэлкі. Настаўніцтва – цяжкая доля.

А за вакном насуперак усяму мінаў цёплы красавік, які прынёс вясновую сумятню ў жыццёвую мітусню. Толькі мая штодзённасць заставалася няўтульнай і нагадвала аўтобус у гадзіну пік. Яшчэ больш чым бязглуздыя вучні, дапякаў Коля Елісапетаў, аматар бадзяцца па гасцях. Бачыць яго было адно задавальненне, не бачыць – задавальненне куды большае. З такім моцным азадкам і такой мордай толькі з плакатам "Гані чужых" у падваротні стаяць, скрывіўшы нахабную міну.

– Трам-тара-рам, здыхляк няшчасны! – пераступіўшы парог, прывітаўся Коля ва ўласцівым яму стылі. – Надзень акуляры і расчухай, хто прыйшоў развеяць гібенне педагога.

Коліна развеялка была нязменнай, як узыход сонца: выпіў, пабалакаў, пакумекаў, пакурыў і ціха пагрузіўся ў думу аб вечнасці.

– Адкажы-ка для пачатку, – балюча ткнуў ён пальцам у мае грудзі, – што добрага было, пакуль мяне не было?

– Усё было добра, пакуль цябе не было.

– Не аб тым кажаш, настаўнік! Зірні сюды! – і сусед патрос газетай. – Радасныя весткі з палёў! Падчас бітвы за ўраджай, ураджай цалкам акружаны і знішчаны.

– Які ўраджай, Коля?! Красавік на двары! Газета ў цябе за жнівень мінулага года.

– Перамогі мяне натхняюць, не бяда, што старыя, – склаўшы газету, ён падсеў да стала, – хадзіў чарвякоў капаць. Стварэнні слізкія і плюгавыя. У любую шчылінку праціснуцца. Вось з каго табе прыклад браць трэба, а не ў школе дурня клеіць.

– Прыпадабняцца чарвяку ніколі не буду. Ёсць у мяне адмысловы, табе не зразумелы гонар настаўніка.

– Бач ты, ганарлівы! – успыхнуў Мікалай, прадчуваючы сутычку меркаванняў. – Чарвяк – стварэнне Божае, як я, як ты, і крыўдзіць яго ніхто не мае права.

– Але ж ты чарвячка ў мамкі з таткай адабраў і карасям-аглаедам скарміць надумаў!

– Усявышняе прызначэнне не нам з табой змяняць. Чарвяк дадзены ў радасць карасю, а карась цешыць рыбака. У гэтай, здаецца, прастаце схавана вялікая задума ўсёй светабудовы.

Задаволены сабой, Елісапетаў гультаявата памяшаў лыжкай у рондалі з баршчом, калупнуў катлету на патэльні і прыняўся вылаўліваць слівы з кампота.

– Сам я пры ўсёй сваёй прастаце далёка не просты. Быў час – вагоны разгружаў, пакуль не павязалі. Мне слядак на допыце разумную рэч сказаў: “Слова – не верабей, слова – бамбардзіроўшчык, які нясе зарад афуеннай сілы”. І сапраўды, выляціць слова – і пайшоў чалавек па этапе, а прытрымаў язык – аднаму за ўсю кодлу

адказваць прыйдзецца.

– Балбатаць табе, Калюня, забараніць не магу. Але патрабаваць, каб ты костачкі ад сліў акуратна сплёвываў, абавязаны. Падмятаць падлогу за кожным гаваруном вялікай ахвоты не маю.

– Папракнуць ты мастак. А каб сябра пачаставаць – розуму бракуе. На стале акрамя гарэлкі вачам зачапіцца няма за што.

– А боршч?! – пакрыўдзіўся я. – Смачны наварысты боршч?! Ты кінь выкабелівацца, сам з пустымі рукамі прыйшоў.

– Боршч! Боршч! Вось мая жонка боршч варыць, дык гэта боршч! Мы з яго вадзіцу пасёрбаем, гушчу вадой развядзем і яшчэ тыдзень уплятаем.

– Затое мая Нюрка купіць трусы і месяц носіць. Навыварат вывярне, яшчэ месяц не здымае. Потым сярэдзінку выража, і мне майка гатовая.

– Трусамі ты мяне забіў. Згодзен, твая жонка эканомней, – дастаючы капустную стружку з зубоў, прызнаў Мікалай, – і баршчэц у яе атрымаўся. Наварысты! Здаецца мне, гэты шэдэўр кулінарыі мае сур'ёзную прычыну. Чуеш, як маё чэрава зарохкала?! Гэта яно сігнал пасылае, каб я важнае не ўпусціў, шамкаючы твой боршч.

Павэцгаўшы відэльцам у рондалі, Елісапетаў яхідна заўсміхаўся.

– Што ж ты, гад, костку зажміндзіў?! А яшчэ сябрам называешся.

У мяне аж морда перакасілася ад Колінага нахабства. Ён вылавіў у баршчы найлепшую костку! Мазгавую! Я так люблю смакаваць буронкіныя дэлікатэсы. А надакучлівы праныра ўчуў смачніну. Справа нават не ў Елісапетаўскім чэраве, а хутчэй у яго носе – хвацкім, буйным, мясістым, як той руль. Не раз я лавіў сябе

на думцы, што Мікалай з “рулём” нідзе не прападзе. Нармальны госць перакуліць пару-тройку кілішкаў, прыкусіць, чым бог пашле, скажа абавязковы спіч і, атрымаўшы на дэсерт гаспадарскі пацалунак, адправіцца на ўсе чатыры бакі. А калі раптам прытоміцца ад ежы, то, калі ласка, тахта для лежні пузам уверх. Аднак Елісапетаў быў чалавекам іншай пароды. У прадчуванні дармовага задавальнення ён ужо захлёбваўся слінай.

– Аб колерах і густах спрачацца пуста, – прымяраючыся да аскепка сцегнавой косткі, вымавіў ён. – Адзін любіць яечню, іншы сваячку сардэчна. А калі ўсё падмецена і выпіта, надыходзіцьсладастрасны момант здабывання мозгу, у каго няма мазгоў.

Сапучы, Мікалай прыняўся шмальцаваць костку, смачна абсмоктваючы яе мясістымі вуснамі. На маіх вачах касцяная плоць шліфавалася да паліраванага бляску. Елісапетаў адным вокам ужо зазіраў у сярэдзіну косткі, адшукваючы запаветны мазгавічок.

– Самы цымус застаўся! – прастагнаў я, пускаючы сліну. І раптам сцяміў: мой рот разявіўся, як у ідыёта. Зрабіўшы раўнадушны выгляд, цынічна заяўляю: – З табой, Калюня, трэба быць напагатове, а то абед прашчоўкаеш галоднай дзюбай.

– Усё карысна, што ў роце павісла! – як мае быць разышоўся Мікалай. – Я так проста не адстану, пакуль мозг не выцягну. У ім фосфар. Ежа для розуму. Вітамін. А лісліўцаў не цярплю, папрашаек ненавіджу.

Гэта было неверагоднае нахабства. Костку Нюрка палову дня на рынку шукала, каб аддзячыць за шалёную ноч кахання.

– Нязгодлівая трапілася! – не суцішаўся Колька. – З норавам. Такую з наскоку не возьмеш,

да такой падыход адмысловы патрэбен.

– Каб ты ад гаршка адбягаў не далей метра, і так паўгода з дня ў дзень, – помсцячы за костку, пажадаў я Елісапетаву.

Між тым прайдзісвет, зыркаючы жудаснымі ненасытнымі вачамі, запэўніў:

– Нішто мяне не спыніць. З'ем красуню ўпартую, бо яна таго вартая!

Прымяраючыся, Калюня цюкнуў косткай аб бок талеркі і адным ударам раскалашмаціў сілезскі фарфор. Пранырлівы аскепак шрапнэллю прасвістаў каля маёй скроні. Мікалая ахапіў сапраўдны азарт і ён палез у костку нажом.

– Не саступлю! Раскалупаю чарцяку.

Нож са звонам пераламаўся, а яго кавалак адскочыў і шаснуў мяне па вуху. Тады Коля паклаў костку на падлогу і лупануў па ёй важкім малатком. Малаток разваліўся, костка выслізнула і гвазданула мне па назе. Ад болю я закаціў вочы і сціснуў зубы. Затое Елісапетаў іскрыўся ваяўнічасцю. Яго рукі прагнулі бою. Аблізаўшы засмяглыя вусны і схапіўшы костку, ён з лютасцю зашаптаў:

– Хай плачуць тыя, каму ты не дасталася. Хай здохнуць тыя, хто костку не хацеў... Вытрыбушу падлу!

І з усёй сілы ўдарыў косткай па сцяне, нібыта мячом па лютым варвару. Сцяна павалілася, злёгку прыціснуўшы мяне. Раскідаўшы абломкі, Коля пацягнуў маё беднае цела ў праём, які неўзабаве ўтварыўся. Я зразумеў: "гурман" будзе біцца з косткай на смерць.

Праз агарод мы пайшлі ноздра ў наздру, як коні на іпадроме. Ператапталі градкі, зламалі штакетнік са штампаванага жалеза і вышлі да чыгуначнага пераезду. Мікалай падняў руку.

– Я не чыгуначнік, і святочна-паласаты шлагбаўм не бударажыць маю кроў. Затое маневровы цеплавоз прыдатны, каб распляскаць упартую костку.

– Гэй вы, партызаны! – З акенца цеплавоза тырчаў раз'юшаны машыніст. – Вам што, жыць надакучыла?! Вымятайцеся разам з косткай, пакуль я вам, ідыёты, шыі не намыліў.

– Ё-маё! Як жа быць?! – застагнаў Елісапетаў, пырскаючы слінай. Вочы чалавека, які страціў розум, утаропіліся ў мяне, а рот ашчэрыўся дзікай усмешкай. – Банзай! – прароў Мікалай ваяўнічы покліч самураяў і бязлітасна ляснуў мяне косткай па ілбе. Касцяны мозг выскачыў і ўзляцеў на метр. Злаўчыўшыся, я злавіў прынадны кавалак і адправіў сабе ў рот. Гаворачы простай мовай, я зарэзаў сябра без нажа. Калюня панік, быццам усе вакол памерлі і яму наканавана беспрасветная адзінота. Сляза крыўды пакацілася па Колінай няголенай шчацэ.

– Будзь мужным, Коля! – падтрымаў я сябра, забыўшыся на боль. – Свет наш суровы і бязлітасны. Выжыве той, у каго ілбешнік зроблены на славу.



# Белыя плямы, або Таямніцы генетыкі

Мне пашчасціла жыць сярод добрых і спагадлівых людзей. Дзякуючы ім галава мая распухла ад грымакоў. Затое ўсё навокал здавалася ясным і зразумелым. Дворнік, дзядзька Федзя, непрымірымы барацьбіт са смеццем, – гэта шрубка ў стройнай сістэме нашай бытнасці. Вельмі патрэбная шрубка, хоць і прымітыўная. Грузчык прадмага, дзядзька Кузя, на болцік цягне. Кіроўца тралейбуса, цётка Ксюша, – сапраўдны цвічок, хоць скрыні ёю збівай. А ўсе яны разам – дружная сям'я пафігістаў і даўбакоў.

Але калі падаспела часіна самому кухталі развешваць, хутка сцяміў: якія там шрубкі, болцікі, цвічкі – усё значна складаней. Свет, як высветлілася, начынены парадоксамі, нібы

фугас порахам. І ўдумліва разабрацца ў хітраспляценнях бурапеннага часу, як ні прымярайся, аднаго жыцця замала будзе.

Той, хто стварыў свет, аказаўся на дзіва дасціпным. І калі Ён гэты свет вылепліваў, то напладзіў сабе на пацеху мноства таямніц і загадак. Так, напрыклад, не дадзена нам разгадаць, чаму кітаянкі ў Амерыцы прыгажэйшыя, чым у Кітаі. Раскрышыць чалавек мазгі, даследуючы падобныя сітуацыі, і бездапаможна ўздыхне: “Пляма белая! Парадокс прыроды!” А супраць прыроды не папрэш. Яна ў такі рагалік скруціць – ні ўдыхнеш, ні выдыхнеш.

Швагер мой, Сцяпан, таксама нажыў адну закавырку. Мужык ён не надта пісьменны, у навуках ні бум-бум, але сына зрабіў, як кажуць, копію чыстай вады. Кроў у мужыка моцная аказалася, раз у хлапца да трэцяга года на дупцы бацькава татуіроўка прарэзалася, рысачка ў рысачку.

На левым сцягне малога красуецца кент, што прозвішча на мянушку прамяняў, скамячыўшы ў руцэ кепку, пальцам шлях пастве з браневіка паказвае. Народ, які слепа верыць павадыру, спявае песню: “…иного нет у нас пути…”, і ў расколіну між ягадзіцамі саслізгвае. А на правым сцягне – хаўруснік першага прайдзісвета чакае тых, хто здолеў з той расколіны выбрацца. Хітра ў вусы ўсміхаецца, люлькай пыхкае. І хто яго ведае, ці ў той расколіне застацца, каб жыць у цяпле, хоць і смуродным, ці забавіцца з лёсам і аддацца вусачу, маўляў, горш не будзе. Моцны, як я мяркую, майстар тату аказаўся, бо здолеў неверагодную прозу жыцця на патрэбнае месца прысабачыць.

На швагры жывапіс файна ў лазні глядзіцца, калі ён з ражкай у руках сярод намыленных му-

жыкоў топчацца. Швагравы сцёгны калыхаюцца, а тыя, хто на іх наколаты, варушацца. Адным словам, кіно. Шкада, што нямое. А вось хлапчука з размаляванай срачкай у лазню вадзіць саромеюцца.

– Дурылы! – кажу няцямлівым бацькам. – Навошта парадокс хаваеце?! Выстаўце хлапца на агляд, і грошы немалыя ад цікаўнага народа да вас пацякуць. Атрымлівайце асалоду ад славы, бо яна – адно імгненне паміж невядомасцю і забыццём.

Пакуль са справай швагра разбіраўся, у самога пляма белая ў сям'і з'явілася – дай, Божа, цярпення да ісціны дакапацца.

Нарадзіўся ў маёй жонкі, як і ў любой іншай нармальнай жанчыны, дзіцёнак. Усё як мае быць атрымалася, акурат у тэрмін з'явіўся. Ніхто скоса не паглядзіць, што пераспелы або, горш за тое, недаспелы. Як бабка-павітуха наваражыла, гэтак ладна ды складна ўсё і выйшла. Малы – вылітая мая копія. У гэтым мяне сваякі жонкі другі месяц пераконваюць. Не вытрымаў іх напору і пагадзіўся. Цешуся, што не толькі ў швагра кроў моцная, але і мая маху не дасць. А на шостым месяцы зубы залатыя ў хлапца прарэзаліся. Адзін у адзін як у мяне. І вось тут, замест густога адчування цуду, прыйшло вострае, шыпучае здзіўленне. Цыгарэта, і тая, палітусіўшыся ў роце, замерла, прыняўшы стойку, як бобік. Быў бы жэўжык нагамі на мяне падобны, прыняў бы гэты факт як належнае. Ногі ў мяне прыгожыя, асабліва калі на іх штаны. Але зубы?! Разумею, я і швагер выйшлі не з аднаго інкубатара і магчымасці ў нас розныя. Праўда, калі нешта неверагоднае адбываецца ў чужой сям'і, мяне гэта моцна не турбуе. Павохкаю для прыстойнасці,

ахну пару разоў і канец. Ёсць каму і без мяне мучыцца ў здагадках. Але ж з гэтымі зубамі зусім іншая гісторыя: тут таямніца каля мяне заціхарылася, і дакапацца да яе сутнасці – справа гонару, а то і важней. Бяру хлапца і валакуся ў Інстытут генетыкі і біялогіі. Там сюрпрызам прыроды накшталт: чаму ты падобны на свайго бацьку, калі падобны, і чаму не падобны на яго, калі так атрымалася, даюць навуковае тлумачэнне.

Інстытут сустрэў подыхам гарачай заклапочанасці, нібы вулкан, які толькі што прачнуўся. Людзі ў белых халатах з адбіткам мудрасці на тварах сноўдалі па калідорах, і нікому не было справы да мяне з дзіцёнкам. Прыйшлося ўлезці на падваконнік, узяць малога на рукі і загарлапаніць немым голасам:

– Людзі! Дапамажыце, халера каб вас пабрала!

Хапаю за чупрыну першага, хто трапіў пад руку, і цягну да сабе.

– Вам чаго, бацька? – завыў доктар, зморгваючы слёзы болю з вачэй.

– Бачу, лекар ты талковы. Акуляры, бародка, скальпель з кішэні халата тырчыць. Веру, маё дзіва цябе не спужае, – кажу і паказваю ашчэр залатых зубоў у свайго хлапца.

– Цешцеся, бацька! Вам залатое шчасце ў хату прываліла, – нядоўга думаючы, выпаліў эскулап. – Сачыце не міргаючы за маімі рукамі: цісну вашаму хлопчыку на пупок, за адростак тузаю – не зліваюцца зубы, мёртва стаяць! Пратэзіст вам сумленна залатыя зубы ўставіў, а яны, прыжыўшыся, далі ўсходы ў гэтым цудоўным выпладку. Калізіі генетыкі звыкламу разуменню не паддаюцца. Гэта я вам аўтарытэтна заяўляю як шнобелеўскі лаўрэат. Выбачыце, бацька, спяшаюся.

– Пастой, не ўцякай. Давай радасць маю

астаграмім. Добрая навіна таго варта.

– Іншым разам. Спяшаюся, слова гонару. Рэктар даў каманду скрыжаваць слана са сланом. Эксперымент так сабе, але паўзірацца ахвота.

Пачуццё небывалай радасці агарнула мяне. Акрылены, выдаю феерычны танец у два прытопы тры прыхлопы. Кроў сваю магутную ўсхваляючы, думаць нават баюся, чаго яна яшчэ ў экстазе вытварыць можа.

А ранкам белыя плямы неразумення ізноў зарабацілі перад вачамі. Успомніў, што залатыя зубы сабе ўставіў, калі сыну тры месяцы было.

# Дробязь

Падаспелі восеньскія дзянькі з дажджамі, саплямі, вятрыскам, што працінае наскрозь. Нялёгкая паравіна году, але працу ў краіне не адмянілі. Для Івана Пашына гэта было вялікай несправядлівасцю. Учорашняя вечарынка, якая праходзілая пад дэвізам “Геніталіі ўсіх краін, яднайцеся!”, дорага абыйшлася яму. Ад выгляду жаночых целаў і хлуслівых вачэй Івану рабілася млосна, а нехламяжнае адчуванне непрыкаянасці раздзірала, нібы гіена рэшткі львінай здабычы.

Раніцай апухлыя павекі не падымаліся, і Пашын навобмацак нацягнуў шкарпэткі, потым трусы. Трусы адзеліся навыварат. Лянота, скаваўшы Ваньку кайданамі, яхідна шапнула:

“Трусы, Ванятка, дробязь! Як адзеліся, так і насі, бо ўсё адно вечарам здымаць”. У Вані за ноч страха з’ехала ад кахання, і ён пагадзіўся, моўчкі матнуўшы галавой. Ды і як не пагадзіцца, калі трусы за штанамі, як за танкавай бранёй.

У панядзелак чакалася дзяльба прэміі, і ў офісе лунаў дух неспакою. Хітрасплеценыя чуткі нагняталі трывогу.

– Калі кінуць паўсотні на рыла, – гарачыўся Файдулаеў, смалячы цыгарэту за цыгарэтай, – гэта будзе не пернік, а надкусаны сухар.

Кіраўніцтва Пашын ніколі не турбаваў. Вільне хвастом дзе трэба – і патрэба варушыць мазгамі надоўга адпадае. Проста сядзі ў сваім закутку і спакойна пасмоктвай прылепленую да вуснаў

гультаявата тлеючую “Данхілку”.

– Што да грошай, дык я чалавек прымхлівы, – неяк прызнаўся Ванька. – Стукаю пяцьдзясят разоў па дрэве, і касір стукае мне ў адказ паўнаважкім рублём.

Калі пад рукой не было сапраўднага дрэва, Ваня стукаў па сваёй галаве, і грошы, як зачараваныя, ішлі на знаёмы гук.

– Лішніх грошай не бывае! – казаў Пашын, засоўваючы новы рублік у кішэню, адначасна праклінаючы прыліў патрыятызму, які не дазволіў сперці цыстэрну з нафтай. Адшукалася тая на глухой тупіковай ветцы, куды Іван зайшоў, збіраючы ў ельніку маслякі. Сумленна настукаў пра знаходку дзяжурнаму па вузлу і атрымаў бейсбольнай бітай ніжэй паясніцы.

Але сёння Пашыну было так моташна, што кожны рух аддаваўся глухім болем у грудзіне. Нават пацюкаць пазногцем аб край стала не было сіл.

– Дробязь! – супакоіў сябе неапахмелены пакутнік. – Неяк абыйдзецца. Міма прэміяльнага спісу і сляпы не праскочыць.

Тасаваў прэмію галоўны зануда фірмы начфін Мярзлушкін Б. Б. У гэтую раніцу яму было ўсё роўна, каму і колькі адмусоліць грашовых знакаў. Учора ён вельмі доўга выправаджваў цесця, які вырашыў пагасцяваць. У старога быў д’ябальскі феномен: гарэлка яго не скапычвала. Для такога дзе гарэлка, там і Радзіма. А здрадзіць Радзіме не дазваляла сумленне, якое бетонам стаяла на мяжы. Той, хто хоць раз пабыў у марскіх круізах, памятае гэтае дзіўнае адчуванне, калі ты ўжо на беразе, а зямля пад нагамі калышацца. Так і з цесцем: чым даўжэй з ім расстанне, тым складаней рабілася для Мярзлушкіна

вяртанне да будняў. Гэты жорсткі факт спарадзіў дакучлівую ідэю хоць на кім адыграцца за цесця.

– Дасталі быдлякі! – накручваў сябе начфін. – Ледзь не загінуў у бітве з адзіным фронтам гарэлкі і цесця, а тут усякай бесталкоўшчыне прэмію падавай у эмаліраваным тазіку. І нікога не цікавіць, што спачатку трэба адшпіліць бандытам, мянтам і чынушам.

Прыкрасць калючкай засела ў грудзях Мярзлушкіна і агідна ікнулася аглаблёвай.

– Уздручу першага, хто патрапіцца! – завыў ён. – А ненаўмысная ўздручка законам не караецца.

Перагаварыўшы паціху з сумленнем і вымаліўшы спісанне ранейшых грашкоў, начфін адчуў радаснае палягчэнне. Зажмурыўшыся, Б. Б. тлуста чыркануў ручкай у прэміяльным спісе.

Не пашанцавала прозвішчу Пашын.

– Так і трэба балбесу. Карысці ад яго, як ад попельніцы на матацыкле.

Мярзлушкін так разышоўся, што ўжо не мог спыніцца, таму заадно падрыхтаваў загад: “Звольніць Пашына! Паколькі ён дурней за дурнога”.

Загад з грыфам “Пасля выканання спаліць” пайшоў да вялікага боса на подпіс. Злосць сама сабой здулася, і Мярзлушкіну стала шкада Пашына. Але крэмзаць новы загад, які адмяняе папярэдні, не дазваляла паганая пунктуальнасць.

– Дробязь! – вырашыў ён. – Выкруціцца.

Увайшла Ніначка, і думаць пра Пашына ўжо не было сэнсу. Ніначка, 25-гадовая тарнада ў спадніцы, валодала надзвычайнай здольнасцю пад час таемных спатканняў салодка шаптаць у самае вушка:

– Мярзлушкін! Ужо раніца! Зашпілі за сабой бюстгальтар.

Мярзлушкін, перш чым пачаць корпацца з кручкамі, шчасліва ўздыхаў і браў Ніначку за ду…, карацей за дужа прывабнае, голае, распусна-зіхатлівае. Гэтак было і ў тую памятную ноч, калі шаптушка ў чарговы раз яго пераканала: мужчынскае шчасце заўсёды ўнутры жаночага. Вось і цяпер пацягнула Мярзлушкіна ў Ніначкіны абдымкі, як джэнтльмена ў пятлю гальштука. Але на Б. Б. цяжкімі аковамі вісеў даклад шэфу аб прыбытках і стратах.

– Выбачай, сонца маё, заўтра справаздача на сходзе акцыянераў. Будуць разбіраць, чыя ебітда самая крутая.

– Вы што там, без штаноў ходзіце?

– Дарагая, ебітда – гэта не тое, што ты падумала. Гэта прыбытак да падаткаабкладання.

Ніначка расчаравана ўздыхнула, але жаданне паставіць на Мярзлушкіна капкан не знікла:

– Можа, знойдзем трошкі часу на адну дробязь? Я падстрыгла тваё любімае месца і страшэнна хачу пахваліцца.

Толькі ідыёт мог застацца абыякавым, пачуўшы такія словы.

Ваня Пашын, атрымаўшы замест прэміі кампенсацыю з трох пальцаў з абходнікам у дадатак, стаў падобным да пэтэвэшніцы, якая неўзабаве даведалася, што цяжарная.

– Брудныя інтрыгі! – абураўся ён. – Мяне пазбавілі ўсяго, нават уласнай кабінкі ў прыбіральні.

Несправядлівасць пагнала яго па вуліцы невядома куды. Мазгі "часаліся" скласці Мярзлушкіну ядавіты ліст: "Добры вечар Б. Б.! – пачатак быў бы прыстойным. – Хацеў папрасіць у Вас жменю нікчэмнага металу для аплаты сваіх даўгоў. Але ўспомніў, няма ў мяне даўгоў, як няма

хаты, машыны, жонкі, палюбоўніцы, сяброў. Няма нікога і нічога, акрамя гэтага, з варанёнай сталі "Бульдога" 45-га калібра. Нішто так не ажыўляе навіны, як заказныя забойствы. Я цябе замовіў. Адмусольвай бабкі, нуварыш, калі хочаш сябе выратаваць. Ха-ха-ха!"

Бесталковая бравада забіла ў Пашыне асцярожнасць, і ён рвануўся праз дарогу на чырвонае святло святлафора, спадзеючыся, што паспее дабегчы. Але такі ж ашалелы пешаход, які бег насустрач, збіў Ваню пад колы не зразумела чаго серабрыстага колеру. Брыгада хуткай дапамогі даставіла хапатліўца ў бальніцу.

У прыёмным пакоі праціраў порткі ў меру ахайны і крыху смаркаты хлапчук-практыкант. Дзяжурны хірург, зачыніўшыся ў працэдурнай, апантана пальпаваў стажорку медінстытута, прыгажуню Жо-Жо. Да чаго ні дакраніся, усяго ў дзеўкі было ў дастатку. А глыбіня і шырыня зусім здаваліся бяздоннымі. Стажорка трапілася гаманкая: камасутрыла глупства, лухту, дурасць і іншую несусветную бязглуздасць, аднымі нагамі давёўшы хірурга да стану героя, які ўзняў сцяг на вяршыні сопкі, адбітай у ворага.

– Твае вусны чырванейшыя за памідор, – шаптаў док, – ярчэйшыя за сліву!

Падахвочваючы сябе, ён напружыўся і адчуў, як сыходзяць у дзявулю апошнія сілы.

– Ух, Анатолевіч, ну с-сука ты. Ну, з табой добра! Ну, ты ка-бель сапраўдны! – млела ад шчасця Жо-Жо.

Анестэзіёлаг праз шчылінку назіраў за любоўным працэсам, спадзеючыся, што і яму вось-вось абломіцца кавалачак незалапанага юнага цела. Але дарма спадзяваўся. Стажорка пазбягала летуценніка, як і ўсіх іншых мужчын, не

здольных вымовіць з першага разу слова “менструацыя”. Затое практыкант, адчуўшы раптам сваю значнасць, вырашыў дзейнічаць самастойна ў імя выратавання чалавецтва.

– А-а-а, дзе наша не прападала! – адчайна махнуў ён рукой. – Што тут складанага? Дробязь! – і, узбадзёрыўшы сябе шклянкай спірту з дзесяцю кроплямі глюкозы, надзеў вельмі цёмныя акуляры, каб схаваць пах перагару. – Каціце тапельца да стала, я над ім пачарую.

– Гэта ахвяра наезду, – падказала медсястра.

– Тым больш! Дайце ж мне, нарэшце, гэту… як яе… халера… ускрывалку. Хачу паглядзець на ўнутраны свет гэтага чалавека.

– Вы яго хоць у прытомнасць прывядзіце для пачатку, – занепакоілася санітарка, – у мяне нашатыр пад рукой ёсць.

– Сяргееўна, прашу вас, не лезьце ў доктарскія справы з пустымі парадамі. Лепш наліце мне шклянку спірту. І не забудзьцеся дадаць дзесяць кропель глюкозы.

Між тым перадазіроўка глюкозы дала пра сябе знаць. На практыканта груба наехаў розум.

– Я ведаю больш радыкальны спосаб, чым нашатыр. Трэба прышчаміць пацыенту яйкі двума гарачымі прасамі.

– Пасля такой экзекуцыі ён наўрад ці захоча жыць, – буркнуў адзін з санітараў.

– Ну, па-першае, пацярпелы не патрабуе ў нас ніякіх гарантый, а па-другое, не будзем загадваць.

– Аб чым спрачаемся? – у палату ўвайшоў хірург і, заўважыўшы нерухомага Пашына, які ляжаў на каталцы, усклікнуў, – О-о-о! “Душку” прывезлі. Даўно?

– Ды не вельмі, – адгукнулася медсястра і сунула Пашыну пад нос флакончык з нашатырам.

Пашын тузануўся і часта-часта залыпаў вачамі.

– Дзе я?

– Дзякуй богу, не на небе! – пацешылася за хлопца Сяргееўна. – Малайчына, што туды не спяшаешся. На грэшнай зямлі жыць звыклей.

– У мяне боль нейкі ў спіне, – паскардзіўся Пашын.

Доктар запусціў яму за спіну палец-сасіску і нешта там пакруціў.

– А цяпер?

Боль знік.

– Вы, доктар, проста чараўнік. Дзякуй вам. А што там было?

– Ды так, дробязь. Шлейкі перакруціліся.

– Шкада, стэп не б'ю, а то збацаў бы з радасці за цудадзейнае выратаванне, – ажывіўся Пашын.

– Ты, хлопец, у кашулі нарадзіўся, – паляпаў хірург Ваню па плячы, – без адзінай драпіны з пад колаў выцягнулі. У нас ніхто нічога табе не адсёк, хоць рукі парой моцна чэшуцца. Імяніннік ты! Можна сказаць, нанова нарадзіўся. Мы ў сувязі з гэтым паднясём табе ў падарунак антышокавы сродак. Вось тут на кушэтачцы і пажаніхаеш нашу Жо-Жо.

– Андрэіч, імяніннікаў цягнуць за вушы, а жаніха за што пацягнем? – спытаў санітар з блінападобнымі далонямі.

– Гэта не тваіх рук справа. Атрымаць сапраўднае задавальненне можна толькі ад рук Жо-Жо.

Ап'янеўшая ад камплімента, Жо-Жо эратычна пагладзіла свой азадак і стала пажадліва выгінацца.

Усе медпрацаўнікі, пляскаючы ў ладкі, сталі дружна падпяваць:

– Маць, тара-рам, перамаць! Маць, тара-рам, перамаць!

Складваліся чароўныя абставаіны.

– Ёсць міс сусвету, а наша Жо-Жо – трэцяя сусветная! – у адзін голас усклікнула медычная брацiя.

– Я не Жо-Жо. Я Жазэфіна, – адмахнулася разамлелая прыгажуня.

– Ты Жазэфіна, але з вялікімі жо…жорнамі, – аблізнуўся анестэзіёлаг.

Танцорка, свідруючы Пашына палымяным поглядам, млява спытала:

– Ты адкуль будзеш?

– Я? З Разані.

– Дзівак! Ты мяне будзеш, спераду ці ззаду?

– Давай, хлопец, варушыся. Сумна з табой, а яшчэ імяніннік, – ухмыльнуўся хірург. – Будзь адважней.

– Музыка не тая, – знайшоўся Пашын.

– Я магу рэпам, калі ён хоча, – прапанаваў санітар Федзя. – Ффууу-ффуу, – падзьмуў ён у банан, быццам у мікрафон. – Рэп. Пра дзядулю. Не-як вы-ра-шыў да ўну-каў у са-док пай-сці. Ды не мог я доў-га ўну-каў у сад-ку знай-сці. Зазір-нуў та-ды пад лаў-ку. Што я ба-чу там? Ку-ча дзе-так вы-ха-вал-ку пам-па-ры-ру-рам.

Доктар праявіў кемлівасць і да вялікага расчаравання ўсіх прысутных патушыў святло ў палаце. Вялікія малочныя залозы Жазэфіны схаваліся ў цемры.

– А вось рукі распускаць не трэба, – нечакана заявіў Пашын. – Калі б я быў трактарыстам, абавязкова пакатаў бы цябе, Жо-Жо, на трактары. Святло запаліце, мне цемра на галаву ціснe.

– Як хочаш. Воля пацыента – закон для персанала, – і санітар пстрыкнуў выключальнікам.

– Вы мне лепш плюшку дайце. Есці хачу. – Пашын знарок гучна праглынуў сліну. – Бачу, добрыя плюшкі ў вас. Хатні самапёк.

– Пара, мілы чалавек, цябе выпісваць. А то ўсе нашы плюшкі з'ясі, – занепакоілася Сяргееўна. – А змена толькі пачалася. Дзе твой дом, памятаеш?

– Надвор'е за акном добрае, – думаючы аб нечым сваім, уздыхнуў Пашын. – Навеяла яно думкі пра хатку ў вёсцы. Вёсачка не ахці якая, з гадамі апусцела, усе адтуль з'ехалі, заадно і правады паціху знялі. Але перш-наперш трусы перапрану. Цэлы дзень навыварат нашу. Думаў – дробязь і пралічыўся. Усе мае ліхтугі пачаліся з апранутых навыварат трусоў.

– Толькі шчаслівыя трусоў не надзяваюць! – уздыхнуў анестэзіёлаг, употай пакасіўшыся на прыгажуню Жо-Жо.

У двары завыла сірэна хуткай дапамогі.

– А мы жывем, як бачыш, не змяншаючы тэмпу, – пацёр рукі хірург. – Не паспееш аднаго хворага на ногі паставіць, як ужо іншага вязуць.

# Французскае слова

Нью-Ёрк, Лас-Вегас, Каліфорнія ды іншыя рассаднікі вальнадумства да гэтай жудаснай гісторыі ніякага дачынення не маюць. Уся віна за тое, што здарылася, кладзецца толькі на вясну.

Вясна – пара неўтаймаванага абуджэння прыроды, планавых міграцый птушынага брацтва і невытлумачальных выпендронаў рамантычных вар'ятаў. Ледзьве канчаецца зіма, як пачынаеш даволі востра адчуваць: свет поўны ідыётаў.

Сказаць, што маркетолаг Бесшабашкін скончаны ідыёт, – дык язык не паварочваецца пакрыўдзіць чалавека. Таму кажу ўхіліста: Бесшабашкін – хлопец прасцяцкі, без клёпкі ў галаве. Заўсёды іскрыцца пырскамі весялосці, робіць смешныя міны, крыўляецца. Іншых адрозненняў, прыдатных для апазнання, нажыць не здолеў. Такому проста за шчасце быць злачынцам. У натоўпе не адшукаюць, фотаробат не злепяць.

Трэці чацвер сакавіка выдаўся занадта панурым і дажджлівым. У такі дзень не чакаеш усплёску чалавечага розуму, прытопленага каламутнай паводкай справаздач і зводак. Вось чаму выхадка Бесшабашкіна заспела нас знянацку.

– Лайдакі! – загарлапаніў ён і звонка ляснуў далонню па стале. – За шырокай спінай адседзецца вырашылі? Гэта, выбачайце за французскае слова, беспардонна.

І, пырскаючы слінай, выдушыў з сябе грознае: ааа-ххх-ррр.

Вочы Бесшабашкіна гарэлі сапраўдным сатанінскім полымем. У іх закіпала лютасць, якая ў любы момант гразілася выплюхнуцца на прыціхлых калегаў. Утыркнутая ў куток вуснаў цыгарэта і бесцырымонныя завіткі дыму не выклікалі сумневу: Бесшабашкіна ўкусіла невядомая навуцы інфекцыя. А яго "ааа-ххх-ррр!!!", падобнае да рыкашэту кулі ад бетоннай сцяны, агарнула ўсіх жахам. Людзі кінуліся хто куды, быццам прусакі, напалоханыя неўзабаве ўключаным святлом. Запанавала панурая цішыня, і маё чуйнае вуха ўлавіла, як ачуняўшая пасля спячкі тлустая муха драпала лапкамі шыбу, спакушаючы маленькую мушку.

– Усім разгільдзяям неадкладна ўстаць і густа счырванець! – яшчэ мацней зароў Бесшабашкін. – Разбазарылі міліярды, халера на вас, а зараз морды нявінныя робіце! – ізноў заскрыгатала яго жудаснае "ааа-ххх-ррр!" – Дабяруся я да вас, ох, дабяруся!

У давяршэнне пагрозы Бесшабашкін паруліўся зрабіць некалькі рэзкіх рухаў, быццам адапхнуўся палкамі на лыжні. А нязлыя, аздобіўшыя прамову, рамантычныя мацюкі з ёмістым "бля-бля-бля" доўга яшчэ звінелі ў вушах. Вірус страху, пасеяны Бесшабашкіным, даў нечаканы плён:

– Оп-па! – схапіўся двума рукамі за жывот Кухлевіч, які пачынаў дзень са жмені антыдэпрэсантаў. – Дзе мая по-па?

– Пятровіч, родны! Што з табой? – заёрзаў на крэсле Аркадзь, які носіць узбекскае прозвішча Цюбяцейкін. – На месцы твая попа! Я яе выразна бачу. А месца, дзе ты рукі скрыжаваў, у чалавека не попай называецца.

Па-анатамічнаму дакладная прамова дамскага

залётніка Цюбяцейкіна навеяла маркотныя думкі: ці той ён, за каго сябе выдае?!

– Ой! – схамянулася ціхоня Эма Львоўна. – Мне мужа карміць трэба.

– Якога мужа, – здзівіўся я, – калі ён тры гады як "бамбардзія кіргуду"! Сёрбае казённыя харчы на пранумараваным рудніку.

– Я адзін за ўсіх гарбаціцца не збіраюся! – у чарговы раз выплюхнуў Бесшабашкін поўныя гневу і жоўці словы. – Шэршэ ля дурня! Усе на двор! З венікамі я дамовіўся. Прозвішча на выхадзе называць цалкам. Ініцыялы скарочана.

"Шэршэ ля дурня" пахавала апошнюю надзею на тое, што ўсё скончыцца добра. Новае французскае слова апякло крапіўным агнём. А галоўнае, сам Бесшабашкін заставаўся непарушна сур'ёзным, без намёку на жарт. Два тэхнолага, Сеня і Сёма, далей ад граху леглі на падлогу і схаваліся за тумбай. Хіляк Філя папоўз пад стол, у надзеі перачакаць неспадзяваную буру.

– Людзі добрыя! – падняўся Георгій Іванавіч. – Вы мне прабачце, але з гэтым пярэваратнем, – тут ён кіўнуў на Бесшабашкіна, – трапіць у пераплёт прасцей, чым булкай падавіцца.

– А вас, Жорык, прашу застацца! Пракурор у курсе тваіх кучаравых справаў? – бязлітасна ўсадзіў Бесшабашкін славесны кінжал.

– Па-першае, я Жорык не для кожнага… – залепятаў Георгій Іванавіч.

– Кажы, Жорж, начыстую, дзе твой куфар зберажэнняў на чорны дзень?

– Сёе-тое ёсць, не без гэтага. І жонку збярог. Дагэтуль нявінніца, – паспрабаваў нязграбна аджартавацца Георгій Іванавіч.

– Ды не аб тым мы размаўляем, калегі! – не вытрымаў я. – Вас гісторыя нічаму не навучыла.

Успомніце кастрычнік сямнаццатага года. Нешта ў трывожнай цемры пальнула, і куча вясёлага народа здуру "Зімні" ўзяла. Як бы і ў нас часовае памутненне ў галаве асобна ўзятага маладога чалавека не прывяло да жахлівых наступстваў у адным асобна ўзятым кабінеце.

– Э, не! – заўпарціўся Георгій Іванавіч. – Хай рэжа праўду-матку аб уладзе, злодзеях і нягодніках. Патрабую, няхай раскладзе кожнае з гэтых саслоўяў па палічках.

– Ну і фантазёр ты, Георгій Іванавіч! Нікому не дадзена непадзельнае раскласці.

– Не дадзена, дык не дадзена. Затое я рады, што ў калектыве знайшоўся нефармальны лідар, здольны казаць праўду без прыўкрас. Юны, свежы. Гатовы герою пацiснуць незаплямленую нагу, прабачце, "руку" хацеў сказаць. Дарэчы, моцны поціск рукі забівае нямала мікробаў. Так і трэба паразітам!

– Георгій Іваныш-ш-ш! – сыкнуў на прамоўцу Пятровіч. – Бадабум…

– Якая баба дум?

– Гэта я крышку дум-дум і адразу зацяжарыў часовай геніяльнасцю. Рвецца вонкі, перабіраючы ножкамі, свежая ідэя.

Але дамовіць Пятровічу не даў Бесшабашкін, міралюбіва заявіўшы:

– Усім весяліцца. З тымі, хто наганяе сум, разбяруся ў першую чаргу.

– Ды пашлю яе на-а-а, – паслухмяна заспяваў Пятровіч хрыплым тэнарком, адбіваючы такт далонямі на каленах, – ды пашлю яе кы-ы-ы…

Ачмурэлыя ад мужчынскай шчырасці, усе тры жанчыны ў аддзеле тужліва зацягнулі:

– А я мілага-а-а-а пазнаю па-а-а-а…

Эканаміст Суржыкаў, які дагэтуль маўчаў,

густа счырванеў. Жвавыя вагінальныя імпульсы, што зыходзілі ад Дзявяткінай падчас спеву, збянтэжылі яго. Хоць пры дзённым святле пазнаць Суржыкава "па-а-а" яна ніяк не магла. Суржыкаў прагна кахаўся з Дзявяткінай кожную пятніцу ў цёмнай каморцы сярод каробак з-пад кампутараў.

– Прапаную Бесшабашкіна да прыезду хуткай дапамогі часова ізаляваць у шафе, – перакрэсліў я шалёную весялосць. – Назойлівыя думкі, пагроза ў голасе – гэта нядобрыя сімптомы. Мы не маем права падвяргаць сябе небяспецы. У нас сем'і, дзеці. Прамаруджанне пагражае... – і я шматзначна замоўк.

Асцярожна, разам з крэслам падымаем Бесшабашкіна і нясем у шафу. Але Соф'я Пятроўна не вытрымала і спіцай помсліва ўкалола бунтара ў бок.

– Вы што гэта, Соф'я Пятроўна, сабе дазваляеце? – абурыўся, саскочыўшы з крэсла крыкун. – Я вам не клубок воўны, каб тыкаць спіцай! І наогул к-к-куды вы мяне ця-а-а-гнуць сабраліся?

– Як куды?! – прыйшла наша чарга абурацца, – у шафу! Надакучыў ты сваімі дыктатарскімі замашкамі.

Адна Соф'я Пятроўна аказалася незлапомнай. Зрабіла Бесшабашкіну гадасць і маўчыць.

– Вы што, аслупянелі? – Бесшабашкіна затрэсла ад раптоўнага абурэння. – Я не моль, каб у шафе жыць, і не табурэтка, якую ставіш куды хочаш.

– Ой-ё-ёй! Далікаценькі ты наш, – зноў рашуча бяру ініцыятыву ў свае рукі, – ты горшы за моль і больш драўляны, чым табурэтка. Бедны Шмакаў, спалохаўшыся тваіх лямантаў, прышчаміў свой дзетанараджальны орган шах-

матнай дошкай. Добра, што не адсёк. А Трафім Гур’евіч, які драмаў, ён ледзь у вакно не сігануў, падумаўшы, што пажар. Ледзьве за шлейкі паспелі злавіць. Следам Танюшка хацела ў вакно скокнуць. Ды своечасова паспелі крыкнуць, што файныя дзяўчыны на тратуары не валяюцца.

– Прабачце мяне! – зусім як дзіця замямліў Бесшабашкін – Рэпеціраваў я. Прэм’ера сёння ў Народным Тэатры. У вобраз увайшоў.



# Себасцьян

Санітары райбальніцы Каляныч і Мітрыч пралілі сем патоў, развозячы па палатах каталкі з хворымі. Затое ў калідорах мужыкам надзьмула скразняком цэлую кучу думак. Калі выйшлі ў дворык і запалілі па цыгарэце, Каляныч прапанаваў сябру:

– Субота заўтра! Паехалі са мной на вёску.

– З табой па вёсках я больш не яздок! Ахвоту ездзіць мне Ленка адбіла.

– Чым Ленка табе не дагадзіла?! На мой зуб, дык точаная прыгажуня. Усе хлопцы па ёй ад кахання стогнуць.

– Хай хлопцы стогнуць, а я сваё адстагнаў. Гэтая маладая рахункаводка з заячым поглядам – шэльма, якую свет не бачыў.

– Ты давай без абагульненняў.

– Даю, калі просіш. Маёй дачцы хутка месяц будзе.

– Ты, без падману, дзіцё Ленцы зрабіў?

– Каляныч, сам паспрабуй бабу абдурыць. Пакуль баба сама сябе не абдурыць, усе твае стаpанні быку пад хвост. Я ж Ленку неадкладна да гінеколага павалок. А тая гадаўка калупацца не стала, толькі яхідна заявіла: “Грошы, што Леначцы за дзіця дадуць, лішнімі ў сям'і не будуць”.

– Прытупілася твая пільнасць, Мітрыч. Але не гаруй! Цешыцца павінен, што новае жыццё на Зямлі стварыў! А гінеколагам, на мой розум, мусіць быць мужык. Толькі мужык здольны гіне-

калогіць дзень за днём, месяц за месяцам, і так з году ў год, не губляючы запалу і энтузіязму. Затое практолагам можа быць і жанчына. У гэтай справе запал не патрэбны. Ну дык распавядзі мне, як табе, гемаройнаму, собіла да маладой дзеўкі падлезці?

– Не паверыш, але ў гэтай справе я асабліва не напружваўся. Слова да слова, рука пад руку, нага за нагу. Я як падапью, з мяне лірыка прэ, адкуль што бярэцца, сам не разумею. “Ты – мая снягурка!” – шапнуў ёй на вушка. “Калі так, трымай нос морквай, снегурок!” – падахвоціла яна. “Нос мой у парадку, – кажу, – а “моркву” падушыць прыйдзецца для нашага з табой задавальнення”. Засмяялася Ленка. Спадабалася ёй пра “моркву”. І не важдаючыся, узяла мой “плод” у абарот. Калі ж “плод” у яе руках наліўся жыццёвай сілай, стала нам не да хаха-хіхі.

– Ну-у-у, такога напору і робат не вытрымае, згараць у “жалязякі” мікрачыпы. На вось цукерку з’еш. Падсаладзі свой сум.

– Ты за мяне не бойся, доўга сумаваць не прыйдзецца. Адчуваю, будзе ў мяне зусім хутка новая жанчына небывалай прыгажосці. А цукерка твая, Каляныч, нясвежая. У лістападзе выпушчаная. Які ты пасля гэтага сябар?

– Сапраўдны сябар, не сумнявайся! Забыўся, нябось, які месяц на двары?

– Жнівень.

– Вось то-та і яно.

– Што яно?

– Я табе як сябру цукерку з будучыні дастаў.

– Бздура твая цукерка! – раптам змяніўся ў твары Мітрыч. – Вунь жанчына, мне ўсміхаючыся, па дарожцы ідзе. Не падвяла чуйка!

– Супакойся, калі я першы раз цябе ўбачыў,

таксама ледзь са смеху не памёр. Ты, Мітрыч, фрэзероўцы часам не паддаешся. Колькі не вучы цябе матэрыялізму, а ты непапраўны містык. Верыш ва ўсякія супадзенні. Усміхаецца яна чалавеку, з якім побач ідзе. І няма ў яе да цябе ніякай справы.

Галоўурач, празваны санітарамі “Клізмушкін”, вёў па дарожцы, трымаючы пад локцік, сапраўды на дзіва прыгожую жанчыну.

– Нават не ведаю, Памэла Юр’еўна, чым яшчэ магу быць вам карысны. Калі клізмачкі не дапамаглі, медыцына, нажаль, бяссільная.

– А народная медыцына, Кузьма Сакратавіч? Няўжо і ёй не пад сілу разабрацца ў маім выпадку?

– Праўда, не ведаю, што вам сказаць. А зрэшты, паспрабуйце! Чым чорт не жартуе. Вось, дарэчы, і народ прыдатны сядзіць! – кіўнуў галоўурач на санітараў. – Звяртайцеся. Яны чуллівыя, не адмовяць.

– Я бы для эксперыменту больш худога выбрала.

– Як скажаце! Мітрыч! – паклікаў “галоўны” санітара. – Не адмоў жанчыне, дапамажы!

– Ды не было на маім веку жанчыны, якой бы я адмовіў! – і Мітрыч ад агарнуўшых яго пачуццяў штурхнуў кулаком у плячо збянтэжанага сябра.

– Вось і выдатна, мой ветлівы медбрат, – жанчына чароўна ўсміхнулася. – У сем гадзін вечара праводжу свецкі раўт. Збярэцца чорная пена грамадства. Вам належыць прыбыць не пазней шасці, нічога не змяняючы ў сваім абліччы. Я прышлю машыну. І, дзеля ўсіх святых, нічога не ешце. Гэта нашкодзіць маёй задуме.

– Вось і файненька! – пацёр рукі задаволены

Кузьма Сакратавіч. – Ваш выбар проста цудоўны! Мітрыч не падвядзе, справіцца. Ён упарты, а галоўнае, цярплівы. Ну, а са мной разлік зробім, як гэта вядзецца ў прыстойных людзей. Натуркай.

– З чым хоць спраўляцца прыйдзецца? – апамятаўшыся, спытаў Мітрыч. Ды з пытаннем запазніўся. Парачка схавалася за аблепіхавым кустом.

Збянтэжанаму Каляночу не было чаго сказаць, але і маўчаць ён не мог.

– Ты калі пукаеш, зачыняй рот з іншага боку, – накінуўся ён на сябрука, – я цукерку ем!

– Ды ідзі ты са сваёй цукеркай. Я ад задавальнення пукаю! У мяне спатканне ўвечары з прыгожай жанчынай. А цябе зайздрасць грызе. Не ўмееш за сябра цешыцца.

– Ты глупства не вярзі. Баюся, давядзецца табе зноў зразумець, што атрымліваць задавальненне і атрымліваць па задавальненні не зусім адно і тое ж.

– Лепш, разумнік, скажы, на халеру я, такі непрывабны, ёй здаўся? Проста на раўце падзяжурыць, або ёсць у яе жаночая цікавасць да мяне?! Падкарміць мяне ды аблашчыць, і лёгка можна будзе прыняць за імпазантнага перспектыўнага халасцяка.

– Баюся, расчарую цябе. Бо, здаецца мне, ніяк дапетрыць яна не змагла, чаму такі выкапень усё яшчэ па зямлі ходзіць. Вось і вырашыла ў імя перамогі здаровага сэнсу выправіць гэтую памылку. Зоймеш ты, як піць даць, сваё законнае месца ў зямельцы. Паўтара метра табе хопіць. Глыбей не селяць. Вянок ад прафсаюзу забяспечу.

– Жоўць з цябе, Каляныч, фантанам б’е. Зайздросціш, нябось?

– Хлусіць не буду, зайздрошчу. Але калі сур'ёзна, ты абсалютна зямны, разумны чалавек. Гэта ў табе адразу відаць, нават акуляры надзяваць не трэба. Усе нябесныя нягоды і кары пераносіш устойліва. На мой розум, ёсць у прыродзе кругазварот дабра. Хтосьці дабро па абавязку службы здзейсніць гатовы, хтосьці па поклічу сэрца. Вось і абламалася табе з нейкага боку. Калі ў людзей бескарыслівасць прачынаецца, пачынаюць яны шалець і, ратуючы сябе ад душэўных пакут, адшукваюць няшчасце накшталт цябе. Усе людзі ў гэтым свеце, як адна сям'я, і разам з'елі не адзін пуд солі. Толькі ў адных соль на чорным хлебе, а ў іншых на батоне з чорнай ікрой.

– Разумны ты, Каляныч, без усякіх інстытутаў! Люблю цябе за гэта і шкадлівасць прабачаю. А прабачыўшы, адкрыю таямніцу! Дзеўкі ліпнуць да мяне, таму што няма ў мяне жывата ад піва, як у цябе. Любяць яны перабіраць пальцамі мае рабрынкі, уяўляючы сябе антычнай арфісткай.

– Ох, не да дабра прарваўся твой славесны панос. Жывот у мяне, дарэчы, не ад піва, а для піва. Табе, худасочнаму, гэтай розніцы не зразумець. Напрыканцы, як сябру, параду хачу даць. У гасцях асабліа не разганяйся. Адчувай меру, а лепш даверся сваёй бязглуздай чуйцы. Калі абламаюць ганарок, не раскісай, шукай мяне. Дам табе сродак ад усіх хваробаў – шкляначку моцнай жытняй самагоначкі.

Прывезлі Мітрыча да вялізнага дому і павялі праз сад, поўны гасцей, захутаных у шоўк, карункі, пахнучых парфумай, паблісквающых дыяментамі пярсцёнкаў, запанак, завушніц і шпілек для гальштукаў. Заводзяць у спальню, а там жанчына, якую ўдзень бачыў, нецярпеннем гарыць.

– Чаму спазніліся? – накінулася яна на вадзіцеля.

– На пераездзе вагон з бульбай разваліўся. Стаў сабе мяшок набіраць, а гэты, – тут шафёр кіўнуў на Мітрыча, – дапамагаць адмовіўся. Кажа, рукі яму загадалі не пэцкаць.

Толькі зараз санітар прызнаў у жанчыне тэлевізійную балаболку. Перш іх падзяляла халоднае шкло кінескопа, а зараз хоць рукамі кранай.

– Кіроўца вольны. А ты распранайся! – тонам, які не церпіць пярэчанняў, заявіла тэледзіва. – Часу амаль няма.

– Можа, я памыюся?

– Гэта не патрэбна.

“Зусім згаладалася баба! – падумаў Мітрыч, сцягваючы з сябе кашулю. – Але зразумець яе можна. У маім веку чалавек, як вытрыманы сыр, мае свой пах. Відаць, ад мужчынскага поту яна хутчэй шалее”.

– Штаны таксама здымай. Умееш ты рабіць што-небудзь хутка?

“Хутка толькі ананікі ператоргваюць, – ледзь не бразнуў Мітрыч, але стрымаўся, – давяла сябе баба! Гатовая кінуцца на першага сустрэчнага. Стопудова, капрыз, або помста загуляўшаму мужу. У любым выпадку мая справа не асарамаціцца”.

Зняўшы штаны, Мітрыч пасунуўся да жанчыны, паглынаючы яе вачамі.

– Трусы знімі!

– Зняць трусы не праблема, – прабурчаў санітар, – сама з сукенкай не марудзь!

Толькі Мітрыч паклаў трусы на адзежу, як увайшла цёмнавалосая, неверагодна маладзенькая дзяўчына і вылупіла на немаладога галыша акруглелыя вочы.

“Ды ў іх тут сапраўдны прытон! – прастрэліла Мітрыча ад цемя да пятак. – Дзве бабы – гэта сур’ёзная нагрузка”.

– Клава, дзе Себасцьян?

– Чакае за дзвярамі, Памэла Юр’еўна.

– Хай увойдзе.

“Два на два! – з палёгкай уздыхнуў Мітрыч. – Оргія! Швецкую парнушку, быў грашок, давялося глядзець”.

Стоячы голым, Мітрыч не разумеў, што яму рабіць. Неадкладна браць у рукі Памэлу Юр’еўну, або ўсё-ткі дачакацца таямнічага Себасцьяна. Але якое было яго здзіўленне, калі ў пакой увайшоў хлопчык.

– Не! Толькі не гэта! Я не педафіл! – завыў санітар. – Я філапед! Ну, у сэнсе, жыву з філолагам, школьнай настаўніцай.

Спалоханы хлопчык утаропіўся ў Мітрыча.

– Себасцьян! – Памэла Юр’еўна пагладзіла хлапчука па галаве.

– Так, мама!

– Бачыш гэтае стварэнне, якое цяжка назваць чалавекам?

– Так, мама!

– У яго ногі – палкі, рукі – ніткі. Рэбры лічацца з дзесяці крокаў. Не чалавек, а шкілет, абцягнуты жоўтай скурай. Себасцьян!

– Так, мама!

– Ты сёння еў?

– Не, мама. Я спусціў ежу ва ўнітаз.

– Себасцьян! Ты хочаш быць падобным на гэтага дахадзягу?

– Не, мама! – і сын ад страху прыціснуўся да маці.

– Ты зразумеў мяне, Себасцьян?

– Так, мама!

– Вось і малайчына! А ты, Мітрыч, збірай манаткі, цябе вывядуць чорным ходам. Твая місія нагляднага дапаможніка скончылася. За паслугу табе паднясуць чарку гарэлкі.

Дадому Мітрыч ішоў моўчкі. Думкі, адна горш за іншую, не давалі супакою.

"Распавядзі Калянычу, як усё было, цэлы год здзекавацца будзе. Змаўчы – жыцця не дасць! Прыставучы, гад, як п'яўка".

Вокны ў хатах згасалі адно за другім, як адджыўшыя свой тэрмін планеты, а Мітрыч так і не прыдумаў патрэбнай адмазкі.

Раніцай наступнага дня Каляныч сустрэў сябра ў дворыку бальніцы.

– Каліся хутчэй, навошта яна да сабе паклікала?!

– Супакойся, дружа! Я дзённік сэксуальных назіранняў не вёў, а казаць, чаго не было, сумленне не дазваляе.

– Ты дурнем не прыкідвайся, я цябе наскрозь бачу. Калі радасці на тваім твары няма, значыць, спаўна атрымаў па сваім трыбухам.

– Я даў жанчыне падпіску аб невыдаванні эратычных фантазій за тэрыторыяй пасцелі.

– Здаецца мне, не ты даў падпіску, а табе балюча далі пад піську. Прызнайся ва ўсім, калі хочаш, каб я цябе пашкадаваў!

– Ты, Каляныч, сам напрасіўся на маю шчырасць. Зараз слухай і не перабівай. Гэтая жанчына – удава. Мае на сваім рахунку нямала здзёртых шкур ахвотнікаў да сэксуальных прыгод. Я ж здолеў давесці, што ў вострых пытаннях таксама заточаны пад прамы кут. Прызнаўшы ўва мне важака, яна прызналася, што часцяком імітавала аргазм. А калі я абрынуўся лавінай, яна ледзь з глузду не з'ехала.

– Брэшаш!

– Маўчы і слухай. Пасля сэксу яна прасцей стала глядзець на гару маёй бруднай адзежы і раскінутыя па пакоі шкарпэткі. Пад мігаценне свечкі нават захоплена прашаптала: “У тваіх наіўных вачах я разглядзела харызму. У плане сэксу ты сапраўдны ас, і я прабачаю табе неахайнасць”.

– Так яна што, на тваё мурло паквапілася? – ізноў не стрымаўся Каляныч.

– Матывы яе паводзін аказаліся чыстымі і празрыстымі, як мача немаўляці. У коле баб, з якімі яна тусуецца, прынята сустракаць кожны трэці чацвер месяца з мужчынам без роду, без становішча, у мятай, нядбайна зашпіленай кашулі і сацінавых трусах. Каб пахнула ад мужчыны мужыком, а не таннай парфумай. Брудная прасціна ў іх – гэта пераможны сцяг нездарма пражытай ночы. Ёсць нават эксперты, якія правяраюць, мужыком прасціна пахне або ў звычайным брудзе яе запэцкалі А з раніцы мая наваяўленая сяброўка задзяўбала просьбай: “Ажаніся са мной”. Вялікія грошы паабяцала. Але мной аваладаць складаней, чым кітайскім іерогліфам. Аднак, калі па-праўдзе, спалохаўся стаць другім мужам удавы.

– Ды ну цябе к чорту, балбатун! Можна падумаць, ты быў бы рады апынуцца на месцы яе першага мужа!

# Бежанцы

Гісторыя мая не надта зграбная, але прыхарошваць чыстую праўду – паскудная справа.

На федэральнай трасе пад Вагінаўскам расквітнеў махрыстым кветам аўтасэрвіс "МаніБабкі". Усё там было ладна і складна: новая лазьня, паркоўка, столікі пад тэнтам, свінкі ў загоне на смажаніну і велізарны сабака каўказскага замесу ля колаў дырэктарскага "Бэнтлі".

У былыя часы на месцы аўтасэрвісу стаяў фургон, забыты вандроўным цыркам шапіто. Умельцы пристасавалі яго пад заядалаўку для транзітчыкаў. Цяпліўся бы і далей ачаг прыдарожнага адпачынку, але яго гаспадыня, Света Рачкіна, памяняла замухрышку-сужыцеля на спраўнага дзецюка. І Сашок, "стары дружбачок", за кароткі тэрмін раскруціў справу, збіўшы прыбытковы бізнэс на рамонце іншамарак.

Дазнаўшыся аб наваяўленым Клондайку, прыбіліся да аўтасэрвісу два прайдзісветы, авантурысты Вовік і Віталік. Неўтаймаваныя гарэзы, скончаныя бандыты, дасціпнікі, якіх свет не бачыў. Калі кішэні сяброў набракалі ад грашовага прыплода, Ваван рабіўся вельмі разумным. Адтапырыць палец, зашмальцаваны салідолам, і пракурорскім голасам, неспагадлівым да пярэчанняў, заявіць:

– Цягні, малец, усё, што дрэнна ляжыць, а што ляжыць добра, цягні хутчэй.

Зладзеявата з-за руціны слясарных спраў

падкралася серада – цэнтрал тыдня. Напусціўшы на фэйсы выгляд стараннасці, два заўзятых тэхнара губілі напільнікам і мацюком "дызель", зняты для рамонту з інкасатарскага браневіка. Ластаўкі, якія гняздзіліся побач, ачмурэлі ад лаянкі і крэслілі на небе неспасцігальныя для розуму іерогліфы. Між тым, хоць вядро поту з сябе сцадзі, крута башлянуць на рамонце было немагчыма. Вялізны куш з д'ябальскай ухмылкай толькі мроіўся хлопцам за кожным варштатам. Аддаючыся ў лапы спакусы, сплавілі слесары адрамантаваны "дызель" мясцовым жыганам. З усіх запчастак толькі карданны вал ніколі не ішоў у разнос. Валодзька бярог яго на выпадак бойкі з нязгодлівым кліентам.Не мінула і гадзіны пасля згоды, як уварваўся ў майстэрню тэрмаядзерны гаспадарскі шныр Анікееў. Данеслі яму пра спёрты "дызель".

– Тое, што не дарабілі вашы бацькі, гэта вы і ёсць! – накінуўся Анікееў на Воўчыка з Віталькам. – Вам найважнейшы рамонт даверылі, а вы яго, паганцы, прасралі. Сказаў бы яшчэ пару "ласкавых", ды казаць іх не дазваляе пачуццё меры. За зніклы фордаўскі "дызялёк" адкажаце па самай строгай мерцы. Як кажуць у народзе, накрылася ваша прэмія жаночым палавым органам.

– Адхрысціся, Сяргеіч, – узмаліліся рабацягі, – вакол сэрвісу народа паганага трэцца вялізная куча. Ім палец у рот не кладзі – усю руку адцяпаюць. Толькі адышліся да хлява свінак пакарміць, а "дызель" быццам карова языком злізала. Мы ўсе сродкі апавяшчэння прывялі ў дзеянне: паштовую саву, сігнальную ракету, тэлеграму прэзідэнту. Дазволь памянуць напаследак нечаканую страту трохкратным перазвонам шклянак.

– Патрываеце трошкі. Для пачатку вас адвя-

дуць у канторку, дзе ёсць пакойчыкі, у якіх вельмі мала мэблі, і выйсці з якіх цяжэй, чым увайсці. Сустрэне вас, як родных, строгі чалавечак. Ёсць у яго на плячах такія штучкі з зорачкамі, як на каньяку, і будуць вас там доўга біць рублём і іншымі цяжкімі прадметамі. Стойце тут і не варушыцеся. – Анікееў спрытна пабег да дзвярэй, пакрытых дэрмацінам, з таблічкай “Дырэктар аўтасэрвісу С. РАЧКІНА”.

– Віталя, нічога добрага ад гэтых людзей чакаць нам не выпадае, – трывожна азіраючыся па баках, прашаптаў Ваван. – Тэрмінова даем дзёру, пакуль гэты райскі куток не ператварыўся ў чортава кодла.

Сродкі, якія прынёс дзялкам “дызель”, дазвалялі пагуляць і закусіць.

– А я, дарэчы, бежанец, – ужо за плотам майстэрні вырвалася ў Валодзькі. – З працы збег. Ад жонкі, будзь яна тройчы прыгожая, збег. – Замоўкшы, ён утаропіўся ў сінюшную далеч, ловячы думы аб вечным.

– Мяне таксама жонка выгнала, – з непадробным сумам вырвалася ў Віталькі.

– Брэшаш ты! Твая язва ўчора ў санаторый ад’ехала.

– Дык я не пра сваю жонку кажу.

– Тады прабач, дружбачок. Не люблю грэбацца ў крыжаванцы чужога быцця. Але калі з’явіцца ў цябе думка ў госці схадзіць, я пярэчыць не буду. Толькі Зойку Верталётаву не згадвай. Набрыдзь яна несусветная.

– Груба гэта, Вова, груба.

– Для яе – не. Развяла мяне, сучка, як апошняга лоха, як Чырвоная Шапка шэрага ваўка. “Улічы, Вовік, – ялейна шаптала мне ў вуха. – Я – жанчына дарагая”. Бог ты мой, думаю, ды такіх, як

ты, што агуркоў на базарным радзе: і маленькіх, і тоўсценькіх, і храбусткіх, і горкіх. Толькі калі за "штуку" баксаў задушыў ужыўленую ў мяне венерычную бактэрыю, зразумеў глыбокі сэнс яе словаў.

– А мяне адна збачэнка ледзь не спаліла. Уключыла, лярва, святло ва ўсіх пакоях і шпацыруе голая па дывановай дарожцы, ягадзіцамі віхляе. Псіхануў я: "Чувіха, – гарлапаню, – епць тваю пераепць. Упры вочы ў лічыльнік. Ён шызануўся, кругі намотваючы. А кожная новая лічба – гэта прабоіна ў маім бюджэце".

– Спакой, Вова, мы здабудзем, трымаючы ў руцэ шклянку, – уздыхнуў Віталік. – І ад гэтага нам нікуды не падзецца.

Пры слове "шклянка" Валодзьку закалашмаціла, быццам бы ён напароўся на аголеную праводку:

– Не-е-е! Толькі не шклянка!

Усю рэшту мінулай ночы праспаў Воўчык на шклянках, і зараз кругі яркай меткай сінелі вакол вачэй.

– Хачу тазік піва, хачу тазік гарэлкі і пусты тазік на потым.

– Не раві! – абняў сябра Віталік. – Нам дапаможа Сонька Няўцешная.

Як чмель пасля кветкавага пахмелля шукае сваю чмяліху, так і два сябра давcovеryліся снайперскаму выбару. Сонька, па мянушцы "Піва, гарэлка, патанцуем, паляжым", стаяла на балконе, свецячы пякельна спакуслівымі трусікамі ў буйны чорны гарох.

– Сонечка! Два патомных джантэльмюгі шукаюць прытулак у шчодрай лэдзі.

– Чхала я на вас, сабакі праклятыя. І не ўздумайце біць капытамі ў мае дзверы, нібыта жвавыя жарабцы.

– Ты сама кабылка наравістая. Ножка твая, як булат, дужая. Убрыкнеш – доўга метка не сходзіць.

Пераміргнуўшыся, дуэт прайдзісветаў фальшыва заспяваў:

– Ах, Соня! Надламаная галінка. У шакаладзе ўся цукровая ляндрынка… Прытулі, душа добрая, бежанцаў. Увесь свет ад нас адвярнуўся. Не дай веру страціць у чалавечую дабрадзейнасць.

Сонька, падабрэлая ад салодкіх слоў, яхідна спытала:

– А што, хлопцы, рабіць будзем, калі пушчу?

– Аб дэмакратыі пагаворым.

– Зараз! Трымай мяне, я моцна разагналася… Калі чорт прынёс вас да мяне, разлічыцеся сэксам за гасціннасць. У сэксе не так усё адназначна, як у палітыцы. Заносце свае "канцы" у хату. Няма чаго сіроцтвам вочы суседзям мазоліць. Сёння правожу мужчынскі конкурс "Канец лета".

Сустракаючы званых гасцей ля парога, Сонька свяцілася ветлівасцю:

– Хлопчыкі! Ёсць добрая навіна. Уступіў у сілу новы тарыф "Дапамога сябру". Першыя пятнаццаць секунд на сяброўскім ложку бясплатна.

Адчайных мужыкоў накрыла жаданне перамен. За спёрты "дызель" бежанцы адцягнуліся па поўнай памінальнай праграме. Гарэлка за ноч выела пячонку. Шалясценне рублёў растала, як смуга. Рабацяга-пеніс панікнуў і схаваўся ў складках сямейных трусоў. Разваліць ложак не далі клапы, якія жылі ў ім і ўсю ноч моцна трымаліся за лапкі. Трывіяльныя мары аб сусветным дабрабыце то круціліся ў галовах бежанцаў, як вошы, то ўзляталі верабʼінай чародкай.

– Віталя! – ускінуўшы пацяжэлую за ноч тугадумку, выгукнуў Валодзька. – Што гэта так скрыгоча?

– Думкі, Вова, думкі… Калі я думаю – гэта проста апупенная сіла. Разумею, мне павінна быць добра, але, чамусьці, вельмі дрэнна.

– Лячыцца нам з табой трэба, і лячыцца тым, чым заразіліся. Гарэлачкі знайдзі хоць лыжачку! Увойдзе жыватворнай мікстурай. Час губляем. Не гожа нам тут ляжаць, як двум нікчэмным лупінам ад бананаў.

Калі за акном раскачагарылася барва ласкавага світанку, Вовік з Віталькай, сабраўшы цішком манаткі, вышмыгнулі з абрыдлай за ноч Сонькінай кватэры. Цягнуліся хлопцы па вуліцы, не адстаючы адзін ад аднога, натыкаючыся, як сляпыя, на прахожых. Яшчэ ўчора і нават сёння ноччу ўсё ў іх атрымлівалася, а нараніцу ўдаласць маладзецкая мінула.

– Эх, Воўчык! Нам бы, ды з нашым шчасцем, дзяцей у яслі вадзіць, а мы іх у прэзерватывы распіхваем.

– Замры, Віталя! Ні слова больш. Твой профіль на манетах чаканіць трэба, ты самы круты.

– Не, Ваван! Не падыходжу я для гэтай задумы. Здранцвеў: ні пачуццяў, ні болю. Мозг, і той варыць перастаў. Памяць у клубок згарнулася. Не паверыш, забыўся, чыя сталіца Катманду.

– Ты мазгі мурой не забівай. І перастань у носе калупаць. Дзяцей не будзе.

– Ды я неглыбока.

– Калі ў носе чаго ўчапіў, падымі смаркаты палец і адшукай спадарожны вецер, з ім нам лягчэй будзе ісці.

– Давай першым сустрэчным морды наб'ем!

– А калі нам наб'юць?

– Нам за што?

– Знойдуць за што. У лазню хадзем. Там усё сумленна. Без нажоў і касцетаў. Толькі кулак

кіруе балем. Заадно і памыемся.

– Лепш пайшлі ў кіно. Там у буфеце піва наліваюць.

Ля ўваходу ў кінатэатр натоўп, чалавек пяцьдзясят, утварыў жывую бутэльку, якая рыльцам тырчэла ва ўваходных дзвярах. На ганку цемрашальнічаў зазывала:

– Плацім толькі за піва. Адменны свежачок. Кіно атрымліваем на халяву. Хіт сезону. Сеанс для тых, хто рана ўстаў. Фільм – поўны адпад. Упершыню на экране ва ўсёй сваёй жудасці псіхічная атака: матросы, якія скачуць на зебрах.

– Мы бежанцы! – гучна заявіў Віталік. – Патрабуем піва за кошт установы!

– Дакументы на бежанства маюцца?

– Наш дакумент – твары са смуткам у вачах.

У буфеце стаяў чароўны звон куфляў. Народа напакавалася – гранаце няма куды ўпасці. Дастаўшы прагавітыя вусны з піўной пены, Воўчык стаў лушчыць хітрую рыбку “хамсец”.

– Зажывем, Віталюр! – шапнуў ён сябруку. – Люба-дарага зажывем! І краіна за намі падымецца. І габрэі вернуцца ў родныя пенаты.

Насыціўшыся півам, дружбакі ўвайшлі ў глядачную залу і кінулі свае азадкі на пару вольных крэслаў. Піва вярнула разняволенасць, а галоўнае, ахвоту да новых прыгод. Затое хвалёнае кіно не пачыналася. Кіношнік нешта напартачыў, а людзям праўду баяліся сказаць.

Наперадзе, засланяючы ўвесь экран, сядзеў таўшчэзны і цалкам лысы мужык. Зачаравана гледзячы на гладкую макаўку, Віталя прашаптаў:

– Ведаю адзін вельмі гучны шчыпковы інструмент: жаночую дупку. А вось ударны слухаць не прыходзілася. Вова, пляснi мужыка па лысіне, дам паўсотні амерыканскіх рублёў.

Віталік ведаў Воўчыка як фенаменальнага снайпера. Той, не цэлячыся, трапляў у любыя разборкі і скандалы.

– Не бойся, дзядзька, як паравоз, непаваротлівы. Стомішся ад такога ўцякаць – адскоч у бок і пашлі ўслед паветраны пацалунак.

Кухталь атрымаўся звонкі. Мужык ачмурэў. Нават праведнае абурэнне не адразу стала закіпаць у ім. Але Воўчык – малайчына, хутка выпусціў пар з біцюга, радасна ўсклікнуўшы:

– Лёха, блін! Колькі вады ўцякло?! Дзе чаліўся?

У небаракі ад болю павіслі на вейках буйныя слязінкі. Ачухаўшыся, ён прамыкаў:

– Не Лёха я. Памыліўся ты, хлопец.

– Ты чаго плявузгаеш?! – на твары Валодзькі намалявалася здзіўленне. – Лёха ты, сябар цела Аркашкінай жонкі.

Мужык нешта буркнуў у адказ і заціх. А фільма ўсё няма. Віталіка агарнула ненасытная чалавечая цікаўнасць: што далей будзе, калі дзядзьку зноў стукнуць?

– Ты бачыў, як гэты тып на нас паглядзеў? – зашаптаў ён на вуха Валодзьку. – Быццам сам ён Бетховен, а мы – два вядры для смецця. Яшчэ раз ляснуць слабо будзе? Сотку даю.

“Няма такой кішэні, для якой сотка лішняй будзе”, – падумаў Воўчык, і я-а-ак пляснe лысага далонню па чарапку.

– Лёха, ты што, блін, дуркуеш? Я не я і галоўка не мая. Думаеш, выгаліўся, дык я цябе не пазнаю? Ды я, каму хочаш давяду, што ты – Лёха. І быў час, калі мы з табой пілі да ўсрачкі з аднаго цэбра.

Лысы пачынаў разумець, дабром гэтае рукадзелле не скончыцца, устаў і перасеў ад пры-

дурка далей. Затое па Віталю пабеглі дрыжыкі бязгучнага смеху. Гадасць прынесла яму несуцішную радасць. Хоць цырк і з’ехаў, ды блазны засталіся. Піць з ахвяры кроў Віталік прывык невялікімі глыткамі, баючыся папярхнуцца, але заўсёды да поўнай перамогі сілы над розумам.

– Даю дзвесце. Ідзі, пляснi яшчэ разок.

Воўчык разумеў: там-тарарам паднімецца неабыякі, але дзвесце – гэта сур’ёзная заяўка на часовы дабрабыт. Ён падкраўся і зноў ляснуў лысага чорта па гладкай патыліцы.

– Лёха-а-а! Вось ты дзе! А я нейкага вырадка на дзясятым радзе дастаю!

# Ёсць аповесці больш сумныя на свеце, Чым аповесць аб Рамэа і Джульеце

"Терра інкогніта" – тэрыторыя, непадуладная часу, мела форму трохкутніка і рассцілалася пад вокнамі кватэры Паўліка Пісюшчава. На невялікай адлегласці адна ад другой суседнічалі тры забудовы часоў прышэсця бальшавікоў. Радзільны дом, спавіты плюшчом, па якім, быццам малпы па ліянах, лазілі наваяўленыя бацькі параўноўваць свае ўпітые радасцю морды з тварыкамі прад'яўляных немаўлят. Лазня, якая час ад часу адрыгівала дымлівы смурод, нібы кароль амерыканскіх дарог, аўтавоз "Фрэйтлайнер". Бар "Вінзавод", апушчаны пастаяльцамі да звыклай забягалаўкі. Жыццё на трохутніку застыла паводле няпісанага закону: нарадзіўся, памыўся і шклянка табе ў рукі. Праходзячы гэты непазбежны шлях, нажыў Пісюшчаў, апроч звычайных чалавечых бздур, малюсенькую, але да паскудства ўедлівую мужчынскую феньку. Феньку звалі "раніца панядзелку", і з'яўлялася яна неверагодным чынам адразу пасля пятніцы.

І гэтая раніца новага панядзелку не стала выключэннем. "Бадун Бадунішчаў" штарміў Паўлуху, як ашалелы акіян мардуе малышку-фелюгу. У такія імгненні Паўлік будаваў сямейныя адносіны да прымітыўнасці проста: "Будзь, што будзе!" Узяўшы сітуацыю пад свой кантроль,

жонка Пісюшчава, Галіна, пачынала адыгрывацца на мужы з традыцыйнага, надакучыўшага папроку:

– Дадому з’яўляйся своечасова і кожны дзень.

Пачуўшы ў голасе жонкі суровыя, амаль пракурорскія ноткі, Павел пачынаў выкручвацца:

– Галя! Паспрабуй думку паглыбіць да поўнага са мной паразумення.

Галя, азвярэла рэзануўшы сябе далонню па горле, зашыпела з упартай рашучасцю:

– Вунь дзе тваё адхаднякі сядзяць!

Нягледзячы на непаладкі, сям’я Пісюшчавых лічылася не зусім звычайнай. І муж, і жонка былі ў ёй абсалютна раўнапраўныя. Асабліва жонка, здольная абяззброіць Паўлуху адным словам:

– Самазванец! – І бязлітасна дабіць казырнай фразай. – Зваць цябе не Пісюшчаў, а Пісюлькін!

Яшчэ на парозе ЗАГСа Галіна адхрысцілася ад немілагучнасці мужавага прозвішча і пакрочыла па жыцці як нарадзілася – Дзявайкінай, несучы ў трапяткой душы святую бязгрэшнасць дзевы. Па фармальнай прыкмеце як муж і жонка яны паспелі пражыць тры гады. Але калі перавесці тэрмін у чысты хакейны час, набіралася не больш чым год з паловай. Іх незвычайная прыхільнасць адзін да аднога дзівіла ўсіх, хто ведаў гэтую парачку. Здаровы розум не знаходзіў тлумачэння іхняму сямейнаму саюзу.

У згаданую злапомную раніцу Паша слаба адбіваўся ад уедлівых нападак жонкі. Пасля канавы, у якой Паўлу давялося пераначаваць, моцна часалася пуза. Тамашнія жамяровыя стварэнні па-прасцяцку пілі за Пашына здароўе яго ўласную кроў, закусваючы ягоным жа перагарам. Хада пасля такога сну стала каўбойскай. Гэтак жа сын прэрый, саскочыўшы з каня, з пры-

кіпелым да азадка сядлом пасля доўгай скачкі, ішоў у салун за сваёй пінтай віскі.

Галіна за тры гады замужжа хутка патаўсцела, ababілася і непрыкметна перарадзілася з сімпатычнай студэнткі ва ўладную капрызную матрону. І калі бралася даймаць мужа, то дапякала да поўнага асмальвання.

– Ты куды патраціў сотню, сволач? – упілася яна змяінным поглядам у Паўлуху. У вачах жонкі Пашка выразна разгледзеў жахлівае полымя неадрэгуляванай газавай гарэлкі.

– Галя! Ты не паверыш! Сотку ўзяла Клаўка.

– Хлусіш! Клаўка бярэ з цябе пяцёрку. У мяне з ёй дамова. Я не ганяю яе мужа, яна не доіць цябе.

– Але ўчора яна ўсё ж падаіла

– Сучка! Ды і ты добры. Дорага мне абыходзіцца твая юрлівасць! А хто ацэніць маю прыгажосць? – і Галя нечакана заспявала тонкім галаском. – Ці я на свеце ўсіх мілей, усіх румяней і бялей…

У такт мелодыі Павел пачаў густа падпяваць, рухаючы рукамі, быццам у кожнай сціскаў па маракасіне:

– Мучача-чача, мучача-чача.

Неўзабаве "мучача" змянілася на немудрагелістае:

– Шумц-умц, шумц-умц…

– Дык хто за ўсіх мілей, за ўсіх румяней і бялей? – зацягвала пятлю на Пашынай шыі Галіна.

– Галя, хоць забі, але не разумею, як можна быць "румяней" за ўсіх і тут жа "за ўсіх бялей"?

– Выкрут. Ты не прайшоў тэст на каханне. І зараз я проста ўпэўнена, Клаўка – твая сталая самадайка, а не толькі ў мае адмысловыя дні. Юрлівы мантач! Ты дзіравіш сямейны бюджэт, і

месца твайму члену на гільяціне. Ф'юць – і няма, – і яна зарагатала, як вераломная шэльма.

Паша зашморгаў носам. Падобнай пагрозы яму яшчэ не даводзілася чуць. Звычайна ўсё абрывалася працяцкім пасылам у дупу.

– Чаму ты зацыклілася на маім члене? Чым ён табе не дагадзіў? – залапатаў устрывожаны Павел.

Сітуацыя, па ўсім было відаць, станавілася вельмі небяспечнай. І Паша напалохаўся, і было чаго. Бо само па сабе цела – гэта адно, а з членам – зусім іншае. У майцы, трыко і тапках на босую нагу ён, як здань, як дым ад кастра, растварыўся ў задусе перадналвальнічнай раніцы.

– Кацiся на паўночны ўсход, баязлівец! – крыкнула наўздагон Галя. – Зямля круглая! Мяне не абмінеш. Толькі вяртайся экалагічна чысты і з грашыма. Тады я цябе прабачу.

– Чаму на паўночны ўсход? – спрабаваў на бягу сцяміць Паша. І, адчуўшы ў гэтым Галкіну інтрыгу, ірвануў проста на ўсход да вабных залатых шахтаў Прыамур'я. Бег ён даволі доўга, ашалела шэпчучы:

– Хто каго законна шлюбіць, той таго законна ж лупіць.

Раз'юшыўшыся, Павел не паспеў увярнуцца ад пылу, бруду і камянёў, якія вылецелі з-пад колаў пажылой праварукой "японкі". У машыне грымела музыка, уздымаючы таніровачную плёнку на шкле. Расхінуліся дзверцы, адтуль вылезла галава, пакрытая трыццацю шнарамі, ды дзіка загыркала:

– Выр-радак! У р-рыла дам!

Паша, закусіўшы цуглі, даў наймацнейшага драпака, не даючы сябе па-сапраўднаму абыдлячыць. А хуткасць – што хмель, пьянць, зараза!

Не помнячы сябе, апынуўся Пашка на пероне і паспеў ускочыць у апошні вагон адыходзячага цягніка.

Правадніца, затузаная моташнай дарогай, сустрэла новага пасажыра няветліва.

– Ты хто такі?! Хто табе даў права на хаду ў вагон скакаць?

– Мілая, хоць ты з мяне не здзекуйся, – пусціў слязу Паша. – Адсаплюся ў цябе трошкі і павалакуся ў свой вагон. А цяпер, прабач, ногі не трымаюць, спіна не хіліцца, галава гудзіць, быццам у ёй батальён ботаў па бруку малоціць.

– Мяне твой сушняк з мутняком не калышаць. На мне форменны берэт і пагоны ў золаце. Прад'яўляй квіток! Не, дык у тамбуры замкну і нарад выклічу.

– Квіточак, зорка мая, у пінжаку, а пінжак у іншым вагоне. Я, калі насустрач цягніку бег, кінуў яго ў адчыненае акно свайго вагона, а сам паспеў ускочыць толькі да цябе ў апошні.

Хатні выгляд Паўла не выклікаў ні здзіўлення, ні падазронасці ў пасажыраў, якія выйшлі на шум. У майках, трэніках і тапках на босую нагу ў камандзіроўку ехала палова вагона. Ахвотны да літасці народ не даў затаптаць мужыка.

– Ды наш ён, наш! – загаманілі камандзіровачныя.

– Можа, ён і ваш, але ў тых, хто сябруе з гэтай справай, – тут правадніца пстрыкнула сябе па горле, – рука да стоп-крану цягнецца. П'янтосу ад чарцей зялёных спакою няма.

– Мы яму рукі зараз павяжам. Пі! – і нейкі добры дзядзечка працягнуў шклянку гарэлкі. – Гэта норма, каб закалыхаць дэпрэсняк.

Глыток за глытком асушыў Паша шклянку гаючай вільгаці.

– Гэта па-нашаму! – узрадаваўся дзядзечка. – Па вагонах шнырыць табе не раю. Лезь на верхнюю паліцу. Адаспіся. А пінжак твой далей цягніка не ўцячэ. Адшукаем.

– Ты, хлопец, галоўнае не гані! – падтрымаў дзядзечку з гарэлкай самавіты вусач. – Бо нагнаць можна вялікую шкоду арганізму.

Пашка, пажынаючы ўвагу, расчуліўся і, пакуль лез на паліцу, згуляў у шчырасць:

– Штаны з мяне бандзюкі ў прыбіральні знялі. Пакуль падкінутыя трэнікі на сябе нацягнуў, бамжы чаравікі спёрлі. А капялюш ветрам здзьмула, калі да цягніка бег.

– А багаж? – усклікнула, лузаючы семечкі, чуллівая цётка.

– А куды я з багажом без капелюша, штаноў і пінжака папруся? Ды мяне першы стрэчны мент у крадзяжы западозрыць. У кустах я багаж надзейна схаваў, на зваротным шляху падбяру.

Мацней загрукалі колы на стыках сваю няхітрую песню, і разамлелы Паўлуха забыўся ў ціхамірным сне. Не заўважыў ён у гэтай мітусні, як адна маўклівая пасажырка паспешліва закахалася ў яго, як гаворыцца, з першага погляду. Сабой Пашка быў добры. Знешнасцю падобны да Апалона Бельведэрскага. “Галоўнае не прыпаркаваны, – падумала жанчына, – калі па свеце матаецца. Такога пачысціць, і кахай сабе ў радасць ад станцыі да станцыі. Толькі каб ён таксама кахаў, а не морду біў. На бітую морду больш пудры класці трэба”.

Расплюшчыў Павел вочы пасля дрымоты і бачыць, нечыя вочы, наадварот, запалам гараць. У яго самога так зрэнкі гарэлі, калі прыходзілася, не міргаючы, глядзець на пачатую бутэльку “касарылаўкі”. Не выстаяў Паша і

выдаў гэтым вачам усё без утойвання пра сваё гаротнае жыццё-быццё. Цётка пусціла шчодрую слязу, і на першым паўстанку, абілеціўшы Паўла, купіла ў дадатак штаны, кашулю і кепку ў буціку "Сяброўка-гатоўка".

– Мне для саліднасці капялюш і гальштук добра было б, – разышоўся Пашка.

– Сапраўднага інтэлігента і праз драную фуфайку разглядзець можна. Прыгожы ты, Паша, без наваротаў, як англа-арабскі скакун. Пароду ніякі сілікон не вытруціць.

Павел ведаў, што сілікон патрэбны, каб напампоўваць малааб'ёмныя месцы, але як інтэлігент не стаў рабіць даме заўвагу. Сам часам блытаўся, не ведаючы, як правільна па-руску пісаць: "гавно" або "говно", "гандон" або "гондон".

Да ўсеагульнай радасці ў вагоне закручваўся дарожны раманчык. Запахла вяселлем на колах. Для маладых вызвалілі адно купэ. Знайшліся фларыст і дэкаратар, якія пышна ўпрыгожылі купэшку ружамі, фрэзіямі і лілеямі са спецыяльнага набору для выставы. Знайшоўся добраахвотнік і пабег да праваднiцы:

– Паважаная! Патрэбны аднаразовыя шкляначкі! У нас справа стыкуецца, без шкляначак не абыйсціся.

– Дзе я вам на ўсю плойму чыстых набяруся?! Бярыце тыя, што на падносе стаяць, з іх адзін раз пілі, – сказала чыгуначніца і зачыніла сваю службку.

Адзін важны з выгляду мужчына прыцягнуў фантазійную рамачку для будучага вясельнага фота. Дастаў з яе фотаздымак жонкі, зрабіў вуснамі "пусі-пусі" і, аддаючы Паўлу рамачку, цяжка ўздыхнуў:

– Калі я ажаніўся, мая нявеста парсюка закалола.

– Парсюка колюць на вяселле з размахам! – выгукнуў мужык з піўным жыватом.

– Не адгадаў! Псіханула яна, што вэлюм цыгарэтай прапаліла, вось першага, хто падкруціўся, і закалола.

– Эх, яблычкі-памідорчыкі, я міламу далася ў калідорчыку… – пусцілася ў скокі па праходзе мажная цётка, чапляючы мужыкоў высока стаячымі грудзьмі, а аднаго разявяку прыгваздала імі проста да сценкі. – У ложак з кім-небудзь легчы – не здрада, – зашаптала яна ў вуха прыціснутаму, – гэта як паабедаць у іншай хаце.

– Спыняем балаганчыкі! – падняў рукі чалавек у піжаме і капелюшы. – Рэжу стужачку ў купэ для маладых.

– Ура-а-а! – вывернуўшыся з-пад цёткі радасна закрычаў мужык.

– Гор-ка ма-ла-дым! – тут жа запатрабавалі ўсё прысутныя і выпілі па чвэрці шклянкі перастаялага ў вагоне-рэстаране шампанскага. Дзверы за маладымі зачыніліся.

– У мяне добрае імя – Люба, – сказала жанчына, – што са мной ні рабі, усё атрымліваецца з любоўю. Табе, Пашанька, вельмі пашанцавала. Усе твае мары зараз спраўдзяцца! – і яна гулліва драпнула кіпцікам Пашкін нос. – У мяне нават станік проста разшпіляецца. Хочаш паспрабаваць?

– Угу! – прамыкаў Павел і з глыбокай павагай крануў костачакі на яе станіку.

Легла парачка на вузкае ложа этажэрачкай. Ён зверху, яна знізу. У маленькай жанчыне ўсё пад рукой. Люба аказалася мяккай і прыемнай навобмацак.

– Давай дзіцёначка адразу завядзем – прапанавала Люба.

– Лепш двух, – паправіў Павел, – зараз я ўсё зраблю. – і ён запырхаў, як закіпаючы імбрык.

– Не зладзіцца ў нас з табой, Паша, у гэты раз. Усё ты рабіў добра, але міма.

– Вагон хістае, – апраўдаўся Павел і тут жа прапанаваў: – давай дакончу як-небудзь.

– Як-небудзь я і сама змагу. Давай, злазь з мяне. Твой фантан радасці ўжо не фурычыць.

Цягнік стаў запавольваць ход. Набліжалася станцыя.

– Выскачу, кветак табе вазьму, – і ён стаў нацягваць на сябе новыя штаны.

– Штаны пакінь. Не вялікая станцыя, можна і ў старых прабегчыся.

– Я хутка, ластаўка мая!

Ластаўкай ён Любу спецыяльна назваў. Раптам расчуліцца і дасць грошы замарыць чарвячка.

– Вось грошы, – думаючы пра нешта сваё, сказала Люба. – Не вялікая купюра, але і купляць табе па вялікім рахунку няма чаго.

"Крутаярка" была звычайнай станцыяй. Лужына каля ўваходу ў вакзал. Звыклы контур завэдзганай прыбіральні для людзей без чыноў і саслоўяў. Ля плота сікаючы сабака, с крывой, сарамлівай усмешкай на мордзе.

Саскочыўшы на платформу, Паша адназначна вырашыў: "Ахапак кветак для Любы ад мяне нікуды не дзенецца. Бабкі-назолы іх вёдрамі цягаюць, а вось піва папіць ёсць гарачая неабходнасць". Толькі ён паспеў выгледзець піўны ларок, дзе зазывалай на нітцы боўталася бурштынавая вобла, як падскочыў да Пашкі нейкі мужык.

– Чуеш, хлопец, труса вазьмі. Добры трус, праз год баранам будзе. Амаль задарма аддам разам з кошыкам.

У кошыку тырчалі два доўгіх вуха.

– Ды ідзі ты са сваім трусом, – адпіхнуў дзядзьку Павел і пабег да ларка.

– Жлаб'ё! – крыкнуў услед мужык. – З-за такіх даўбакоў бурыцца раўнавага попыту і прапановы. Эканоміку пад адхон пускаеш.

Паправіўшы апалыя на дно кошыка вушы, мужык пацеляпаў уздоўж цягніка, зазыўна галосячы: "Каму труса! Труса каму!"

Чарга да ларка зляпілася немалая. Паша, які спрактыкаваўся ў бітвах за піва, дзе плячом падпіхнуў, дзе локаць адтапырыў, але куфаль здолеў ухапіць. Тут жа прагна ўтапіў вусны ў пену і, кайфуючы, адпіў пару глыткоў. Ціхамірная ленасць залюляла Паўла, і, разамлелы, ён прафукаў аб'яву па станцыі.

– Паважаныя пасажыры! Хуткі цягнік Барахольск-Прапойск… Сева, прыбяры рукі, а то ў мікрафон гарлапаніць пачну… адпраўляецца цягнік зусім хутка. Шчаслівай дарогі! Казёл ты, Сева, навошта ў трусы да мяне лезеш? Я адмашку цягніку дала, а не табе…

Мужыкі ў чарзе зарагаталі, цешачыся за настырнага Севу і аб'яўлялку ў спадніцы. Паша таксама засмяяўся. Але ўсмешка павольна папаўзла з яго твару.

– Ё-маё! Гэта ж мой цягнік адыходзіць, – пралапатаў ён. Але пакідаць недапітае піва Паўлу стала шкада.

– Грамадзянін! – Зоркая буфетчыца тармазнула яго за рукаў. – Я півам куфлямі на вынас не гандлюю.

– Чорт з табой! Забірай тару. А недапітае піва зберажы. Я за ім вярнуся на зваротным шляху.

Панёсся Паша па шпалах размахваючы рукамі. Апошні вагон зусім побач на стыках стукае, трошкі паднацісну́ць – і ўскочыш на падножку.

Але шкарпэтка, падла, на назе скукожылася. Не па мерцы была пашыта бракаробам.

– Не хапала крывавых мазоляў нажыць, – прабурчаў Павел і зміры ўся з тым, што новыя кепка і штаны з'ехалі без яго. Нельга крыўдзіцца на Любоў, калі яна аказалася некаму больш патрэбнай.

– Гэй, мужык, ты што, на цягнік спазніўся? – паклікаў Паўла чалавек у фуражцы чыгуначніка. Седзячы, ён сёк дровы.

– Не адгадаў, прышпальны начальнік! Мая місія – з вакзалу цягнікі выганяць, вызваляць пуці пад новы састаў.

– З такімі завадны мі рукамі табе вятраком працаваць трэба. Даваць электрычнасць у глухія раёны.

– Сам ты для такой працы, як бачу, гультаяваты. Азадак не адарвеш, як сячэш дровы.

– Хацеў лежучы секчы, але дужа нязручна.

– Не залівай! Лежучы ўсё зручна рабіць, абы не міма. Цягнік на ўсход хутка будзе?

– Адрасок пакінеш, паведамлю тэлеграмай.

– Хведар! – раздаўся немы жаночы крык. – Кідай лясы тачыць з кім папала, у хату бяжы. Твае дзеці маіх б'юць. Хутка да нашых дабяруцца.

– Выбачай, дружа, – замітусіўся чыгуначнік, – думаў, рабіць дзяцей – прыемны занятак. Так захапіўся, што не паспяваю гальштук завязаць і ширынку зашпіліць. Зрэшты, быць татучас усёткі вялікі мучачас. Жонка дзяцей карміць не спраўляецца. А я ёй не памагаты. Мужчынскія сіські – бескарысны прыдатак. Ну, бывай, бегчы трэба.

– Пастой! – Паўлу не хацелася вось так проста адпускаць задаваку.

– Ну, чаго табе? Лішніх грошай не маю і запас

гарэлкі для валацугаў не трымаю.

– Не бурчы. Мне вось заўсёды паліць ахвота. Але больш курыва жанчын кахаць ахвота. Так ахвота, што гатовы да іх у чэрава цалкам залезці, абы не раставацца. Толькі вусны звонку тырчаць будуць.

– Навошта табе вусны звонку? – насцярожыўся Хведар.

– Навошта, навошта! Для перакурчыка! Нават займаючыся прыемнай справай, нельга забываць аб перакуры. А інакш салодкае жыццё неўзабаве ператворыцца ў горкую рэдзьку.

# Начны мсцівец

Ноч прыйшла цёмная, як не ведаю што. Сны-мучыцелі накінуліся на грэшных людзей. Нягрэшным таксама дасталося на арэхі, каб не піжонілі. А Мішцы Сердзюкову трэцюю ноч сніўся сон, быццам ён, змучаны дыетай, употай ад жонкі соваў гальштук у суп і апетытна злізваў кропелькі тлушча. Налізаўшыся, Сердзюкоў прачынаўся. Ізноў заснуць не давала расперзанае сумленне. Перш з ім удавалася дамаўляцца, але пасля ўчорашняй разбіралаўкі на перамовы банальна не ставала сіл.

Вечарам прыгажуна-мужчыну жорстка збілі, вывернулі кішэні, адабралі грошы. Даказваць жонцы, што такі гвалт ні ў якія рамкі не ўпісваецца, не знайшлося патрэбных словаў. Адлупцаваўшы мужа і хутка заснуўшы, бандытка, гідка ўсміхаючыся ў сне, захрапла, нібы прастуджаны трактар. Сердзюкоў даўно перастаў баяцца гэтай грымасы. Затое конь, калі б яму гэтак усміхнуліся ў пысу, шарахнуўся б і з перапуду панёс ездака, і прыйшоў бы абодвум капут.

Па жыцці Сердзюкоў быў майстрам-самавукам. Здаралася, “маланка” ў жончыным боце ламалася, дык умелец ушые замест яе зашпільку з шырынкі старых штаноў – і няма тым ботам зносу. Але шавецкая забава і побач не валялася з Сердзюкоўскім “лятальным” апаратам. Зляпіў яго майстар з падручных сродкаў, знойдзеных у бацькаўскай каморцы. Урэжаш поўную шкля-

начку пойла, што накапала з апарата, і да дупы табе любая жыццёвая бязладзіца.

Вечарам жадаючых выпрабаваць апарат набілася цэлая кватэра, быццам у ёй забіла гаючая крыніца. Стоячы на разліве, Сердзюкоў не заўважыў, як вярнулася з працы жонка.

– Ты што вырабляеш? – у адказ на яе размашыстыя наскокі залапатаў народны ўмелец. – Ты чаго рукі распускаеш? Пакінь маю морду ў спакоі. Я пра твае маленькія грудзі таксама падумаў. Ведаю, як зрабіць іх вялікімі і пышнымі.

Забіяка, перастаўшы лупцаваць мужа, насцярожылася. Грудзі ў яе і сапраўды былі падгулялыя, не больш за мандарынкі, а хацелася пакаваць у станік вялікія какосіны.

– Трэба табе грудзі ў вулей апусціць, – з сур'ёзным выглядам прапанаваў Мішка. – Я дзве дзіркі прасёк у Цімафеіча на пасецы, табе акурат падыдуць.

Лепш бы Сердзюкоў грудзі, вулей і пасеку не згадваў. Сусед, які зазірнуў на грукат, вадзіла хуткай дапамогі, прафесійна заявіў:

– У цябе, Міша, і кара галаўнога мозгу зачэпленая, і яго, так сказаць, драўніна. Погляд у цябе каламутны, быццам плёскаецца ў вачах неадфільтраваны бярозавік.

Нацадзіў знахар з сердзюкоўскага апарата шкляначку самагоннага паліва, адважна прыняў на грудзі і паляцеў без усякага разумення туды, куды ногі самі па сабе не даходзяць. Своечасова гэта зрабіў. Загінуў цуд тэхнікі пад ударамі сякеры ліхадзейкі Сердзюковай.

Прачнуўшыся сярод ночы, Мішкін гонар прагнуў помсты. Скінуўшы коўдру, мсцівец басанож пацеляпаў на кухню. Хадзіць басанож ён лічыў карысным для здароўя. Калі раніцай

прачынаўся ў чаравіках, страшна балела галава. Кухня сустрэла начнога хадака няветла. Нож, нахабнік, наогул дзесьці схаваўся. Але жаданне помсціць не зменшылася. Толькі на нейкае імгненне Мішцы стала крыўдна за ўбогасць сваіх памкненняў. Аднак прыйшлося плюнуць на згрызоты сумлення і пачаць дзейнічаць па прынцыпе: будзь што будзе. Для пачатку ён зжор слоічак смятаны. Пакуль два жоўтых вока, выплехнутыя з яечных шкарлупін, вурчэлі на гарачай патэльні, адкаркаваў бутэльку піва і папярхнуўся рыбай з непрыстойнай назвай “хек”. Адкашляўшыся, знайшоў яшчэ нейкі ядомы хлам і азвярэла зжаваў яго.

Пасля помслівага абжорства Сердзюкоў тупа ўтаропіўся ў люстэрка. На здзіўленне, ён убачыў у ім не сваю сытую морду, а вылітага Луі эпохі Адраджэння маркізы дэ Пампадур. Парасячае самазадавальненне прыпаўзло да Мішкі на жываце, як той верны цюцька. Захацелася пайсці ў спальню, сарваць коўдру і паймець сваю фаварытку, што ціхамірна сапела ў дзве дзіркі. Сербануўшы аглаблёвыя паўшклянкі разведзенага гарэлкай партвейна, ён гулліва парысіў да логава жонкі.

Дасягнуўшы ў сціслы тэрмін саракапяцігоддзя, тая здолела абблытаць свой узрост павуціннем немагчымасці яго ідэнтыфікацыі. Кожны раз, кладучыся спаць, Сердзюкоў баяўся чапаць жонку, асцерагаючыся атрымаць тэрмін за растленне непаўналетніх.

Але сыты трыбух стаў крыніцай бадзёрага духу. Абдыманкі з цалаванкамі выглядалі цяпер наіўным лепетам. Крадучыся да пасцелі, Мішаня нёс сваё нецярпенне асцярожна, як закаханая сойка. Праўда, выдушыць з сябе далікатныя

інтанацыі не атрымлівалася. Абвіслы жончын азадак і крывенькія ножкі тапілі ўсякае натхненне. Выратавала непакрытае коўдрай сцягно, звабліваe, як цыганская скрыпка. Мабілізаваўшы духоўныя сілы, Сердзюкоў зашаптаў:

– Люба, Люба-а-а… Прачніся, курачка мая. Вось ён я, твой пеўнік!

– Якая Люба?! Якія куры-пеўні! – залыпала соннымі вачамі мадам Сердзюкова і падарвалася, як карнавальная петарда. – Сволач! Бабнік! Нягоднік! За Любу зараз кулаком кожнае вока праштампую, галадранец смаркаты.

Сердзюкоў асалапеў, але, паволі прыходзячы ў сябе, загугнявіў:

– Люба?! Ах, так! Люба, браткі, люба. Люба, браткі, жыць… Гэта песня за язык учапілася! – узрадаваўся Мішка своечасова падаспелай знаходцы. Між тым халодны пот не на жарт праняў “песнялюба”: “Ё-маё, ледзь не спаліўся, забыўшыся імя свайго заляжалага гарбуза. Дай Бог памяці, каб успомніць. Дзеці клічуць яе мамай, унукі – бабцяй, а я сам – старой”. Патрапіўшы ў беспрасветны тупік, Сердзюкоў абвяў. Усё, што ў ім закіпаць пачынала, выкіпела каля ложка ў кулачок.

– Добра, малпа, калі абудзіў, давай куляцца, – і абазваная “Любай” жонка сцягнула з сябе начную кашулю.

– Так, я малпа, любоў мая. І пара людзей, якія паходзяць ад мяне, таму пацверджанне.

Сердзюкоў падлез пад свой край коўдры.

– А сёння, – працягнуў ён, – ляжам з табой раўнёханька як дзве палавыя дашчэчкі. Не яздок я ў гэтую ноч. Арганізм, напалоханы табой, спрацаваў ухаластую. Ну, пакуль, дарагая. За апарацік зла не трымаю і, спадзяюся, да раніцы цябе не ўбачу.

– Ты куды надумаў зваліць? – насцярожылася таварышка па жыцці.

– Не турбуйся. Проста я спаць буду, адвярнуўшыся да сценкі.

Засынаў Сердзюкоў, супакоена ўсміхаючыся. Начная помста атрымалася на славу: абястачыўшы сябе і зжэршы апошні агурок, Мішка пакінуў жонку на ўсю ноч без інтыму.

# Жарсці Фалапаева

Хадзілі чуткі, што Мікіта Фалапаеў быў тайным аматарам жарсцяў. Сам ён людской балбатні цураўся, не дазваляў чужым языкам крамзоліць свае вушы. Праўда, мог сekануць з пляча, будуы ўшчэнт п'яным:

– Да дупы мне вашы плёткі.

У такія моманты іншыя думкі, беспадстаўна замуштраваныя, сядзелі цішком у патайных закутках свядомасці. Аднак найлепшай рысай Фалапаева быў талент камерсанта. Не без дапамоі шарлатанства здолеў Фалапаеў раскруціць свой пахкі бізнэс, збываючы даверлівым абывацелям лазневыя аксэсуары. Алеі, мусы, гелі, пены, мяккае мыла для далікатных месцаў і іншая шампумпень прыносіла немалы прыбытак. Не бяда, што дзялок жыў далёка ад Палерма, затое ў справунках аказаўся добры, як італьянскі равіёлі ў смятане.

Загадкавая руская душа, цёмная і бясконцая нібы космас, цягнула Фалапаева ўліцца ў маштабную жарсць, нашпігаваную небяспекамі, як здобны рулет макам. Парой Мікіту глючыла ад дакучлівых мрояў. Часам ён уяўляў сябе захопнікам пірацкага лінкора з боегалоўкамі, і як удзячны свет, выратаваны ад катастрофы, разлічваўся шчадралюбнай туземачкай з вялізнымі чорнымі цыцкамі. Парой уяўляў перахопнікам сігналаў шпіёнскага спадарожніка, і як супрацоўніца разведцэнтра Эвяліна, узрушаная

да глыбіні сваёй вагіны, аддаецца яму, не здымаючы кіцеля з капітанскімі пагонамі, проста на тактычных картах Еўрасаюза.

Між тым заядала руціна, і Фалапаева нудзіла ад дробных людскіх жарсцяў: нечых здрад, пазыковых разборак і іншага папандоса. Хтосьці вылятаў у трубу, хтосьці гуляў у скрыню, камусьці ў самы раз прышліся сталёвыя "бранзалеты". Пераседзець у цёмным куце гэты вэрхал было немагчыма. І Фалапаеў, выжываючы ў кашмары, сам станавіўся часткай кашмару. Ішоў і прадаваў душу д'яблу за ноч з Альбінай.

Альбіна, прыгожая дзеўка-нягодніца, ад якой несла часныком, перагарам і яшчэ чымсьці значна горшым, бескарысліва кахала Мікіту, любіла халодныя апельсіны, цёплае надвор'е і слова "гейзер". Альбіна наіўна лічыла, што гэтае слова мае нейкі патаемны сэнс, пра які не прынята казаць услых. Таму і любіла. Быў у яе і асаблівы дар. Звесіўшы ножкі з ложка і склаўшы рукі на грудзі, Альбіна, гледзячы на голага Фалапаева, магічным голасам шаптала:

– Сіўка-бурка, вешчая буланка, устань перад мной, як ліст перад травой.

Мікіта, зацюканы ўедлівымі пакупнікамі, бубніў у адказ:

– Канкрэтней выказвайся. Каму ўставаць? Як уставаць? У мяне пасля рынка асацыятыўны рад аслаб.

Але той, каму належыла ўставаць, уставаў. Фалапаеўскі геній, сціплы да пары да часу, набракаў проста на вачах. Ды так, што з нязграбнага стручка атрымліваўся прыгожы катах у рабрыстым прэзерватыве з кропкавай тэкстурай. Заплюшчыўшы вочы, Мікіта навобмацак шукаў Альбіну і ў чарговы раз пераконваўся: дзяву-

ля-красуля мае дзве нагі, дзве рукі, двое грудзей і яшчэ шмат мяккага і пухнатага. Аднак сёння Фалапаеву перашкаджалі шум і крыкі, якія даносіліся з вуліцы. Пакінуўшы Альбіну, ён падышоў да вакна. Усю праезную частку запаланіла раз'юшанае людское мора.

– Аля! Дэманстрацыя ў падтрымку міру, давай далучымся.

– Угу! – любуючыся дужымі ягадзіцамі Мікіты, адгукнулася дзяўуля. Але, апамятаўшыся, усклікнула: – на халеру!?

– Як на халеру?! Бутэлькамі пакідаемся, мурло чужынцу наб'ем. Ці шмат шанцаў дае жыццё давесці, што я мужчына?! Пры мамантах было прасцей. Прыцягне мужык з палявання сваёй бабе мяса забітага звера, зробіць ёй дзяцей і зноў гойсае ў пошуках здабычы. Тады жыццё зіхцела пагрозай!

Альбіна маўчала, не разумеючы, які клоп укусіў Мікіту, калі клапоў вынеслі разам са старой мэбляй.

– Апамятайся, Мікітка! У цябе ёсць усё, каб сустрэць старасць на залатым унітазе. Самы час пра занядбалым сяло падумаць. Старэе яно і співаецца. Зямля былнікам узышла. У сяло ехаць трэба, дзетак пладзіць!

– З'ездзім і наплодзім, але не цяпер. Народ на вуліцу выйшаў, і маё месца сярод адважных людзей.

– Добра! Хай будзе так, як ты хочаш. Але я цябе не кіну. Мяне нават свіст куль не страшыць. А трэба будзе, дык я цябе на сябе пакладу і выцягну нямоглага з любога пераплёту.

У ботах і целагрэйках парачка ўлілася ў людскую раку. Ішлі моўчкі хвілін трыццаць. Падхапіўшы на хаду камень, Фалапаеў спытаў:

– Куды ідзем мужыкі? Зброю хутка пачнуць выдаваць?

– Лічы, што дашлі, – адазваўся вусаты дзядзька, – вось ён, наш "Смольны".

Палац іскрыўся гірляндамі агнёў. Дзесьці глыбока ўсярэдзіне трывожна ўсхліпываў народ: "А-а-а-ё-ё-ё!" У закутках палацавых калідораў змучаныя людзі шапталі шаманскія замовы, прызываючы перамогу. Альбіна павязала Фалапаеву бант з пунсовага станіка.

– Зям-лю ся-ля-нам! – басам выгукнуў Фалапаеў, трасучы кулаком. – Фаб-ры-кі ра-бо-чым!

– Заплаці падаткі і будзь добрым! – хіхікнуў, прабягаючы міма, хлапчук.

– Хто тут галоўны? – заёрзаў Мікіта, аглядаючыся па баках.

– Ты, хлопец, не мітусіся, – пачуўся з натоўпу стомлены голас. – І так моташна. Нілыча шукай. Ён табе растлумачыць, што да чаго.

– Ні-лыч! – зычна паклікаў Фалапаеў.

На крык з прыцемку буфетнай стойкі выскачыў чалавек з парасонам у руках.

– З якіх, тавагыш, будзеце?

– З базарных.

– Заможны, стала быць, мужычок. І гэта пгавільна, што вы да нас далучыліся. Добга, што гэты ваг'яцкі час і вас непокоіць! Вось у гэтыя дзвегы ідзіце і адгазу на лаву сядайце. Тамака вас абмундзігуюць і забяспечаць іншай амуніцыяй. Мужычок вы моцны, такія нам да загэзу патгэбныя.

– Я Мікіту аднаго не пушчу! – выпнула грудзі Аля.

– Павегце, мілая, вам у гэтыя дзвегы нельга. Гэта я вам без усякіх пагасонаў заяўляю. Бабу

бгаць з сабой не раю. Баба з возу – каню лягчэй. Не жаночая спгава лезці ў мужыцкія газбогкі.

– Я бачу, вы да жанчын не раўнадушныя? – нечакана спытаў Фалапаеў.

– З чаго вы ўзялі, мой мілы дгужа?

– Парасон вы неяк своеасабліва зачахляеце. Быццам на нешта міжполавае намякаеце.

– Ах, пагасон! Нават не пгыпомню, хто мне яго падагыў. Надзюшка, а можа Інуля, а можа нават Фелікс – жалезны дгывасек. Ідзіце! – падапхнуў Нілыч Фалапаева. – А то вялікія спгавы без вас здзейсняцца. А ваша газумная дама сама лёгка пгойдзе ў дамкі. Вагта ёй толькі сказаць: “Я дам…ка”.

За дзвярамі Фалапаева сустрэлі як роднага. Хутка знайшлася па памеры форма, шлем, канькі, клюшка. Побач на лаўцы запасных апынуўся Цяплухін, легіянер з Туркменіі.

– Цяплуха! – Фалапаеў пхнуў у бок суседа. – Ты ў рэнтгенкабінет паспеў схадзіць?

– Паспеў! Праўда, міргнуў неасцярожна і прыйшлося рабіць паўторны здымак.

– А я не пайду. Мяне жонка кожны дзень наскрозь прасвечвае, выяўляючы гатоўку.

– Саколікі, канчаем балбатаць! – за спінамі хакеістаў узнік трэнер. – Ваша хвіліна славы прыйшла. Забудзьцеся пра выпендрож. Схапілі шайбу – і да фінальнай сірэны не адпускаць. Лашчыце яе, быццам жаночую цыцку. Лік наш! І перамогу трэба ўтрымаць любым коштам.

– Няма той сілы, што можа мяне адарваць ад цыцкі, – абнадзеіў Мікіта трэнера.

Як шайба ўчула з’яўленне на лёд Фалапаева, гэтага растлумачыць нельга. Неймаверным адскокам адляцеўшы да Мікіты, яна ўляглася побач з каньком, як верны дварняк. Мікіта зваліўся

на лёд і падмяў шайбу пад сябе. Першым да Фалапаева прыскакаў жлоб з чужых з мордай у шрамах. Ён атакаваў, як атакуе дзікая котка, дазнаўшыся, хто ўтапіў яе кацянят.

– Мяне голымі рукамі не возмеш! – разахвоціўся Фалапаеў.

– Трымайся, Мікітка! Віртуоз ты наш дамарослы! – зараўлі балельшчыкі на трыбунах.

Падаспеў суддзя. Свістульку ў рот сунуў, але не свішча. Ці то ангіна яго ў непатрэбны момант сцебанула, ці то пакет з грашовай начынкай, падсунуты Нілычам, у кішэні намацаў. Вось тут Мікіта і дапёр: рукі бугая не шайбу пад ім шукаюць, а падбіраюцца да таго, без чаго ён да Альбіны ўжо не хадок.

– Прагну я цябе, ох, як прагну. Прыйдзецца табе зараз прагнуцца! – злараднічаў бугай – сэрца маё не падманеш, яно ўсё чуе.

– Хлусіць твая чуйка! – агрызнуўся Фалапаеў і скасіўся на секундамер, які расстрэльваў секунду за секундай, нібы звар’яцелы кілер.

– Ты мне мазгі не пар, – напіраў настырны жлоб. Чмякаючы, цмокаючы, квакаючы, ён яшчэ глыбей запусціў пад Фалапаева свае лапы. – Скажу па сакрэце: ёсць чым цябе здзівіць.

– Адвалі ад мяне. А не – дык будзеш вісець на сваёй здзіўлялцы ў бярозавым гаі на асінавым суку.

– Хочаш шчасця? – не адступаў дзяцюк.

– Усе яго хочуць.

– Хочуць, але не ведаюць, што слова “шчасце” дзеліцца на “шчас-я-ця-бе”.

– Калямба! – загарлапаніў Мікіта, імітуючы баявы вокліч апачэй. – Дайце мне аўтамат, я бугая прыкладам у сківіцу гваздану.

– А-а-а-а! – заенчыў граміла голасам Фалапаеўскай жонкі.

Спалохаўшыся д’ябальскага пераўвасаблення, Мікіта адкрыў вочы. Жонка-таўстуха сама не свая сядзела на ложку ў карункавай бялізне. Далікатная скура, вейкі і трапятанне – усё, як звыкла, пры ёй. “Сон!” – прастрэліла ў мазгах Фалапаева.

– Нюр, ты чаго галосіш?

– Чаго, чаго! Калі цябе калашмаціла, як прыпадашнага, я маўчала, але калі ты за грудзі мяне схапіў і нібы грушу трэсці пачаў, я спужалася і залямантавала.

– Нюра, – паморшчыўся Мікіта, – “спужалася” і “залямантавала” – словы-паразіты. Пазбаўляйся ад іх. Пяты год са мной у горадзе жывеш. Пара ўжо забыцца на шкодныя звычкі.

Крытыкуючы жонку, Фалапаеў імкнуўся не перагнуць палку. Моўчкі зносячы сямейныя нязручнасці, ён разумеў, што Нюрыны недахопы не дазволілі ёй знайсці лепшага мужа.

– Ты, Мікітка, раней праз сон размаўляў, і я разумела, што табе сніцца. А зараз маўчыш, нібы змей. Я ўся замардавалася ў здагадках.

– Не крыўдуй, Нюр! Кашмар прысніўся. Быццам у цёмным тамбуры электрычкі мяне братва керасініць пачала. У іх ад маіх геляў валасы павылазілі.

– Так я табе і паверыла.

– А ў што ты паверыш?

– У тое, што ў цябе эратычныя сны. Я ведаю, табе сняцца памеры станікаў і мадэлі трусоў.

– Хлусіць не буду. У дзяцінстве сніліся. Зараз адна парнуха сніцца, ды і то часам.

– А ў чым розніца паміж парнухай і эротыкай?

– Табе што, зараз сярод ночы тлумачыць?!

– Ну канешне! Уначы ніхто званкамі перашкаджаць не будзе.

– Эротыка, Нюра, гэта калі глядзіш – і табе падабаецца, а парнуха, гэта калі глядзіш – і табе хочацца.

– Нешта я не ўрублюся ў сэнс тваіх словаў. Даходлівей растлумач.

– О-о-о, Нюр! Давай лепш спаць. А то залезем з тлумачэннямі ў такія нетры, што да раніцы не зможам выбрацца.

– З табой заснеш. Круцішся, як жыўчык.

– Жыццё гэткае, – уздыхнуў Фалапаеў, – круціцца трэба.

# Піяршчык

Ухапіўшыся за валасы, люблю ў адзіноце доўга ўглядацца у чарнату бяздоннага неба. Гэта мой спосаб змабілізаваць духоўныя сілы і акунуцца ў свет салодкіх мрояў, што так хвалююць кроў. Раскідай у такія імгненні вакол мяне апельсіны ды паабяцай бязмежную райскую асалоду – не надта зачаруюся, таму як дапёр сваім розумам да геніяльнай здагадкі: Божае царства не на нябёсах, а ў душы чалавека.

Раней падобныя ідэі не начавалі ў маёй нявіннай галаве. А тут раптам стаў неўтаймаваным піяршчыкам разумных думак. Па дробязях не гружуся. На маленькія паскудствы адкрыта плюю. Але з найбольш поўнай нагрузкай галава працуе тады, калі сілай унушэння тэлепартую жонцы свае жаданні. Паддоследная мышка з ледзь заўважным трымценнем адгукаецца на кожную маю просьбу. Аднак, калі быць шчырым да канца, ёсць у нашых адносінах адно непераадольнае непаразуменне, якое стрэмкай сядзіць у душы. Вось пра яго і хачу распавесці.

Сёння прыйшлося прачнуцца ад гудзення нахабнай мухі. Жамяра апантана тараніла мордай чыста вымытае шкло ў спадзяванні, што за ім чакае поспех, шчасце і свежая какашка. Уся мая вопратка буйкамі ляжала ад дзвярэй да ложка, пазначаючы шлях няўпэўненасці і татальнага нежадання складаць яе стосамі на крэсле. Гэтай ноччу я бавіў час на карпаратыўнай вечарынцы. Вечарынка нагадвала паганскае ігрышча з не-

пазбежным начным купаннем у фантане і ўсеагульным братаннем добра падпітых людзей. Адзначалі дзень “Змагання з сусветным злом”. Шэф асабіста вёў улік выпітага, падазраючы ў слабых пітаках інтрыганаў, здольных на падлянку. Будучы страшна дасціпным, ён хаваў свае ўбогія духоўныя патрэбы ў звышдасканалых мацюках. Для ўмацавання карпаратыўнага адзінства ўсе гульцы здавалі свае трусы ў дырэктарскі мяшок. Хто якія выцягне, таму ў тых і дадому ісці. Бос, які лічыў сябе чалавекам дэмакратычным, таксама не ўпускаў шанец патрэсці яйкамі перад красунямі. Весяліліся па прынцыпе: хто апошні, той і тата. Ніхто супраць гэтых правіл не выступаў. Шэф нармалёва башляў, і думаць, на якія фіглі-міглі ўтрымоўваць сям’ю, машыну і палюбоўніцу, не прыходзілася. Раніцай наступнага дня ў офісе адбываўся абмен трусамі. Вясёлая важданіна расцягнулася аж да паўдзённай кавы.

На апошняй вечарынцы, стаўшы ў жывую калейку, каб здаць трусы, я апынуўся побач з Галяй, інжынерам па маркетынгу. Яшчэ нядаўна я даволі блізка сябраваў з ёй.

– Паправілася ты, Галя, – кажу са спачуваннем – жывоцік, нябось, ад піва? Ты яго палюбіла ў апошні час.

– Якое піва, ідыёт? – нервова цяробячы стрынгі, выпаліла яна. – У мяне плодзік завязаўся. Гэта ты мяне ўрабіў!

– Не заводзься, Галюся. Вечар мае быць выдатным. Калектыў наш спагадны, калі здарыцца што, выхаваць дапаможа.

– Ты ўсё прадумаў, злыдзень. Здолеў выкарыстаць маю хвілёвую слабасць.

– Не прыніжай маю годнасць, усё доўжылася

значна даўжэй. Урэшце рэшт, я не вінаваты, што ты, не ўправіўшыся з пачуццямі, легла спінай на вечка ўключанага ксеракса. Табе нават не прыйшлося падмахваць мне. Пакрычы на караоке, выплюхні негатыў, і думкі зноў стануць выразнымі.

Хоць трымаўся я малойцам, але дрыжыкі па целу прабеглі заўважныя. Выручыў Генка, добры сябра. Заўважыўшы на маім твары заклапочанасць, з трывогай спытаў:

– Чаго такі змрочны? Якая праблема цябе грызе?

– Галя цяжарная. Кажа, што ад мяне. Жывоцік у яе прыкметна падрос за вечар.

– Перастань вярзці глупства! Галя худая, як запалка: скура ды косці. Натрэскалася канапак з вяндлінай. Плюс кампот з чарнасліву. Вось і надзьмуўся жывот. Яшчэ гадзінка такога дзікага абжорства – і спадніца на ёй трэсне па швах.

Дзякуючы Генцы я не стаў без віны вінаватым. Затое пасля бурнай ночы адчуваў сябе зусім блага. Абуджэнне было жахлівым, аднак сабраўся з сіламі і стаў босымі нагамі на падлогу побач з ложкам. Адчуваю, як здрадлівы халадок прабег ад пятак да цемені. З цяжкасцю адольваючы дрыжанне, спрабую сцяміць, дзе шкарпэткі. Генерую пошукавую думку і мазгавым штурмам запампоўваю яе ў галаву жонцы, якая ў той час грыміць посудам на кухні. Жонка, як верная Сіўка-Бурка, прыскакала са шкарпэткамі ў руках, уся прапахлая смажанай бульбай.

– Ігарок, – ласкава сказала яна, – вось шкарпэтачкі, надзявай хутчэй. Ножкі цеплыню любяць.

Па хітра бегаючых жончыных вочках зразумеў: мая прэмія перабралася ў яе каша-

лёк. Ну і хрэн з ёй! Здароўе даражэй. Хутчэй бы пахмяліцца. Укараняю ў жончын мозг новую ўстаноўку: “Жэрці хачу”. Жонка, улавіўшы думку, чаканіць, як вахтавы старпому:

– Бульбачка шкваркамі запраўленая, агурочак салёненькі ў талерку пакладзены.

Агурочак – добры знак. Агурочак – пачатак майго выратавання. Ад радасных думак атрымаў сапраўднае палягчэнне, быццам аб вушак спіну пачасаў.

– Можаш не мыць рукі перад ежай, гэта не абавязкова, – завіхаецца ля мяне жонка, – ты яшчэ не паспеў на іх пасікаць.

Чапляю відэльцам шкварку, а ладу ў галаве няма. Адхадняк сваю чорную справу каламуціць. Але ў лоб біць: “Дай пахмяліцца” – не дазваляе выхаванне, халера на яго. Шануючы традыцыю, асцярожна, захоўваючы хісткае паразуменне, запускаю чарговую ўстаноўку: “Дзе газета з навінамі?”.

– Вось газета, – прачытаўшы маю думку, паслухмяна адгукаецца жонка. – У Конга пераварот. Палкоўнікі захапілі ўладу. Няма спакою ў свеце.

Неверагодным высілкам волі прыдаю твару інтэлектуальны выгляд. Любяць газетчыкі пужаць: забілі, расчлянілі, пасадзілі! Ад чорных навінаў свет вар’яцее. Толькі калі ты на падпітку, калі ўсё фіялетава, пачуваешся спакойна. Між тым агурочкі на стале адкрыта дражняць.

– Агурочкі добрыя, выдаліся на славу! – перахапіўшы мой погляд, пахвалілася жонка.

Што да мяне, дык крэмзаць ножыкам агурочкі без гарэлачкі на стале – недапушчальная раскоша. Плаўна, па нябачных пératоках пачынаю зліваць жонцы галоўную думку гэтай раніцы: “Даставай-ка, галубка, бутэльку з гарэлкай. Яна

ў маразілцы заінела. Трываць няма сілы. Ратуй мяне хутчэй, пакуль нутро не згарэла”.

Спахапіўшыся, жонка пляскае далонямі па каленах, пстрыкае пальцамі і стукае сабе кулачком па лбе:

– Забылася, мілы!

Мая рука зашнарыла па стале ў пошуках чаркі.

– Ігарок, ты што піць будзеш…

Не даслухаўшы, радасна мыкаю, прадчуваючы жаданую асалоду:

– Пі-і-і-іць буду яе!

– Мілы, ты мяне не зразумеў! – бязлітасна, быццам цвік за цвіком, пачала яна забіваць у маю няшчасную галаву словы, поўныя крывадушнасці. – Табе гарбаткі наліць або кавай пачастуешся?

– Ты ідыётка, ці што?! – шчырае абурэнне захліснула мяне. – Якая, на хрэн, гарбатка- кава?! Усе мае думкі лёгка чытаеш, а з галоўнай у цябе вечная праблема.

Хаваючы злосць, рукой закрываю вочы. Бачыць задаволеную фізіяномію жонкі, а ў прыдачу дулю з наманікюраных пальчыкаў каля свайго носу – відовішча малапрыемнае.

# Русалы

Мора аказалася сінюшным, а зусім не сінім, як на фотках у гламурных часопісах. Хвалі, падпарадкоўваючыся нечай волі, то прылівалі, то адлівалі. Зразумець раніцай сэнс таго, што адбывалася, было па-за межамі маіх магчымасцяў. Розуму за ноч не прыбавілася. У заклад піў гарэлку з вядра, пакінуўшы ў непрытомнасці пад барнай стойкай васьмярых немцаў, з якімі паспрачаліся. І зараз без божай іскры ў вачах тупа глядзеў, як на пяшчанай водмелі кучаравы юрлівец прагна і драпежна ціскаў пышную брунэтку. Зламаная бурнымі ласкамі таўстуха млела ад задавальнення.

– Лухта непраўдападобная, – буркнуў я. І, загарнуўшыся ў гасцінічную парцьеру, без шкадавання выключыў тэлевізар. – Баба занадта тоўстая для бурнага сэксу. Зверху не ўтрымацца, ззаду не дастаць, знізу рызыкаваць небяспечна. І наогул! Пра што думаюць алігархі?! Пампуюць у Еўропу нафту, газ, а нашаму чалавеку тут патрэбны расол. Марынаду – хоць заліся. А простага агурочнага расола не знайсці. Расолаправод праклaсці трэба для пакутнікаў ад пахмелля. Не мы адны пітушчыя. Немцы таксама любяць шнапсануць.

Гнаны цмянымі думкамі, выйшаў у трусах на балкон гатэля. Унізе булькатала дзелавая “штрассэ”. Як на мой розум, цяжка ў гэтым горадзе жыць рускаму чалавеку. Штораніцы прачынаючыся і падыходзячы да вакна, спакваля даганяеш – немцы ў горадзе. Але заўтра чужына,

насмактаўшыся маіх еўрыкаў, дасць выспятка, а Радзіма, як было ўжо не раз, прыме ў свае яжовыя абдымкі.

– Любіце Радзіму, маць вашу, – апантана гарлапаню, але, збянтэжаны ўласнай адвагай, ціха дадаю: – любіце сваю "маці", як бы яна вас ні мацюкала! А вы, бюргеры, беражыце свае тарантайкі, ім яшчэ па нашых дарогах пыліць ды пыліць. – І без уласцівага куражу, амаль не прыцэльваючыся, сплёўваю з вышыні дванаццатага паверху назапашаную злосць.

У апартаментах мая сяброўка па жыцці круцілася перад люстэркам, перамяраючы абноўкі.

– Дар'я! Пайшлі развітвацца з ахранеўшым ад сытасці гарадком!

Жонка – не бот, з нагі не скінеш, у шафе не забудзешся. Заўсёды са мной: і ў бядзе, і ў адпачынку. Без стуку ўваліўся мой неразлучны таварышок Міколка. У адной руцэ бутэлька "Кувуарзье", на другой вісіць сімпацяжка Аўгусціна.

Пад песню "Ах, майн лібэ Аўгусцін" распалавінілі з Міколкам літр яго каньяку. У пераліку на славянскую мерку выйшла кожнаму камарова жменя. Прыйшлося дабавіць, потым зноў дабавіць і зноў дабавіць. Калі не стала чаго дабаўляць, выйшлі ў горад праветрыцца. Напрыканцы праменада залюбаваліся рэгулёўшчыкам. Спрытнюга, выпісваючы вензелі паласаценькай палачкай, умела разводзіў патокі машын. Раптам ад сцяны дома адпластаваўся кудлаты тып з голенай непрыемнай мордай і, шнырачы вачамі па баках, рушыў да нас з працягнутай рукой.

– Дапамажыце, дзеля Хрыста, у імя Алаха! – яго перакошанае насатае мурло ў акулярах-пятаках не выклікала жоднага даверу.

– Алах цябе акбар! – крычу ў адказ і ад граху

далей цягну сваю кампашку ва ўбогі завулак, які афарбоўкай фасадаў нагадваў змесціва начнога гаршка. Сярод вытанчаных халупаў прыкмячаю рэстаранчык. Каля ўвахода на каваных ланцугах вісіць велізарнае пудзіла шчупака і шклянымі вачамі косіцца на нас.

– Ну што, рыбка мая зубасценькая! – без намёку на муляж пад'южваю жонку. – Пагуляем? А то сцягно паляць! – і дастаю з "лапатніка" пачак "еўрыкаў".

– З табой хоць у вір, ёрш ты мой нняголены! – адклікаецца Дар'я.

Малайчына, піраннечка! Палец у рот такой не кладзі! Добра было б, каб і наступная жонка была не горшай. А Міколку ўгаворваць ісці ў рэстаран не трэба, яму розніцы няма, дзе падносіць і наліваць будуць. Абы ад чаркі да чаркі весялосць памнажалася.

Рассаджваемся. Чакаем, пакуль гарсон меню паднясе, каб з купецкім размахам у ім адзначыцца. Падкатвае заклапочаны таўстун з грушападобнай галавой і ўпірае замест меню… вуды.

Аказалася, рыцары-прашчуры гэтай забягалаўкі ўсталявалі правіла: закуску да шнапса трэба злавіць у стаўку, які ў дворыку аб прыбярэжныя каменьчыкі плёскаецца. У меру рыбацкага шчасця і закусваць прыйдзецца.

– Давай не будзем лёс выпрабоўваць, раптам ліхім акажацца! – дзелавіта прапаную афіцыянту.

– Традышын! – разводзіць рукамі ёлуп.

– Ах ты, карась грушападобны. Я ж магу на твой "традышын" з пралетарскай шчырасцю пакласці сёе-тое з прыборам.

– Дарма гарачышся! – абсадзіў мяне Міколка. – Раз традышын, значыць традышын. Не

будзем прыпадабняцца варварам і паганіць дух рыцарства сваім непаслушэнствам. Жыццё – штука складаная, у ім для ўсяго месца знойдзецца. Апошні раз я быў на рыбалцы, калі фермер Васіль на шашлык паклікаў.

– Падчапіў што?

– Не-а… без шлюх паехалі.

Спускаемся з Мікалаем да ставу па вітой лесвічцы. Вакол птушкі свішчуць. На палянцы вожыкі гуртуюцца. Вось-вось нашы паплаўкі, нырнуўшы ў ціхі плёс, заскачуць на воднай роўнядзі танец рыбацкай радасці.

Мікалай рызыкнуў падабрацца бліжэй да рыбы. Стаў на каменьчык, ды неяк няспрытна гэта зрабіў, паслізнуўся і зваліўся ў ваду. На тэрасе рэстарана – ажыўленне, больш за тое – рогат. Нехта з адміністрацыі знакамі тлумачыць: рукамі рыбу лавіць забаронена! Традышын!

Што рабіць? Абклалі, сукі. Хоць чорта вадзяного прасі, каб чапляў на кручок рыбу за рыбай. І тут собіла мяне скасіць вока на лесвіцу. Божа мой! Лепш бы не касіўся. Падымаецца ўгару па прыступках у такт фанабэрыстай музыцы група русалаў. На патрэбным месцы ў іх вішнёвыя лісцікі, аб'едзеныя вусенямі. Рок-гурт ачмуральнікаў для задавальнення жаночай пажаднасці. Расхваляваўся я за сваю Дашулю. Як яна, стопрацэнтны прадукт нашага жыцця, будзе сябе паводзіць? Добра, калі справіцца з сабой і пашле спакусніка чыста па-руску на …, словам, у тое месца, якое ў негліжыстаў пад лісцікам тапырыцца. Але разам з тым разумею, спакуса – яна і ў Афрыцы спакуса. Лепш бы ўзяў Дашулю з сабой, чарвяка на кручок насаджваць.

– Бачыў!? – звяртаюся да Міколы.

– Ты лепш за паплаўком сачы, а то прыйдзецца

нам з табой тут кукаваць да другога прышэсця.

– Ты ўпэўнены, што ў гэтай лужыне рыба ёсць? – не сцішаюся я. – Падазрона ціха, нават бурбалак не відаць.

– Рыба – стварэнне маўклівае. Ты сам галаву ў ваду засунь і паспрабуй што-небудзь сказаць. Рыбацкі поспех, каб ты ведаў, узнагарода тым, хто мае сталёвыя нервы і чыгунны азадак.

– Месца прыкормленае трэба мець, – праяўляю сваю эрудыцыю, – тады рыбы будзе, як грошай у банку.

– Твая праўда. Месца заўсёды выручыць. Абы рыбу там не паспелі распрадаць, пакуль да яго дабяжым.

Раптам бачу – паскудны чарвяк з кручка сарваўся і да берага плыве ледзь не брасам.

– Ты што, здурнеў?! А ну, марш на месца! – крычу дэзерціру.

– Не крычы! – абсадзіў мяне Міколка. – Чарвяк мае рацыю. Так і трэба. Яго там ледзь не зжэрлі, а жыць любое стварэнне хоча.

Рабіць няма чаго, бяру больш рахманага чарвяка, нанізваю на кручок і закідваю ў ставок. Секунд дванаццаць прайшло, шапчу Мікалаю:

– Ну, як справы? Колькі нацягаў?

– Калі злаўлю гэтую дрэнь, што вакол паплаўка карагодзіць, а да яе яшчэ чатыры паскудзіны, то будзе пяць рабынь, гэта значыць рыбынь, гэта значыць… Ды ну цябе! Не прыставай! Мяне і так ванітуе ад пачуцця нашай бездапаможнасці перад прыродай.

Адварочваюся і ледзь чутна шапчу аднымі вуснамі:

– О, літасцівы Божа! Злітуйся нада мной! Дай магчымасць злавіць такую рыбку, пра якую мог бы ўсё жыццё распавядаць, не змяніўшы ні слова.

Тым часам на верандзе тэнар праспяваў з інтымнай хрыпатцой:

– Гэй, юхнем! Яшчэ раз, яшчэ раз, яшчэ разок юхнем!

Чую смех Дашы. Даўно яна так не смяялася. Нават калі п'янаму казытаць даводзілася. Відаць, "юхаюць" там не па-дзіцячаму, а з веданнем справы. Не вытрымаю я гэтага, бля буду. Ім там пляваць, як вярблюдам, што мае розум, гонар і сумленне закіпаць пачынаюць. Нервова пытаю:

– Ну што, Коля, клюе?

– Аж страх бярэ! – разумнічае Мікалай. – Кожны раз, калі насаджваю чарвяка на кручок, хаваюся за дрэва, не даючы рыбам разарваць сябе.

Каб супакоіцца, пераклаў вуду з рукі ў руку. Калі б не ведаў, што рыбалка супакойвае нервы, кінуў бы гэты занятак к чорту. Захацелася звычайнага падсмажанага мяса, каб тлушч з яго сцякаў на падстаўленую лусту хлеба, і чарку гарэлкі, хай нават не халоднай. Не, дзве чаркі. Адну за сябе, адну за Дашку вып'ю. Не чужая мне баба.

– На рыбалцы галоўнае своечасова наліць і выпіць! – нібы чытаючы мае думкі, заяўляе Мікола.

– Калі такі разумны, давай, налівай! – адчуваю, яшчэ трошкі і загарлапаню нечалавечым голасам: "Бляяядзііі!" Шчыра кажу! Бля буду. Але, з іншага боку, добра, што рыба не клюе. Насмешак баюся. Не ўмею рыбу вудзіць. Ізноў на верхатуру вочы скасіў. Як там мая любая? Ці моцныя яе рэдуты? Шкада, механізму няма, каб яе ціпка лясь – і пад ключык.

І тут Мікалай умудрыўся падчапіць велізарнага ляшча. Лешч трапіўся завадны! Б'ецца ня-

стрымна, у рукі не даецца, вырываецца, быццам брандспойт з тугім напорам вады. Мне да чужога ляшча справы няма. Свайго вартую. Але не змог утрымацца, каб не даць параду.

– Ты, Коля, калі хочаш ляшча супакоіць, утапі яго ў сажалцы!

Падбягае да Міколкі спецперсанал з патэльняй і за паказальную рыбалку прэмію падносіць – фужэр рому. Ну і мне, бо стаяў побач, чарачка перапала. Прыгубіў крышачку. Буду шчырым – хвацкі напой пірацкай закваскі. Думаю, махану яе малюсенькую без рэшткі, аж раптам клюнула. Падсякаю. Пячкур! Вокам не паспеў міргнуць, як гэты шпунцік проста з кручка сігануў да мяне ў чарку.

– Ах ты, дзялюга! – крычу яму. – На чужое дабро раток не разяўляй, – чапляю пячкура за хвост і назад кідаю ў ваду.

І вось тут я спазнаў сапраўдную меру рыбацкага шчасця. Удача напала на мяне, як мухі на мёд. За пятнаццаць хвілін вядзерца акунёў нацягаў. Драбнейшых прыкрыў мацёрай рыбінай. Папляскаў яе па наждачнай бакавіне, а яна мне ў адказ хвастом заляпала.

– Пячкура лай! – яхідна кажу. – Набалбатаў, нябось, што на беразе наліваюць і адпускаюць! Дык ты, акунь бесталковы, ледзь кручок не зжор, пагнаўшыся за дарэмшчынай. Падстаўляй кішэнь, “рашпіль”! – хапаю вядзерца і з падскокам спяшаюся за Мікалаем.

– Як умельцы ўсё тонка абставілі, – цямлю на хаду. – Сплавілі мужа на рыбалку, а да жонкі русала ачмураць прыставілі. Вось яна, хвалёная дэмакратыя з ваўчыным ашчэрам.

Узлятаю з невясёлымі думкамі на верхатуру і бачу: Дар’я, акружаная русаламі, ззяе як начышчаны чаравік.

– Даражэнькі! – убачыўшы мяне, замахала рукой Дашка. – Я гэтак без цябе сумавала! Гэтак сумавала! Прабыў бы ты на рыбалцы яшчэ даўжэй, я б засумавала яшчэ больш.

# Прыдуркі

Брахлівая інфекцыя ўкусіла Падцярухіна ў басаногім дзяцінстве. Налётаецца смаркуля, навырабляецца да збітых каленак, дахаты прыдыбае, а там мама цікуе з папругай у руках.

– Бесталковы ты мой! Ізноў портачкі пасеяў?

– Не сеяў я, мама! Дзяўчынкі забралі, калі ў лазні за імі падглядваў.

– Мілы ты мой, я рублікі на абноўкі не чаканю. Прыйдзецца панюхаць, чым пахне бацькава дзяга.

Лупілі малога Падцярушку за нявінную хлусню няшчадна. А можа, і не за хлусню, а проста лупілі, дурноту выганяючы. Але цяга да бязбожнай хлусні толькі мацнела ў ім з года ў год. Даўно зацярушыла валасы белым інеем, а жаданне хлусіць не паменшылася.

Сутыкнуўся надоечы Падцярухін з Лёшкай Канапаевым. Пару гадкоў назад лайдачылі разам у адной будаўнічай шарашцы. Быў Канапаеў худзенькі як шчэпка, з друзачкай у штанах. Кінь у такога шыбздзіка саплю і пераб'еш на дзве няроўныя часткі.

– Лёха-а-а! – састроіў шчаслівую грымасу Падцярухін. – Дзе ты? Як ты? З кім ты?

Канапаеў хацеў было не пазнаць Падцярухіна, але ўвярнуцца не атрымалася, і ён, сурова чаканячы словы, павучальна прамовіў:

– Ёсць, Дзіма, тыя, хто працуе. І ёсць тыя, у каго пісталет. Я сярод тых, у каго пісталет. Ахоўваю дэпутата. Цяжкі гэта хлеб. Заўсёды трэ-

ба быць напагатове. Словы ў маёй справе высока не цэняцца, даводзіцца лёсу на плаху кожны раз згустак нерваў выкладваць.

– Веру, браток. Ох, як веру! – ілжэзайздрасцю адбілася на твары Падцярухіна. – Час дастаўся нам з табой гнюсны, хітры і нахабны. Не паспяваеш дзюбаць бліжняга, гадзіць на ніжняга і караскацца з апошніх сіл да прывіднага поспеху. Але табе пашанцавала, пад дэпутатам бабла накосіш!

– Пра грошы нават і не мару ! – адмахнуўся Канапаеў. – З гадамі перастаў іх разумець. То пачынаюць заканчвацца, то заканчваюць пачынацца. Звар'яцець можна! Але не буду цябе, Дзімон, грузіць сваімі праблемамі. Сам ты як? Кажы, калі ёсць што сказаць.

– Сам я, дзякуй, хранова. Зблытаўся з алігархамі. Зараз галава пухне ад біржавога хламу: барэлі, еўры, баксы.

– Слухай, можа палегчыш галаву, пазычыш пучок даляраў да месяцовага зацьмення? – з садысткай ухмылкай запытаў Канапаеў.

– Вось у гэтым я не памагаты. Жонка ланцужным сабакам на кашальку сядзіць. За еўрык артэрыю парве.

– Усё не так і не гэтак! – засмуціўся Канапаеў. – Куды ні ламануся, куды ні сунуся, усюды аблом чакае катам на эшафоце.

– Мяне, Лёша, даўно нічога не дзівіць. Усё да нас падабрана. Усё ўкрадзена. Ні грошай, ні думак, ні нафты, ні газу. А чужога не хапнеш – сваё не з'явіцца.

– Супакойся! Ты з алігархам, я з дэпутатам – накуём праклятага металу на ананасы з рабчыкамі, будзем яшчэ сядзець і радавацца.

– Слова "сядзець" праглыні і больш не агучвай. Нядобрае гэта слова.

І, каб развеяць навіслую няёмкасць, Падцярухін пахваліўся:

– Два разы развесціся паспеў. Толькі патрэбную жанчыну адшукаю, як побач з'яўляецца "кашалёк з вушкамі" і маю кралю цап-царап у свае апартаменты!

– А мяне дэпутат ажаніў… "Ахоўнік без жонкі, – доўга ныў ён, – гэта стрэльба без прыклада!" Падабраў раскошную фігурыстую бландзінку, і зараз нашаму захапленню няма мяжы. Часам на падпітку крыкну: "Добрая ў мяне жонка!" А рэха ў дэпутацкай кватэры мне ў адказ: "Добрая ў цябе жонка".

– Нешта, браток, мы ўсухамятку гаворым. Давай нашу сустрэчу астаграмім. Як кажуць славяне, падымем шклянкі за нас з вамі і за хрэн з імі.

Падцярухін нутром чуў схаваную пад курткай у Канапаева пляшку гарэлкі. Але ў таго былі свае планы на гэтую бутэльку.

– Спяшаюся, – адмахнуўся Лёшка. – Чаргу заняў. Візу на Барбудос афармляю. Ляцім з дэпутатам адэмакрачваць мясцовую знаць, – і часануў за вухам, начэсваючы новую пару думак.

– Вось ты як! – заскрыгатаў зубамі Падцярухін, але выгляду, што засмучаны, не падаў. – Тады і я спяшаюся на фуршэт у гонар сенатараў з Капіталійкі.

На тым і разбегліся. Гадзіны не націкала, як зноў Канапаеў наскочыў на Падцярухіна. Відаць, дзень быў такі – аварыйны. Убачыліся яны на гэты раз у прысадзістай заядалаўцы з ласкавай назвай "Паганка".

– Фуршэт фуршэтам, а "стапарык" прапусціць пад сечаны шніцаль ніколі не забудуся. Такая мая парода – нічога не забываць! – не міргнуўшы

вокам, апраўдаўся Падцярухін. – Простыя макароны, а заходзяць як шашлык, – і махануў следам поўную шклянку гарэлкі, каб не дзяліцца.

– Перад Барбудосам зайшоў капусткі пасёрбаць на курыным булёне, – падсаджваючыся да стала, Канапаеў кінуў пад ногі авоську з двума пачкамі пяльменяў. – Прыкупіў пяльменны закусон пад бананаўку для барбудскіх плантатараў.

– Дарэчы, Лёша, знаёмся, – і Падцярухін кіўнуў на маладуху, якая сядзела за сталом, – Гіля, мая жонка.

– Дзіўнае імя Гіля. Маланскае?

– Не. Французскае. Па пашпарце яна Гільяціна. Пазнаёміліся з ёй пры цёмных абставінах. Аднойчы яна звалілася ў ваду. Пачала тануць. Я кінуўся ратаваць і стаў тануць побач. А калі нас адкачалі, мы пажаніліся. Праўда, Гіля?

Гіля маўчала.

– Не звяртай увагу, Лёха. Яна глухаватая. Але ўсё, пра што кажуць, разумее па руху вуснаў.

– Ды яна проста п’яная! – не стрымаўся Канапаеў.

– І сапраўды, набухалася, сцерва, пакуль я макароны ўтоптваў! – непадробна здзівіўся Падцярухін.

– А ты, бухарык, мне наліваў? – ускінула галаву Гілька. – Вось сырок загрызці прыгатавала, дык ён хутка плеснявець пачне, пакуль ты наліць збярэшся.

– Супакойся, Гілюша, – расчуліўся Канапаеў і пагладзіў лахудру па руцэ, – цяпер сербанеш чарачку пад сырок. Палегчыш пакуту свайго чакання. Я паклапачуся. Падцярухін, што п’е твая жонка?

– Кроў маю п’е.

– Ты чаго рукі распускаеш? – побач з Кана-

паевым стаяла маладжавая цётка з тварам колеру хачапуры з печкі. – Гладзь свайго ката, а не маю дачку. А ты, Зіна, таксама добрая! Я ў прыбіральню, а ты хахаляў падчапіла?! Яны гарэлку п'юць, макароны жаруць, а табе нават капуснага ліста на запалёны лабешнік не прыклалі! – і цётка плюхнулася на вольнае крэсла.

– Ой, крэсла ў вас сырое.

– Гэта не крэсла сырое, проста села ты, матуля, на пяльмені, якія астылі, – іх твая дачка адставіла, каб мордай у талерку не ўпасці.

– А-а-а! – завыў здагадлівы Канапаеў, – дык ты, Падцярухін, самазванец, прысвоіў Гілю, гэта значыць Зіну…

– Я першы сюды прыйшоў. І маю права паводзіць сябе як захачу.

– Саступі. Будзь чалавекам. Яна ж нічыйная. Я гэта зразумеў. Не саступіш зусім, хоць падзяліся.

– Не буду з табой дзяліцца, яна мне цалкам патрэбная. – Падцярухін не мог прабачыць Аляксею заныканую бутэльку.

– Гэй, а мяне кахаць няма каму, ці што? – спытала цётка, аддзіраючы прыліплыя да азадка пяльмені і кладучы іх у талерку.

– Пастой, матуля! – Канапаеў прыкметна нерваваўся. – Дай для пачатку з дачкой разабрацца, хто з нас будзе яе акучваць.

– Я табе не матуля, а каралева Шантэклера Кабылаўскага раёна.

– А яна тады хто? – кіўнуў Канапаеў на Зінку.

– Індзіана Джонс.

– Індзіана Джонс – мужык. Усё, маўчы. Не то я за сябе не адказваю.

– Я не мужык! – ганарліва ўскінула галаву Зінка. – Я жанчына ў самым бессаромным сэнсе гэтага слова.

– З раніцы дзень не заладзіўся: то пяльмені, то эрудыты. – буркнула цётка.

А Канапаева на лодцы без вёслаў панесла па хуткаплыннай дурасці.

– Падцярухін, ты ж гумуніст. Аддай Зінку. Я мужчына. А мужчына любіць дзве рэчы – небяспеку і гульню. Таму я выбіраю гэту жанчыну, як самую небяспечную цацку. Валодаць ёю – мая галоўная радасць на сёння.

Зінка сядзела ў цёплым швэдры і цёплых панчохах. Дабрацца без нажніц да яе цела было немагчыма. Але Канапаеў вытвараў з Зінкай усё, што хацеў, праўда, на задворках сваёй фантазіі. Божа мой! Як ён яе ў думках цалаваў, ціскаў, а ў завяршэнне доўга і да млоснасці трахамудзіў.

Дажаваўшы макароны і выцершы рукой тлустыя вусны, Падцярухін раптам пагадзіўся:

– Добра, раз мы з табой гумуністы, зробім так! Я табе ў пахвіну нагой урэжу, потым ты мне. Хто гучней ад болю заенчыць, той прайграў. Пераможца забірае Зінку.

У нейкі момант Канапаеў гатовы быў зняверыцца і прызнаць сябе няўдачнікам. Але ўтрапёны дух самазабойцы ўзяў над ім верх.

– Думаеш, расклеюся і адступлю? Думаеш, я цукровы хлопчык і мне не знаёма пачуццё болю? Ды ідзі ты з такімі думкамі чарцей у віры ганяць.

Збіваючы на шляху ўсе перашкоды, імчаўся даверлівы сын свабоды да набліжаючагася кердыка. Не было той сілы, якая змагла б спыніць Канапаева.

– Ну, тады цярпі, – як нічога і не было, заявіў Падцярухін і з усёй сілы ўрэзаў цярпіле нагой у пахвіну. Ад дзікага болю Лёшка скурчыўся і асабліва востра адчуў сябе мужчынам.

– Ну што, зараз я табе? – прахрыпеў ён.

– Ды не, не варта. Здаюся. Забірай Зінульку, ты перамог. Для мяне гэты дзень стаў лепшым днём у маім жыцці, калі я зразумеў, навошта патрэбны чалец. І з гэтага часу я не дазваляю пакепліваць з яго.

# Катаклізьма

Прыродныя катаклізмы палохаюць чалавека сваёй непрадказальнасцю. У тых, што спужаліся, толькі адзін клопат: як выратавацца ад жахлівых думак, якія напакаваліся ў галаву. Дзеда Мар'яна ад усіх узрушэнняў ратавала святая вера, што піва трэба піць халодным у любую пару года.

– Жыве тое, дзякуючы чаму і нягледзячы ні на што за мной перамога! – топячы вусны ў пенным напоі, задзірліва ўсклікаў ён. Пасля трэцяга куфля дзед станавіўся непадробна вясёлым.

– Спіць Разіта і не чуе, што на ёй матрос начуе… – спяваў ён, выстукваючы абцасам гарэзлівы матыўчык.

– Супакойся, блудадзей! – узбіваючы пуховую пярыну, бурчала дзедава старая. Яе ніжні бюст міжвольна вытанцоўваў у такт жартаўлівага куплета. Мар'яна так і падмывала ўшчыкнуць за непаседлівы задок, але нязграбным рухам ён баяўся збіць гуллівы настрой.

– Ты кармой не круці! – усё-ткі зрабіў ён жонцы заўвагу. – Твой азадак не прапелер, а ты не самалёт!

Але Мар'я Ванна не была з кагорты сціплых жанчын, простых, як сямейнае шчасце. Калі заводзілася, доўга бурчала без падзаводу.

– Бач, разявіўся, ідал! Ідзі на плошчу, там і крыўляйся.

– Быў час, я за добрае жыццё на плошчах горла драў! – дастукваючы распачаты танцавальны эпатаж, не здаваўся дзед. – Пацярпеў нават

крыху за бязгрэшную і незацюканую праўдуматку. Таму маю законнае права танчыць, дзе ўздумаю. А ты, старая цяцера, не мяне лай, а “будзішку” завядзі на пяць раніцы. На возера пайду. Бог дасць, рыбкі коцікам налаўлю.

Пакалупаўшы пальцам насапырку, дзед загарнуўся ў коўдру і лёг спаць. Радыё, пракурняўкаўшы нейкую папсовую лухту, напомніла апошнія навіны:

– Землятрус на востраве Гаіці. Сіла штуршкоў у эпіцэнтры дасягала сямі балаў.

– Зноў трасун зямлю-матухну калоціць! – перахрысцілася старая. – Не к дабру гэта, ох, не к дабру.

Пасля піва ўсе гэтыя балы былі дзеду да лямпачкі, і яго хутка апанаваў храпун. Затое мазгі Мар’і Ванны ад жахлівых навін скаланула. Агарнула трывога, як бы пасля трасуна не прыйшла прахалода вечнага маўчання. Падкаціўшыся да дзеда пад бачок, забылася баязліўка ў трывожным сне.

Раніцай Мар’ян прачнуўся ад панурай цішыні. Незаведзены будзільнік праспаў разам з ім. Памацаўшы рукамі каля сябе, дзед перaканаўся: падушка, ядрыць тваю, на месцы, а бабку чэрці панеслі.

Скурчыўшыся ад холаду, пашлэпаў дзед на кухню. Стол быў пусты: ні ранішняй чаркі, ні румянай шкваркі. Выглянуўшы ў вакно і ўцягнуўшы ноздрамі паветра, супакоіўся – бядой не пахла, чужыя сцярвятнікі неба не паганілі. Адшукалася ў пярэднім пакоі, цесным, як каробка з-пад абутку, і Мар’я Ванна. Седзячы на табурэтцы, яна ставіла галачкі на аркушы паперы.

– Аб чым мазгуеш, Марыя? Якія подступы задумала, забыўшыся пра мяне? Паперу крэмзаць

здатная, а блінцоў не наварочала!

– Якія блінцы, дурань! Трасун па зямлі пайшоў. Пакуль людзі не сцямілі, што да чаго, запасік прадуктовы трэба зрабіць. Запалкі, соль, рафінад. На ўсё патрэбны вялікія грошы.

– У мяне вялікіх грошай зроду не вадзілася.

– Тады сядзі і не катмандзі! – адшыла бабка заўзятага назолу і, падхапіўшы торбу-напіхушку, шаснула за дзверы.

Нягледзячы на тое, што было яшчэ зусім рана, дваровую лаўку ўжо асядлала група пенсіянерак-аднадворніц.

– Ты куды, Ванаўна, намылілася?

– Эх, бабанькі, шчыра скажу. Трасун зямлю калашмаціць. Радыё ўчора пра гэта балабоніла. Памятаю, гадкоў трыццаць назад траханула за морам-акіянам, а ў нашых магазінах паркаль знік. Сёння час ліхі, не раўня таму, што раней быў. Адным паркалем не абыйдзецца.

Як лакатар суправаджае самалёт, так суседкі сінхронна павялі галовы ўслед знікаючай у падваротні сяброўкі.

Слых аб трасуну стаў бессаромна расці і памнажацца, паражаючы, нібы падступны вірус, кватэру за кватэрай. Паўгадзіны не прайшло, як у найбліжэйшай краме спірамідзілася чарга даўно забытых памераў. Калі людзі сталі хапаць мыла скрынямі, а запалкі корабамі, прадаўшчыцы па-сапраўднаму разгубіліся. У касу выручка не мясцілася. Яе пачалі складаць у пустыя мяшкі з-пад цукру. Месячны план перакрылі за 2 гадзіны 49 хвілін і 53 секунды. Кіпіш у краме заварыўся не абы-які.

– Браткі! – завыў хтосьці. – Што за бяда да нас прыйшла? Растлумачце, хто можа!

– Зямля, дурань, раскалолася! – адгукнуўся

злавесны голас. – Ляцім у розныя бакі. Мы туды, а ўвесь свет адтуль.

– Ой, Госпадзі! – загаласіла ў натоўпе баба. – Грахі нашы цяжкія! Прыйшла наша малітоўная пара!

Галашэнне надало хапуну новае паскарэнне.

– Дзе загадчык магазіна, ядрыць тваю! Хай паабяцае, што цукру хопіць.

Загадчык, скнарлівы мужык у пакамячаным пінжаку, пунсовы ад лютасці, высунуўся з бакоўкі і стаў адстрэльвацца кароткімі славеснымі зал_ памі:

– Вам колькі не абяцай, усё адно мала будзе. І спакайней, грамадзяне, спакайней. Мыла даваць па два кавалкі на рукі.

Чарга загудзела гучней за патурбаваны вулей. Нейкая шустрая жанчынка сарвалася ў крык:

– А іншыя месцы, па тваёй міласці, не падмываць! Не слухай, бабы, балбатуна. Яму і два раза хопіць памыцца – калі нарадзіўся і калі памрэ.

– Бабы! – не вытрымаў мужык у кірзачах і целагрэйцы на голым целе. – У вас што, рук няма са скнарай пагаварыць?!

Раздаўся адчайны віск сарамлівага дварняка, заблукаўшага між людскіх ног. Нехта ў гэтым вэрхале наступіў небараку на лапу. Прадаўшчыца, не разабраўшыся, грымнула па-над вагамі:

– Жанчыны, чым вы зноў незадаволены?

– Ды не мы гэта! – пачулася ў адказ. – Сабака без чаргі лезе.

Як у гэты хаос патрапіла шведка з дэлегацыі, якая прыбыла ў горад з візітам ветлівасці, без бутэлькі не разабрацца. Можа, выпадкова ў краму зайшла, а можа, шведу свайму з раніцы кефірчыку для пахмелкі вырашыла ўзяць. У скандынаваў

свае традыцыі. Але натоўп, закаркаваўшы выйсце, не даваў ёй магчымасці выбрацца вонкі. Ашаломленая шведка здзіўлена лыпала вачамі і галасіла:

– О, май год! О, май год!

Бабы без ваганняў яе падтрымалі:

– Нашы мужыкі таксама ўсе, як адзін, гады.

Загадчык крамы ад граху далей зачыніў за сабой дзверы каморкі на клямку. Крама перайшла на працу ў рэжыме надзвычайнага становішча. Выхапіўшы мабілу, загадчык прахрыпеў:

– База… Алё! База… Ды што вы там, маць тваю, вымерлі ўсе, ці што? База!.. Алё! База!

У гандлёвай залі прыплясканы да прылаўка мізэрны мужычок выгнуўся на зайздрасць страўсу і стаў мацаць пад прылаўкам з шырока расплюшчанымі вачыма. Ведаў, пражыўшы не адзін год у эсэсэсэры, што нішто так дарага не цэніцца на прылаўку, як тое, што схавана пад ім.

– Цукрык, бачу, скамуніздзілі! – завыў ён. – А нам лапшу на вушы вешаюць. Адкрывай засекі. Прад'яўляй народу ягонае багацце за ягоныя грошы.

Мажная прадаўшчыца, не цырымонячыся, бабахнула гаваруна калькулятарам па галаве.

– Самазванец. У мяне пракуроры, і тыя на агульных падставах затарваюцца.

– Нягожа нам усім кірачыцца ў адной чарзе ў гэты жахлівы час! – надтрэснутым голасам заявіў хтосьці з роўнай, па-ваеннаму скроенай спінай. – Прапаную падзяліць чаргу па сацыяльнай і партыйнай прыналежнасці.

– Знайшоўся мне тут законнік у шэрых штабных галіфэ! – адгукнуўся з-пад локця шасціпудовой цёткі плюгавы дзяцюк з выглядам някормленага бульдога. – Дай твой партбілет. Я

табе ім морду наб'ю.

Неўтаймаванае пачуццё помсты забулькатала ў душы былога асабіста. Трапіўся б выкабелец гадкоў гэтак ...наццать назад, абазначыў бы службовы яму пацалунак куляй паміж вачэй. У чарзе стала зусім неспакойна. Людзі, пазіраючы з асцярогай у вокны, ціха шапталіся паміж сабой.

– А мне ўсё не ўдогадзь было, чаму кукуруза сёлета ўрадзілася частая, як мачты сотавай сувязі. А зараз зразумела – не будзе каго карміць.

– Прапусціце! Прапусціце без чаргі! У мяне чалавек ляжыць! – да касы штопарам укручваўся разагрэты мужчына. Людзі расступіліся. З разціснутага кулака вываліліся на спадак пакамячаныя рублёўкі, утварыўшы невялікую горку. – Прэзерватываў! На ўсе!

У дзверы да загадчыка магазіна настойліва пастукалі. Той асцярожна паглядзеў у замочную шчыліну і ўбачыў фасоністыя штаны.

– Грамадзянін, вам чаго?

– Паважаны гандляр! – урачыста-пафасна пачаў франт. – Па ўсеагульным меркаванні настае поўны пісец, – голас гаворачага набіраў сілу, – таму патрабую выдзеліць народу месца для апошняга любадзейства.

– Чаго-чаго?

– Дай, паскуднік, людзям, змарнелым ад грэшнага жыцця, закуток патрахацца напаследак. А не, дык разнясём твой магазін у дробны друз. Кранты нам хутка ад сусветнага катаклізму, а паміраць са смуткам на душы ніхто не жадае.

– Што за лухту вы несяце?! – ашаламіўся загадчык. Але на ўсякі выпадак даў каманду адкрыць другую бакоўку. А сам праз шчылінку

ў дзвярах з трапятаннем стаў узірацца ў бок уваходу. Абяцаў пад'ехаць старшыня райвыканкама.

Дзядзька ў модных штанах гучна абвясціў:

– Бабы, не губляйце дарма час. На тым свеце мужыкоў няма, адны анёлы. А ім па абавязку службы каханнем займацца нельга. Я пра гэта ў разумных кніжках чытаў.

І, нядоўга думаючы, поглядам прыліп да шчакі, што выпраменьвала ружовы парок юнага здароўя.

– Ідзі, Ніна, на цябе добры чалавек вока паклаў! – падпіхнула маладзіцу сяброўка. – Я за табой прыпражной пайду. Усё адно перад Васькам не прыйдзецца адбрэхвацца.

– А што?! Я нічога! Магу і пайсці. Я толькі па гараскопу "Панна", а магу і ракам стаць.

– Эх, кучаравая! – паклаў руку на плячо Ніне зусім іншы, з раніцы паддаты мужык. – Пайшлі месца зоймем, а то хутка ўтульнага кутка не адшукаецца.

– Я не супраць, толькі на мяшок з гарохам не кладзі, – патупіўшы вочы, папрасіла Ніна. – Сінякі па целе пойдуць.

– Выбіраць, прынцэса, у нашым становішчы не даводзіцца. Што патрапіцца, на тое і ляжам.

У чарзе прыбавілася турботаў. У ход пайшлі парфума, памада, пудра.

– Шанцуе паддатым, – сціснуў зубы франт, – а мне што, з бруднай старой класціся?

– Не капрызь, братуха. Проста дастаўляй бабам задавальненне, яны таго заслужылі.

Прагучала нягучнае "бі-і-п". Гэта пад'ехаў фургончык, на борце якога красаваўся надпіс "ХМЕЛЬ УРАЖАННЯЎ – НАДЗЕЙНЫЯ ЛАЗНЕВЫЯ АКСЭСУАРЫ". З кабіны выскачыў старшыня рай-

выканкама. На ім быў пад колер машыны чырвоны камбінезон з белымі літарамі "Х" і "У" на спіне. Прыбыў старшыня проста з прэзентацыі мачалак.

Мітусня вакол звыклай крамы выглядала ў вачах начальніка прышэсцем іншапланецян у справаздачны перыяд. Сітуацыю належыла неадкладна стрыножыць, не даўшы плёткам выплюхнуцца на вуліцу. Прамаўляць раённы "галава" пачаў важка, упэўнена, трасучы ў руцэ спінацёрам на драўлянай ручцы.

– Грамадзяне! Не пагаршайце і не абагульняйце. Трасе імперыялістаў, ну і хрэн з імі. Трасе іх за старыя грашкі. Быў час, неграм жыць не давалі і лацінасаў шчымілі. А наш шлях верны, як ніколі! – і, ад душы храснуўшы аб падлогу сваёй знакамітай кепачкай-цемягрэйкай, дадаў: – І ніякая набрыдзь наш шлях не пераб'е!

Слухаючы старшыню, бабы згоднаківалі галовамі:

– Мае рацыю Цімафеіч! Хоць сядзі, хоць ляжы, хоць валяйся, а шлях наш як вёў да светлай будучыні, так і вядзе. Толькі павадыры змяняюцца.

З натоўпу вынырнуў бадзёры мужычок. Сарваўшы з галавы пацёртую кяпурку, ён шпурнуў яе пад ногі.

– Раз пайшла такая п'янка, дазволь, старшыня, кудлатую негру на гаспадарку выпісаць. Буду гладзіць яе каракулевую башку, просячы Бога аб сусветным дабрабыце.

Адчуўшы людскую падтрымку, Цімафеіч працягваў далікатна прычэсваць сітуацыю, імкнучыся зберагчы чэзлую нітку кволага паразумення.

– Акулы імперыялізму ў сваёй Амерыцы жывуць уніз галавой. І гэта справядліва. Трасе

імперыялаў, ну і хрэн з імі! Нас у першую чаргу павінны турбаваць прагнозныя паказчыкі па пяцігодцы, а не ўсякая хрэнь. Таму прашу новую раніцу новага светлага дня сустракаць не ў краме з кошыкамі, а новымі працоўнымі поспехамі на працоўных месцах. Разумею, панядзелак – дзень не просты. Але лёгка толькі нудыстам голымі азадкамі на пяшчаных водмелях зіхацець.

Па краме пракаціўся ўздых палёгкі. За старшыню пацешыліся, што не гарэлку п'е на прэзентацыі, а да людзей прыехаў. Бязбожны загадчык перахрысціўся, як нюх падказаў, і пакляўся паставіць пудовую свечку ў царкве Святых Пятра і Паўла. Народ стаў разыходзіцца, лаючы таго, па чыёй віне перапалох здарыўся. Вярталася ціш, гладзь і Божая мілата. Толькі пустыя прылаўкі нагадвалі пра былую смуту. Ідылію парушыла чутка, якая папаўзла між людзей: маўляў, для раўнавагі попыту і прапановы цукар, соль і запалкі магазін будзе прымаць зваротна па дамоўнай цане. Але загадчык магазіна рашуча адмёў чуткі, павесіўшы на ўваходных дзвярах таблічку "Інвентарызацыя".

Нацягаўшы ў хату бакалейных тавараў, дзед Мар'ян піў гарбату, прыкусваючы рафінадам. Мяшок салодкага дабра стаяў пад кухонным сталом. Адным вухам дзед слухаў радыё.

– Паводка ў даліне ракі Місісіпі, – суха паведаміў дыктар – эвакуацыя насельніцтва адбываецца сіламі нацыянальнай гвардыі.

– Зноўку катаклізьма за акіянам буяніць, – надкусваючы цукрык, буркнуў дзед і знепрытомнеў ад здзіўлення: старая з разасланых на падлозе прасцін спешна кроіла велізарны ветразь.

# Харытон

Круглы столік, чырвоныя спінкі крэслаў, аголенае жаночае калена, брыльянты на тонкіх пальцах, собалі на плячах, зіхценне шампанскага ў тонкіх з пазалотай бакалах і голас з інтанацыяй перагарэўшага інтыму:

– Я люблю вашую душу, люблю вашую пяшчоту. А вы, князь, здзекуецеся з мяне, працягваючы няправільна чысціць зубы. Трэба не злева направа, а зверху ўніз. Гэта не капрыз! Гэта рэкамендацыя вядучых стаматолагаў.

Князь, дапіўшы шампанскае, агаліў у нядобрай усмешцы плацінавы ікол.

– Баранэса, а ці не адзін хрэн для аднаго зуба?

– На жаль, князь, не адзін. Цяпер я не змагу легчы з вамі ў пасцель.

– Чаму?! – абражана ўсклікнуў вяльможа.

– Мяне адольвае жудасны галаўны боль. А вінаватае ў гэтым вашае непаслушэнства.

– Галава не дупа. Завязала і лягла! – сурова прагучаў пракураны жаночы голас.

– Бадзьярава, апамятайся! – абсадзіў языкастую цётку нехта з мужыкоў, што абляпілі тэлевізар. – Ты “мыльнае” кіно па тэлеку глядзіш, а не жывым жыццём з князямі жывеш! Прасцей да тэлелухты стаўся.

Боўдзілаў, якія скончылі змену і панабіваліся ў пакойчык падлікоўшчыцы Бадзьяравай паглядзець серыял, сабралася ладная кампанія: кладаўшчык, пажарнік, конюх і тачачнік Харытон Башляеў. Іншых і ўвогуле не пускалі ў гэтае

нетыповае асяроддзе. Ад жаночых стогнаў Харытону зрабілася млосна і, расчыніўшы акно, ён глыбока ўдыхнуў густы п'янлівы пах бэзу.

– Адчыняй дзверы, Бадзьярава! Я сікаць хачу.

– Пакуль кіно не скончыцца, з крэсла не падымуся.

– Госпадзі, як сікаць хочацца. Ну, дзе ж гэта чортава рэклама! Бадзьярава, я паміраць па тваёй волі не збіраюся. Не выпусціш – з вакна на клумбу памачуся.

– Толькі пасмей! – вызверылася падлікоўшчыца. – Твая справа – сядзець на крэсле і не вякаць пра свае жаданні. Загадалі цябе нікуды не пускаць.

– Хто загадаў?! – папярхнуўся несправядлівасцю Харытон.

– Ты Паўлу Нікадзімычу пытанні задавай. Ён дырэктар, можа, і пачуе цябе, а я раблюся глухой, калі загады выконваю.

Павел Нікадзімыч вёў нараду ва ўласцівай яму дзелавой манеры.

– Калегі! Існуе памылковае меркаванне, што прагрэс – справа разумных і ўважлівых людзей. Бяру на сябе смеласць аўтарытэтна заявіць, прагрэс – гэта плён людской ляноты. Хто лянуецца працаваць, той прыдумвае розныя штукі, абы толькі не ўкалываць. Таму настойліва патрабую ленавацца больш, часцей, лепш. Першым адбіў лынды ў Куршавелі галоўны інжынер. Прашу вас, Клаўдзій Іванавіч, дакладвайце!

– Заўважана, – жвавенька пачаў Клаўдзій Іванавіч, – што грудзі, якімі корміць маці, знаходзяцца ў гэтай самай маці спераду ў выглядзе двух рэзервуараў, напоўненых малаком. Прапаную зрабіць зашпільку ў нашага бюстгальтара таксама наперадзе. Па-першае, зручна

расшпільваць, а, па-другое, палягчаецца доступ малака спажыўцу.

– Павел Нікадзімыч! – прашаптаў у дзвярную шчылінку Башляеў. – Дзе ваша славутая дэмакратыя? Мяне з працы дахаты не пускаюць.

– Аб'яўляю перасмокт! – закамандаваў дырэктар. – Ледзянцы з ментолам у прыёмнай у Светачкі. Свежае дыханне палегчыць творчы пошук. А ты, Харытон, не рабі гучных заяў, мая мера часовая. Жонка з працы цябе забярэ, а раніцай на працу прывядзе. З дня на дзень чакаем дэлегацыю з далёкага Гандураса. Не адну ноч прыйдзецца з імі гандурасіць.

Башляеў хадзіў у дырэктара ў любімчыках. На любы выпадак Харык меў запас прамоваў, тостаў і прыпевак. Ён быў незаменны на вясёлых і жалобных застоллях.

– Павел Нікадзімыч! Пэўна, будзе, як у мінулы раз, – скрывіў незадаволеную міну Башляеў. – Чакалі Зімбабву, а прыехалі бабы з Зімапалацінска.

– Табе якая розніца, хто прыязджае?! Твая задача публіку весяліць.

Калі піць гарэлку з гасцямі дырэктару становілася сумна, ён неадкладна патрабаваў:

– Клікаць Харку сюды. Хай ролю цурбана сыграе.

Тачачнік іграў ад душы, натхнёна, праўдападобна, грозна бліскаючы вачыма на выкаце і жахліва растапырваючы ноздры. Цурбан цурбаном! Многія імкнуліся паўтарыць гэты фокус, але ні ў кога не атрымлівалася так артыстычна, як гэта рабіў Башляеў.

Таленавітага Харыка дырэктар адкрыў выпадкова. Навагоднюю ноч завадчане сустракалі на вытворчасці, гарэў сінім полымем тэрміновы

заказ. Башляеў адасобіўся ў службовым пакойчыку, падставіў табурэт і стаў накідваць вяроўку на плафон. Калі прасунуў галаву ў пятлю, у пакой уваліўся п'яны дырэктар у касцюме Дзеда Мароза і стомлена плюхнуўся на канапу.

– Ты што задумаў рабіць?

– Стаміўся змагацца з невылечнай душэўнай ранай.

– Гэта не нагода паднімаць працэнт траўматызму на вытворчасці. Табе што, мала месца за плотам? Сукоў там, маць тваю перамаць, не пералічыць.

– Прабачце, але туга ногі звязала, таму не змог пералезці цераз плот. Увесь год марыў пра сэкс з жанчынай у панчохах, але нават навагодняя ноч не прынесла здзяйснення жадання.

– Табе вароты на галаву не падалі?! Ідзі ў магазін, купі панчохі сваёй жанчыне і здзяйсняй сваю мару хоць кожны дзень.

– Дзякуй за падказку. Сам бы я не змог да такога дадумацца.

– Добра, прабачаю табе бесталковасць. Сам парой шукаю складаныя рашэнні там, дзе іх няма. Але калі на табурэтцы стаіш, вершык Дзеду Марозу з нагоды свята распавядзі. Хаця не! За ноч лірыка абрыдла. Давай загадкі. Не адгадаю – адпушчу. Адгадаю – будзеш скакаць вакол елкі ў касцюме зайчыка, пакуль не скапыцішся.

Пярэчыць дырэктару Башляеў пабаяўся і з сумам у вачах абвясціў:

– Загадка. Вазьму яго ў рукі ды сцісну як трэба. Ён зробіцца пругкім і цвёрдым, як рэпа.

– Не той у мяне статус, каб адгадку ўслых казаць. Шапну табе на вуха. Згодны?

– Павел Нікадзімыч! Адгадка – снежка! Саромецца яе не бачу прычыны. Другая загадка. Калі

яна проста ляжыць – не ведаеш, што з ёй рабіць, але як прыпрэш да сцяны, не будзе тады ёй цаны.

– Калі я быў студэнтам, не раз сяброўку да сцяны прыпіраў. Зараз стол у прыёмнай паставіў. Вялізны, шырокі, двухспальны.

– Ізноў міма, Павел Нікадзімыч. Адгадка – лесвіца. Трэцяя загадка, апошняя. Валасатая галоўка за шчаку заходзіць лоўка.

– Шэльма ты, Башляеў. У цябе загадкі з падвохам! Здаюся. Перамог. Ва ўзнагароду за тое, што пацешыў мяне – бутля каньяку. Заслужыў! Даставай кудлатую галаву з пятлі і лаві п'ю-ці кайф у сваё задавальненне. Табурэт вернеш на месца. Ён не проста цуд сталярнага мастацтва. Гэта абкладваемая база для падатку на нерухомасць. Асноўныя вытворчыя фонды для нечых працоўных органаў.

Вось так нечакана здружыліся дырэктар і тачачнік Башляеў. Але ў гэты вечар Павел Нікадзімыч быў строгі да любімчыка.

– У прыродзе, Харытон, усё уладкавана мудра. За прылівам на моры прыходзіць адліў. А ў цябе за прагулам абавязковы загул. Ратаваць цябе трэба, альбо ад цябе ратавацца. На бяду, пісьменнікі да нас едуць. А каму, як не табе, з імі дэбаціць?!

– Вядомых пісьменнікаў прыйдзецца дэбаціць?

– Кажуць, вядомых. Але каму вядомых, чорт іх ведае.

– Павел Нікадзімыч, а сярод пісьменнікаў непітушчыя бываюць?

– Бываюць, але вельмі сумныя.

– Башляеў! – у дзвярах тырчала галава падлікоўшчыцы. – Жонка за табой прыйшла. Пайшлі, здам згодна вопісу.

– Ідзі, Харытон, і памятай: завод без цябе

пражыве, а ты без заводу прападзеш! – і дырэктар падпіхнуў тачачніка да выхаду.

На прахадной падлікоўшчыца тузанула Башляева за рукаў.

– Ты, Харык, зла на мяне не трымай. Я – чалавек маленькі. Загадалі – куды я дзенуся. А вы, грамадзянка Башляева, прымайце свайго мужа. Цвярозага і чыстага. Заўтра вернеце ў такім жа выглядзе.

Жонка, узяўшы Харытона пад руку, рашуча, быццам гаворка ішла пра татальную мабілізацыю, заявіла:

– У рэстаран са мной пойдзеш.

– Чаму я па рэстаранах з табой павінен швэндацца?

– Клін клінам буду з цябе выбіваць. Дазволю глядзець, як іншыя п'юць, і не дазволю нават выпадковай кроплі табе ў рот патрапіць!

Гэта быў жорсткі ўдар ніжэй пояса, і ў Башляева перахапіла дыханне.

– Дзе будзеш катаваць? – панура выдушыў ён з сябе.

– У "Эльдарада"! – як прысуд абвясціла жонка.

– Давай лепш у кіно сходзім ці ў музей. А хочаш, у парку на каруселі пракачу!

– Не, Харанька, толькі рэстаран. Дурнота твая задушыцца, калі цвярозым убачыш, як людзі ад гарэлкі дурнеюць.

– Жывём ад закускі да закускі. Рэстаран на дваіх не па кішэні будзе.

– Дырэктар са спецфонду на садавіну даў. Папярэджваю: у рэстаране не смей дзівачыць. Тваю хвацкасць абсаджу пабавешкай.

– Паслухай, у народзе нездарма кажуць: "Каму наканавана павесіцца, той не патоне. А каму

напіцца – за тым не ўсочыш”. Чорт з табой, вядзі ў “Эльдарада”.

Гарадок Блыхаеўск па люксембургскіх мерках быў не маленькі, але тачачніка Башляева ведалі і адклікаліся з павагай: “Рабацяга ломам падперазаны”. Вось і швейцар у фуражцы, падобнай на генеральскую, велічна схіліў галаву, убачыўшы аўтарытэтнага госця:

– Добры дзень, Харык!

– Мог бы сёння, стары галган, не пазнаваць. Жонка на буксіры ў рэстаран прыперла.

Стары да такой ступені разгубіўся, што прыйшлося яго тэрмінова весці ў гардэроб і адпойваць партвейнам.

– Харык! – гэта быў не метрдатэль, а сама ветлівасць. – Твой столік як заўсёды каля танцпляцоўкі. Група падтрымкі – Галінка, Марынка, Янінка – адпрацоўвае апошнія фу-е-па.

– Ведаць цябе не ведаю, а Галінкам-Марынкам падыходзіць не раю. У завязцы я.

Узлаваны, Харытон прышвартаваўся да вольнага століка.

– На якое месца мне сядаць? – нагадала пра сябе жонка.

– Сядай, як і ўсе, на задняе.

Секунды не прайшло, афіцыянт да стала падлятае.

– Харык, два па дзвесце і на прыкус мочаны яблык?

– Спакою ад вас няма: “Харык, Харык!” Нават выгляду ніхто не падасць, што першы раз мяне бачыць, – і ад злосці zаваліў падносчыку пендаля. Паляцеў няшчасны ўглыб цёмнай і душнай бакоўкі пад звон разбітага посуду.

Да мікрафона падышоў баяніст. Вусны банцікам склеіў і аб’яўляе з інтымнай хрыпатой:

– Гурт “Кантрацэпцыя” і каралева фатальных рамансаў Ляля Залётная.

– Харытончык! – усміхнулася Башляеву Ляля і, паслаўшы паветраны пацалунак, заспявала хвалюючым грудным голасам:

Ой, злавіў мяне ў каморы
Мой малойчык-уюнок!
Ён мяне там аткаморыў,
І дахаты павалок!
Ой! Туды ці растуды

Дзеўчына прапала.

Калі ісціна ў віне,
Мне бакала мала!

– Ах-х-х! Мала, мала, мала мне, – падхапіла прыпеў уся зала, – літровага бакала. Ой, не будзе і ў мяне годнага вакалу.

Ляліны прыгожыя валасы бландзіністымі хвалямі спадалі на плечы. А рукі спявачкі прыняліся ў экстазе зрываць адзежу пад свіст заўсёднікаў “Эльдарада”. Башляеў тупа глядзеў на мочаны яблык і гранёнік з “дурманам”. Цела адпачывала, а мозг, падлюга, упарціўся, грузячы Харытона хлам’ём. Раней тачачнік ніколі не задумваўся, чаго хочуць мужчыны і чаго чакаюць жанчыны. А тут працяла здагадка: чаго б ні хацелі тыя і іншыя, усё канчаецца адным і тым жа.

– Ну, хлопчыкі, – Ляля абвяла поглядам прыцішэлую залу, – дзе той смяльчак, які тузане за шнурочак на маіх трусіках?

– Ха-рык! Ха-рык! Ха-рык! – тройчы голасна выбухнула зала.

Цела Харытона завібравала, і ён, сцішаючы дрыготку, прабурчаў:

– Заўсёды брудную работку наровяць на мяне спіхнуць.

– Ах, Харык! Твае вочы насупраць кажуць,

што ты не супраць! – і Ляля мезенцам павабіла Башляева да сябе. – Хадзі да мяне, падступны спакуснік.

– Не ўсіх хворых вайна пабіла! – падарвалася жонка і ўляпіла Башляеву сакавітую аплявуху.

– Што гэта значыць? – ашаламіўся той, паціраючы счырванелую шчаку.

– Скажы дзякуй, што пабавешку на табе не зламала. Ідзі дахаты, а то я за сябе не ручаюся.

Калі б Башляеў быў на падпітку, ніякая сіла не здолела б прымусіць яго падпарадкавацца, але будучы цвярозым, ён разгубіўся. Пад улюлюканне п'янай публікі хуценька падняўся і панёс проста да выйсця сваю малагабарытную сутнасць строга перпендыкулярна паркету, нібы ён, даруй, Госпадзі, незямны балерун.

“Як мяняюцца часы, – на хаду разважаў тачачнік. – Бабуля хацела, каб я стаў доктарам, мама марыла, каб з мяне выйшаў прыстойны чалавек, а жонка задаволена, калі не п'ю і прыходжу своечасова дахаты”.

– Вярніцеся! – закамандаваў міліцыянер, калі Харытон спяшаючыся, перабег дарогу на чырвонае святло.

– Не вярнуся! Сам, мянцяра, ідзі Лялю расшнуроўвай.

Развярнуўшыся, жонка злосна пхнула Харыка дзвюма рукамі ў грудзі.

– Не верыла людзям, а зараз пераканалася, сядзіць у табе цыганскі бес.

– Я беса па сваёй волі ў сябе не ўсяляў. А за бабку, што ад табара марудна ўцякала, я не ў адказе.

– А як жа! Усе вакол вінаватыя, адзін ты ціхі, пухнаты, незаплямлены.

Сеўшы ў таксі побач з вадзіцелем, жонка грукнула дзвярамі.

– З маім мужам немагчыма жыць!

– Дык развядзіцеся! – разгубіўшыся, ветліва падказаў таксіст.

– Яшчэ чаго! Ён сапсаваў мне жыццё, а я павінна яго ашчаслівіць?! Ды я гэтага казла на злосць усяму свету кахаць буду.

# З жыцця адпачываючых

Балабаеў стаяў каля сажалкі з пакручастымі беражкамі, трымаючыся за бярозку, як трымаюцца за цнатліва-белае і незвычайна прыгожае жаночае плячо. Але добры настрой змыла нечае нахабнае дыханне ў самае вуха. Побач прыладзіўся тып з квадратнай мордай буракавага колеру і акуратна скроеным паўтарамесячным жывоцікам. Мужчына быў у поўным саку, хаця сам, відаць, даўно забыўся, як смакуе сапраўдны сок.

– Ныраць умееш? – ён не цырымонячыся штурхнуў Балабаева жыватом.

– Так. Але ў агульных рысах.

– Пад вадой доўга заставацца можаш? – не адставаў таўстун.

– Па-рознаму, – пацiснуў плячамі Балабаеў. – Усё залежыць ад таго, як хутка мяне выцягнуць.

– Ясна. Значыць, санаторыцца прыбыў?! Я цябе прымеціў, калі ты чамадан валок ад аўтобуса. Гляджу, наш, прыбіты разумовай працай, са свежаампуціраваным ад крэсла азадкам. Зваць цябе як?

– Аляксей! – прызнаўся Балабаеў і пашкадаваў, што не зманіў. Хаця цямніць сэнсу не было. У рэгістратуры за дзве ірыскі ў шакаладзе выкладуць усю паднаготную.

– Мяне заві Васілём. Прыбыў сюды адпачыць і набрацца сіл. Пакуль удаецца толькі набірацца. Ты, Лёша, не цягні, адразу вызначайся з лодкай,

водкай і малодкай. А то ў мітусні без інвентара застанешся.

– У мяне іншы профіль: кефір, клісцір, сарцір. Серныя ванны прапісаны, фізіятэрапія прызначана.

– Маўчы і нават не смей пра гэта заікацца. Засмяюць. Табе кустатэрапію асвоіць трэба. У гэтай працэдуры галоўнае на мурашнік з дзяўчынай не зваліцца. Карацей, прапаную дружбу – сапраўдную, моцную, мужчынскую. Дорага. Жартую. Сяброўства нельга купіць. Прадаць можна, але за вельмі вялікія грошы.

Гаворачы, Вася пажадліва глядзеў на валейбольную пляцоўку, дзе ў шорціках дэфілявалі жанчыны. “Напэўна, Вася фізкультурысты чалавек” – падумаў Балабаеў.

– Ты толькі паглядзі, што козачкі вырабляюць, як душэўна яны валейболяць, – Васіль аж захлынаўся ад нецярпення. – Запомні: у валейбол тут гуляюць тыя, каго ноччу не цягалі. І гэта не іх віна, а наша бяда. Часу на ўсіх бракуе. Лёша! На храна нам нейкі Бадэн-Бадэн, калі побач з намі бабы-бабы. На любы густ і ўсіх памераў. Былі б у мяне панчохі з грашыма, не думаючы змяняў бы іх на ножкі ў панчохах.

– Мне, Вася, не да шашняў. І з мячом я дрэнна гуляю, – Аляксей вінавата развёў рукамі. – Ды і трусы на мне сямейныя пяцьдзясят чацвёртага памеру. Гумка ў іх слабая.

– Глупства. Цябе ніхто на пляцоўцы да трусоў расчахляць не будзе. А вось табе гэта зрабіць прыйдзецца, калі настойлівасць праявіш. Тлумачу: паміж трусамі вялікая розніца. У мужчынскія трусы лезуць нагамі, а ў жаночыя рукамі. Пабеглі на свежанькіх.

І Вася ў купальных трусах на васямнаццаць

гузікаў, як у баяна, паскакаў на пляцоўку, цягнучы за сабой Балабаева.

– Мужчына! – кранула Лёшу за руку адна кабетка ў ярка-бэзавым купальніку. – Вы штаны зніміце. Мяч іх завэдзгае, а вечарам "ціскатэка". Там па адзежы сустракаюць, а з тармазоў зляцеўшы, адзежу здымаюць.

– Няўжо ўсю адзежу здымаюць?

– Некаторыя дзівакі ў шкарпэтках застаюцца, – і жанчына какетліва прыкусіла губу.

Збянтэжаны Балабаеў змакрэў проста на вачах і не патрапіў па мячы, хоць размахнуўся ад душы.

– Прабачце, – прамямліў ён. – Нервуюся. Чакаю важнага званка. У мяне ўчора жонку ў радзільны дом адвезлі.

– Дурань ты, Лёшка! – адцягнуў Балабаева ў бок Вася. – Якія жонкі? Якія радзільныя дамы? "Гадзючка" да цябе на шампур садзілася, а ты скіс, як агурок у расоле. Морда зрабілася чырваней барады закаханага пеўня. Так ты ў героі-палюбоўнікі не праб'ешся.

– Вася, ну яго к чорту, валейбол. Мне доктар прапісаў піць перад ежай мінеральную ваду.

– Ізноў ты за сваё. Ды хто ў санаторыі пра дактароў успамінае? Добра, адзін дзень з табой папрацую. Але толькі адзін. Далей будзеш уласным розумам дапіраць. Якога тыпу ваду прызначылі?

– Агульнаўмацавальнага.

– Лепшы сродак ад усіх хвароб – звычайная вада. Дзве кроплі на шклянку спірту – і ты забудзешся на ўсе праблемы. Але твой выпадак асаблівы, і я проста абавязаны дапамагчы табе зрабіць першыя крокі, – абняўшы Аляксея за плячо, Вася заспяваў: – Каб не вылез раман ваш

праз бок, трэба выпіць гарэлкі глыток! Лічы, што табе пашанцавала. Я ва ўсіх водах вялікі майстар.

Вася надзеў штаны. Прычасаў тое, што засталося на галаве. Лёша не стаў прычэсваць таго, чаго ўжо не было. Абняўшыся, наваспечаныя сябры падыйшлі да павільёнчыка, стылізаванага пад хатку на курыных ножках.

Паліцы буфета проста ламіліся ад бутэлькавага багацця. Ды і буфетчыца ў гэтым цераме была яшчэ тая Баба-Яга.

– Ёксель-моксель! Вады тут, вады, ну проста прорва гэтай вады! – схапіўся за галаву Балабаеў.

– А ты як думаў?! Я цябе абы куды не павяду, – Вася радасна пацёр далоні. – Вадзіцу падбяру самую патрэбную. Будзь спакойны, – ён стаў разглядаць этыкеткі на бутэльках. – Ваду тыпу "Тарзан" піць не раю. Ад яе ў жываце бурчыць. Прычым, у самы нязручны момант. Пачнеш у сябе на каленях мамзэльку масціць, а жывот ур-р-р-р, нібы правакатар, выдае цябе з трыбухамі, – Васіль далей заслізгаў позіркам па бутэльках. – Вада тыпу "Муржомі". Разводзяць яе. Пітво на карысць не пойдзе.

Балабаеў прамаўчаў, не разумеючы, чым можна разводзіць ваду.

– Вадзіца тыпу "Ебентукі №1", – працягваў вывучаць водны рад Васіль. – Ну скажы, Лёха, ці будзе чалавек, які сябе паважае, піць "адзінку"?! В-о-о-о! – павесялеў нарэшце Вася. – Знайшоў! Рэкамендую для пачатку вадзіцу гэтага тыпу.

Вася кіўнуў буфетчыцы, і тая разліла па шклянках пенны напой колеру аблузганага каштана. Балабаеў зрабіў пару глыткоў. Вадзіца аказалася прыемнай на густ.

– Якога тыпу вада? – жыва пацікавіўся ён.

– Вада тыпу “Портэр”. Цёмнае.

Пасля пятай бутэлькі Балабаеў пацягнуў Васю за рукаў:

– Дастань шорты. А то больш не пайду з табой гуляць у валейбол.

Вася кіўнуў галавой і ўзяў бутэльку вады іншага тыпу. Крыху святлейшую.

– Якога тыпу вада? – падстаўляючы шклянку, спытаў Балабаеў.

– Тыпу партвейн ружовы.

Распілі бутэльку і зверху яшчэ накацілі па шкляначцы.

– Прыйшлі астаграміцца, а ўжо аграфініліся, – вяла свой падлік буфетчыца.

– Не твая, Баба-Яга, справа. Не п’е толькі сава, але выключна таму, што днём не бачыць, а ноччу твой буфет не працуе.

– Трусы дастанеш? – утаропіўшыся на Васю, насядаў Балабаеў.

– А ты ў чым?

– У трусах, але вялікіх.

– Яшчэ пару шклянак навернеш, і трусы на пузе ўмацуюцца. Ніколі наперад не ведаеш, што лепш надзець. Прэзерватыў, і той стопрацэнтнай гарантыі не дае. Адзін мой прыяцель надзеў прэзерватыў і патрапіў… пад аўтобус. Ты на вадзе засяродзься. Галоўнае яшчэ наперадзе.

У новай бутэльцы вада аказалася яшчэ святлейшай. Са шклянкі павеяла добрым і неразведзеным.

– Якога? – не цырымонячыся спытаў Балабаеў.

– Тыпу трох зорачак. Найчыстай вады каньяк.

– П’ём! Але з цябе, Вася, гумка для трусоў! – не здаваўся Балабаеў.

– Растлумач, на чым у цябе трусы трымаюцца?

– На гумцы, але разведзенай.

– Прышпілі трусы да штаноў шпількамі. Усё разам лягчэй здымаць будзе. І трусы з надпісам губной памадай “Не забуду ночку з Лёшам” ніхто заказным пісьмом тваёй жонцы не адправіць.

– Цур цябе! – спалохаўся Балабаеў. І, прыгубіўшы кілішак каньяку, злізнуў ікру з бутэрброда.

– На сантыметр. Можаш ім падперазацца. Я яго заўсёды з сабой нашу. Перш чым класціся ў ложак, вымяраю ў сяброўкі грудзі, талію і сцёгны. Для статыстыкі.

Балабаеў заўважыў у закутку службовага выйсця велізарную чырвоную бутэльку і, насілу варочаючы языком, спытаў:

– Якога тыпу вада будзе?

Вася блізарука прыжмурыўся.

– Тыпу шыпучкі… сто адзін.

– Тады па шкляначцы.

– Згодны! – і Вася пайшоў здымаць са сцяны вогнетушыцель.




# Х...х...х... з ім!

Стомленае сонца песціла цяплом. Шапатлівы прыбой лашчыў слых. Мільгаценне белай сукеначкі за кіпарысамі вабіла ў вір юрлівасці. Ратуючыся ад шчымлівых мрояў, Алягарх Кідалоўскі паспешліва асушыў кафейную філіжанку віскі і, смачна плюнуўшы ў адкрытае акно, ціха вылаяўся.

– Сволачы! Жыць замінаюць!

Хто і як замінае, уладар сіндыката “Канвульсія” не мог разабрацца. Банальна бракавала часу. Справы на фірме даўно ішлі дрэнна. Не тое каб зусім дрэнна, у чымсьці нават добра. Аднак з кожным годам горш і горш. Прайдзісветы мэнеджары з наседжаных месцаў не разбягаліся, упарта ве-

рачы: шугане фірма і заслоніць паланіцай поспеху чужыя агеньчыкі.

– Сволачы! – прашаптаў Алягарх і залпам выпіў другую філіжанку віскі. – Паспрабуй дакапайся, хто дробны непрыяцель, а хто тайны вораг.

Імя Алягарх было плёнам гуллівай фантазіі нязгодлівых бацькоў Кідалоўскага. Тата, Леў Серафімафіч, хацеў дачушку Алю. Быў час, калі ён з маладзіцай Аляўцінай Фацімаевай ахоўваў на пару вайсковы склад гаручых і мазючых матэрыялаў. Вечарамі дзяруля прыходзіла да служакі на пост з суседняй вёскі, прыносіла кавалак сала, акраец хлеба, літруху малака і нерастрачаную маладосць. Пасля сала Лёва доўга і грунтоўна ўдыхаў п'янкі водар аганізуючага дзявочага цела. Не забывалася Аля і пра іншых салдатаў, якія не спалі на варце, балазе сала ў яе хаце было ў дастатку.

Маці Алягарха, Марына Піліпаўна, хацела хлопчыка па імені Гарык. З Гарыкам, сваім першым мужчынкам, ляжала яна ў раддомаўскай абойме, закручаная ў ружовую коўдру. Крычалі малыя сваё "ў-я-а-а" ў чаканні пасмактаць поўныя малака матчыны грудзі. Праз два дзясятка гадоў завяліся ў Марыны свае смактуны. Любілі падвыпіўшыя мужыкі лавіць вуснамі Марыніны саскі, якія наліваліся сілай ад грубай ласкі.

– Ну і х...х...х… з ім, тваім першым, – груба падсумаваў сямейную спрэчку Леў Серафімавіч. – Будзем клікаць нежаданага сынка Аля… гар…х…

Пасля трэцяй філіжанкі віскі на змену нямогламу шаленству прыпаўзла да Алягарха Кідалоўскага пякучая туга. Туга аказалася настырнай і занудлівай. "Не будзе табе ўцехі ад тваёй

пацехі, – скуголіла яна. – Фондзікі прамантачыў на канапкі з сяўружкай, а мог звыклай кілечкай абыйсціся".

– Я пустэльнік! Не чапай мяне! – млява адбіваўся Алягарх. – Гаркату сваю праглыну, не моршчачыся, нават калі з ёю прыйдзе мой канец. Ка-не-е-е-ц?! Няўжо і сапраўды будзе кане-е-е-ц?!

– Шэф! У вас праблемы… за шырынкай? – у дзвярах паявілася Ляля, ладная дзяўчына з дзёрзкім разрэзам спадніцы. – Ваша трывожнае "е-е-ц" не магло пакінуць мяне абыякавай.

– Ляля! – Кідалоўскі тупа паглядзеў на свайго рэферэнта. – Сукіны дзеці яшчэ на працы?

У адказ Ляля моўчкі страсянула грыўкай.

– Падвесь на мабілку Нікітухіна. Пстрыкну прайдзісвета па лысым чэрапе.

Нікітухін адшукаўся хутка.

– Ты, помесь Нікі і Тухі! – здзекліва пачаў Алягарх. – Мой азадак па фізіялогіі неаддзельны ад спіны. Толькі таму ён не закладзены ў банк. А ты, падлюга, трубы не завёз на трэці ўчастак. Не будзе заўтра труб, сам ляжаш у траншэю хліпкім звяном каналізацыі.

Запанавала злавесная цішыня. Адно чуліся ўпадніцкія ўздыхі Нікітухіна.

– Дзе твая творчая іскра, прараб? – Кідалоўскага панесла. – Куды ты яе запярдоліў? Можа, у тую ячэйку, якую маці-прырода прасекла табе ніжэй спіны?

Кідалоўскі быў на ўзводзе і мог сказаць яшчэ грубей. Але загудзеў прынтэр і Алягарх пераключыў увагу на здабыванне цёплага ліста паперы з раздрукоўкай.

– Ляля! – паклікаў бос рэферэнтку. – Тваё нездаровае натхненне мяне палохае. Пісаць трэба не "Хачу цібя", а "Я магу быць Вам карысная!" –

Кідалоўскі паклаў далонь на Ляліну задніцу. – Шчыра прызнаюся, стаміўся я, зайка. Хоць ты мяне не падводзь. Сачы за курсам барэля на біржы.

Рэферэнтам Ляля была нікуды не вартым, але жанчынай лічылася салодкай. Да шэфа ішла без тармазоў. І той шчодра адгружаў ёй сперму, не запіхваючы сваё багацце ў гумовыя скарбонкі. Крануўшы любімы завіток над Ляліным вухам, Алягарх уздыхнуў, і… парачка далікатна звіла погляды, рукі, ногі. На звітых нагах было нязручна стаяць, таму палюбоўнікам нічога не заставалася, як зваліцца на канапу.

– Не забудзьце зняць шкарпэткі, шэф. Недараспрануты мужчына выклікае ў мяне пачуццё гідлівасці. Сёння я сама не свая, мяне раззлаваў Шымановіч. Шостую гадзіну запар сядзіць у аддзеле з ідыёцкай усмешкай на мордзе. Людзі марнеюць у здагадках, не разумеючы, што адбываецца. Асцярожна, у мяне замок на спадніцы заядае.

– Маменцік! – І Алягарх, не цырымонячыся, задраў Ляліну спадніцу.

Уся астатняя адзежа паляцела з Лялі, нібы капусныя лісты з качана, які патрапіў пад востры нож гаспадыні. Станік адстрэліўся з грудзей, і два баклажанчыкі з далікатна ружовымі саскамі-пацеркамі затрымцелі ў чаканні ўчэпістых мужчынскіх рук.

– Мой ідэал – шымпанзэ банова, – у парыве запалу Ляля была як заўсёды шчырай, – яны кахаюцца энергічней, чым людзі, і робяць гэта там, дзе іх прыхапіла пачуццё.

– Якая ты прагавітая! – захапіўся Алягарх. – А Шымановіч здурнеў пад прэсам маіх нагрузак.

– Вы маеце рацыю, шэф, ён з’ехаў з глузду! –

з прыдыханнем адказала Ляля. –А вы, як заўсёды, дакладны! Поўнае супадзенне намераў з вынікам.

Ляля прагнула працягнуць любоўную бяседу. Але Алягарх не лічыў сябе шматборцам. Яму хапала аднаго паўнавартаснага разу. Зашпіляючы рамень на штанах, ён спагадліва сказаў:

– А ты, Ляля, схуднела. Але не турбуйся, табе гэта вельмі пасуе. Зрэшты, поўненькая ты таксама мне падабаешся. Пайду Шымановіча раскалю. Можа, вынюхаў, падлюга, дзяржтаямніцу і задумаў збыць яе за вялікія грошы. Трэба яго хуценька рассакрэціць, пакуль гэтага не зрабілі людзі ў пагонах.

– Шымановіч маўчун. Ніколі не здагадаешся, што ў яго ў галаве.

– Ёсць сто і адзін спосаб дабрацца да любой таямніцы. Калі ты, напрыклад, ведаеш хоць нейкі сакрэцік, а ворагі пачынаюць палохаць цябе мышамі, то яны не будуць паспяваць задаваць пытанні, запісваючы твае адказы.

– Алягарх Львовіч, не крыўдзіце! Я наш сакрэт на злосць ворагам у радзільны дом не панясу. Не цяжарыць – маё крэда, – Ляля села на канапу. – Зайздрошчу мужыкам! Жывеце лепш жанчын. Для вас сотні палюбоўніц. Абрыдлі законныя жонкі, надакучылі грамадзянскія – калі ласка, шлюхі на выбар. Алягарх Львовіч, а хто падумае пра незаможных і галодных, якія забыліся смак салодкага пацалунку?! – і Ляля надзьмула ярка нафарбаваныя вусны.

– Патрывай трошкі, дзетка. Пайду скармлю незаможнага Шымановіча галоднаму люду. На адну сусветную праблему стане менш.

Офісныя жарсці вакол нязмыўнай усмешкі Шымановіча не сціхалі. Герой дня спакойна

сядзеў, бліскаючы зубамі, як залаты чырвонец.

– Глабальнае пацяпленне пад корань сячэ, – гледзячы на Шымановіча, распыляўся метролаг Пакроўскі. – Я сам ледзь не ўліп у дзіўную гісторыю. Тэлефаную па тайнаму нумару, шапчу ласкава:

– Гэты ты, каханая?

– Не! – адказвае мне строгі голас. – Гэта я, твая жонка!

– Ад нечаканасці мяне ледзь не пранесла ўчорашнім баршчом! Я вольны птах! Мне штамп у пашпарт паставіць, што гусаку пералётнаму крылы падрэзаць.

– Гусакі, штампы! – скрывіў кіслую міну дызайнер Шчільман. – Дзесьці штосьці Шымановічу абламалася, вось і ачумеў аферыст. Пляваць яму зараз на калектыў, пакуль грошы не праматае. Скнара! Такога з каменем у ваду – і чарцям паклон.

– Ёсць рэчы важнейшыя за грошы! – Не здаваўся Пакроўскі.

– Тады, разумнік, пакажы рэч, за якую не трэба плаціць!

– Грошы! Грошы! Вы забыліся, што мы – асаблівы народ! – Пакроўскі разышоўся не на жарт. – Мы Юрку ў космас запусцілі, Фідэля зжэрці не далі, гарэлку прыдумалі, Леніна ў таварным выглядзе ўтрымліваем. І нікому не дадзена ведаць, на што яшчэ здольны наш чалавек. Подзвіг у думках Шымановіча. А будучая слава ўсмешкай выпаўзла на ягоны твар.

– Славу ён бясспрэчна займее. Усмешка Моны Лізы – дзіцячае лапатанне супраць вышчэрвання гэтага тупіцы.

– Ліза? Якая Ліза? Унучка дзядзькі Моні?

– Якія Моні, якія Лізы?! Гледзячы на ідыёта,

мы самі пачынаем тупіць, – выбухнуў Шцільман.

Толькі Шымановіч, тарашчачыся ў акварыум з карасямі, спакойна лыбіўся.

– Што за шум, што за гвалт? – нібы бура, уварваўся ў кабінет Кідалоўскі. – Чаму вашы карасі ў акварыуме дагары пузам спяць?!

– Гэта псіх вінаваты! Ён рыбак усыпіў! – ткнуў пальцам у Шымановіча Шцільман. – Алягарх Львовіч! Мой зяць вельмі талковы баксёр. Корак з бутэлькі штурхялём выбівае. Нашаму скалазубу сківіцу момантам уставіць. Адно ваша слова і…

– Шымановіч! – Кідалоўскі тузануў эканаміста за плячо. – Ты ў нас трэці год без прыбаўкі да зарплаты сядзіш. Грошай не просіш, звальняцца не думаеш. Цёмныя справункі чыніш за нашымі спінамі?!

– Малайчына, Алягарх Львовіч, як лоўка шчупака на кручок падчапілі, – пацёр рукі Шцільман. – Наш хлопчык – шпіён!

– Алягарх Львовіч! – узмаліўся, прыйшоўшы ў сябе, Шымановіч. – Не верце Шцільману. Ва ўсім вінаватая жанчына. Я з дзяцінства люблю Мікі Маўса. Але Марына таксама па-свойму добрая. Яна – сплаў халоднай непрыступнасці снежнай каралевы і вогненнай прагнасці золатаздабытчыцы. Аднак яе апошні пацалунак прынёс мне расчараванне. Ён аказаўся падобным да глытка цёплай гарэлкі, якой абмывалі папяльнічку. Я не пераношу дым цыгарэт і пах сурагатнага алкаголю, але растацца з Марынай не ў маіх сілах. Так здарылася, што я ўбачыў на дысплеі фотаздымак Марыны без бюстгальтара. Ніколі раней я не атрымліваў столькі задавальнення ад ананізму.

– Кхм! – закашляўся Кідалоўскі. – Пакуль ма-

лады, любыя варыянты самавыяўлення дапушчальныя. Але зарубі сабе на носе, рукадзельнік, за табой квартальная справаздача без памылак і ляпаў. Прымнажэнне майго капіталу, сынок, цяжкая праца. А ў тваім адкрыцці ёсць адно слабое звяно. Пасля самавалодання, у адрозненне ад звычайнага валодання, няма з кім пагаварыць.

# Жылі-былі дзед і баба, або проста – рататуй

Восень падкралася непрыкметна, як сапраўдны “пісец”. Нахабная, апраметная цемра, чынячы бесшабашнае самавольства, атуліла вёску. З думкай “трэба канспіравацца”, дзед Сцяпан зашморгнуў на акне паркалёвыя фіранкі.

– А давай, бабка, пакуль сон нас не зламаў, павяселімся ўволю. Раней мы з табой добра пасваволіць маглі.

– Раней так! Але цяпер ці атрымаецца, з тваёй касавокасцю. І, богам прашу цябе, не лазь да мяне без акуляраў, а то надоечы пераблытаў зад з перадам.

– Ну, як хочаш, – адмахнуўся дзед, – толькі не круці потым носам, быццам нічога не прапаноўваў.

Усеўшыся за стол пад дрэвападобную герань, прыняліся старыя лускаць семкі. Бабка паспешліва, каб насыціцца да пачатку серыяла, дзед спакойна, але не даючы сябе аблузгаць. Нагрызалі старыя процьму шалупіння. Каб можна было пакласці яго ў Арктыцы цёмным бокам дагары, дадаць яшчэ жменьку, адтала б ледзяная шапка і настаў бы сусветны патоп.

Калі пачыналася кіно, старую ніякая сіла не магла адцягнуць ад экрана. Не раз дзед бажыўся, што чуў, як пад пакутлівую бабчыну цікаўнасць, лёгкі страх і слёзы замілавання храбусцелі ў яе вачах серыя за серыяй. Сам ён серыялы

не прызнаваў, затое наладзіўся ўпісваць літаркі ў крыжаванкі, давяручы прыроднай кемлівасці. Чаруючы над чарговай галаваломкай, Сцяпан удумліва шаптаў:

– Адзінаццаць літар па вертыкалі. Узбуджальны сродак. С-т-о г-р-а-м. Замала.Ч-а-ц-в-я-р-ц-і-н-к-а-! У самы раз! – самаздаволена ззяючы, дзед ушчыкнуў бабку за бачок.

Ні трывога пра заўтрашні дзень, ні сённяшнія жыццёвыя калізіі не маглі засмуціць старых у такія чароўныя вечары. Скончыўся серыял, і бабка, стрэсваючы з вуснаў прыліплыя шкарлупіны, падлезла да дзеда з пытаннем:

– У кіне ваўкі жудасна на поўню вылі. А я, прыдбаўшы нямала гадкоў, так і памру, не разумеючы, чаму "шэрыя" на нябеснае свяціла выюць.

– Дык на што ж ім выць, дурная ты баба, калі апроч месяца нічога ўначы не відаць, – не абцяжарыў сябе ўдумлівым адказам дзед. Але, атрымаўшы ад бабкі лыжкай па лбе, сапраўды разгубіўся:

– Ты завошта, старая, мяне агрэла?!

– Заслужыў, таму і агрэла! Успомніла, як ты, чорт стары, у такую ж месяцовую ноч мяне цнатлівасці пазбаўляў пад жудаснае ваўчыны выццё.

Паскроб дзед выцяты лабешнік, перабіраючы цмяныя, невыразныя ўспаміны.

– Гэта калі бандыты пагром учынілі, а я цябе ў стажку схаваў і гарачымі вуснамі твае вусны затуліў, каб не верашчала?

– Ага! Успомніў усёткі!

– Успомніў! І біць цябе буду не лыжкай, а чарпаком. Ты сваю цнатлівасць ужо да той ночы з кімсьці пасеяла.

– Час быў неспакойны! Аднаму дай, іншаму

не адмоў, трэцяга пад коўдру пусці.

Для дзеда слухаць бабу было вялікім задавальненнем, а не чуць яе – задавальненнем яшчэ большым. Адвярнуўшыся, ён перахрысціўся на абраз і прыняўся адбіваць паклоны, уладжваючы з Усявышнім свае справункі.

– Усемагутны Божа, выратуй і захавай! А захаваўшы, умацуй і накіруй!

Бабка занепакоілася і тузанула дзеда за рукаў.

– Чаго табе?! – буркнуў багалюб.

– Ты прасі, дурань, Божаньку ўмацаваць, а куды трэба, я сама накірую.

– Цьфу! Кляну сябе, што тваю распуснасць калёным жалезам не выпаліў.

– Не сярдуй, Сцяпан! – злагодзілася старая. – Распавядзі да канца лепш учорашнюю гісторыю пра атамана Разіна.

– Ды што там распавядаць?! – падымаючыся з каленаў, заўпарціўся дзед. – Зрэшты, добра, слухай. Падхапіў Сценька князёўну на рукі, паглядзеў ласкава і херась цела за борт у вадзяную бездань! Надакучыла яму зануда, як Му-му баярыні-спадарыні. І стаў ён з той пары халастым, як апошні патрон. А ты, калі будзеш уначы храпці, паляціш з печкі на лаву.

– Дык не я гэта. Барабашка-храпунчык у хаце завёўся.

– Ты мне мазгі глупствам не купарось. Кладзіся спаць. Заўтра падыму з самай раніцы, спраў многа.

– Усё на печы ды на печы, – забурчала бабка. – Калі, як людзі, у ложак ляжам?

– Маладыя няхай ложкамі рыпяць, – буркнуў дзед і, павесіўшы на плячо драбавік, выйшаў на ганак пакурыць. Пачасаў тое месца, што заўсёды

часалася і, пашнарыўшы вачамі па зорным небе, сунуў у рот цыгарэту. Тут вось і знайшла Сцяпана глухая заклапочанасць.

– Ноч, падла, ціхая, як у ліхія часы. Самая пара сала са склепа ў хату перахаваць.

Толькі пра сала падумаў, як каля брамкі мільгануў нечы невыразны цень.

– Хто такі будзеш? – Сцягваючы стрэльбу з пляча, насцеражыўся дзед. – Адказвай, пакуль не адстрэліў твае пацеркі ў портках.

– Не страляй, дзед Сцяпан, не прызнаў, ці што?

– А-а-а, хроснік! Дня табе мала. Ну, падыходзь, кажы, якая патрэба да мяне прыгнала?

– Прыйшоў за парадай, ды не ведаю з чаго пачаць.

– Пачынай, Сашка, з галоўнага. Людзі мы сур'ёзныя, і нядобра дробязямі мазгі адзін аднаму пудрыць.

– Жыццё з Люськай не заладзілася. Узяла моду цэлымі днямі гундосіць: “Не сікай у ракавіну, не сікай у ракавіну”.

– Гэта яна ад зайздрасці!

– Дык у дадатак, спаць надумала пад асобнай коўдрай. Загорнецца так, што не падкапацца.

– Гэта яна ад шкоднасці. Пакуль свой абцас табе на цемя не паставіць, не супакоіцца. Вялікага страху ў яе выхадках не бачу. Але пераджаніцца раю.

– Не магу. Мае старыя замовілі ўнукаў ад Люські. Люськін род здароўем дужы. Калі ўнука ад іншай нажыву, бацька грaзіўся спадчыны пазбавіць. Замова мне патрэбна ці зелле прывыротнае, каб Люськіну ганарыстасць зламаць.

– Слухай мяне, Сашок, уважліва. Той, хто ведае, чаго баба хоча, той ведае ўсё. Але бяда, што

не дадзена гэтага нікому ведаць. Як мужык мужыка, я цябе разумею. Калі дзень пражыў і нічога ад жонкі не дамогся, гэта як у лазню схадзіць і не памыцца. Старую будзіць не стану, яна спрасонку толькі нашкодзіць можа дурной парадай. Ёсць у мяне на тваю бяду адно зелле. Сам не раз у ход пускаў. Дзейнічае надзейна. Цяпер такая трава не расце, экалогія не тая. Дам табе дробку. Настойваць будзеш на гарэлцы тры дні. У краме купіш моцна салёнага селядца. Бульбу адварыш. Солі таксама не шкадуй. Мілую як будзеш частаваць, сам не еш, толькі нахвальвай: "Добрая рыбка! Добрая бульбачка!" Спаць кладучыся, настойку пад ложак схавай. Сам не пі, бо галоўнае праваронііш. Як толькі жонка перасохлымі вуснамі прасіць пачне: "Ой, Сань! Піць хачу", не лайся, што сярод ночы цябе падняла, адказвай ласкава: "Дык вунь пад ложкам, душа мая, поўны кубак стаіць". Толькі Люська нагнецца за кубачкам, ты, Сашка, не марудзь. Рататуй сваю мілую! Каб стогн яе па ўсёй вёсцы пайшоў. Ускочыць бабка мая, вачамі залыпае, з перапуду разгалосіцца: "Ой-ё-ёй, людзі добрыя, ды хто гэта так енчыць?!" На што я, ведаючы ў чым справа, ганарліва адкажу: "Не раві, старая! Гэта Сашка, хрэснік мой, у Люські аргазм на волю выпускае".

# Не цесляры, не качагары мы...

Лёс мяне па галоўцы не гладзіў. Жыць маталетку вучыў па-свойску. Сем разоў аб дзвярны касяк грымнуў, разок аб рэйку шандарахнуў. Аднойчы збіў да крывавай пульпы. Думалі, усё, трындзец Кузе Мустафаеву! Але выжыў усім смерцям на злосць! І рукі пацягнуліся не да рагаткі, а да сур'ёзных кніг. Чытаў запоем, пяць-шэсць кілаграмаў у тыдзень. Нашпігаваны пісьменнасцю, мог выкінуць што заўгодна. Стараста класа, Мальвіна Кажамякіна, прапісалася ў дырэктарскім кабінеце, даносячы пра мае свавольствы. Гніду-даносчыцу абазваў Лаўрухай Мярзлякінай. Дырэктрыса кандуіт завяла, нешта накшталт журнала ўліку маіх прыгод.

Неяк, ускочыўшы ў дырэктарскі кабінет, Лаўруха спалохана прашаптала:

– Ганна Пална! Мустафаеў на турніку малпу паказваў, а потым дзікім голасам крычаў: "Не будзе ў мяне дзетак!"

– Чаму так крычаў? – расхвалявалася дырэктрыса.

– Прышчаміў на турніку сваю фіговіну, вось і крычаў ад болю.

Ганна Паўлаўна хоць і была дырэктарам са стажам, але, як звычайная жанчына, бразнулася, страціўшы прытомнасць.

Толькі мамку гэтыя праблемы не хвалявалі.

– Ну і што?! – падпёршы бакі рукамі, спакойна заяўляла яна. – Ну, напісаў Кузьма на плоце не тое слова, якое ўсім хацелася. Дык чаму вы

да мяне прыбеглі пра гэта казаць?! Вы яшчэ скажыце, што я сама тое месца, пра якое ён піша, яму паказала?! За сына не перажываю. Час усё расставіць па сваіх месцах. Вось я мадэллю хацела стаць, а стала шматдзетнай мамай.

– Гэй, ты, маці-мадэль шасцярых дзяцей, – неяк па п'яні нагрубіяніў ёй татка. – Вярзеш лухту, а агурка салёнага да бульбы не паклала.

Але мама ведала, як можна, смачна мацюкаючыся, хутка паставіць татку на месца.

– Маўчы, суччын трыбух, пра шасцярых. Дваіх з табой наспала.

Лупцаваць бы мяне да крывавых сінякоў за выхадкі, ды не было каму. У мамулі рука на сваё дзіцё не падымалася, у татулі правоў не аказалася.

Вось так і рос, сталеў і разумнеў, пакуль лёс не зляпіў з мяне класнага вадаправодчыка. Падабалася служба з ключом дзевяць на дванаццаць. Умовы суровей, чым у крымінальным вышуку. Тэрміновыя выклікі, разгубленыя гаспадары, чарка ўдзячнасці.

У адзін з працоўных будняў паклікаў да сябе начальнік участку. У яго кабінет заходжу, як і ў грамадскую прыбіральню – толькі па крайняй патрэбе. Шэфовы ў лёгкай куртачцы, якая хавае ранні жывоцік, з ганарліва паднятай галавой хадзіў з кута ў кут, нібы пеўнік у куратніку. Калі такі пашле да фантазійнай маці, пойдзеш без усякіх ваганняў, разумеючы, што выбару няма.

– Давай пакурым, Мустафаеў, – прапанаваў начальнік замануху. І дастае з партсігара сапраўдную “мальбаросіну”. – Аташэ амерыканскага пасольства пачаставаў, калі краны ў іх мянялі.

– Дык не палю! – адчуўшы ўтоены падвох, стрымаў сябе.

– Тады па сто грам вып’ем надзейнага медыцынскага, – пагладжваючы пузаты графінчык, не здаецца шэф.

– Дык я па серадах не п’ю, – і ўпотай зглынваю здрадліва набеглую сліну.

– Кальнуцца хоць згодзен?! – і зманліва падсоўвае мне пад нос шпрыц. – Фірмовы, ад калумбійскага наркакартэля. Адзін знаёмы боцман за мора схадзіў і ўдружыў прэзенцік.

– Вы чаго, Цімафеіч, да мяне прычапіліся. Вашы катаванні больш дасканалыя, чым у гестапа. Але не здамся я вам.

– Малайчына, Мустафаеў! Калі не разявіў рот на мае падгоны, значыць свайго дурноцця ў галаве хапае. Вось такі ты мне і патрэбны – прынцыповы і непадкупны. Паедзеш у службовую камандзіроўку ў Залу… п… у Залу… п…

– Куды-куды? – натапырыў я вушы.

– На, сам чытай куды. – І падсоўвае мне ліст на гербавым бланку.

Шчыра кажучы, як дыхнула на мяне з той паперкі афіцыёзам, стала трошкі страшнавата. Вочы заплюшчыў, секунду вытрымаў, расплюшчваю і чытаю, стаіўшы дыханне. Аказалася, у адной не самай развітай краіне вадаправодная тэхніка ляснула. Патрабуецца шэфская дапамога.

– Не-е-е, Цімафеіч, не паеду. Усіх спраў не пераробіш, ва ўсе месцы не патрапіш. Каюся, малпаў баюся. Лепш у Крым махану косткі пагрэць.

– Позна піць баржомі, Мустафаеў. Я загад падпісаў. Не тая сітуацыя ў свеце, каб пра малпаў і іншую херню думаць. Свядомасць прэ з цябе, як зеляніна на градцы. Словам, ключ табе ў рукі і марш выконваць інтэрнацыянальны абавязак. Толькі будзь напагатове. У эпоху смутаў

нядрэмнае вока спецслужбаў будзе фоткаць кожны твой крок. У касе атрымаеш дапамогу на куплю новага чамадана.

– Чамадан мне не патрэбны, – упіраюся, як тое дзіця. – У мяне заплечнік у дарогу ёсць.

– Са сваім заплечнікам будзеш у склеп за гароднінай лазіць. А чамадан – гэта паказчык твайго дабрабыту. Гэта імідж краіны. Складзеш у яго штаны, кашулю, бялізну…

– А ў чым я тады паеду?

– Ты сваімі зацемкамі мне мазгі не купарось. Бо я магу і нагрубіяніць. Карацей, удачы табе. Глядзі, пад кулі з гарачкі не лезь. Прыехаў. Справу зрабіў. І сам з'ехаў. У мяне, каб некралогі пісаць, літаратараў няма.

Калі ў начальства лопаецца цярпенне – гэта горш, чым прарыў каналізацыі. Моўчкі бяру грошы. Іду ў краму. Чамаданы на трэцім паверсе. А на першым – усё тое, што для ад'язджаючых патрэбна: каўбаса, селядзец, гарэлка і салёны агурок. Азірнуўся на сяброў, якія сабраліся мяне праводзіць, і вырашыў: праводзіны буду рабіць па-людску.

Прысела наша развясёлая кампанія пад разгалістыя дубы-елкі каля гарадской сажалкі. Гудзім па-сапраўднаму. Гадзіны не прайшло, а ўсе ўжо напіліся як бэлі. Шум, гам, шашлыкі, гітара, дым каромыслам. Умеюць сантэхнікі адпачываць. Непрыкметна прыпаўзла ноч. Стала яшчэ душэўней. Толькі Федзя Майсяёнак зачасціў у кусты па малой патрэбе. Назад ідзе і крычыць немым голасам:

– Ё-ба-на, ма-май!

Падсвяцілі запальнічкамі і бачым: у Федзіных руках звярок прыгрэўся, носік пімпачкай. Акулярык Ёся Фрумкін радасна крычыць:

– Гэта дзяўчынка!

– Не, Ёся. Гэта вожык! Фрумкіну больш гарэлкі не наліваць – сказаў я, як сякерай адсёк. – У цябе, Фрумыч, па п'яні галюны ў вачах скачуць.

– Песня пра скакуноў! – тут жа абвясціў Федзя і што было моцы загаласіў:

– Распрагайце, хлопцы, коней!

– Запрагайце, хлопцы, коней! – падхапіла песню мая хвацкая братва.

– Гэй, хлопцы! – раздаўся нечы строгі голас. – Канчай скаціну мучыць!

Бачу, прэ на нас з кустоў касяк людзей у камуфляжы. Хто з палкай ідзе, хто з дрыном.

– Патруль! – аб'яўляе старэйшы. – Аблава.

– Заштарміла мора, – дружна зараўлі знаёмую з дзяцінства песню, – не пячалься пава…

– Хопіць шумець на ўвесь лес! – абарваў нас камандзір патруля.

– Гэта не мы шумім! – па звычцы адмаўляем відавочнае.

– А хто? – здзівіліся людзі з патруля. – Акрамя вас на кіламетр ніводнай п'янай душы няма!

– Чарот шуміць, дрэвы гнуцца! – апраўдаліся не міргнуўшы вокам.

Сярожа Вяземцаў, малайчына, тут жа адважна ўступіў з міліцыянтамі ў перамовы:

– Кузьму Мустафаева, сантэхніка ад Бога, выпраўляем. Ён да таварыша Неабабы ў разгар тамтэйшай вызваленчай барацьбы ад'язджае.

– Раз так, прашу прабачыць! – узяў пад казырок старэйшы групы. – Аддзел па барацьбе з наркотыкамі. Ловім вожыка. Ёсць падазрэнне, што ён колецца. Але баюся, справа ператворыцца ў чарговы "вісяк". Дазвольце за здароўе таварыша Неабабы шкляначку выпіць, а вашаму Кузьме пажадаць удачы, спрыту і асабістага дабрабыту.

Так просьбу сфармуляваў, падла, што адмовіць не асмеліліся.

– Можа, сабаку купіце? – тузануў за павадок вышуковага сабаку камандзір. – Зусім новы, ні разу не гаўкаў.

– Мы таксама не гаўкаем. А сабаку карміць няма чым. Самім на адзін закусон засталося.

– Душэўны "мянцец"! – кажу, гледзячы ўслед знікаючым у цемры людзям. – За такога і выпіць не грэх.

Пачалі шклянку за шклянкай піць за мянта, яго сабаку, за таварыша Неабабу. Столькі выпілі, што ачухаўся я, калі сонца ў цемя смажыць стала. Прадраў вочы і паверыць не магу: адзін адзінюткі, а прама каля морды каваныя краты.

– Завошта інтэрнацыяналіста пасадзілі, сукі?! – завыў не сваім голасам.

Чую, за спіной нечае дзіця гундосіць.

– Мама! Чаму дзядзька, лежучы на вадасцёкавай рашотцы, крычыць, што яго пасадзілі?

– П'янчугам будучая праўда падаецца, калі ім святло вочы рэжа. Лепш бы яго адразу пасадзілі.

– Ну-ну! – ківаю пальчыкам. – Не дачакаецеся!

Падхапіўся і на паўсагнутых нагах, дзе пехам, дзе бегам, мухай лячу на вакзал. На хаду, уджалены шчасцем, шапчу:

– Шва-бо-да!

Вакзал сустрэў абыякава-дзелавіта. На першым пуці маскоўскі цягнік пакаваўся пасажырамі. У мяне выбару не было. Масква, аэрапорт і гэтая самая Залу… п, цьфу! Залупішся вымаўляць.

Два тыдні камандзіроўкі праляцелі, як аванcік у пажыўным месцы. Памагатых мне падабралі цямлівых, з тых, хто нашпігаваўся ў малпаў з-пад носа бананы красці. Навучыў іх азам вадапра-

воднай справы. Нават да красы чыстай рускай мовы далучыў па-за праграмай.

– Магутная раша мова! – кажу, натхняючыся закруткай балтоў. – Ёсць у ёй адмысловае слоўца з трох літар. Па сэнсе яно азначае “Няма!” А пішацца і гаворыцца зусім па-іншаму. Мяне на гэтыя тры літары паслалі, а я ў вас апынуўся. Бачыце, якую вялікую моц мае гэтае слова!

З пачуццём выкананага абавязку стаў збірацца дахаты. Зачамаданіў дохлага малюска шэфу ў падарунак. Жонку апрануў з ног да галавы, купіўшы ёй сцілкі ў тапкі і шалік на шыйку. Стаміўшыся ад збораў, лёг галышом пад кандыцыянер. Чакаю пасольскага клерка, каб справадзіў у аэрапорт. Ляжу, мару аб родным доме. Успомнілася мяккая пярынка, пуховая падушка. Валяўся б усе дні ў пасцелі, душачы клапоў і мучаючы мух, толькі дням, калі ў лазню хаджу і па зарплату, зрабіў бы выключэнне. Аддаўшыся мроям, не адразу заўважыў, што нехта да мяне недалікатна, без стуку ў нумар увайшоў. Гляджу, мужык стаіць. У фраку. Чорным замасленым аксамітам вусікі і бакі на твары ільсняцца. Ледзь прыкметным касым радком прабор прарэдзіў шавялюру. У пятліцы да непрыстойнасці ярка палае макавая галоўка. Рукі за спінай нервова пакручваюць кій са слановай косці. Мне голенькаму ляжаць перад ім стала нязручна. Трошкі збянтэжыўся і прасцінку на сябе пацягнуў. Трывога, падла, напаўзаць стала ад неразумення, навошта гэта пасольскі саветнік так расфуфырыўся.

– Бяда, Мустафаеў.

– Эпідэмія ў горадзе? – жахнуўся я.

– Горш. Рэакцыянеры затычку ў вадаправодзе вырвалі. Прэзідэнцкі палац затоплены. Пакуль прынц на пляцы адрачэнцаў вешае, трэба

сістэму водазабеспячэння неадкладна аднавіць.

– Нудны з цябе вяшчун, нібы восеньскі дождж, а яшчэ саветнікам завешся, – кажу з дакорам. – Ды пра гэту навіну трубіць трэба так, каб падкаленкі ў мяне затрэсліся, каб я з разводнікам, дарогі не разбіраючы, да палаца імчаўся.

Нацягваю трусы на тое, з чым мама нарадзіла. Ногі ў кірзачы-гаўнадавы абуваю. У рукі бяру пачак вернага "Беламора".

– Дзе мая не прападала! Вязі, франт!

Заходзім дружнай парачкай у "параднік" палаца. "Беламорыну" ў кут рота прыляпіў. Да гэтай папіросіны стаўлюся трапятліва і з павагай. Ёсць у ёй нейкая магічная сіла.

Агледзеўся. Шыкоўна ўсё абстаўлена, халера на іх. Танк у акно руляй дыхае. Без танка, мяркую, у хаце пуставата будзе. Райскія птушкі велічна па дывановых дарожках шнырадь, трашчаць няспынна. Падскокваюць да мяне служкі. Пад ручкі далікатна бяруць. Яны басанож, саветнік у лакавых туфлях, я ў "кірзачах", ідзём да месца аварыі. Сістэма водазабеспячэння ад "Фрэнча Лэмпарда" ў палацы стаіць. Далікатная штука. Адным словам, хрэньцузская. Да яе з малатком і зубілам не падступішся. Бачу, мае "тузікі", я так тубыльцаў тутэйшых клічу, паспелі напартачыць. Стаяць ні жывыя ні мёртвыя, падбародкі да грудзей прыціснулі. Разумеюць: без мяне грош цана іхнім кучаравым даўбешкам.

– Набабанілі, ябіць тваю раз'ябіць, – заяўляю з дакорам.

Па локаць у дзярмо ўлез. Ліквідую завалы, разбіваю заторы, адначасна даю дыхту горамайстрам, высцілаючы паркет праўдай маткай.

– На храна, – кажу, – хрэнашлёпы, бадзягу нахраначылі. Зараз вашую хрэнь расхраначваць

на хрэн трэба. – І разводнікам па іх шчацiністых кумпалах злёгку прыклаўся. – Сантэхнік без ключа… ну, – і “тузікі”, мною навучаныя, хорам працягваюць:

– Штыю кгымінальны вышук б’ез саб’які.

– Малайчыны, губашлёпы! Залатое правіла сантэхніка засвоілі.

Чую, за дзвярамі невыразны шум, трывожная мітусня. Раптам усё змоўкла, і з’яўляецца ўласнай персонай прынцэса. Вакол світа ўецца з кажаноў, педзікаў, цырульнікаў, блазнаў, чарцей і д’яблаў. Прынцэса, мужчынападобная хабальніца, з выгляду неймаверна амбіцыйная, а па сутнасці, звычайная аматарка пахарахоніцца. Займела на пару з прынцам высокапрыбытковую натуральную гаспадарку, і пляваць гэтай парачцы з высокага мінарэта на сусветныя калізіі. У руках фужэр з любімым афрадызіякам трымае. Па паху аддае гнюсным тэкілавым лікёрам. Падданыя яе святасці на каленях поўзаюць, раздзьмухваючы не прасохлыя лужынкі. Кроў у мяне пралетарская, і я на падобныя шахнімахні не паддаюся. Трымаюся індыферэнтна: мая хата з краю. Перацыроўваць іхнія парадкі загаду ніхто не даваў. А гэтая фраў, убачыўшы мой спакой… раз, і крысо свайго канарэечнага халата адкінула. А там, страшна падумаць… маячыць выфарбаваная хной рудая пасма.

Я – калач цёрты. І чым жанчына ад мужчыны адрозніваецца, ведаю не толькі па швецкіх порнастужках. Таму стаю ўпэўнена, цераблю гумку ў трусах і напяваю пад нос бадзёрую песенку:

Наш паровоз вперед летит,
В коммуне остановка…

Словам, у руках вінтоўка, і не фіг лезці да мяне па дробязях. Але тлумачальнікі-лумумбісты

перакруцілі сэнс майго настрою, і прынцэса паверыла, што вінтоўка ў мяне ў трусах. І халат з яе плячэй зусім злятае, нібы з дрэва восеньскі лісток. Стаіць голая. Чорная, халера на яе, як сажа на чыгунку. Калі б мяне пасадзілі на допыт да следака, дык нават без гвалту прызнаў бы: нашы дзеўкі большыя красуні, таму што больш ружовыя.

– Вы настолькі грацыёзныя, фраў, што ўявіць вас у ложку бракуе фантазіі, – бурчу сабе пад нос, узняўшы вочы да столі. – Думаю, ваша месца на пальмавай галінцы.

– Мустафаеў, – абсякае мяне саветнік. – Калі яна пачне кіпяціцца, крычаць і тупаць нагамі, цябе ніхто не выратуе. І ты пашкадуеш, што нарадзіўся хлопчыкам. Не будзе ў цябе той штучкі, за якую дзяўчынкі любяць хлопцаў. Не здзекуйся. Мяне пашкадуй. Замудохаюся цынкавую труну з табой на Радзіму адпраўляць. Яны тут усе страшэнныя бюракраты. Без хабару пальцам не паварушаць. А бюджэт пасольства і без таго па швах трашчыць. Павагу яна табе, дурню, выказвае. Старадаўні тубыльны звычай. Захопленая тваім высокім прафесійным майстэрствам, хоча бачыць тваё захапленне яе точаным целам.

– Дзікуны! – паслухмяна захапляюся. – Толькі ад яе павагі мне ні горача, ні грашова.

Прынцэса, бачачы прыкрасць у маіх вачах, па горле сябе пстрыкнула, і нясуць мне крыштальную чарку на залатым падносе. Шчыра кажучы, меркай падзякі заўсёды лічыў шклянку, але і чаркай у маім становішчы грэбаваць не выпадала. Выпіваю правераным спосабам: кілдык, і там. Мяне так вучылі рабіць на вяселлях і пахаваннях. Гляджу, другую чарку нясуць. Тут я, ды

прабачаць мяне саноўныя асобы, не стрымаўся:

– Вы што, здзекуецеся. Цягніце ўвесь графін адразу.

Прынцэса вачэй з мяне не зводзіць. Скурай чую, як яна сваімі вялізнымі вачыма мяне мацае, мацае, аж козытна. Я ж, калі выпіваю, раблюся неверагодна абаяльным. Дастаю новую "Беламорыну", прыкурваю, частую даму.

– О-о-о! Тваўка! – усклікае яна і прагна зацягваецца. Раз, другі пыхнула і стаіць, уся дымам ахутаная, як паравоз з маёй песні.

Пасля выпітага гэтая ведзьма падалася мне вытанчаным дзяўчом. Са стройнай кармой пры назе. Я калі пад мухай, добрым станаўлюся. Злым мяне па гэтай прычыне рэдка бачаць.

– Пан сантэхнык! – з дрыготкай у голасе чапляе мяне прынцэса. – Я хачу тыбя…шмат мала цылаваць.

– Не вылузвайся, – шэпча мне на вуха саветнік. – Рабі, што табе кажуць. Вясна выклікала ў яе сезонны ўсплеск гармонаў.

– А раптам заявіцца ў непатрэбны момант прынц з парай узводаў і "калашамі" ў руках, пакрышаць мяне ў дробны вінегрэт, – шапчу саветніку ў адказ.

– І пакрышаць, калі марудзіць будзеш. Увайдзі ў яе становішча, Мустафаеў. У прынца справы дзяржаўныя. Людзей вешаць не перавешаць, а мужык бабе кожны дзень патрэбны.

– Вось і ішоў бы да яе. Не грашы, што мулаткамі тут не аблашчаны.

– І пайшоў бы, ды не кліча. Будзе табе ад мяне за адвагу мяшок бананаў мясцовай зборкі.

– Здаліся мне твае бананы. Я імі аскоміну набію. Шантрапа мясцовая, толькі свісні, столькі назбірае, што "камазам" не вывезу.

– Не ламайся, такое ў жыцці раз бывае. Калі яшчэ з прынцэсай у засмокт цалавацца зможаш. Праваронiш шчасце – будзеш локцi кусаць. Дзейнiчай напорыста і сярдзiта. Ёй спадабаецца.

– Баюся, адсмокча па-вампiрску частку маёй энергii. А табе, дарэчы, якi інтарэс ва ўсёй гэтай справе?

– Дзяржаўны! Мне дыпламатычныя адносiны з-за ўсякай херні нiхто псаваць не дазволiць. У нас у гэтай краiне стратэгiчны інтарэс, таму адзiн няслушны крок, і ўсё сарвецца. Але пра гэта з табой услых казаць не магу.

– Баюся, яе памада будзе на зубах рыпець.

– Глiна не ядомая, ты маеш рацыю, але і блага табе не будзе. Паванiтуеш, і на тым скончацца ўсе твае непрыемнасцi. Затое прэстыж краiны захаваеш. Цёмны ты чалавек!

– Даўно мяне ідыёт не хвалiў. Ты хоць разумееш, што гарачы пацалунак пры халоднай гарэлцы – гэта падпалены бiкфордаў шнур да пакгаўзу з трацiлам. Звяры вы ўсе тут, сапраўдныя звяры. Ды ў звычайнай краiне ў яе бок нават пятак шкада кiнуць.

– Дагаворышся, Мустафаеў! Загадае скармiць тваё цела маскiтам-тэрмiтам, і нiхто на Радзiме нават костачкi тваёй не ўбачыць.

Паскроб я шчаку, брыво нахмурыў. Добра, што я ўсё-ткi мужчына. Пры пацалунку шчацiнне не коле. А, была не была, бляха муха! Дзе мая не прападала! Трусы падмочаныя толькi справу псуюць. Але нi ручнiка, нi кабiнкi перапранулца няма. “Кiрзачы” на ўсякi выпадак зняў – пабаяўся саноўнай асобе ногi адтаптаць. Вочы заплюшчыў і падстаўляю шчаку для цмока. Проста і гiгiенiчна. Дык яна, дрэнь гэтакая, прама ў вусны мне ўпiлася.

– Якая прыгожая пара, – замілаваўся саветнік. – Ён – белы, яна – не белая.

Пякучы пацалунак гэтай хвацкай лярвы мне надоўга запомніўся. Я тады апёкам трэцяй ступені абышоўся. Яна так расхвалявалася, што, цалуючы, забылася папяросу з рота дастаць.



# Вішня Ільіча

Не так даўно каля Адамава возера жыў гарачы мужык Сцяпан Качубей. Пабудаваў хату, пасадзіў дрэва, выхаваў сыноў і запіў, не маючы іншых мэтаў у жыцці. Піў грунтоўна, свята прытрымліваючыся адкаркаванай праўды: ежа і закуска – не адно і тое ж. Як напіваўся, любіў на ўвесь голас співаць гарэзныя прыпеўкі. Затое вяселлі з такім буянам атрымліваліся дужа нясумныя. Аднак жарабісты час Сцяпана даўно скапыціўся, і жыццё пайшло на конус. Месца, дзе вешаюць медалі, непрыкметна звужалася, а месца пад клізму пашыралася. Уцехай стаў нажыты першасны бацькоўскі капітал з семярых сыноў. Спачатку хацеў аднаго, а потым перастаў іх лічыць. Чацвёра дарослых пагодкаў адшпіліліся ад бацькоўскай хаты і нырнулі ў вір гарадскога жыцця, зарабляючы на ананасную поліўку.

– Мяне з сынамі, калі нешта там, вайна, ці іншая неспадзянка, не застрашыць! – гаварыў Качубей, седзячы ў кампаніі аднавяскоўцаў. – Станем цвярдыняй, і няхай сунецца якая падла, адразу башку разаб'ем. Нічога, што мамкі ў іх розныя. Галоўнае, бацька адзін на ўсіх. Хацеў ім нядаўна змайстраваць братку-немаўлятку, ды не змог – запал прайшоў. А соваццца да бабы без запалу сорамна.

Як толькі вечарэла, збіраліся Адамаўскія мужыкі на бяседу і да позніх зорак умацоўвалі веды пра закуску, атрымліваючы асалоду ад хараства свежавыгнанай самагонкі. Бутэлька нават

гусака са свіннёй згодай схамутае. Хто да "дыспутнікаў" на шару прысядаўся, таго адразу ў сельмаг за партвейнам пасылалі. Не гарэлкай адзінай п'яны чалавек. Сельмаг у такія ночы не зачыняўся. Прадаўшчыца адсыпалася на мяшках з грэчкай. Развяжуць мужыкі языкі, ператруць навіны пра баб-дурніцаў, пра футбол-хакей, хто дзе насцябаўся, ну і жыццё народнае ўспомняць нядобрым словам. А жыццё, па іх меркаванні, сышло далей няма куды – змарнаваліся людзі. Кілбасіць людцаў ад куплі-продажу. Усё ў зварот пушчана – узнагароды, нарады, брыгады, падрады, баксы, еўры, розум, гонар, сумленне… Пад раніцу пасяджэнні ператвараліся ў "паляжанні", і доўга яшчэ стагнала ваколіца ад здаровага мужчынскага храпу.

Неяк ранкам селі за стол качубейскія сынкі. Маўкліва запусцілі лыжкі ў чыгунок з прасянай кашай. Ядуць не спяшаючыся, як раптам старэйшы ўздыхнуў:

– Э-э-х…

– Не шкодзіла б! – адгукнуўся сярэдні.

На што малодшы неадкладна гатоўнасць ускудлаціў:

– А што, я збегаю…

– Я табе зараз збегаю! – у дзвярах стаяў Качубей, абуты ў падраныя за гады ліхалецця чаравікі. – А ну, не ўяўны наяўны кагал, замерлі дзе сядзіце! – выдыхнуў ён каманду з водарам вячэрняга "партвяшкі". – Сыны, хачу вам злёгку мазгі прачысціць. Сам я лынды біць не прывык. Грошы зарабляю з трох гадоў. У гэтым узросце бацька стаў на мяне аліменты высылаць. Сем гадоў у сваім жыцці не піў, не паліў, да дзевак не хадзіў. Ніколі не варочаў нос ад няхітрага сала з капустай. Вось такога правільнага і адвялі мяне ў школу.

– Бацька, ты адразу кажы, што здарылася? – загундосілі брацянікі. Ведалі мальцы, паіскрыць бацька і абвугліцца. Адно час змарнуеш, а справаў на Адамавым возеры ўсіх не пераробіш. – Калі дапамагчы трэба, мы не адмовім. Намякні, да чаго рукі прыкласці трэба. Калі суседу морду набіць, дык гэта мы зараз! Імгнення.

– Сусед папярок дарогі не стаіць. Брамка ў яго двор для мяне заўсёды адчынена.

– Тады не разумеем цябе, татка, навошта ўвесь гэты ранішні базар?

– Вы свае асліныя зацемкі накшталт “разумею-не разумею” кіньце. Не стаў бы я без справы з вамі лясы тачыць. Здарылася непрыемнасць, і адбыцца яна сама па сабе не магла. Сёй-той да гэтай справы свае паганыя ручкі прыклаў. Таму загадваю слухаць мяне ўважліва, языкамі не малоць, на пытанні адказваць без утойванняў. – І, прысеўшы да сыноў на лаву, Сцяпан працягнуў размову. – Сустракаю нядаўна па-святочнаму ўбраную Паліну. На плячах каромысел з пустымі вёдрамі, хоць вадаправод у мястэчку працуе спраўна. Разумею, такое відовішча – да няшчасця. Асцярожна, без усякіх пасцельных намёкаў, цікаўлюся:

– Ты куды, кума, так апранутая, ды з вёдрамі?

– У клуб іду, кіно прывезлі.

– А вёдры на халеру туды цягнеш?

– Дык Пятровіч кажа, кіно – абсікацца можна.

– Ці не зашмат два вядра на адно кіно?!

– Дык у мяне па вядру на кожную серыю.

Гатовая абсікацца баба з пустымі вёдрамі ў руках – гэта, паводле астральных канонаў, прадвеснік вялікай бяды. Зразумеў я, што расслабляцца нельга, і ў клуб не пайшоў, хоць люблю ў цемры кіназалы лапаць грудастых цётачак.

Каб аплявуху не атрымаць і справу да вігзу не давесці, заўсёды пытаю, запускаючы рукі пад кофтачкі: “Ты гэта, Піліпаўна, з краю сядзіш? Кажы, які рад пад табой і ці ёсць на ім вольныя месцы?”

Але бяда прыйшла на родны падворак хутчэй, чым я мог падумаць. Нейкая бязмозгая тля сапхнула нашу прыбіральню ў возера. Даведацца хачу, чыіх паганых рук гэта справа. Бацьку ашукваць нядобра. Калісьці, за царскім часам, Валодзька Ленін спілаваў вішаньку ў садзе свайго таткі. Ці то Бураціну задумаў зрабіць, ці то рагатку на цара – гадаць не буду. Гісторыя пра гэты факт таксама замоўчвае. Але калі бацька запытаў без пагрозы ў голасе пра вытваранае паскудства, Вова Ільіч не стаў брахаць, прызнаўся і аддаў пілу, хоць мог і яблыньку схерачыць. Бацька, як чалавек добра выхаваны, вялікадушна прабачыў сына і зубатычыну не прапісаў, своечасова зразумеўшы, які прыстойны і сціплы яго Вовік. Зубы будучаму правадыру спатрэбіліся для барацьбы з гідрай сусветнага імперыялізму.

– Добра, тата! – патупіўшы вочы, шморгнуў носам Янка, малодшы з братоў. – Мы з прыбіральняй пагарэзілі. Сіла прэ, а куды дзяваць, не ведаем. Дзевак мацаць надакучыла. Вось я і падбіў браценікаў спусціць на ваду наш “тытанік”. Не думалі, што ён так хутка на дно пойдзе. Мы толькі павесяліцца хацелі, вось і ўсё.

– Малайчына, сынок, што шчыры перад бацькам. Але калі рукі растуць не з таго месца, дык гэта ногі. Кіруе нагамі не галава, а дупа. А ў дупе нават у геніяў акрамя дзярма нічога няма. І біць яе па гэтай прычыне зусім не шкада. Інстытутаў я не канчаў і навуку выхавання пераняў па спадчыне. Са мной так доўга не цацкаліся, як я з вамі.

Агаляйце свае азадкі! Трусы даўжэй носяцца, калі іх часцей здымаць.

I Качубей выцягнуў дзягу з портак, збіраючыся дубасіць мальцоў. Вось тут і ўпілося ў Янкаву душу джала крыўды:

– Завошта-а-а, бацька?! А як жа Ільіч, вішня…

– Разумееш, сынок, калі Ленін спілаваў тую вішню, яго бацька на ёй не сядзеў.

# Сезон палявання на адзінокіх грыбнікоў

Не баючыся магільнай цішыні дрымучых мясцін, хадзіў адважны Іван Кажамякін па лесе і шукаў грыбы, якія зазяваліся і не паспелі схавацца. У пошуках здабычы не грэбаваў ён прыпадняць замшэлую галінку, прыціснуць абцасам натапыраную траўку. Мякка ступаючы па імшыстай падсцілцы, круціў ён драпежна-бліскучым нажом, адначасова гасячы ранішнюю смагу пузырыста-калючай “кока-колай”.

Надзвычай добрая чарада выйграных судовых працэсаў прынесла адвакату душэўны ўздым. А галоўнае, у лесе Іван быў недасяжны для злосных кліентаў і агрэсіўных апанентаў. Паліты шчасцем, нібы лес грыбным дажджом, Кажамякін не заўважыў, як зайшоў пад сцены заводу анамальных канструкцый. Ёкнуў завод у зацішным месцы ў год святкавання трохсотгоддзя гранёнай шклянкі. З тых часоў грыбы ў гэтых мясцінах пад звычайнай ялінкай не раслі, а бессаромна пладзіліся пад яловымі лапкамі перараджэнкі – карэльскай бярозы.

Калі цэлафанавы пакет напоўніўся бадравічкамі з дужымі ножкамі, трывожна калыхнуліся галінкі кустоў, аблепленыя “воўчымі ягадамі”. З зараснікаў насустрач грыбніку ступіла старая ў чорным адзенні і чырвонай бейсболцы на галаве. Цяжка дыхаючы, яна валакла велізарную пральную дошку.

– Красунчык! Дапамог бы паклажу да вёсачкі даперці. Падзяка за мной не заржавее.

Даўно аблыселы васпаваты “красунчык” жыва адгукнуўся на пусцяковую просьбу.

– Дапамагу! Добрыя людзі робяць дабро, не думаючы пра выгаду, – сказаў Кажамякін і, забыўшыся пра пінжак ад Армані, узваліў дошку на плечы. – Шклянка самагонкі мне не пашкодзіць. Пара апахмелу прыйшла. Своечасова ты падаспела. Галаву так кілбасіць, што ворагу не пажадаеш. Работа мітуслівая пячонку выела. Толькі прыняўшы сотачку на грудзі, пачынаеш пачувацца чалавекам. Дошку на якую халеру па лесе цягаеш? Ні ручая, ні сажалкі, прыдатнай для прання, я не заўважыў.

– Патрывай трошкі, саколік, хутка сам усё зразумееш.

Парачка выйшла з лесу і моўчкі пайшла ўздоўж зараслага свірэпкай поля.

Калі ў лёгкай смузе замаячылі хаткі сяла Чуханы, пачуўся гоман тамтэйшых беспрасветных п’яніц і дзівакоў.

– Зваць цябе як, шаноўны? – спытала на хаду старая.

– Янка.

– Я, Янка, вядзьмарка! За тое, што дапамог не ўпіраючыся, загадвай ва ўзнагароду жаданні. Але больш трох у адны рукі справіць не магу. Нават магія мае свае межы.

– Вядзьмарка, кажаш?! – ажывіўся Кажамякін. – Вось калі шклянкай гарэлкі нутро апаласну, тады і мялі языком свой гумар. З вясёлым чалавекам і ўбогае застолле балем падасца.

– Ёсць у мяне, Янача, на тваё разумнічанне свае мудрагельства. Месцы нашы асаблівыя. Як завод бабахнуў, пачулі людзі ў сабе небывалую

сілу. Не ўсе, праўда. На тых боская ласка зышла, хто правільна жыў, з думай пра добрыя справы. Не паверыш мне – шчасце правароніш. Потым усё астатняе жыццё дакараць сябе будзеш.

– Павер, бабуля! – не стрымліваючы эмоцый, выгукнуў Кажамякін. – З маленства не люблю простых і адкрытых шляхоў. Не давяраю ім. Пастка на такіх дарогах звычайна хаваецца.

– Са мной табе няма чаго баяцца. За дабро я дабром заўсёды гатовая разлічыцца.

– Дзіўна ўсё гэта. Але рызыкнуць і праверыць сілу тваіх вядзьмарскіх чараў мне нішто не перашкаджае. Такой бяды, чаруй, Баба-Яга! – і, сабраўшыся з духам, быццам меўся крыкнуць: “Круп’е, усё на чорнае!”, Янка выдаў з прыдыханнем:

– Спраў мне, вядзьмарка, прыгажуню-жонку! Гаспадыню і на чужых мужыкоў не ласую. Слабо, нябось, старая?!

– Для мяне твая просьба – адна забава. Ёсць на прымеце такая дзеўка. Ніводны жанішок яшчэ не швэндаўся ля яе дзявоцкай спаленкі. Татка-багацей прыхаваў дачушку да зручнага моманту. Вось адрасок, – і старая лёгкім факірскім рухам дастала са складак спадніцы канверцік. – Слова запаветнае, на якое табе дзверы адчыняць, так запомні: “Дзікі дзень”. Зразумеў?

– Зразумеў! Але здаецца мне, ты аферыстка і завабіць у прытон хочаш. А там злыя людзі аббяруць мяне да ніткі і жыцця пазбавяць. Як я пайду, не ведаючы куды? Ты нават здымак нявесты прад’явіць не можаш. Толькі ведай наперад: мяне і з калом не возьмеш, я хутка бегаць умею.

– Няма ў мяне, галубок, на цябе чорных думак. Падабаешся ты мне. Ёсць у табе рэдкая цяпер святасць: сябе паважаеш, сямейныя асновы берагчы

гатовы, за грашовым д’яблам гнацца не імкнешся. Паперка мая сілу мае на працягу аднаго светлавога дня. Не скарыстаешся – рассыплецца ў прах, а ўсё, што казала, вецер-свавольнік развее над лесам. Давай не валаводзь, стрыжы другое жаданне. Бачу, як рояцца вялікія магчымасці. Сам не жмурся, не дадзена табе гэтага бачыць.

Кажамякін прыбалдзеў. Але адчуванне вялікай фальшы каламуццю асела ў яго галаве. Было з ім нешта падобнае ў турэцкім Дахамане, дзе і чай падалі танны, і каву зварылі лажовую. Але тутэйшая бабка не была падобная на пустабрэшку. Чырвоная бейсболка, белыя панчохі, пральная дошка – у любой чараўніцы ёсць свае прыбамбасы. Перакінуў Янка ад вуха да вуха валасіну, ствараючы дабрабыт на галаве, і вырашыў вывесці вядзьмарку на чыстую ваду.

– Хачу, каб чалец у мяне быў… такі-і-і…

– Смялей, Янка, вызначайся. Які табе патрэбны членік: суслікавідны, бурацінападобны, у выглядзе лейкі…

– Не, не! Хачу для пачатку, каб ён проста падрос, ну…памужнеў, ці што…

– Разумею. І быць таму, што ты жадаеш. Зажывеш ты неўзабаве са сваім членікам поўным духоўным жыццём. І будзе ў цябе кожны вечар не падобны на іншы і добры па-свойму. Не стану больш сушыць твой мозг чаканнем цуду. Трэба табе зрабіць дзевяць крокаў насустрач сонцу. Пад кожны крок кажы: “…Энцы-бэнцы-шмараенцы! Расці чалец ушыр, у даўжыню, нідзе з табой не прападу”. Запомні, дзевяць крокаў твая норма. Інакш твая добрая якасць станецца несувымернай з месцам, дзе будзеш яе выкарыстоўваць.

Ад невыразнага прадчування Янка задрыжэў, як асінавы лісток на кончыку хваста баязлівага зайца.

– Ды пачакай ты! – абарвала старая Кажамякіна, які павярнуўся да сонца. – Без трэцяга жадання два іншых сілы не маюць.

– Над трэцім дзеля другога нават думаць не буду. Хачу ў Аўстралію злятаць, на кенгуру пакатацца.

– У гэтым я табе з вялікім задавальненнем дапамагу. Падабаюцца мне дапытлівыя людзі. Бачыш прасеку? Выйдзеш па ёй да векавога дуба. За жалудовым стаілася Марфа-рукадзельніца. Ты яе пазнаеш па тачоным стане і шырокім сцёгнам. Міма дзяўчыны спакойна прайсці немагчыма, а разява абавязкова спатыкнецца і зломіць патрэбную ў сваёй гаспадарцы косць. Марфа заўсёды розная: то намаляваная, то ненамаляваная. Будзе яна ў белай кароценькай спаднічцы, якая зусім не засцерагае ногі ад непагадзі. Пад спаднічкай у патаемнай кішэні знойдзеш квіткі на самалёт да Мельбурна, там жа сутачныя для цябе. Наконт яе месячных не затлумляйся... Але памятай, Марфа вельмі фанабэрыстая, аж залішне. Любіць хадзіць па вуліцы з голым задам. Не магу ёй ніяк растлумачыць, што такое права дадзена каням, сабакам, свінням. А людзі свой азадак павінны хаваць. Можа, ад цябе яна розумам пажывіцца.

– Халера ясная! – пляснуў у квадратныя далоні руды Кажамякін. – Няўжо ўсё тое, што ты набрахала, праўда?

Вочы старой загарэліся незямным бляскам і яна зашаптала:

– Нешта плёскаецца, вые, нешта шэпчацца ў куце. Цуды здзейсняцца ўсе тыя, што наш Янка захацеў.

Кажамякіна ахапіла незразумелая трывога, па нагах пашлі дробныя дрыжыкі. Раней такога

ён за сабой не заўважаў нават пасля моцнага перапою.

– Ты, Яначка, пакуль не спяшайся крокі адмяраць, – бабка загадкава паглядзела Кажамякіну ў вочы. – Буду прасіць цябе за цуды аказаць мне невялічкую паслугу.

– Не ўяўляю, чым я магу вядзьмарцы дапамагчы? – шчыра здзівіўся Кажамякін.

– Бяда, што мая магія на саму сябе не дзейнічае. Даводзіцца людзей сёе-тое прасіць. Галоўнае, ты не сумнявайся, будзь у сабе ўпэўнены. З тваім здароўем дапамагчы мне – гэта раз плюнуць. Патрахай мяне на развітанне, – і на твары старой адбілася сарамлівая ўсмешка.

Кажамякін зусім разгубіўся. Яму і так не даваў спакою касматы клубок неўразумення, які нельга было разблытаць. Аднак пасля словаў старой ён сцяміў, тая сапраўды не ў сваім розуме.

– Бабуля! – ветліва загаварыў Янка. – Тое, што вы мне прапанавалі – дзікасць, як і падціранне азадка лапухом.

Але ў тое, што ён сапраўды мае рацыю, Іван верыў не да канца. Замінаў стоены сумнеў, што старая не такая простая, як магла здавацца. Адрасок багацея з дачкой, фокус з чальцом, Марфа ў белай спадніцы з голымі сцёгнамі – за ўсім гэтым хавалася нейкая таямніца, пакуль яму недаступная. Невядомасць зачароўвала, абвастраючы жаданне разабрацца ва ўсім да канца. Неахвотна стаў Кажамякін расшпільваць порткі. Бабка ж, не цырымонячыся, распранулася да зялёнага станіка і ружовых трусоў.

– Непрыемна мне пра гэта казаць, бабуля, але здаецца, не ўстане ў мяне на цябе.

– Не гаруй, Яначка! Я дапамагу. У маіх руках нават вялы кавалак цеста ператвараецца ў апе-

тытны піражок. Ты, Янка, словы ўсе з ласкавым канчаткам, якія ўспомніш, кажы, не саромейся. Яны моцна мяне заводзяць, – і вядзьмарка, млява акругліўшы вочы, пайшла на Кажамякіна, падсцёбваючы сябе вершамі. – Пацалунак для каханкаў, бы піццё марской вады. Калі мучыць жарсці смага, будзеш піць бясконца ты! – сарамліва заплюшчыўшы вочы, старая прыпала да Янкавых вуснаў.

У ноздры Кажамякіна ўдарыў з'едлівы цыбульна-перагарны пах.

– Пацалунак – гэта лішняе! – абурыўся ён бабкінаму размаху.

– Пацалунак – гэта прэлюдыя кахання, Янка. А без кахання як ні імкніся, нічога талковага не выйдзе, хоць будзеш ты гарачы, як чыгунок з печкі. Сцялі, Янка, пральную дошку. Вось і спатрэбілася, родная. Нездарма яе цэлы дзень на сабе цягала.

– Што значыць, сцялі дошку?

– Табе, Янка, колькі гадкоў стукнула?

– Трыццаць восем з хвосцікам.

– Не маленькі, разумець павінны. Бліскучы сэкс у мае гады толькі пральная дошка забяспечыць можа.

Кажамякін, не стрымліваючыся, знарок гучна засмяяўся, хаваючы за ідыёцкім смехам злосць на сябе.

– Апранайся, вядзьмарка. Не пройдзе твая хітрасць. Бач, як складана казаць навучылася. Ды і я добры! Вушы лапухамі развесіў, душу вывярнуў, самым патаемным з першай сустрэчнай падзяліўся.

– Пачакай, Янка, не спяшайся сябе дакараць! Рана ты нашу невялікую справу закругліць вырашыў. Усё яшчэ толькі пачынаецца.

– Ты што, палохаць мяне ўздумала?! – збянтэжыўся Кажамякін. – Ды я цябе... – але пачуўшы дзіўны шоргат за спіной, Іван замоўк і азірнуўся. І тут яму сапраўды стала не да жартаў. Добры дзясятак паўраспранутых бабак з пральнымі дошкамі наперавес акружаў грыбніка.

# Сюрык

Ніхто не вольны ў выбары часу і месца свайго нараджэння. Вось і браты-блізняты Румянавы нарадзіліся не ў Парыжы, а ў мястэчку Будубаеўск, на беразе свавольнай рэчкі Разбухайкі. Былі Колька і Ванька падобныя між сабой, як дзве шышкі з елкі, і ўсюды па любой нагодзе хадзілі разам. З ранняга дзяцінства любілі яны гуляць са звяркамі, і абодва пайшлі працаваць забойшчыкамі скаціны на мясакамбінат.

Як прыжыўся на румянаўскім падворку задзірысты казёл Ягор, было для людзей неспасцігальнай загадкай. Калі браты выводзілі задзіру пагуляць, уся Вадап'янаўская вуліца пусцела. Ніхто не жадаў выпрабаваць вастрыню рагоў казла-забіякі. Хаваючыся за плотам, суседзі абурана наракалі:

– Нельга па горадзе з казлом гуляць!

– Гэта чаму яшчэ?! – закіпаў Колька. – Галубы, падлы, усюды лётаюць, гадзяць дзе папала, і ніхто ў іх палку кінуць не смее.

– Ну ты параўнаў, Мікола! Голуб – птушка міру!

– Наш козлік таксама вайны не хоча.

Каб адвязацца ад надакучлівых суседзяў, вырашылі браты скончыць з халасцяцкім жыццём і знайсці для казла гаспадыню. Мікалай спрытнейшым аказаўся і жаніўся раней брата. Жонка трапілася працавітая. І лазню растопіць, і пярынку ўзаб'е, і стрэлкі на штанах навядзе. А галоўнае, на свой розум стала распараджацца

жыўнасцю братоў. На варотах павесіла аб'яву, выведзеную на лістку сшытка: "Прадам танна кацянят. 50 рублёў вядро". Пацешыліся суседзі і сталі чакаць, калі чарга да казла дойдзе. Ванька, перастаўшы мыць брудны посуд, прывучыўся цягаць яго на братаву палову хаты. Непрыкметна згаснуў яго запал жаніцца, і стаў далей Іван халасцякаваць у сваё задавальненне. На шчасце, дзеўкі ў гарадку не пераводзіліся.

Але нечакана здарылася бяда: заўчасна аўдавеў Мікалай. Сышла на вечнае спатканне да Бога маладая жонка, пакінуўшы Мікалаю па сабе трыццаць метраў крэпдэшына, пудру, цюбік крэму, флакон духоў, дзве атласныя коўдры і спартовыя трусы.

З гэтай нагоды людзі featрознае казалі, але сышліся ў адным: усе мы пад Богам ходзім, і калі хто дасць дуба, не дадзена чалавеку ведаць.

Здарылася так, што ў тыя жалобныя дні праязджала па Вадап'янаўскай вуліцы пападдзя па сваіх меркантыльных справунках. Глядзіць у вакенца "апелюгі" – Мікола стаіць каля плота, і такая пякучая туга на яго твары адбілася, што навярнуліся ў пападдзі слёзы спагады. Вырашыла Божая служка падбадзёрыць хлопца ласкавым словам.

– Добры дзень, шаноўны! Прымі ад нас з бацюшкам спачуванні ў сувязі з заўчаснай стратай. Жыццё чалавеку адно дадзена, і прапіць яго… Бог ты мой, пра што гэта я … пражыць, так, пражыць яго трэба, сеючы дабро і радуючыся Божай ласцы.

– Ну што вы, матушка?! – на мятым твары пакутніка з'явілася гумовая ўсмешка. – Не такая гэта страта, каб слёзы па ёй ліць. Раней у мяне гэткай не вадзілася, цяпер няма і надалей не

трэба. Старая, напаўгнілая, увесь час рыбай ад яе смярдзела.

– Чаму адразу не разглядзеў, калі браў? – разгубілася пападдзя.

– Раніца была. Нядзеля. Падвялі мяне да яе зусім ніякага. Паказалі і пытаюць: “Бярэш?” “Ну, бяру!” – згадзіўся я, не расплюшчваючы павекаў. Спаў уначы ад сілы дзве гадзіны. Вось і павёўся ў непрытомнасці на замануху.

– Хоць першую ночку з выбранніцай памятаеш? – не адставала настырная пападдзя.

– Не-а.

– А што так? – разгулялася няхілая цікаўнасць у матушкі.

– Так я сваім набыткам пераважна днём карыстаўся. Уначы змораны адсыпаўся. Па мне лепш пераесці, чым недаспаць. У апошні час, нібы скон чуючы, капрызная стала. Устойлівасць страціла. Перадок нагрузіш – зад падскочыць. Задок прытопіш, перад задзярэцца.

Пападдзя, цётка дужа цікаўная, не адступала ад задумы дакапацца да самай сутнасці.

– Распавядзі, саколік, як бяда твая страслася?

– Трэцяга дня паклалі вока на маю клячу трое суседскіх хлопцаў, тыя яшчэ прайдзісветы. Яны, як падап’юць, прыставучымі становяцца. Жыцця ад іх няма. Падміргваючы, сталі ўгаворваць: дай, маўляў, разок тваёй каргой пакарыстацца. Я не жмінда. Заўсёды падзяляюся, чым багаты. Аднак папярэджваю: “Карыстайцеся калымагай асцярожна і не ўсе адразу”. Толькі адлучыўся, як гэтыя ашалелыя прыдуркі кінуліся кагалам на бедалажку. Важаць біцюгі пяць пудзікаў кожны. Вось і скамячылі далікатнае стварэнне. Трэснула няшчасная напалову і скончыла на тым

сваё жыццё-быццё. Не раз я зарок даваў: не выхваляйся, што мая лепшая за ўсіх. Знойдуцца мужыкі, ахвотнікі гэта праверыць. Кажу потым аглаедам з дакорам:

– Ну што, навыкабеніліся?!

– Мы думалі моцная яна, вытрывае, – паспрабавалі тыя адбрахацца, – выбачай, не чакалі ад яе такога хуткага скону.

– Гусак таксама думаў, што купацца паклікалі, пакуль вада не закіпела. Валіце з маіх вачэй далоў і без памінальнай скрыні гарэлкі не вяртайцеся.

– Свят! Свят! – перахрысцілася пападдзя, адганяючы жахлівыя карціны, якія ажылі перад вачыма.

Машына з ёй ад'ехала, а хлопец далей стаіць, упёршыся плячом у плот. Ззаду браценік падышоў.

– Чаго "попка" хацела?

– Якая "попка"?

– Ну, жонка папа.

– Нікіцішна, ці што?! Так яе хлебам не кармі, дай патрындзець, як, маўляў, тое, сёе… А якое "тое-сёе", калі з раніцы "рэпа" трашчыць, нутро пеклам паліць. Выйшаў у двор, дай думаю, каля плота пастаю, падыхаю, надалью, раптам палягчэе. А пагаварыць няма з кім. Ад нудоты сюрык пачаў сароміць:"Алкаголік няшчасны! – трасу свой кончык. – Морда твая барвовая! Хістаешся, валішся, на просьбу: "Стаяць!" не адгукаешся. Стаміўся я з табой важдацца".

– Прызнавайся, братуха, з кім ты ўчора насцябаўся?

– Клаўка Пустабрэхіна да сябе завабіла. Думаў, гадзінка – і піпец! Але яна на сабе да раніцы пратрымала. Паўмяшка семечак згрызлі. Асемянёная Клаўка стала рахманай. Куды пакладу, там

і ляжыць. Вось я і не стаў размусоліваць, ці тая, ці не тая каля мяне прылягла. Гэта індзейцам добра, бо ў іх усе дзеўкі чырвоныя. А Клаўка хоць і дурніца, але для гасцей запасік самагонкі трымае. Праўда, выпіўка, калі яна ёсць, то яе адразу няма! Не табе мне пра гэта казаць. Пачалося з дзеўкай культурна, чым скончылася, не памятаю. Так што прабач, брацені́к, але з перакошанай мазгаўнёй забыўся паклікаць цябе на вечарынку.

– Забыўся дык забыўся. Адлівалку схавай. Аднапорыў і беражы да іншага разу.

– Не праблема. Укладу сюрык за шырынку. Хай адпачывае да патрэбы.

– Дык чаго “попка” хацела?

– “Попка”?! Ды хрэн яе ведае, Коля. Быццам бы спачуванне мне выказваць стала. Трэба будзе ёй за добрыя словы рыбкі налавіць. Толькі не сцямлю, якая ёй справа да таго, што ў мяне лодка затанула.

# Вар'ят

Пасля дзевяці гадоў, пражытых у шлюбе, больш за ўсё Фёдар Паляжаеў палюбіў цішыню. Дзеля цішыні ён падымаўся штораніцы крыху раней за жонку і з асалодай чухаў сваю пахвіну. Усю ранішнюю свежасць нерастрачаных пачуццяў аддаваў Паляжаеў любімай справе, становячыся адразу разумным, быццам бы розум вісеў у яго паміж ног. Не намацаўшы ў пасцелі мужа, Ганна пачынала гучна цмокаць, сапці, жаласна рохкаць, імітуючы глыбокі праведны сон. Аднак пакутніцкае пазяханне, якое нападала следам, заўсёды па-здрадніцку выдавала яе.

– Вось і ўсё, – тупа ўзіраючыся ў цёмную зелень бутэлькі, прашаптаў Фёдар. – Мая нервовая і чулая сяброўка жыцця прачнулася. Мінулі часы, калі я мог бясконца ёю захапляцца, цалуючы эрагенныя зоны ў засмокт.

– Федзь! Ну куды ты збег?! – заныла Ганка, адкідваючы коўдру. – Калі ўначы атрымаў адмову, дык гэта не прычына крыўдзіцца. Так нельга, Федзенька, як табе падабаецца, зусім без прэлюдый.

Фёдар маўчаў. У апошні час жонка палохала сваёй непрадказальнасцю. То загаралася афрыканскім запалам, то хавала пачуцці, загарнуўшыся ў пуховую коўдру.

– Федзь, ты чым заняты?

Новае пытанне заспела Паляжаева знянацку, як аленя, злоўленага ў промні аўтамабільных фар. Спешна прыбраўшы рукі з пахвіны, ён збянтэжыўся, цямячы, што адказаць.

– Ну, дык гэта… Карацей, не лезь да мяне з глупствам. Увесь народ жыве, ні халеры не разумеючы, але пытанняў не задае, таму і шчаслівы.

Зразумеўшы, што мужа ў пасцель не дачакацца, Ганна, пазяхаючы і пацягваючыся, падышла ў начной кашулі да акна. Пастаяўшы секунду-другую, залезла з нагамі на падваконнік і прыпаднялася на дыбачках.

– Федзя! Бессаромны сусед ізноў галышом шпацыруе па сваім гародзе. Зусім чалавек сорам страціў. Схадзі, пагавары з ім. Вілы вазьмі на ўсякі выпадак. Раптам Агукін не чалавек, а пярэварацень, які хавае аблічча маньяка пад маскай добрапрыстойнага садоўніка.

Разглядаючы голага суседа, Ганка незадаволена зморшчыла носік:

– Худзенечкі!

Ёй падабаліся мужычкі з пузікам. Кладучыся каля такіх, яна любіла круціць іхнія кранікі, уяўляючы сябе буфетчыцай піўной бочкі.

– Добра, схаджу, – буркнуў Фёдар, – сама хоць апраніся. Тырчыш у вакне, як у тэлевізары: хто хоча, той і глядзіць.

У госці Паляжаеў заўсёды хадзіў з непрыкметным заплечнікам на тры бутэлькі гарэлкі. Не стаў ён мяняць звычку і на гэты раз. Каля хаты суседа Фёдар прыняў бесшабашны выгляд, хаваючы хваляванне. З нядаўніх часоў Толя Агукін стаў для ўсіх чалавекам-загадкай, бо здолеў разбагацець літаральна на вачах. У хаце дабро ўжо не змяшчалася, і скураную канапу з крыштальнай люстрай яму прыйшлося схаваць у адрыне. Сам Федзя хоць і быў вёрткі, як трамвайны “шчыпач”, ягоных шалёных грошай хапала толькі на сэндвічы з салам.

У гародзе зусім голы Агукін, высока падымаючы

ногі, пеўнічкам хадзіў між градак. Забіяка-вецер церабіў рана пасівелы віхор валасоў. Дачнікі і блудныя звяры бокам абыходзілі дзіўнага Таляна.

– Толька, я да цябе! – асіплым ад хвалявання голасам прахрыпеў Паляжаеў. – Пагутарыць трэба.

– Раз трэба, я не супраць. У хату праходзь, там і пагутарым. Даўно мне не хапае сяброўскага вуха.

У хаце Агукін апрануў разношаную майку з доўгімі рукавамі і выцвілыя спартыўныя штаны.

– Сядай, Федзя, ногі не казённыя. Не дзівіся, што стол не прыбраны. Шклянкі пасля гарэлкі грэх апаласкваць.

Агукін падышоў да мальберта і, прыжмурыўшыся, упіўся вачамі ў палатно.

– Сучаснае мастацтва, Федзя, бывае бязлітасным да прыгажосці. Зрэшты, гэтая дзяўчына, няхай сабе часткова, але мне сімпатычная.

– Можна, гляну? – і Фёдар, трымаючы ў руцэ поўную шклянку гарэлкі, падышоў да мальберта з іншага боку. Палатно было абсалютна пустым. Нават выпадковага мазка фарбы на ім не свяцілася.

– Бачу, Федзя, ты здзіўлены, і здзіўлены нямала. Выбачай, не паспеў перанесці прыгажуню са свядомасці на палатно.

Паляжаеў залпам выпіў гарэлку і пашкадаваў, што не паслухаў жонку і не ўзяў з сабой вілы.

– У мяне, Федзя, асаблівы погляд на звычайныя рэчы, – гаворачы, Агукін працягваў жмурыцца на ўяўную карціну. – Я не прымаю правіл і не выношу статус-кво.

– Пра статус-кво ты добра сказаў, – хрыпла падтрымаў размову Паляжаеў і выпіў яшчэ шклянку гарэлкі. – Але гэта, Толя, не дае табе права хадзіць голым па садзе.

– Справа ў тым, Федзенька, што я не падобны на ўвесь астатні народ. У поўнай цішыні мне чуецца песня, якую яшчэ не паспелі скласці. На пустым палатне я бачу юнае зачараванне, якім бязмежна захапляюся. Людзі клічуць мяне вар’ятам! Але хіба не звар’яцелыя тыя, хто атрымлівае сэксуальнае задавальненне пад выглядам выканання шлюбнага абавязку?! Ці тыя, хто ідзе ў Луўр глядзець на Джаконду! Гэтая брыдкая жанчына збірае вакол сябе процьму народа. Я не асуджаю людское ўяўленне пра прыгажосць. Любіце хоць чорта лысага, але не чапляйцеся да мяне. Ты перакананы, што твая цнота вышэй за маю, бо ты выконваеш агульнапрызнаныя нормы і не шпацыруеш голы ў гародзе. Бог ты мой, які ты наіўны! Хто цябе так абдурыў? Прызнавайся!

– Жонка, будзь яна тройчы прыгожая.

– Жонка ў талковага мужыка заўсёды недалёкая. Так Сусвет стварае раўнавагу ў прыродзе. Мая бабуля, настаўніца, казала: “Толечка, памятай галоўны закон фізікі: прычына нараджае наступства”. Ты ўчапіўся за наступства і голасам жонкі бухціш: “Агукін – пачвара, якая страціла сорам!”, не разумеючы сапраўднай прычыны жаночай цікавасці да мяне. Ты забыўся, што ў тваёй жонкі ёсць тры іншыя бакі, куды яна можа глядзець, не абражаючы сваю чалавечую годнасць. Але яна празмерна цікаўная, ёй цікава, як уладкавана маё цела і ці вялікая мая вісюлька. Ёй у гэтым абавязкова трэба пераканацца асабіста. Яна ў цябе хворая сюрыкаманіяй. Калі яна балдзее ад выгляду мужчынскага сюрыка, схадзі ў гарадскі морг. Папрасі чыкнуць член у жмура і закатаць у слоік з фармалінам. Слоік пастаў дома на бачнае месца. Не пазбаўляй

бабу задавальнення, якім бы вар'яцкім яно табе ні здавалася. Але хопіць пра звар'яцелых баб. Адкрываючы сябе самому сабе, я ўбачыў безліч унікальных магчымасцяў і схаваных унутраных рэзерваў. Ты таксама можаш стаць усемагутным, калі моцна захочаш ім быць.

– Калі набухаюся, мне мора па калена.

– Ты без бухла, Федзя, паспрабуй. Мозг заўсёды нечым заклапочаны. Збяры энергію ў пучок і атакуй праблему да поўнай перамогі над ёй.

– Кажуць, з кармамі ў раёне недарод, – няўпэўнена пачаў Федзя.

– Пніся, Феденька, пніся! Не шкадуй мазгоў для добрай справы. Душы з сябе ідэйку.

– Калі з кармамі туга, а карміць быдла трэба, скрыжаваў бы я карову… з мядзведзем. Няхай улетку доіцца, а ўзімку лапу смокча.

– Думка не бліскучая, але арыгінальная, з глыбокай эканамічнай выгадай.

– Дзякуй, Толя, на добрым слове. Пасля трэцяй шклянкі твая філасофія стала набываць для мяне выразнасць. Павер, я не менш твайго шаную ідэалы, але ў любым шанаванні ёсць свая мера. Я не выявіў сувязі паміж тым, што ты кажаш, і тваімі паводзінамі заўзятага агароднага нудыста.

– Федзя, я ўзрушаны тваёй логікай і гатовы казаць без туману і пылу. У публічных месцах я не агаляюся і прыцягнуць увагу да свайго голага цела не імкнуся. Уся справа ў маім унікальным адкрыцці. Памідоры, калі бачаць мяне голага, чырванеюць ад сораму. Агуркі зеляннеюць ад злосці. Капуста пухне, нібы ў яе ўліваецца тэрмаядзерная сіла. Участкі нашыя мятровы плот падзяляе, а мой ураджай хутчэй твайго спее. У цябе на градках толькі завязь азначылася,

а я маласольны агурок пад гарэлачку прапанаваць магу. Няважна хто ты, “левы” ці “правы”, анархіст ці дэмакрат: агурок усім патрэбны зялёны, а памідор чырвоны.

– Пачакай, не гані, баюся, важнае ў тваіх словах прапушчу.

– Маё голае цела, Федзя, выяўляе тое, чаго не можа выказаць цела ў адзежы. І ты, і я, і агурок, і капуста – мы ўсе адно цэлае. Распранаючыся, я кажу на мове знакаў. І гародніна, мяне разумеючы, спее на радасць майму кашальку.

– Калі б агаліўся, у такім разе, увесь народ, – натхнёна прашаптаў Паляжаеў, – і выйшаў ў поле, так нават панурая і бедная зямля закаласавала бы багатым жытнім покрывам.

– Так, Федзя, так! І тады сусветны голад нашаму народу быў бы да лямпачкі.

– Але чаму людзі не робяць так? – здзіўлена ўсклікнуў Паляжаеў.

– Людзі баяцца галізны. Галізна паказвае, хто яны ёсць насамрэч. Пераадолей у сабе гэтую боязь і здабудзеш шчасце, несувымернае з тваім цяперашнім станам. Давай зараз разам гарэлачкі вып’ем, у мяне горла ад гаварыльні перасохла.

– Прабач, Толя, але пітво мне на карысць не пойдзе. Яшчэ сто грам падобных інвестыцый, і я ператваруся ў нерухомасць. А за навуку вельмі ўдзячны. Ёсць над чым пакумекаць.

Спакаваўшы заплечнік, Фёдар выйшаў на вуліцу і сутыкнуўся з Паляжаіхай, якая ішла з віламі наперавес да хаты Агукіна.

– Ты куды, баба, прэш без уціхамірвальнай кашулі?

– Спалохалася за цябе. Лепш бы сама пайшла голага мужыка ўціхамірваць! – і Ганка грозна патрэсла віламі.

– Сама ты вар'ятка. Вочы, як у шалёнага селядца. Геній ён, дурніца. І няма чаго на чужога голага мужыка зенкі тарашчыць. Тры іншых бакі на выбар ёсць. Слоў маіх не зразумееш – атрымаеш тронкам па азадку.

Зайшоўшы ў свой двор, Паляжаеў зняў порткі, трусы, кашулю.

– Ты куды? – прашаптала здзіўленая Ганна ўслед голаму мужу, які накіроўваўся ўглыб агароду.

– У памідоры. Яны ад сораму чырванець хутчэй пачнуць. А за ранні чырвоны памідор на базары добрую цану даюць.



# Пячкур

Людзі прыгожыя, пакуль маладыя. Пакуль азадак не тоўсты, жывот не адвіс. Пакуль грудзі ў жанчын пругкія, а чэлесы ў хлопцаў налітыя крывёй. Хоць і быў Аркадзь Фандзюхін на падыходзе да свайго саракету, але зацята трымаўся ў кагорце маладых, граючы ролю абаяльнага прыдурка, прагнага да асоб жаночага полу. З красунямі паводзіў сябе бесцырымонна, словам, не плёў арэнбургскія карункі.

– Я цябе, зараза, не цалуючы трахну! – ускліkaў ён у запале.

Шчыра кажучы, стаміўся я ад спробаў паўшчуваць сябра.

– Аркаша! Калі кроў сышла ад галавы да іншых частак цела, гэта не нагода ўпарціцца. Будзь строгім да сябе. Цёмныя сілы не дрэмлюць. Падсунуць падступства з тварам анёлачка, і ўся твая бравада сыдзе, як пена ў куфлі з півам. Толькі пацалунак і свет вечныя! Астатняе мае

свой тэрмін. Нават Пізанская вежа калі-небудзь пізанецца. Мая табе парада: не шукай прыгод, давяраючыся прэзерватыву. Проста цалуй сваю мілую, цалуй у засмокт, пакуль яе вусны не паабсыпае. Для чалавека пацалунак –асэнсаваная неабходнасць, так ён уладкаваны.

– Астынь, дружа! – паблажліва ўсміхаўся Аркадзь. – Пачуццё неспакою мне таксама знаёмае. Аднак мы жывем у эпоху развітога эратызму, таму нашчадкі не зразумеюць нашай сціпласці.

Была серада. За акном ішоў сапраўды паскудны лівень. Фандзюхін уваліўся да мяне мокры да валасоў на грудзях і, трэба меркаваць, не толькі на іх. Сум і змрочнасць прывалакліся разам з ім, сеючы незразумелую для мяне трывогу.

– Стары! – сырая рука Аркадзя лягла на маё цёплае плячо. – Патрэбная вельмі моцная вяроўка і надзейны гак.

– Аркаша! Выпі шклянку гарэлкі і не трэціруй сябе аслінай упартасцю. Свет не такі дрэнны, як табе здаецца. Давай, сябра, вывальвай набалелае, палягчай душу. Але памятай, забіць увесь вечар, слухаючы тваю лухту, дарагое для мяне задавальненне.

Выпіўшы гарэлкі, Фандзюхін цяжка ўздыхнуў.

– Буду шчыры, як на споведзі. Ёсць у мяне палюбоўніца, пра якую ніхто не ведае, – пухлагубая Маша. Гэтая бязмозглая дзяўчына надзелена незямной прыгажосцю. Яна сапраўдная тытаніха сэксу. Куляючыся з ёй на вадзяным матрацы, я рагачу, нібы малпа ў заапарку. Потым доўга і ўдумліва любуюся Машкіным голым ружовым плячом, які тырчыць паміж маіх голых ног. У такія імгненні я ад шчасця вышэй сёмага неба.

Але зусім выпадкова высвятляю, што ў цу-

доўнай Машы ёсць сястра-блізня Даша, падобная да Машы, як блошка да блошкі. І зараз, кахаючы Машу, я думаю, што гэта Даша. А калі кахаю Дашу, думаю, што гэта Маша. Я наогул перастаў разумець, дзе Маша, а дзе Даша. Абедзве зрабіліся стрэмкамі ў маім азадку. Мяне кілбасіць ад думкі: каму я здраджваю? Машы з Дашай ці Дашы з Машай? Пакутлівая думка, што я ўцягнуты ў незразумелую інтрыжную мітусню, не дае жыцця. Мае яечкі з'ехалі з глузду, забарахлілі і пачалі пладзіць на свет кволых апалонікаў.

– Пачакай, пачакай, пачакай! – тармажу разыйшэлага Фандзюхіна. – Захлынуцца ў тваіх ілюзіях мне і нафіг не ўпала. Трымайся ад мяне далей, а я падумаю, як цябе выратаваць. Дарэчы, у кітайцаў, вялікіх аматараў сэксу, няма нават паняцця такога, як "здрада", у іх ёсць паняцце "пераблытаў". Мяркую, ведаць пра гэты скарб усходняй мудрасці табе не перашкодзіць. Ідзі і чакай майго званка.

Прайшло два дні. Высалапіўшы ад стараннасці язык, я штабеляваў валюту пасля ўдалай згоды. Узіраючыся на навюткія "соткі", згадаў Кольку. Ён з патыліцы выліты Франклін. Гэты двайнік даляравага "Уан Хандрыда" дапёк дакучлівай ідэяй пра рыбалку. Варта было захапіцца навуковым падыходам да мардабою, праграмуючы ў кампутары дабл-кросы, кросы левай, кросы правай, аперкоты, як Мікалай, уткнуўшы вусны ў маё вуха, пачынаў плесці чароўнае вязьмо лубачнага слогана.

– Бясконца пяшчотнае шапаценне лістоты люляе цябе, крык далёкіх гусей узбуджае затоеныя пачуцці. Гладкія каровы, аб'ядаючыся духмянай травой, назапашваюцца парным малачком. І ты,

паслаўшы ўсіх і ўсё да “кузькінай мамы”, прыпадаеш да пахкага стажку, чула ўслухоўваешся ў спеў берасцянкі і, адкаркаваўшы пляшачку, глыток за глытком абмываеш нутро чыстай, як сляза нявінніцы, самагоначкай. А галоўнае, цябе чакае не дачакаецца рыбка, гатовая плюхнуцца з азёрнага чэрава на патэльню, што шквірчыць алеем.

Так паганец нашпігаваўся салодка казаць, што апошнім разам мой супраціў быў недапушчальна млявым.

– Коля! Зацюкаў ты сваёй рыбалкай. Адшукаеш затоку з непалоханай рыбай, чорт з табой, паеду.

Толькі пра Мікалая падумаў, як ён ужо тэлефануе па мабіле.

– Ёсць! – чую радасны лямант. – Знайшоў дрымучае месца. Ехаць туды трэба з начлегам.

– Выдатна. З начлегам дык з начлегам. Сёння пераначуем, а заўтра паедзем. Аркашу Фандзюхіна возьмем. Няхай акадэмік мазгі вывятрыць.

– Бяры хоць чорта лысага! – напоўніўся радасцю Мікалай. – Не забудзься цёплыя рэчы з сабой узяць.

– Вазьму, абавязкова вазьму. Бутэлек шэсць.

Кожны з нас траіх пакаваўся ў паход толькі самым патрэбным. Але карысці ад усяго ўзятага, як потым аказалася, не было ніякай. Малым выключэннем сталі тыя шэсць бутэлек гарэлкі, якія я адразу паклаў у заплечнік. З пяццю перасадкамі, на трэція суткі выйшлі да запаведнай сцяжынкі. Лес стаяў, як нежывы, спавіты смугой, нібы таямніцай.

– Далоў запальнічку! – праявіў цвёрдасць Мікалай. – Сапраўдны мужчына павінен прыкур-

ваць ад запалкі, – і паклаў свой высякацель агню пад прыкметны камень.

Сцяжынка, зманіўшы, прынялася хітрыць, мудрагеліста віхляючы. То кідалася, як у ліхаманцы, то нявінна цякла ў непраглядную глуш. Нечакана лес расступіўся і мы ўбачылі замшэлы зруб. Узрост хаціны цягнуў на сотню гадоў. У двары валялася ржавая палівачка, а зусім побач куры дзяўблі разамлелага на сонцы чарвяка. Перакошаны падстрэшак быў напалову ўкрыты пакручастым дзікім вінаградам.

– Ты куды нас завёў, Коля? – са здзіўленнем агляну́ўся я па баках.

– Туды, куды трэба! Толькі тут акадэмік ачысціцца ад брыдоты, якой пакутуе.

– Я не пакутую. Я асалоду атрымліваю, – буркнуў Фандзюхін, якому даўно ўсё абрыдла.

– Зараз асалоду атрымліваць будзеш у гэтым месцы, – цвёрда абвясціў Мікалай, – клёвае месца! Нават прымітыўны "журавель" студні нагадае Эйфелеву вежу, калі зможаш правільна прымружыцца. Пра такую прыгажосць нікому з вас і марыць не даводзілася, кіруючы ў мегаполісе "сракавозам".

– Гэй, людзі! – не слухаючы Колю, крыкнуў Аркадзь.

Гультаявата, не вылазячы з будкі, гаўкнуў сабака. Карова, перастаўшы жаваць, утаропілася ў нас мутным вокам.

– Тпру, карова!!! Не сваволь! Мы на тваё сена не квапімся. Нас рыба цікавіць, – супакоіў рагатую Мікалай. – Лепшага фарпоста на шляху да рыбнага багацця, чым гэты церамок, нам не адшукаць. Па маіх дадзеных, у ім дзядок жыве.

З кустоў парэчкі, зашпіляючы порткі, падняўся стары ў бейсболцы ад "Найка".

– Вы, людзі добрыя, міма ішлі ці па справе да мяне завіталі?

– Па справе, па справе! Не сумнявайся! – ажывіўся Коля. – Зашпіліш порткі, сабаку абясточ. Морда ў яе падазроная. З такой псінай напагатове трэба быць.

– У мяне сабака шляхетнай крыві. Прайдзісветаў не кусае. Ведае сабе цану.

– Ты яшчэ скажы, што ён у цябе з радаводам!

– І скажу. Таўкач, на маё прозвішча запісаны.

– Коля, здаўся табе гэты дварняк! – прамаўляю крыху раззлавана. – Трацім час.

– Добра, дзед, канчаем тары-бары разводзіць. Рыбакі мы.

– Не падобныя вы на рыбакоў! – з асцярогай паглядаючы ў наш бок, засумняваўся дзядок.

Агледзелі і мы адзін аднаго з ног да галавы, шукаючы заганы ў рыштунку. Гарэлка, закуска, сякера, ліхтар – усё пры нас, толькі вудаў няма. Забыліся, збіраючыся ў паспеху.

– Справа папраўная! – схамянуўся Колька. – І, схапіўшы сякерку, адсякерыў тры жэрдзінкі, трошкі танчэйшыя за тэлеграфны слуп. Прадзіравіў дзірачкі, завяровіў вяровачкі. Замест гаплікаў канцылярскія сашчэпкі павесіў. Ён імі здымкі галышак з глянцавых часопісаў у сваім нататніку мацуе. Вуды атрымаліся класныя. Вока не адарваць, ды і ад зямлі таксама.

– Дзед, мы рыбачыць пойдзем, – дзелавіта абвясціў Коля. – А ты нашыя рэчы папільнуй. У цябе і карова для гэтага ёсць, і сабака.

– Дапамагчы вам у вартаўнічай справе не змагу. Сваіх справаў пад завязку. Пустазелллі пруць, як дурныя. Высадзіў каноплі ў гародзе, дык памідоры іх задушылі. Проста пакута – градкі ад чырвонапузых расчышчаць.

– А з агуркамі ў тваёй гаспадарцы, трэба меркаваць, парадак?

– Агуркі гадую, толькі каб у бочцы саліць. Іншыя мяне не бадзёраць.

Фандзюхін дастаў з заплечніка важкі талмуд.

– Пайду, манускрыпт у хаце пакіну. Пры такой вудзе забадаешся яго з сабой цягаць.

– Ты ў хату асцярожна заходзь, – ажывіўся дзед, – ля парога жывы кот ляжыць. А то разумнікі пнуцца аб яго ногі выцерці.

Высунуўшыся з вакна хаты, Аркадзь, хітравата хаваючы вочы, прапанаваў:

– Пакіньце дзеда ў спакоі. Я сам рэчы папільную. Тутэйшы клімат для працы спрыяе. Рыбачце без мяне. Думка важная прадзяўблася, баюся, у мітусні зашаруецца.

– Ты, Аркаша, калі надумаў працаваць, працуй, толькі старайся пра баб не думаць. Атрымлівай паўнавартасную асалоду ад творчай свабоды, – падсумаваў я ўсе нашыя размовы.

Упіраючыся, пакацілі мы з Міколкам свае вуды ўбок возера.

– Жадаю злавіць вам рыбу, якая пражыла добрае жыццё! – крыкнуў наўздагон дзед.

– Прыгажосць, глянь, якая! – змахваючы пот з твару, прасіпеў Мікалай. – Разбяжышся і з кручы бабах проста ў возера.

– Ты, Коля, хацеў сказаць “боўць” – папраўляю сябра ледзь дыхаючы.

– Боўць! Гэта калі вады ля беражочка з мой расточак, а так – “бабах”.

Ужо на беразе Колька дастаў слоік з чарвякамі і закамандаваў, нібы ён на палкавым аглядзе:

– Патрэбен адзін добраахвотнік! Храбрацы, два крокі наперад!

У слоіку пачаўся перапалох. Дзе ў чарвяка галава, дзе азадак, не ўсякі заолаг без лупы разбярэ. Пры такім шухеры герой заўсёды той, хто першы пад руку патрапіць. Сумленна адседзелі з чарвякамі на бярвенцах цэлы дзень – ні паклёвачкі. Суцэльная насмешка. Самы час прыпомніць "Кузьку" і яго "маму". Дымок ад вогнішча, чуючы наш паршывы настрой, зладзеявата цісnuўся да прыбярэжных кустоў. Толькі птушыная чародка зусім знахабілася. Шчабеча, ціўкае, цвыркае, насміхаючыся над намі.

– Вось як бывае ў гэтым жыцці. Пайсці на рыбалку прасцей, чым з яе вярнуцца. Без рыбы, Коля, сорамна дахаты з'яўляцца. Навошта ты расфанфарыў, што зладзіш усім рыбны дзень?

– У шчупака кожны дзень рыбны, а я ўсяго на адзін замахнуўся, – зусім не пераймаючыся адказваў сябар.

Аднак убачыўшы, як слёзы роспачы баразняць мае няголеныя шчокі, Мікалай напружыў свае мазгі:

– Тут сетачку трэба кінуць ці з брадніком прайсціся. У дзеда, напэўна, у схованцы браканьерскі рыштунак адшукаецца.

– Пустая гэта справа, Коля! Здаецца мне, у гэтым месцы водзіцца толькі адна рыба – рыба-падла, якая ніколі не ловіцца.

Кідаем бярвенцы і, адбіваючыся ад зграі камароў, пляцемся ўлагоджваць дзеда. Дзед шпацыраваў па двары ў кедах і піжамных портках з пінгвінамі. Пах смажанага мяса заказытаў нашыя ноздры. Тое, што рыбалкай засмучаныя, не падаём выгляду, а цягу да жратвы душым неймавернымі высілкамі.

– Ты, шаноўны, пад нагамі не блытайся, ад цябе курыцай пахне, – Коля быў строгі і катэга-

рычны, – сапраўдныя рыбакі на правакацыю не паддаюцца.

– Усяго кульшачку з'еў! Як ты ўчуў?! – здзівіўся дзед. – З уловам як?

– Ніфіга не злавілі. Тваё возера заваражанае. Дасі нам снасці на заўтра, будзеш у долі.

– Каб рыбку ў гэтым возеры лавіць, трэба таемны забабончык ведаць. Калі сонца на верхавіны лесу прысела, бяжы да возера і, не шкадуючы, кармі рыбу гарэлкай. Тады на золку таўсталобік на салёны агурок добра ідзе. А на сетку, выбачайце, не багаты, – развёў рукамі дзед.

– Хлусіш, стары, што возера цябе, лядашчага, зусім не корміць! – не стрымаўся я.

– Землячок, – стаў наязджаць на дзеда Мікалай, – мы ў цябе не заморскі плод просім, не бананас які-небудзь. Не сквапся. Дай сетачку на добрую справу. Нашаму акадэміку доктар юшку прапісаў. Фосфар для мазгоў навукоўцу патрэбны.

– Мяне нахрапам не возьмеш! – выпяціў грудзі стары. – Падыход шукай. Я жаль ох як даўно з сябе выдушыў.

– Рыба, дзядуля, патрэбная. Вось як патрэбная! – і Мікалай секануў далонню па горле.

– Ты мне свой гемарой не прыжыўляй. Рыба ўсім патрэбная. Нямашака сеткі. Можа, ёсць у цябе ў кішэні чырвоная "корачка" з гербам, і ўпаўнаважаны ты сетачкі людскія ліквідаваць. А за акадэміка не турбуйся. Сам пра навуку паклапачуся. – І дастае дзядок з цэлафанавага пакета тры худзенькія мойвачкі і бутэльку піва.

– Ну, ты, дзед, і шкоднік! – не на жарт разыйшоўся Коля. – Задумаў навуку на балтыйскую дыету пасадзіць?! Схапіў бы цябе за

каўнер з усёй суровасцю, дык узрост паважаю, таму не магу сабе гэтага дазволіць. Прапаную справядлівы “чэнч”. Ты нам сетку – мы табе ў адказ наліваем шклянку за шклянкай, пакуль не скапыцішся. А тваю смажаную курыцу падзелім па-братэрску.

Пасля першай шклянкі Колька разышоўся і чачотачку адбіў. Нездарма цягаўся паўгода ў ансамблі песні і свістапляскі. Пара-тройка каленцаў па-фестывальнаму ў яго атрымаліся. Дзедавы вочы заззялі ад захаплення. Успомніў ён, як у галодны год, калі прыйшлося скарміць карове гнілую салому з даху адрыны, заляцаўся ў канторы пад час справаздачаў і зводкаў да заезджай артысткі з філармоніі. Аграном, які апынуўся побач, таксама захацеў маладога цела. Падлез, было, другім нумарам, але дзед, разахвоціўшыся, урэзаў яму пяткай у неспадзяванае месца, і апынуўся небарака на бальнічнай койцы.

На трэцім літры хутаранін зламаўся.

– Ставіць сетку пойдзем разам. Улоў падзелім падушна. Вам дваім і нам траім.

– Ты, дзед, нічога не паблытаў? – збянтэжыўся ад несправядлівай дзяльбы Коля. – Адкуль вас трое? Я яшчэ не настолькі п’яны, каб ты ў маіх вачах траіўся.

– Дзеткі! – спакойна паклікаў дзед. – Жывыя вы там? Можа, паесці чаго паднесці?

На ганак хаціны выйшла высокая, ладная, з раскошнай грывай рудых валасоў і зялёнымі вачамі дзеўка. На хаду яна курыла, як паравоз.

– Дзякуй, дзядуля. Мы сытыя пладамі кахання.

– Вы, родныя мае, лупіны ад сваіх любоўных пладоў за акно не кідайце. Гусакі ў мяне імі

душацца, – і, павярнуўшыся да нас, дзед растлумачыў: – унучка. Вучыцца ў ПТВ, у аспірантуры. П’е, як конь, і не п’янее. Нялёгкая ў яе жаночая доля – расце без мужа. Можа, Аркашанька чаго хоча? – ужо звяртаючыся да ўнучкі, спытаў дзед. –Карова вельмі старалася, ведаючы, як ён любіць малачко.

У вакне з’явіўся ўскудлачаны напаўголы Фандзюхін.

– Вось і трэці наш. Не бяда, што перабежчык. Давай, Коля, налівай трыклятай яшчэ па шкляначчы за наш арцельны саюз і хуткі ашаламляльны рыбны поспех.

– Позна, дзед, дзюбай клацаць, – складаючы пустыя бутэлькі этажэркай, уздыхнуў Мікалай, – гарэлка пасляхова скончылася.

– Тады вось што! – пляснуў сябе дзед па сцёгнах. – Як сонца да зямлі прытуліцца, паставім сетку ў чарот. Аркашу не трывожце. Упарыла яго Натаха. Не ўсякі мужык вытрымае такі напор. Акадэміка раніцай возьмем сетку цягнуць, а пакуль хай дрыхне.

Ставілі сетку ў вызначаны час. Прыйшлося добра памітусіцца, але дзед быў задаволены нашай працай. На зваротным шляху я ішоў за Наташкай. Выраз яе сукенкі ззаду аказаўся да празэзу. Мімаволі залюбаваўшыся, спытаў зусім не пра тое, пра што думаў:

– Наташа, ты заўсёды акуляры на валасах носіш?

– Заўсёды. Нават днём. Калі яны на носе, мне становіцца цёмна і страшна. А без акуляраў як я табе?

– На ўсе сто.

– Што, праўда спадабалася? Тады я да цябе перайду. Ты дзе спаць будзеш?

– Яшчэ не вырашыў.

– Давай вызначайся і мне маякні. Ад Аркадзя гэтай ноччу мала толку будзе. А ты мужык клёвы. Мне з табой добра будзе.

У хату ісці я не спяшаўся. Падышоў дзед і сеў побач на прыступку.

– Стаміўся. Башка, як чыгун, – паскардзіўся ён. – Прыехаў сюды ў шэсцьдзясят касматым годзе. І з тых часоў ні хвіліны супакою. Мною з маленства валодаў дух супярэчнасці. Калі татка гугніў: “Вучыся, сынок, старанна”, я клеіў дурня і заставаўся на другі год. Калі мамка тузала мяне: “Не насіся, як угарэлы, змакрэеш”, я насіўся па двары, абліваючыся потам. – Памаўчаўшы, дзед задуменна працягнуў. – Свет наш страшна паскорыўся, і людзі, шалеючы, гінуць за нікчэмны метал, а ён іржавее ад чалавечых слёз. Я неяк вырашыў: буду жыць пустэльнікам на злосць ўсяму свету. А зараз бачу, меў рацыю. Як бы вы там, у сталіцах, ні ўпіраліся, а без маёй рыбкі не абысціся.

Пакінуўшы дзеда і прымасціўшыся правым бокам на сяннік, я падумаў: “У нечым ён мае рацыю. Жыццё засмоктвае, а падумаць пра сябе, як заўсёды, няма калі”.

У цемры Наташкіны грудзі ўперліся ў маю спіну.

– Наташа, ты злёгку пераўзбудзілася, а я халодны.

– Проста я стамілася! Стамілася чакаць, пакуль хоць нейкая зараза ляжа да мяне пад коўдру. Пакуль у кожнага ў руках не патрымаеш, толку не даб’ешся. Ну і ночка выдалася, ворагу не пажадаеш. Чокнуліся вы ўсё на гэтай рыбе!

– Гэй, вы, млядзі! – сыкнуў дзед. – Сілы паберажайце невад цягнуць.

– Давай ззаду лягу, – прапанаваў я паціху.

– І ззаду, і спераду. Я ад цябе не адстану, пакуль сваё не атрымаю. Толькі дыхай перагарам у іншы бок.

– Калі б я мог дыхаць перагарам з іншага боку, то пайшоў бы зарабляць грошы ў цырк шапіто. А цяпер проста хачу напіцца і прачнуцца, не памятаючы, як і чаму патрапіў у гэтае месца, будзь яно тройчы праклята.

Раніцай я сапраўды пераканаўся, што патрапіў у трыклятае месца. Упэўненасць у гэтым павольна авалодвала мною з таго моманту, калі дрыготкімі ад нецярпення рукамі нашая пяцёрка пацягнула сетку са здабычай да берага. Працавалі хутка, без стомленасці і ранняга пахмелля.

– Раніцай сонейка інтэлігентнае, не мардуе! – як дзіцё, цешыўся Мікалай.

Рыбы, прызнаюся шчыра, я ніколі столькі раней не бачыў. Дробязь назад у возера выкідвалі. Большых у паўлітровы слоік складалі.

– Якая дрэнь, гэтая ваша азёрная рыба! – выгукнуў я, не стрымаўшыся.

– Няхай дрэнь! – не журыўся Мікалай. – Затое глядзі, як шмат. – І, прамянеючы ад шчасця, падняў над галавой слоік са здабычай.

– Усё, Коля! Рыбай затарыліся! Пара звальваць. Яшчэ трошкі, і я звар'яцею, нажыўшы абрэзанае пачуццё гумару і кастрыраваны аптымізм.

Дзед на спарахнелым жмутку шпалераў напісаў свой адрас: "Хата з краю, побач з хлявом".

Пасля памятнай паездкі адна рыбка ў мяне прыжылася. Пасяліў яе ў трохлітровыя апартаменты. На сняданак свежую кузюрку падаваў. Толькі гарэлачкай яшчэ заставалася пачаста-

ваць. У каго ні спытаю, ніхто толкам сказаць не можа, што за рыбу завёў у сваёй хаце. Хто камбалой абзываў, некаму барабулькай падавалася. Адзін знаўца такое мудрагелістае выдаў – не кожны іхтыёлаг нашча вымавіць. Плюнуў я ў скрусе на чужыя здагадкі і маркерам на слоіку вывеў: “пячкур”.

Аднак “пячкурык”, распасвены на хатніх харчах, няўдзячным аказаўся. Таму вырашыў паклікаць Фандзюхіна, Мікалая і засмажыць “пячкура” да румянай скарыначкі. Бо ён, падла, паўгода бічуючы ў маёй хаце, не зрабіў ласку нават напарстак ікры намятаць.

# І дождж змывае ўсе сляды

Была амаль поўнач, калі Мікіта Фалапаеў набраў на мабільніку знаёмы нумар. Адгукнуўся ласкавы жаночы голас:

– Прапануем гарачыя сэкс-туры: мужчынам – "Да суседкі па соль", жанчынам – "Да суседа па запалкі"!

– Люся, не дуры. Гэта я, твой муж. Падкруціўся тэрміновы заказ, з ім і заначую.

Не чакаючы адказу, Мікіта адключыў мабілу. Месяц зіхцеў, як рубель, і патрэбны пад'езд знайшоўся без лішніх блуканняў. На ўмоўны стук за дзвярыма хутка адгукнуліся:

– Хто там?

– Дзед Мароз! – як было загадана, праспяваў Фалапаеў тоненькім галаском.

– Не хлусіш?

– Век волі не відаць – прачытаў Мікіта па паперцы.

Дзверы прыадчыніліся і ён шапнуў у шчылінку, плаксіва скрывіўшы вусны:

– Я ад Глафіры Іванаўны. У мяне да Вас невялічкая справа. Далікатная дробязь.

У пярэднім пакоі, куды ўпусцілі Мікіту, цьмяна інтымнічаў ружовы абажур.

– Глафіра сказала, што вы дама канфідэнцыйная. Таямніцы ў Вас, як у бяздонную студню, як у дупло, як у падушку – магіла адным словам.

Жанчына здзекліва ўсміхнулася і Фалапаеў сунуў ёй у руку чэзлую галінку мімозы.

– Я да вас у пасцель! Патрэбна тэрміновая сэксуальная дапамога. Жонка ў бізнэс па вушы ўлезла. Працуе менеджэрам у рэаліці-шоу “Ты, твой муж і я – разам дружная сям’я”. Куляючыся ў чужых праблемах, яна забылася пра маіё лібіда. Недаласканы, я гібею на вачах, ператвараючыся ў заклапочанага сэксамана. Вулічных дзевак баюся. Пасля іх аднаўляць здароўе забадаешся. У палавых зносінах давяраю толькі надзейным рэкамендацыям. Вось чаму зазірнуў менавіта да Вас падрэгуляваць свой пеніссцунчык.

– На дыеце я, заклапочаны ты мой, месяц без баршча. У станік пакласці няма чаго. Зусім змарнела, пагнаўшыся за здароўем. Таму часова не практыкую, але чалавеку ад Глафіры адмовіць не магу. Разглядаць мяне – толькі час губляць. Калі сам напрасіўся, бяры мяне, якая ёсць. Смялей у пакой праходзь. Я жанчына дзелавая, і ўсякія бухты-барахты мне даўно пофігу. Менш чалавека ведаеш – лепш пра яго думаеш. Хабар за працу браць не буду. Разлічышся паводле прэйскуранта паўнаважкім амерыканскім рублём. Безграшовае шчасце толькі ідыётам мроіцца. Зарабляеш прыстойна?

– Я пірсінг-майстар. Устаўляю ювелірны лом у вусны, вушы і пупок. Але пры жаданні кліента магу любую частку цела прадзіравіць.

– Бачу, мужык ты баблавіты. А фота жонкі прынёс? Я яго сабе на тварык пакладу. Ствару ілюзіён прысутнасці тваёй вернай. Больш разняволена сябе адчуеш.

Зірнуўшы на фота, дама не стрымалася:

– Ваў! Жонка ў цябе заўзятая страшылка, кукрынікса дзікая. Уляпаўся ты, хлопец, па самыя кокі. Зусім не беражэш свой сэксуальны інвентар. Убачыў бы прарок Майсей твар тваёй суджанай, напісаў бы на адну запаведзь больш.

– У яе ўнутраны свет прыгожы, – уступіўся за жонку Фалапаеў. – Да такой духоўнай прыгажосці яшчэ даскрэбціся трэба.

– Прабач, пакрыўдзіць не хацела. Таму і пытаць, дзе ты адкапаў свой скарб, не буду. Давай, хахаль-паскрабун, бліжэй да справы. Уяві сябе аператарам сэкс-машыны, а мяне машынай для сэксу.

Фалапаеў ажывіўся і даверана шапнуў:

– Чуў ад дасведчаных людзей, трэнажор вынайшлі па развіцці мышцаў палавога члена.

– Быў бы член, а мышцы я лёгка падраўную. Заводзішся як, нармалёва?

– З паўабарота.

– Усе так кажуць. А як да справы дойдзе, прыходзіцца па гадзіне рукавятку круціць. Дай гляну, што тамака ў цябе, муляж або дзейсны агрэгат. Штаны скідай! Прад'яўляй, на што багаты!

Як толькі Фалапаеў сцягнуў порткі, вяшчунка пацягнула яго ў спальню. Там, на сцяне ў рамніцы, вісеў партрэт марака з панурым тварам.

– Не палохайся. Насамрэч мой муж выглядае значна горш. Рукі, і тыя мазолістыя. На бяду, карабель рэдка ў парты заходзіць, таму гаротнік паміж вахтамі мусіць сам з сабой працаваць. “Адной рукой трымаю твой фотаздымак, – піша ён у лістах, – другой думаю пра цябе…”

– Захапляюся Вамі! – прыклаў руку да сэрца Фалапаеў. – Ваш муж, марак далёкага плавання, ад сілы тыдзень за год дома бывае. Такое выпрабаванне пад сілу толькі жанчыне з моцнай воляй.

– На тыдзень сілы волі хапае, а потым хоць вешайся. Ну, годзе балбатаць! Давай, абжывайся. Я адлучуся ненадоўга. Навяду лёгкі марафет і вярнуся ў твае абдымкі.

Глафіра выйшла… і ўвайшла цалкам голая з лінейкай у руках.

– Ну, чаго прыціх? Я чалавек дапытлівы і з новым мужыком у пасцель без лінейкі не кладуся. На мяне глядзі, – і яна рукой павяла па сваім целе. – Вось гаёк, вось дзве горкі. Пейзаж, бачу, у цэлым табе знаёмы. Гэй! За поглядам сачы! Вочы ў цябе занадта казытлівыя. Зараз замову адбубеню і пачнем працэдурыць.

Склаўшы рукі між грудзьмі, Глафіра залапатала:

– Да мяне на лужок паспяшайся сябручок. Траўка там харошая. Роўненька пакошана. Грудзі, ох, высокія. Краля сінявокая. Вочкі яе смелыя. Ножкі стройна-белыя. Ох! – Замоўкшы, яна ўпала спіной на ложак. – Каханы… чорт, імя тваё не ўспомню...

– Мікіта! – паслужліва падказаў Фалапаеў.

– Усё, Мікіта! Трахадром пада мной. Дзейнічай. Толькі ўгавор – нахрапам не браць. Мне з мужам на днях інвентарызацыю цела праходзіць. Званары даклалі – карабель на падыходзе. Фота жонкі схавай. Баюся, аднегацівіцца на мне. А мужыкі цяпер усе, як адзін, пайшлі пераборлівыя, ім грудзі ў паўбуханкі замалыя падаюцца.

Сутыкаваўшыся, Фалапаеў прыліп да жанчыны, як ліст у лазні да мяккага месца. Лічаныя секунды адцікталі, а Мікіта з высунутым ад стараннасці кончыкам языка ўжо адкаціўся ўбок.

– Ой, Мікітка! Ой, Мікітка! – загаласіла Глафіра. – Нязграбная атрымалася спроба. Уяві, што ты ўздымаешся па прыступкам на вяршыню Эйфелевай вежы. Яе, праклятую, з налёту не возьмеш, а адолееш мерным крокам. Так і ты, не часці, лежучы на мне. Рытм захоўвай, але без фанатызму. Як дзіцё малое вучыць трэба. Давай

нанова спрабуй, бачу, ты гатовы, – і яна прыбрала руку з фалапаеўскай пахвіны.

Як дзень змяняе ноч, так і Фалапаеў быў то магутны, то не магутны. Укладанне змянялася выманнем да поўнай знямогі. Простым аказалася лячэнне. А на золку заваркатаў дзвярны званок.

– Ой, муж! – абвяла знахарка.

– Ну, нарэшце! – прастагнаў Мікіта і знясілены адкінуўся на спіну.

– Вымятацца табе адгэтуль трэба, а не расслабухай займацца. Мой марак пасля карабляцкага жыцця дзікім вяртаецца. Гарлапаніць проста з парога: "Даведаюся, калі хоць нейкая мля на цябе скоса пазырыла, адаб'ю таму індыку ахвоту наогул на бабу зырыць". Лютасць у ім за час расстання згадзючваецца неймаверная. Зрэнкі вылупіць і да мяне з кулакамі лезе: "Ага! Не адзін я ў тваіх вачах сяджу. Бачу ў іх шмат рознай свалаты. Зараз свалату за свалатой выбіваць пачну". "Ты сінякі акуратна расстаўляй, – прашу акаяннага, – мне яшчэ на працу ісці". А ён віскара шклянку перакуліць – і ўсё яму ў драбадан. Так што, дружа, скачы ў акенца і вынось ножкі, пакуль косткі табе не пераламалі. Калі дзверы не адкрыю, мой ірад раскрышыць яе на друзачкі.

Хоць і была вышыня "недасікаемая", Фалапаеў адважна скокнуў у вакно без падручных сродкаў.

– Можа, табе пасвяціць? – у вакне, гайдаючыся, віселі ліхтарыкамі грудзі шаптухі.

– Не, дзякуй. Я ўжо на зямлі сяджу.

Было сыра. Расплюхваючы лужыны, па вуліцы бегла група спартсменаў. Мікіта прыладзіўся да замыкальнага і запыхкаў у спіну бягуна. Той абярнуўся і, не хаваючы цікаўнасці, спытаў:

– Вы заўсёды голы бегаеце?

– Заўсёды! – цокаючы зубамі ад холаду, адмахнуўся Фалапаеў.

– І кожны раз з прэзерватывам? – не суцішаўся назола.

– З прэзерватывам толькі ў дождж.

# Змест

Літаратурна-мастацкае выданьне

Асіпенка Віктар

# Глухамань

проза

Рэдактар Рада Ветрыч
Вёрстка Кацярынка Лёсік
Дызайн вокладкі Антон Ляшчынскі
Фота на вокладцы Антон Ляшчынскі
Мастак Алесь Сураў

Падпісана да друку ??.??.2012 г. Фармат ??х??? ?/?
Папера афсетная. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. ?,? Улік.-выд. арк. ?,?
Наклад ?00 асоб. Замова ???.

Выдавец І. П. Логвінаў.
ЛИ № 02330/0494468 ад 08.04.2009.
Пр-т Незалежнасці, 19-5, 220030, г. Мінск.
logvinovpress@gmail.com

Надрукавана на капіравальна-памнажальнай
тэхніцы І. П. Логвінава